# ЗМЕСТ Крыніца


МЫ
Валянцін АКУДОВІЧ
**ХТО Я?** 2

ТЫ
**ЮРЫ ГУМЯНЮК** 26

ЯНА
**ЭЛЬКЕ ЭРБ** 47

У НАС
Вітаўт ЧАРОПКА
**МАСКА ХІМЕРЫ** 55

У НАС
Славамір АДАМОВІЧ
**ВЕРШЫ** 99

НАШ
**ЯНКА ЗАПРУДНІК** 104

МЫ | Валянцін АКУДОВІЧ



Паўлу!
З павагай!
/Вал. Акуд./

> **У нашу эпоху чалавек упершыню зрабіўся цалкам і поўнасцю праблематычным для самога сябе; ён ужо не ведае, хто ён, і разам з тым ведае, што ён гэтага не ведае**
>
> **Макс Шэлер**

# ХТО Я ?

альбо

# Мяне не было, няма, не будзе

*Эсэ*



**Частка першая**

## *Амаль лірычны ўступ*

Дыяген шукаў з ліхтаром ***чалавека*** і не знайшоў Потым шукалі другія і таксама не знайшлі

Дык ці быў дзе і калі ***чалавек***?

Людзей было шмат, усюды і заўсёды было шмат людзей, толькі ці быў хоць адзін ***чалавек***?

Дакладней ці быў ***чалавек***?

Каб пэўна адказаць на гэтае пытанне, трэба напэўна ведаць. ***хто*** ён – ***чалавек***? Але якраз гэтага ніхто не ведае

Збольшага вядома, ***што*** ён чалавек, і што не ён

Чалавек не камень, не дрэва, не жывёліна.

Чалавек не вада, не агонь, не эфір

Чалавек не

Чалавек адрозніваецца ад усяго астатняга і падобны адно на чалавека

Да яго трохі падобныя малпа і Бог

З апошняга можна сёе-тое зразумець, ***што*** ёсць малпа і ***што*** ёсць Бог, але нічога не зразумець – ***хто*** ён, чалавек?

***Хто*** не апазнаецца праз ***што***.

***Што*** – гэта тое, што выяўляецца ў значэннях рэальнасці

***Хто*** – гэта тое, што, мяркуецца, можа быць, але пра штo невядома нічога пэўнага, бо яно не мае рэальных параметраў – усе ягоныя значэнні згорнутыя ў намысленае паймо, як адзіную сакральную падставу быцця і гісторыі гэтага ***хто***.

Агульнае паймо намысленага ў кантэксце трансцэндэнцыі ***хто*** і вылучанага зместам рэальнасці ***што*** да апошняй пары ўтойвала праблему, падстаўляючы на запытанне ***хто ён, чалавек?*** – адказ. ***што ён, чалавек.*** Таму праблема ***хто ён, чалавек***? і ці ёсць чалавек як ***хто*** і па сёння здымаецца лагічнай падменай панятка ***хто*** на панятак ***што***. Між тым, як ***што*** – гэта чалавек, згорнуты ў рэальнасць самога сябе, а ***хто*** – гэта чалавек, які пачынаецца за сваёй, згорнутай у ім самім рэальнасці, і выяўляецца ўжо толькі ў перспектыве свайго сакральнага значэння

***Што ёсць чалавек?*** – вычэрпваецца значэннем тоеснасці чалавека свайму тут-быццю

***Хто ёсць чалавек?*** – адно пачынаецца за гэтай тоеснасцю і атаясамліваецца ўжо не ўласна з тут-быццём чалавека, а з самой наканаванасцю быць.

Пытанне пра ***хто*** – гэта, урэшце, пытанне дзеля аднаго адказу· чалавек жыве таму, што з'яўляецца жыць, ці ён з'яўляецца жыць таму, што яму ***наканавана з'явіцца***

Кім, чым, адкуль, навошта наканавана – гэта не істотна да той пары, пакуль застаецца не апазнаным наканавана альбо не?!

Зрэшты, у такім няпэўным стане сітуацыю можна было б пакінуць і надалей, каб у эпіцэнтры даўмення ***хто ён, чалавек?*** не вярэдзіла ўласна-тужлівае ***хто ён, я?***

Калі я, персаніфікуючы праблему ***хто ён, чалавек?*** пытаюся ў сябе: ***хто ён, я?***, то ў адказ не чую нават рэха. Пытанне душыць само сябе моўкнасцю. З кожным наступным запытаннем моўкнасць робіцца ўсё больш зацятай і з яе глыбіні падымаецца агрэсіўнасць.

Калі пытацца доўга – нестае чым дыхаць.

Я ведаю, каб было чым дыхаць, не трэба лішне пытацца.

## *Эра Татэма. Эра Міфа*

На пачатку было, што было І нават ***слова*** не вылучала чалавека з татальнай аб'ектнасці ў аб'ект, прынамсі, на пачатку. Татэмны чалавек быў роўны і родны камню, дрэву, рыбе, зверу, птушцы .. Ён быў як усе, ён быў як усё, ён быў усім і яго не было, як яго Вольны ад самога сябе, ён жыў, як жыў, як жывуць вольнымі ад саміх сябе камень, дрэва, рыба, звер, птушка

Аднак, пры ўсёй аднолькавасці з усім, чалавек меў тое, чаго не было ні ў кога яшчэ,– здольнасць артыкуляваць наяўнае і з гэтага пазначаць і апазнаваць наяўнасць наяўнага як рэальнасць самога сябе І хаця блізкі да першароду чалавек не надаваў сваёй

адметнасці асаблівага значэння, яна патроху вылучала яго з татальнай аб'ектнасці ў аб'ект, які гэтай артыкуляцыяй фіксуе, запавольвае, утрымлівае і, нарэшце, выбаўляе з прамінання кругазвароту быцця Метафару універсальнага існага.

Апазнаўшы і фармалізаваўшы ў Метафары наяўнае існае, чалавек праз механізм рытуалу (фігуратыўнага ды моўнага) напрацаваў архіў гэтай Метафары, які пакрысе апазнаўся як Міф.

Міф – каталагізаваны архіў, а яшчэ – ён буйнамаштабная мапа тагачаснага быцця і разам з тым займеннік тады ўтоенага ад ведання часу

Спакваля запанаваўшы, Міф патроху перайначыў татэмнага чалавека ў чалавека міфалагічнага, гэта значыць такога, які ўжо перастаў быць уцялесненым непасрэдна ў цела існага, бо паміж ім ды існым паўстаў намыслены вобраз свету, як уводзіны ў а-рэальную[1] перспектыву рэальнага бытавання,– і тым самым адасобіў міфалагічнага чалавека ад усяго астатняга існага.

У міфалагічную эру адлюстраванні існага ў а-рэальнасці набылі пэўную структуру і нават сваю архітэктоніку Міфалагемы той пары (Сусветнае Дрэва і да таго падобныя) іерархізавалі касмалогію бытавання, аднак у гэтай іерархіі я-чалавеку пакуль не знайшлося асобнага, тым болей адметнага, месца. Сусвет Міфа быў касмічна шырокі, але паколькі ўся яго універсальная разлога апынулася зацiснутай у адну нерухомую праекцыю міфалагічнай мапы, то там нічога акрамя статычных метафараў не змяшчалася Да таго ж, персаналізаваны чалавек тады не меў патрэбы шчыміцца ў абрыс Міфа, паколькі семіятычных магчымасцяў рытуалу і артыкуляцыі, якімі ён валодаў, хапала адно на фіксацыю і рэтрансляцыю найбольш заўважных знакаў быцця (да апошніх я-чалавек сябе пакуль не залічваў) У такой сітуацыі я-чалавеку нічога не заставалася, як адно атаясамліваць сябе з універсальным агульным і; наадварот,– тоесніць універсальнае агульнае з самім сабой, пры гэтым ніяк не прэзентуючы самога сябе..

Вымкнуты Міфам з магмы вітальнасці, я-чалавек усяго толькі выконваў у целе Міфа справу фермента, якім гэтае цела ініцыявала працэсы свайго росту Але разам з тым менавіта з гэтай прыкладной функцыі і пачалася гісторыя чалавека, як ***нечага***, што ёсць не толькі як ёсць, а ёсць як ***можа*** быць, бо ўжо ***было*** аднойчы, чаму сведчаннем Міф пра гэтае ***было***.

Татэмны чалавек не ведаў іншых праекцый часу, акрамя су-часнасці, ён увесь адбываўся ў кантынууме ***ёсць.*** Міф сфармаваў у прасторы а-рэальнасці ***было***, як дадатковую да ***ёсць*** форму рэальнасці, тым самым шматкроць павялічыўшы прастору бытнавання я-чалавека

---

[1] Панятак *а-рэальнасць* утвораны тут для тапалагічнага пазначэння ўсёй прасторы інтэлігібельнай (разумова-пачуццёвай, інтэлектуальна-эмацыянальнай) дзейнасці чалавека. У пэўным сэнсе ён сінанімічны панятку «ноасферы» (сферы разумовай дзейнасці), сфармуляванаму Вярнадскім. Але панятак «ноасферы» не пасуе ў гэтым кантэксце стылёва, не ахоплівае ўвесь аб'ём інтэлігібельных значэнняў бытнавання чалавека і да таго ж на сёння ўжо здэфармаваны містычна заангажаванымі інтэрпрэтатарамі Вярнадскага.

А-рэальнасць – гэта рэальнасць, зафіксаваная чалавекам у словах, вобразах, метафарах, міфах, панятках, катэгорыях, ідэях, лічбах, тэарэмах, гіпотэзах, рэфлексіях... Карацей, а-рэальнасць – гэта ўся практыка інтэлігібельнага вопыта людства, назапашаная і ўтрыманая ім на той ці іншы перыяд ягонага бытнавання.

Сёння правесці «дэмакрацыйную» мяжу паміж рэальнасцю і а-рэальнасцю досыць складана, паколькі тая сітуацыя, у якой цяпер адбываецца чалавек, сфармаваная пераважна энергіяй а-рэальнасці. Прыкладам, рэальны легкавік – гэта матэрыяльнае ўвасабленне інтэлектуальнай дзейнасці, разгорнутай у прасторы а-рэальнасці. З іншага боку, натуральная прырода, знятая на кінастужку, становіцца складнікам а-рэальнасці, хаця сама ў сабе па-ранейшаму застаецца феноменам чыстай рэальнасці.

Пачатак фармавання а-рэальнасці, бадай, трэба звязаць з рытуальнымі рухамі, замацаванымі ў рытуальных фігурах. Пазней з'явіцца сінкрэтычнае слова, малюнак, піктаграма, лічба...

Натуральна, галоўнымі чыннікамі а-рэальнасці ад пачатку былі мысленне і мова. Але пакуль слова заставалася вусным, архіў мыслення не выходзіў за межы калектыўнай памяці. Поўнамаштабнае фармаванне а-рэальнасці пачалося са з'яўленнем Тэксту. Тэкст не быў звязаны з аб'ёмам калектыўнай памяці, які нязначна адрозніваўся ад аб'ёму памяці я-чалавека. Тэкст прадставіў магчымасць фіксаваць «увесь» аб'ём быцця, незалежна ад таго, якая яго частка магла ўтрымлівацца ў полі непасрэднага досведу.

Тэхнагенная эра, напярэдадні якой мы знаходзімся, спакваля трансфармуе а-рэальнасць у п-рэальнасць (пазначым яе так). Гэта звязана з тым, што на змену плоскавай, лінейнай прасторы Тэксту заступае шматмерная, нелінейна арганізаваная прастора сродкаў электроннай інфармацыі, якая мае непараўнальна большую ад Тэкста магчымасць фіксаваць, утрымліваць і аналітычна сінтэзаваць семантыку быцця.





Аднак папярэдняе вымагае ўдакладнення. хаця татэмны чалавек ужо меў ***адно*** часавае вымярэнне (***ёсць***), ён заставаўся выключна чыннікам прасторы, бо ***ёсць*** у адсутнасці апазіцыі ***было*** ці ***будзе*** хавалася ўтоеным ад чалавека і не апазнавалася з самога сябе як тое, што маецца ў наяўнасці. Міфалагічны чалавек, намацаўшы ***было***, разам крануў утоенае ***ёсць***, і гэтым унаявіў для сябе ***час*** як новую форму рэальнасці, але – зноў жа ўдакладнім – ***час***, які міфалагічны чалавек дадаў да татэмнай ***прасторы***, выглядаў яшчэ не як уласна час, а як панятак паўторнасці і, тым самым, множнасці таго, што адбываецца ***цяпер*** у прасторы рэальнасці З гэтага і пэўны прастора-часавы сінкрэтызм міфалагічнага чалавека, які пераадолеецца адно са з'яўленнем Тэксту, што раскладзе змест прысутнасці чалавека ў быцці на дзве разлогі: час і прастору

## *Эра Тэксту*

Міф ведаў час як прасторава-паслядоўную множнасць адной той самай падзеі,– Тэкст пераняў у Міфа сюжэт множнасці, толькі пераніцаваў яго ў множнасць бясконца розных падзеяў, якія апазнаюцца не адно ў наяўнасці ***ёсць-цяпер***, але і рэтраспектыўна, у наяўнасці ***былі*** да таго, як сталася ***ёсць***

Тэкст, зафіксаваўшы прастору ***было***, вылучыў ідэю часу, як а-рэальную і ў сваёй а-рэальнасці цалкам самадастатковую праекцыю быцця існага, з чаго на месцы статычнай а-рэальнасці Міфа паўстала дынамічная а-рэальнасць Часу, і гэтая перамена дазволіла павялічыць аб'ём быцця да той меры, якая ўжо змясціла ў сабе і адзінкавае вымярэнне індывідуальнага, персаналізаванага чалавека.

Тэкст – прарадзіма персаналізаванага чалавека. Тэкст апазнаў я-чалавека ў існым, вылучыў яго адтуль і знайшоў яму месца ў прасторы а-рэальнасці,– а тым самым пазначыў яго каардынаты і ў рэальнай прасторы. Праўда, на пачатку эры Тэкста чалавек Тэкста быў больш падобны да героя Міфа,– аднак з цягам часу ён усё болей таясаміўся з падзеямі ўласнага лёсу, хаця, заўважым, толькі ў той меры, якая была закладзена ў ***выяўленчыя*** магчымасці Тэкста (Апошняе досыць істотна, бо сучасны чалавек ёсць такім, якім ён ёсць, не таму, што ён насампраўдзе, па «адпрыроднай задуме» менавіта такі, а таму, што ў магчымасці Тэкста была адно такая магчымасць фармавання чалавека )

Здольнасць Тэкста вымыкаць я-чалавека з наяўнага рэальнага і перасоўваць яго ў а-рэальнае найперш праявілася інфарматыўна Вось чаму першапачатково чалавек Тэкста – гэта чалавек сваёй біяграфіі, зафіксаваны эстэтычна. (Эстэтыка пакладзена ў саму прычыну тэхналогіі Тэкста і таму яна не магла ў той ці іншай меры не прысутнічаць у Тэксце заўсёды.)

Біяграфія я-чалавека, як фатаграфія ягоных дзеяў, патрапіўшы ў сіло Тэкста, пачала мацаваць ***было*** ў ***ёсць***, з чаго ***было*** паўстала ў новай якасці – ***было*** як ёсць ***цяпер***, што і прадвызначыла феномен рэфлексіі: спачатку – спробу вытлумачыць факт ***падвоенай*** наяўнасці быцця чалавека (адно быццё ў ***ёсць***, другое – у ***было***),– да чаго пакрысе дадалося і жаданне звесці нічым не ўтаймаваны вэрхал адзінкавых біяграфічных падзей у нейкі агульны сэнс, у нейкую ідэалогію, у нейкую дэтэрмінацыю ўсяго з усім

Міф не ведаў рэфлексіі, міфалагічны чалавек адно ***фіксаваў*** наяўнае ў вобразна-метафарычных малюнках, што паходзілі з яго ўяўлення аб наяўным У пэўным сэнсе міфалагічны чалавек яшчэ не мысліў, а толькі ***бачыў*** і пераказваў бачанне намінатыўным ці метафарычным словам Спрошчваючы, міфалагічнага чалавека можна параўнаць з люстэркам, якое люструе карціну, сфакусаваную ў міфалагеме свету Ён, як люстэрка, яшчэ ні на чым не акцэнтуе ўвагу, нічога не вылучае, не дадае, не адымае, тым болей – не асэнсоўвае, не тлумачыць. Каб апошняе сталася магчымым, трэба было, каб сфармавалася тэхналагічна інакш арганізаваная плоскасць люстравання быцця. Такой інакш арганізаванай плоскасцю і стаўся Тэкст, які мог вымыкаць з ***ёсць*** ці ***было*** тыя альбо іншыя актуаліі, гуртаваць іх і замацоўваць у якасці пастаянна прысутных. З чаго паступова, праз механізм параўнання пастаянна прысутных знакаў актуальнасці, сталася магчымай аналітыка як самога наяўнага, так і ўяўленняў чалавека пра гэтае наяўнае

Тэкст дадаў да зместу чалавечага бытавання два найістотнейшыя моманты: час як час і мысленне як мысленне,– і гэтым завершыў распачатае Міфам стварэнне а-рэальнасці як другой прасторы прысутнасці чалавека ў быцці.

Тэкст канчаткова падзяліў быццё чалавека на прысутнасць у быцці і рэфлексію над быццём, на наяўнае і намысленае, на рэальнае, як змест таго, што ***было*** і ***ёсць***, і а-рэальнае, як змест рэфлексій над тым, што ***было*** і ***ёсць***, у тым ліку і рэфлексій над усімі папярэднімі і самымі апошнімі рэфлексіямі І яшчэ· Тэкст пачаў намацваць тэарэтычныя падставы для пашырэння ўласна часавай прасторы а-рэальнасці ў наступную праекцыю – у ***будзе***. Зусім верагодна, што менавіта ў гэтым палягаў сэнс даўмення аб гістарычнай скаардынаванасці чалавека ў часе, адкуль лагічна (кожнае ***ёсць гістарычна*** стасуецца з кожным ***было***) і была выснавана спачатку магчымасць, а затым і абавязковасць ***будучага***, якое яшчэ толькі цяпер, напярэдадні Тэхнагеннай эры, пачынае ставацца канструктыўна вызначальнай рэальнасцю зместа а-рэальнасці

Татэмны чалавек быў тым, што ***ёсць***

Міфалагічны чалавек быў тым, што ***ёсць*** і ***было***.

Тэкставы чалавек быў тым, што ***ёсць***, што ***было*** і што, магчыма, ***будзе***

Але ці быў пры гэтым сам чалавек як ***нехта***, акрамя таго, ***што*** нараджаецца, апладняецца і памірае?

## Актуальнасць чалавека

Натуральна, што ў эру Татэма (ды і ў эру Міфа амаль гэтаксама) пытанне ***хто я, чалавек?*** – не магло паўставаць. Чалавек быў адно як быў і з гэтага не мог пытацца ў сябе ***хто я?*** Татэмны чалавек дык і ўвогуле роўніў сябе з усім астатнім, радніўся – улучваў сябе ў радавод іншых істотаў, сцвярджаючы гэтым сваю прынцыповую таясамнасць з усім наяўным Пазней, у эру Міфа, чалавек ужо заакцэнтаваў сябе ў касмалогіі існага, але і тады перад ім не ўзнікла,– бо не было скуль і дзеля чаго ёй узнікаць,– праблема чалавека Прысутнасць чалавека прымалася ў значэнні прысутнасці, як і ўсё іншае, чаму знайшлося месца ў міфалагічным бачанні рэальнасці

Праблема чалавека ўзнялася ў эру Тэкста, яна выспела сярод складак інтэлігібельнага ландшафту а-рэальнасці, куды з універсалісцкіх пагоркаў сплывалі і дзе збіраліся рэшткі рэфлексіўных імпрэсій з нагоды быцця існага Уласна, на пачатку гэта яшчэ таксама не была праблема чалавека, а толькі асноведнае для яе паўставання ўсведамленне, што існае-для-чалавека ёсць настолькі існым, наколькі чалавек можа ўспрыняць яго ў гэтым значэнні Таму, калі Пратагор кажа, што «Чалавек ёсць мера ўсіх рэчаў, існуючых – што яны існуюць, неіснуючых – што яны не існуюць», то мы мусім разумець, што тут гаворка пакуль ідзе не пра ***чалавека***, а пра магчымасці спасціжэння формы, зместу і сутнасці быцця праз чалавека як інструмент гэтага спасціжэння

У рэфлектыўных практыках першых эпох Тэкставай эры (эпохі антычнасці – у прыватнасці) яшчэ панавала неабходнасць асэнсавання універсальнага цэлага ў яго анталагічнай ісціне, бо без вызначанасці ў агульным не знаходзіла свайго сэнсавага месца кожнае асобнае У кантэксце такога падыходу да праблемы чалавек выдаваў на адно з безлічы следстваў татальнай ісціны універсальнага цэлага і нічым не актуалізаваўся ў нешта такое што правакавала б на сябе інтэрвенцыю інтэлектуальнай увагі Прыкладам тут можна спаслацца на Платона, які сцвярджаў, што не існуе ведання аб тым, што ўзнікае, мяняецца і гіне, як і ўвогуле не існуе ведання для адзінкавых рэчаў – толькі ідэі (эйдасы) маюць вечна трывалыя параметры і таму вартыя быць вылучанымі ў аб'ект спазнання

Зрэшты, у гранічнай абыякавасці да праблемы чалавека з «ідэалістам» Платонам роўніўся «матэрыяліст» Дэмакрыт, «сафіст» Пратагор, «натураліст» Арыстоцель, «эстэтык» Плоцін На першы погляд з гэтага шэрагу выпадае Сакрат, які быццам скептычна паставіўся да актуальнасці праблемы субстанцыяльнай фізіялогіі існага і, наследуючы дэльфійскі заклік «Спазнай самога сябе», звярнуўся да чалавека, як да найбольш вартай рэфлексій падзеі быцця Але хаця філасофская традыцыя «чалавеказнаўства» (уключна з Кіркегарам і, пазней, астатнімі экзістэнцыялістамі) амаль у кожным выпадку пачынае разгортвацца з сакратычнага вопыту «чалавекаведання», зазначым, што ў ракурсе абранай для гэтых накідаў тэмы ўвага Сакрата да ***праблемы*** чалавека прынцыпова не адрозніваецца ад няўвагі да гэтай праблемы Геракліта, Піфагора, Парменіда . І справа тут не ў Сакраце ці ў некім іншым, а ў тым, што ў модусе антычнага мыслення, як і ўвогуле – мысленне першых эпох Тэкставай эры, не было месца для персаналізацыі быцця, і інакш як па-за асобай не мог мысліць быццё ні варвар-раб, ні геніяльны філосаф Для Сакрата чалавек зусім яшчэ не чалавек як праблема быцця, а форма змесціва этычных, эстэтычных, сацыяльных, светаглядных ды іншых адцягненых ідэй. Трохі спрошчваючы, можна сказаць. у заяўленым тут сэнсе Сакрат ад Платона розніцца адно тым, што эйдасы Платона месцяцца ў космасе, ці недзе яшчэ далей, і распаўсюджваюць сваю татальную прысутнасць на ўвесь сусвет, не прамінаючы сацыяльны космас чалавека, а «эйдасы» Сакрата месцяцца ў чалавеку і абмяжоўваюць татальнасць свайго ўплыву прасторай антрапаморфнага Калі і лічыць Сакрата першым «чалавекаведам», то зусім не таму, што ў сваіх аналітычных практыках ён апеляваў да тых ці іншых абстрагавана-этычных якасцяў чалавека, а таму, што ён паклаў мяжу статычна-намінатыўнаму міфалагічнаму мысленню /бачанню і актуалізаваў мысленне тэкставае (незалежна ад уласнага скепсіса да магчымасцяў пісьма), дынамічна/ дыялагічнае, якое кардынальным чынам паўплывала на інтэлектуалізацыю а-рэальнасці (толькі чалавечай рэальнасці),– і тым самым садзейнічаў набліжэнню чалавека да самога сябе, як да праблемы ісціны быцця

Хаця, здаецца, цалкам нельга адмаўляць магчымасць таго, што Сакрат спрабаваў зразумець феномен чалавека адносна самога сябе і, не выключана,– нават у нейкай меры «суб ектызаванага» чалавека. На карысць апошняга сведчыць апакрыфічнае «Я ведаю, што я нічога не ведаю», якое выглядае адказам-канстатантам на заклік, счытаны са сцяны дэльфійскага храма – «Спазнай самога сябе»

Калі гэта сапраўды так, то ў выпадку з Сакратам мы маем «інтэграл» гісторыі праблемы Прынамсі, колькі б потым чалавек ні спрабаваў зразумець сябе, усе спробы заканчваліся тым самым « я нічога не ведаю» Іншая рэч, чаму тады пад пытанне ніколі не ставілася сама праблема і – далей – сам чалавек?

Аднак вернемся да антычнасці Відавочна, што я-чалавек той пары не быў нейкай самасцю, а толькі прэзентуючай мерай універсальнага космасу, і таму ведаў сябе адпаведна свайму веданню акаляючага свету

Адным словам, ён быў не тым, чым (кім) быў, а тым, што ***ведаў*** (як вагі, якія ведаюць вагу таго, што важыць і не ведаюць сваёй вагі) Адсюль і прынцыповая няздольнасць антычнага я-чалавека да вылучэння сябе з універсальнага цэлага ў нешта асобнае, ***асобавае***

Зрэшты (ці – адпаведна), ён і не бачыў у гэтым патрэбы, паколькі ідэалагемы мэтаў тады былі скіраваныя на ўлучэнне, а не на вылучэнне, з чаго татальнасць гармоніі цэлага паўставала яго абсалютным ідэалам.

У адцягнена-тэарэтычным плане такая ідэалогія светагляду, магчыма, выдае на найдасканалую, але, як на маё разуменне, менавіта ўтойванне я-чалавека ў тоеснасці з універсальным цэлым сталася прычынай заняпаду антычнасці ва ўсіх яе значэннях

Увогуле, ***сама***анігіляцыя антычнай цывілізацыі – адна з найвялікшых таямніц Тэкставай эры Не выдавала б на нешта дзіўнае, каб антычнасць трансфармавалася ў нешта іншае, прарасла новымі формамі сацыяльнасці і мыслення, нават, хай сабе, апазналася нечым супрацьлеглым, нейкай апазіцыяй самой сабе Аднак нічога гэтага не сталася, антычнасць лічы без рэштка́ў амаль на тысячагоддзе знікла з кантэксту еўрапейскага вопыту

Зноў жа, чаго толькі не знікае дазвання з гэтага свету, але за тое, што антычнасць мела ў сабе магутны патэнцыял для наступнасці, сведчыць яе татальнае вяртанне (герменеўтычна сканструяванае з ацалелых рэштка́ў) у сусветны культуралагічны дыскурс.

Антычнасць вярнулася ў эпоху Рэнесанса і з таго часу застаецца сярод актуаліяў сусветнай культуры. Дык што здарылася тады? Чаму вялікая і, як на тую пару, дасканалая цывілізацыя з безліччу адмысловых міфаў, магутнай філасофіяй, упарадкаванай сацыяльнасцю неўпрыкмет змарнела ў нішто?

На гэтае пытанне існуе шмат адказаў, іх занадта шмат, каб хоць нейкаму даць веры, нават найбольш папулярнаму, які ў самых розных мадыфікацыях абапіраецца на адну і тую ж версію урэшце чалавеку адкрыўся сапраўдны Бог і тымсамым быў «пастаўлены крыж» на паганскіх багах і паганскім ладзе жыцця

Антычная міфалогія ведала даволі багоў і герояў, якія пераўзыходзілі Хрыста ў пакутах за людства, антычная філасофія мела колькі заўгодна эмацыянальна-лагічных канструкцый, кожная з якіх пры неабходнасці магла актуалізавацца ў монатэістычнага Бога, антычная этыка ў сваіх ідэальных формулах нічым не саступала этычнаму імператыву Нагорнай казані (згадаем хаця б «Залатыя вершы» піфагарыйцаў) Дык

чаму антычнасць не змагла вымкнуць з сябе падобнага хрысціянскаму Бога, які б знутры перарэфармаваў яе структуру і лад адпаведна наспелым патрэбам, а чакала (дачакалася!) прышлага, што яе, урэшце, і згубіла?

Як на маё меркаванне, то адна з асноўных прычын татальнага адыходу еўрапейскага людства ад антычнай стратэгіі быцця палягае не ў тым, што хрысціянства запрапанавала яму «лепшы» міф, «лепшую» этыку, «лепшага» Бога (усё гэта «лепшае» – падкрэслім – маецца і ў інтэлігібельнай субстанцыі антычнасці), а ў тым, што ў хрысціянскай мадэлі быцця знайшлося персанальнае месца кожнаму асобнаму чалавеку.

Хрысціянства вылучыла кожнага асобнага чалавека з эйдаса чалавека і адкрыла яму: Ты ёсць як Ты. Але яно не толькі пазначыла персанальную наяўнасць я-чалавека ў каардынатах рэальнага быцця, яно яшчэ і паабяцала яму месца ў быцці ірэальным. Займеўшы перспектыву быць ***тут*** і ***цяпер***, ***там*** і ***потым***, я-чалавек не схацеў болей быць як не-быць энцілехіяй эйдаса чалавека ***тут*** і ўласна эйдасам ***там***. Ён без асаблівай шкадобы да назапашаных багаццяў пакінуў залатыя харомы антыкі ды выправіўся прэчкі, каб хутчэй сустрэць самога сябе як найвялікшую з магчымых для сябе каштоўнасцяў быцця.

Заакцэнтуем увагу на слове «пакінуў», бо ў маім разуменні яно з`яўляецца лёсавызначальным адносна антычнай цывілізацыі. ніхто гэтую цывілізацыю не бурыў, не зніштажаў, не заваёўваў (хаця, натуральна, і бурылі, і зніштажалі, і заваёўвалі – ды не пра тое тут гаворка),– чалавек яе проста ***пакінуў***, пакінуў з усёй матэрыяльнай і духоўнай раскошай, і не знайшлося ў антычнасці нічога, што магло б затрымаць пры ёй чалавека.

У антычнай цывілізацыі, здаецца, было ўсё, акрамя патэнцыі да актуалізацыі я-чалавека, як адзіна перспектыўнай для яго падзеі быцця – адкуль і вядомы вынік, які сама яна нават не здолела асэнсаваць. неўпрыкмет сканала, шчасліва не разумеючы што здарылася і з чаго так здарылася?!

## ***Трансцэндэнтны гарант я-чалавека***

Навідавоку пярэчанне: «адзіна перспектыўнай» і першай, ва ўсіх сэнсах, падзеяй быцця ў хрысціянскую эпоху быў не я-чалавек, а Бог. Фармальна, пагодзімся, гэта безумоўна так. Але разам з тым заўпарцімся: сутнасным зместам манаістычна сфармалізаванай трансцэндэнцыі стаўся менавіта я-чалавек, які праз персанальны хаўрус з Богам рэалізаваў наспеўшую патрэбу абгрунтаваць сваю значнасць у значэннях лучнасці з персаніфікаванай існінай быцця.

Скуль раптам узнікла менавіта такая патрэба? Прычына быццам нечаканага скоку з наяўнасці ва універсалісцкім агульным у сінгулярную тоеснасць з Богам бачыцца ў наступным: Тэкст пашыры́ў расцярэблены ў эру Міфа лапік а-рэальнасці да памераў практычна неабмежаванай прасторы, якая з прычыны сваёй неабмежаванасці змагла запрапанаваць «вакансіі» на ўласнае месца ў быцці кожнаму асобнаму чалавеку, з чаго ў я-чалавека з`явілася магчымасць індывідуальных стасункаў з існінай быцця.

Улучна з тым Тэкст, рассунуўшы прастору ***ёсць*** у бязмежжа ***было*** і трывала замацаваўшы версію верагоднасці ***будзе***, адначасна са «знешняй» прасторай (двукоссі тут таму, што а-рэальнасць анталагічна паходзіць з інтэлігібельнага патэнцыялу чалавека, і хаця наяўна яна фіксуецца ў тэхнагібельным рэльефе цывілізацыі, але быційна адбываецца ***ўнутры*** я-чалавека) змяніў і «ўнутраную», экзістэнцыйную прастору я-чалавека, якая павялічылася праз параметры ***было*** і ***будзе*** да той меры, што ўжо дазваляла я-чалавеку змясціць Бога ўнутры сябе. Вось з гэтай, падвоенай перамены сітуацыі (гранічнае пашырэнне «знешняй» прасторы а-рэальнасці і адпаведна павелічэнне «ўнутранай» прасторы я-чалавека) узнікла запатрабаванне такога Бога, які б улічыў гэтую перамену, улучыўшы яе эмбівалентны сэнс у сваю трансцэндэнтную сутнасць.

Сярод вядомых паганскіх багоў не знайшлося такога, які б здолеў, не пакідаючы універсальнага космасу, засвоіць сінгулярны космас я-чалавека, абжыць яго як свой уласны дом і тым самым гарантаваць кожнаму я-чалавеку статус унікальнай падзеі. Як ні блізка да я-чалавека мясціліся паганскія багі (Зеўс на гары Алімп, Ярыла за бліжэйшай хмурынкай ), аднак ім было не па сілах пераадолець тую дыстанцыю абыякавасці, што адмяжоўвала іх ад я-чалавека. І хаця субстанцыяльна паганскія багі нібыта ўдзельнічалі ва ўсіх чалавечых справах, але гэты ўдзел меў адно значэнне пры-сутнасці, прысутнічання ля сутнасных акцый я-чалавека і не прадугледжваў магчымасці трансфармацыі ў бок





экзістэнцыйнага збліжэння з я-чалавекам, тым болей таясамасці з ім у адзінай сакральнай прасторы.

Бог, які прыйшоў да еўрапейскага чалавецтва з тэкстаў Вялікай Кнігі іўдзеяў, быў гранічна ***чалавечным*** Богам. Ён перадусім апекаваўся чалавекам і таму ў яго атрымалася забяспечыць я-чалавеку наспелую перамену статуса. пад апякунствам гэтага Бога я-чалавек з меры існага стаўся тым, што вымяраецца існым, як ягоная, існага, ісціна.

У Богу я-чалавек знайшоў найбольш важкі аргумент на карысць каштоўнасці самога сябе. Калі Бог стасуецца непасрэдна да мяне, калі ён заангажаваны мною, то пэўна я патрэбны Богу як тое, без чаго яму цяжка абысціся. Адсюль вынікае, што ў нейкім сэнсе маё «я» – апірышча Бога і, значыць, у прасторы а-рэальнасці яно ўяўляе супольную з падзеяй Бога падзею быцця.

Бог, як я-чалавек, адсунуты ад самога сябе ў неверагодную далеч, і я-чалавек, як Бог, ссунуты з гэтай неверагоднай далечы ў прыхапкі я-чалавеку,– такой была аснова новай сітуацыі, якая далей аб'ектыўна вымагала натуралізацыі богачалавека ў значэннях чалавекабога.

Персаналізаваўшы Бога ў Ісусе Хрысце, хрысціянскі чалавек канчаткова паставіў знак тоеснасці паміж сабой і Богам і тымсамым улучыў сябе ў ісціну быцця. Разам з тым гэтая працэдура сталася і вырашэннем праблемы я-чалавека ўвогуле, бо дзякуючы персаналізацыі Бога, чалавек амаль на тысячагоддзе пазбег пытання: ***хто я?***

Урэшце, феномен Бога быў ні чым іншым, як татальным адказам на ўсе верагоднамагчымыя запытанні я-чалавека пра змест існага і сэнс прысутнасці яго, я-чалавека, у бытнаванні быцця. І тут цяжка пазбегнуць спакусы, каб не высунуць меркаванне, якое б тлумачыла неабходнасць феномена Бога выключна тым, што Бог сваёй прысутнасцю, хай і ўскосна, апасродкавана, але адказваў на пытанне: ***хто я, чалавек?***

Бог – гэта Адказ. А ўсе астатнія яго функцыі – прыкладныя. З іх маглі выцярэбліваца багі, але не мог паўстаць Бог.

Хрысціянства – эпоха вялікага запытання.

Бог – роўнавялікі адказ на яго.

## ***Словабог***

Хрысціянскі Бог нарадзіўся ва ўлонні Тэкста і Тэкстам быў узгадаваны, як Бог (Біблія – яго фізічнае цела), за што пазней канстытуяваў Тэкст у якасці новай рэальнасці (а-рэальнасці) быцця.

Зрэшты, гэта зусім натуральна, бо ў эру Тэкста Бог наўрад ці мог быць нечым іншым, акрамя як месіяй-прэзентантам Тэкста, яго ідэолагам і містагогам. Змешчаны пад вокладку Бібліі, ён мусіў пастуляваць Тэкст у якасці сакральнай прасторы, каб надаць Тэксту тую значнасць, якая б адпавядала значэнню Тэкста ў гісторыі быцця.

Бясспрэчна, Бог – гэта найперш ***слова***. Але ***слова*** зрабілася Богам не раней, чым чалавек падрыхтаваў яму месца, дзе яно магло вымавіць сябе як ***Слова.***

За тое, што ***слова*** само з сябе не здолела б стацца ***Словам*** – сведчыць уся папярэдняя гісторыя. ***Слова*** бытнавала і ў эру Татэма і ў эру Міфа. Але тады ягонае значэнне не выходзіла за межы прыкладных функцый, бо яшчэ не было дзе яму разгарнуць усю магуту свайго як камунікатыўнага, так і сакральнага патэнцыялу. Ні ўтаптаны пляц, ні голае поле, ні нават высокая гара з яе магчымасцямі доўгага рэха не маглі паспрыяць слову абазнацца ***Словам.*** Здзейсніцца гэтаму вялікаму наканаванню дапамаглі рэчы досыць нязначныя. гліняная плітка, каменная скрыжаль, лапік папіруса, кавалак скуры – калі на іх пачалі выцінаць Тэкст, як форму канструкцыі новай рэальнасці. Вось тут, у трохмернай часавай структуры, і прыдаліся раней латэнтна ўтоеныя якасці слова, найперш ягоная здольнасць быць адразу ў параметрах ***было, ёсць*** і ***будзе***, а гэта значыць у пазачасавым і адсюль сакральным вымярэнні...

Здольнасць ***слова*** быць каталізатарам рэальнасці, камунікатарам соцыума, фармалізатарам а-рэальнасці і, можа, галоўнае, сакралізатарам Тэкста,– вылучыла ***слова*** на ролю, якая вымагала унікальнага статусу, сумернага абсалюту.

Так ***слова*** сталася ***Словам.***

Праўда, існуе меркаванне (Дэрыда), што маўленне (слова) ад свайго пачатку прадугледжвае графізм, пісьмо – тэкст. Але гэта, здаецца, не зусім так. Графізм ёсць не следства мовы, а следства дзеі, руху. Таму пацверджаннем – піктаграма.

Піктаграма фіксавала не маўленне, а – праз тэхналогію бачання – дзею. Першапа-

чаткова чалавек перадаваў інфармацыю пра сваё бытаванне ў прасторы ***ёсць*** нават не ўяўляючы, што гэтую інфармацыю можна транспартаваць у графічна зафіксаваным слове і што ўвогуле слова (гук) палягае магчымасці быць графічна ўнаяўленым

Пісьмо з'явілася не таму, што існавала маўленне, а таму, што ў нейкі там момант адкрылася. графічна зафіксаванае слова значна пераўзыходзіць піктаграму функцыянальна і адсюль яно больш прыдатнае для ўжытку.

Хаця зусім не выключана, што лексікаграфія адбылася з прычынаў куды больш глабальных, чым «эвалюцыя эфектыўнасці», а менавіта – з прычыны спакваля наспелай неабходнасці стварэння мабільнай камунікатыўнай сістэмы для семантычнай прасторы а-рэальнасці

Піктаграфія, напэўна, мела ў сабе вялікую патэнцыю да графічнай фіксацыі руху, дзеі але яна не была прыстасаваная для транспартавання знакаў, якія маглі б выяўляць рух логікі, падзеі мыслення, сюжэты рэфлексіі. Адным словам, піктаграфія не пасавала да графічнага засваення прасторы а-рэальнасці, якая неўпрыкмет апазналася як больш перспектыўная за рэальную рэальнасць быцця Вось чаму піктаграфія саступіла сваё месца лексікаграфіі і такім чынам на месцы піктаграфічнага Тэкста ўзнік лексікаграфічны, які з аднолькавым поспехам фіксаваў і транспартаваў як падзеі рэальнасці, так і сюжэты а-рэальнасці

Аднак апошняе зусім не азначае, што мова сама з сябе ад свайго пачатку прадугледжвае графізм. Гэтай версіі пярэчыць увесь вопыт пары піктаграфіі. Больш за тое, каб пазней стратэгіі быцця не заакцэнтаваліся на а-рэальнасці, дзе пануючыя рэфлексія, логіка, інтэлектуалізм запатрабавалі іншай ад піктаграфіі сістэмы знакаў,– а надалей адбываліся ў прасторы рэальнасці, руху, дзеі (як у эру Татэма), то зусім верагодна, што піктаграфічны тэкст заставаўся б адзінай і дастаткова задавальняючай чалавека формай пісьма. Я нават не схільны зусім выключаць, што ў нейкім будучым (магчыма, не такім ужо і аддаленым), калі розум канчаткова асягне сваю мяжу і чалавек усвядоміць усю марнасць ды бяссэнсіцу адцягненай рэфлекторыкі і згорне сэнс жыцця да дзеі адбывання жыцця, – мадэрнізаваная піктаграма зноў стане асноўным элементам тэкста, ці таго, што возьме на сябе ягоную ролю. І хто ведае, можа, яна яшчэ калісьці набудзе значэнне якога-небудзь там Піктабога?

## *Дэсакралізацыя Тэкста*

Праблема я-чалавека, якая, здавалася б, са з'яўленнем хрысціянства была вырашана раз і назаўсёды, недзе праз тысячагоддзе ўтаймаванага ў самой сабе існавання пакрысе пачала наноў выяўляць сваю праблематычнасць. Прычынай гэтаму бачыцца паступовае вылузванне чалавека з прыхапкаў Бога ва ўласную самадастатковасць, якая і запатрабавала ад чалавека асэнсавання самога сябе ў сітуацыі наўзбоч Бога (ці ўвогуле без Яго). А вось што сталася прычынай гэтай прычыны – уцямна зразумець, бадай, амаль немагчыма Які такі тэктанічны зрух адбыўся ў чалавеку (сусвеце), што чалавек пачаў адсланяцца ад Словабога, каб урэшце разысціся з ім, верагодна назаўсёды?

Калі шлях са светлых харомаў антычнай цывілізацыі ў вечна засутоненыя катакомбы цывілізацыі хрысціянскай, здаецца, досыць падстаўна тлумачыцца тым, што Словабог гарантаваў я-чалавеку месца сярод значэнняў існіны быцця, то разыходжанне чалавека са Словабогам можна зразумець хіба што не з нейкіх там непасрэдных стасункаў між імі, а апасродкавана, праз дэсакралізацыю Тэкста, з патрэбаў якога Слову ў свой час і быў нададзены статус Бога.

Гістарычна пачатак працэсу дэсакралізацыі Тэкста можна пазначыць вынаходніцтвам Гутэнберга, хаця фактычна друкарскі варштат толькі забяспечыў тэхналогіяй падзею, якой так ці інакш наканавана было адбыцца, паколькі акрамя сакральнай у ***слова*** заўсёды заставаліся намінатыўная і камунікатыўная функцыі, і з пашырэннем сакральнай ролі Слова вялічылася сацыяльнае значэнне Тэкста ў прасторы рэальнасці

На пачатку выдавала, што татальная інтэрвенцыя друкаванага слова ў рэчаіснае бытаванне сведчыць за канчатковую перамогу Словабога, і толькі найбольш відушчыя тады разумелі, што абытаўленне Тэкста, яго ўсюдная цялесная прысутнасць «да дабра не давядзе», бо хаця абытаўленне Тэкста разгортваецца пад знамёнамі абагаўлення Тэкста, але ўрэшце гэта абернецца нечым накшталт дыскрэдытацыі Словабога, як





персаніфікаванай існіны быцця. (Калі на Кнігу – цела Бога – пачнуць ставіць патэльню з яешняй, то цяжка будзе не пераблытаць яешню з Богам.)

Дэсакралізацыя Словабога не была наўмысна спланаваным актам Яна збылася як следства абытаўлення Тэкста, але з гэтага – у сваю чаргу – адбыўся рашучы перарух энергіі прысутнасці Тэкста са сферы а-рэальнасці на плоскасць сацыяльнай рэчаіснасці.

Вынікам гэтага перараху сталася тое, што матрыца Тэкста паклалася ў канструктыўную аснову цывілізацыі Новага часу, логіка супольнага бытавання розных элементаў Тэкста сфармавала прынцыпы функцыявання сацыяльных механізмаў эпохі, а стылістыка Тэкста закадзіравала фігуру мыслення новаеўрапейскага чалавека.

Дарэчы, калі Тэкст пачаў пазбаўляцца сваёй сакральнасці, то выявілася, што ў яго прааснове ляжыць жорстка дэтэрмінаваная рацыянальнасць, якой і было наканавана вызначыць ідэалагему Новай пары. Згодна з гэтым, рацыяналістычнае мысленне зрабілася пануючай формай разгортвання Тэкста ва ўсе прасторы як рэальнага, так і а-рэальнага быцця

Натуральна, эпахальныя змены не адбываюцца ў адначассе На працягу колькіх там стагоддзяў ірацыяналізм веры і рацыяналізм мыслення (Тэкст сакральны і Тэкст дэсакралізаваны) існавалі ў пэўным суладдзі, двубочна падтрымліваючы адзін аднаго, а пазней адносна мірна разышліся, падзяліўшы між сабой «сферы ўплыву» за сакральным Тэкстам заставалася ірэальнасць, за дэсакралізаваным – рэальнасць.

Аднак пасля таго, як Дэкарт сфармуляваў сваё «сакраментальнае»· я мыслю, значыць я існую, уся ўмоўнасць раўнавагі паміж ірацыянальным і рацыянальным сталася відавочнай Хаця фармальна Дэкарт не супрацьпастаўляў «Я мыслю. » ранейшаму· «Я прамаўляю. [2] (да Бога) і таму існую»,– бо меў намер не адпрэчыць, а толькі памысліць Бога з той жа мерай рацыянальнасці, што і ўсялякі іншы аб`ект, але фактычна гэтай формулай ён паставіў пад сумненне магчымасці Словабога быць універсальным Адказам на ўсе «апошнія» запытанні чалавека, паколькі Адказ цяпер чакаўся ўжо не ад Бога, а ад Чалавека, які сам мысліць і ў акце свайго мыслення адкрывае тое, праз што існаванне апазнаецца як быццё існага, а значыць праз сваё мысленне чалавек сам становіцца тым, што можна назваць існінай быцця

Усё, што ёсць, ёсць для чалавека таму, што яно памыслена чалавекам У тым ліку і Бог. Верагодна, утоенае ад рыторыкі разуменне, што Бог для чалавека ёсць толькі таму, што ён можа быць памыслены чалавекам (і памыслены як Бог), і сфармавала ідэю каштоўнасці мыслення, адкуль пазней узнікне ідэя самакаштоўнасці чалавека, як аб'екта, у якім знаходзіць сабе месца феномен мыслення

Рашуча высунутае наперад усяго (і Бога) «Я» чалавека сведчыць, што ў сітуацыі дэсакралізацыі Словабога чалавек ужо быў патэнцыяльна гатовы сам, непасрэдна, не дзелячыся ні з кім сваім прадстаўніцтвам, прадстаўляць перад сабой самога сябе ў значэнні існіны быцця. І гарантам гэтага ганаровага права, гэтай самадастатковасці самога сябе, гэтага апраўдання сэнсу свайго самаіснавання сталася ні што іншае, як «я мыслю. .»

Аднак ***мысленне*** было толькі альтэрнатывай ***слову***, а новая сітуацыя адпаведна патрабавала і альтэрнатывы Богу.– Гэтая альтэрнатыва была неўпрыкмет прадэкларавана разам з усёй формулай: «Я мыслю, значыць я існую»

***Я сам*** мыслю, ***я сам*** існую, ***я сам*** – бог. Толькі не будзем «я сам» атаясамліваць з асобавым, персаналізаваным чалавекам. Альтэрнатывай Словабогу стаўся не чалавек як ***чалавек***, а чалавек як ***суб'ект*** (гэтым актам праблема я-чалавека была зноў мінімізавана на нейкі час, бо патэнцыя пытання ***хто я?*** утаймавалася ў адказе, сфармуляваным рацыяналістычным мысленнем: ты – ***суб'ект***).

Ідэя суб'ектнасці я-чалавека анталагічна паходзіць з ідэі суб'ектнасці Бога. Суб'ект – гэта тое, што мае прычыну самога сябе ў самім сабе і паўстае з гэтага самім сабой, усведамляючы сябе сабой і маючы на мэце самога сябе як існіну сябе-быцця.

Бог, безумоўна, суб'ект А вось я-чалавек мог быць аб'яўлены суб'ектам адно з нецярплівасці выяўлення сябе ў значэнні суб'екта Суб'ектызаваўшы сябе, чалавек надаў свайму «я» значэнне, якое яно не мела і не магло мець у сапраўднасці. Патлумачыць падзею суб'ектывізацыі я-чалавека можна адно хіба тым, што мысленне ў эпоху рацыяналізма легітымізавала а-рэальнасць у панятках ды катэгорыях рэальнасці,

**[2] *Прамаўляю* – гэта значыць: моўлю з верай. Чалавек у той ці іншай меры заўсёды мысліў, але ў хрысціянскую эпоху (умоўна – да Дэкарта) гэтае мысленне было аформлена як маўленне да Бога, як прамаўленне Богу свайго слова-сведчання веры ў Бога. У мысленні акцэнтавалася менавіта *слова* (да Бога), а не само мысленне.**

з чаго і з'явілася магчымасць вылучыць рэальнае «я» ў форме ***суб'екта***, паколькі ў прасторы а-рэальнасці памысленае робіцца яўленым...

У прасторы а-рэальнасці тое, што мысліць, стварае сябе само з сябе, са свайго акта мыслення, а значыць яно мае нашмат болей прыкметаў суб'екта, чым тое, што дзеіць у рэальным.

Суб'ектывізацыя я-чалавека стае яскравым прыкладам таго, што напрыканцы эры Тэкста чалавек пачаў татальна перасоўвацца сваім быццём з прасторы рэальнага ў прастору а-рэальнасці ці, інакш, а-рэальніваць прастору рэальнасці і займаць там, на правах суб екта, цэнтрапалеглае месца, браць на сябе значэнне адцягненага «Я» абстракцыі «Ты» трансцэндэнтнага Бога.

## *Ад суб'екта да дыскурса*

Панаванне ***суб'екта*** ў рацыянальна асэнсаванай прасторы Новай пары лішне не задоўжылася Не паспеў ***суб'ект*** увабрацца ў сілу, як Шапэнгаўэр выбавіў з утоенасці магутную плынь ***волі да жыцця*** і ***суб'ект*** заскакаў на яе хвалях бессэнсоўна і бездапаможна.

Выявіўшы ў прычыне існавання існага гэтую ў канец дэперсаналізаваную плынь энергіі, Шапэнгаўэр пакінуў ***суб'екту*** адно права на пасіўнае ***ўяўленне*** як рэфлексію з нагоды тых ці іншых эфектаў ***волі да жыцця***. Такім чынам ён, па сутнасці, зараз пазбавіў быццё ўсіх яго ідэалагемных ісцін (Татэма, Міфа, Словабога, Тэкста, Суб'екта) і абрынуў быццё назад у магму вітальнасці.

Прыкладна ў тую ж пару не вытрымаў дыктату рацыо і Кіркегар. Свой бунт ён распачаў з жорсткай крытыкі Гегеля: « .. кожны ***чалавек*** (курсіў мой *В.А.*), які захоча нешта зразумець у сваім асабістым прыватным жыцці з дапамогай гегелеўскай філасофіі, згубіцца ў блытаніне»

Звернем увагу на выдзеленае – «чалавек» Контррэвалюцыя Кіркегера якраз і была скіраваная супраць суб'екта як феномена эпохі, праз які чалавек быў дэсакралізаваны і адлучаны ад трансцэндэнтнага – за вяртанне ў кантэкст быцця ***чалавека***, ірацыяналізма і веры ў Словабога, як адзіна магчымага гаранта сакральнай каштоўнасці ***чалавека***

Кіркегар першым сярод філасофаў паспрабаваў зразумець філасофію як філасофію існавання персаналізаванага я-чалавека. З чаго эга-ізм Кіркегера сягнуў туды, дзе ўжо, уласна, нічога, акрамя праблемы я-чалавека, няма Праўда, метадалагічна Кіркегар вырашаў праблему я-чалавека сродкамі тэалогіі, праз напружаную драму стасункаў верніка з Богам. Апошняе якраз і схіляе да думкі, што за мяжой веры праблема я-чалавека бадай увогуле не можа знайсці «пазітыўнага» выйсця, прынамсі, у праекцыі ідэі ісціны быцця. Што, хай і ўскосна, пацвердзіў, магутна выбухнуўшы ў першай палове XX стагоддзя і гэтым выбухам вычарпаўшы сябе, экзістэнцыялізм.

Але яшчэ да экзістэнцыялізму за ***межамі веры*** паспрабаваў вырашыць праблему я-чалавека Ніцшэ Спроба не атрымалася і, пэўна, найперш таму, што звышчалавек Ніцшэ – асучаснены рэлікт чалавекабога, угрунтаваны ў міфалагему Дыяніса,– быў усяго толькі апазіцыяй ***Словабогу*** і альтэрнатывай ***суб'екту***, метафізічна аднатыповай з ім

***Звышчалавек*** Ніцшэ гэтаксама не стаўся адказам на пытанне хто я?, як і рэлігійны чалавек Кіркегера. Больш за тое, зусім верагодна, што ідэя ***звышчалавека*** ў Ніцшэ – гэта ўсё той жа послед бяссілля розуму перад праблемай чалавека· што ніцшаўскі ***звышчалавек*** – гэта ўсяго толькі чарговая дэактуалізацыя праблемы я-чалавека.

Дарэчы, спроба Хайдэгера легітымізаваць ніцшэўскага ***звышчалавека***, атаясаміўшы з ім я-чалавека Тэхнагеннай эры, які валодае энергіяй магутных машын і адсюль ператвараецца ў нешта, што звыш чалавека,– у звышчалавека, гэта ні што іншае, як механістычнае нарошчванне «цягліцаў» я-чалавека, чаго не меў на ўвазе Ніцшэ, які хай сабе таксама механістычна, але ператвараў я-чалавека ў звышчалавека, нарошчваючы «цягліцы» ягонага «духа» – інакш «цягліцы» чалавечага ў я-чалавеку

Зрэшты, ні версія «злодзея» Ніцшэ, ні версія ягонага «адваката» Хайдэгера нічога прынцыпова новага не адкрывалі ў феномене праблемы, бо абодва яны ніталалі пытанне ***хто я?*** з адказамі на зусім іншыя запытанні і тым самым гублялі я-чалавека ў гушчары метафізічных дыскурсаў. Як, па сутнасці, нічога не адказвалі на гэтыя пытанні і ўласна хайдэгераўскія адказы

Хайдэгераўскі ***закінуты*** ў быццё я-чалавек, як ***прасвет ісціны быцця*** (ці пастух, пастыр ісціны быцця ў гэтым прасвеце), не больш чым красамоўны паэтычны троп, з





аднаго боку семантычна адценены містыцызмам, а з другога – больш звыклым для еўрапейскай ментальнасці неатамізмам. Паспрабуем паставіць на месца ***ісціны быцця*** – Бога, на месца ***закінутасці*** – боскае наканаванне, на месца ***пастуха ісціны быцця*** – раба божага, выканаўцу боскай задумы і г.д., і мы ўбачым, што геніяльны ў поступу Хайдэгер, у канцавых, вызначальных кроках гэтага поступу – досыць ардынарны Чаму так? Можа таму, што ўсе шляхі ў гэтым накірунку вядуць не туды, ці ўвогуле ***нікуды*** не вядуць?

Здаецца, пакуль адзін Камю наважыўся сказаць гэтае безнадзейнае ***нікуды***, узмацніўшы яго яшчэ больш безнадзейным ***нішто.***

Я-чалавек – нішто, якое з'яўляецца ніадкуль і знікае ў нікуды. Ён абсурдны феномен абсурду быцця, і ўсе гэтыя ўлучэнні я-чалавека ў так ці інакш афармленую транцэндэнцыю не больш чым паэтычныя гульні ці ідэалагемныя прыдумкі.

Камю не быў ні самым вялікім, ні самым глыбокім нават сярод філасофаў сваёй пары, але ён быў адным з самых мужных (бадай, пасля Шпэнглера) філасофаў у гісторыі еўрапейскай філасофіі. Ён не збаяўся заканстатаваць смерць сэнсу чалавечага жыцця

Абвергнуць гэтую, куды больш вусцішную за Апакаліпсіс, канстатацыю ці хаця б штокольвек уцямнае супрацьпаставіць ёй (акрамя, натуральна, веры) ніхто не змог, і пэўна таму філасофія змушана была, найперш праз структуралізм, вярнуцца ў звыклую прастору універсалісцкіх інтэграцый (да прыкладу, Леві-Строс) ці схавацца ад апошніх пытанняў у маргінальныя лакуны (да прыкладу, Фуко), або адсланіцца ад быцця яго семіятычнымі інтэрпрэтацыямі (да прыкладу, Вітгенштэйн)

Інтэрвенцыя «канцоў», «смерцяў» («культуры», «метафізікі», «гісторыі», «філасофіі», «эстэтыкі», «літаратуры» і г.д. і да т.п ), справакаваная «канцом культуры» Шпэнглера, высунула на нейкі час у дамінанту еўрапейскага мыслення ***дэканструкцыю*** (Дэрыда) а-рэальнасці, як ***герменеўтыку*** (Гадамер) наадварот Праўда, па вялікім рахунку філасафема ***дэканструкцыі***, як татальнай рэвізіі а-рэальнасці, амаль адразу была нейтралізаваная народжаным у нетрах постструктуралізма ***дыскурсам***.

Ідэя дыскурса гэта ідэя быцця без чалавека, як ісціны быцця, быцця без сярэдзіны, перыферыі, краеня, быцця як вэрхала феноменаў, аніяк не абумоўленага нейкай універсальнай дэтэрмінацыяй, калі за такую дэтэрмінацыю не лічыць само быццё.

Усё, што ёсць, ёсць таму, што яно адбываецца І гэтым адбываннем вычэрпваецца поўня яго прычыннасці, ідэалагемнасці, сакральнасці. Я-чалавека таксама

#### ЧАСТКА ДРУГАЯ

## *Пасляслоўе да першай часткі*

Папярэднія накіды ўяўляюць сабой ні што іншае, як спробу праілюстраваць маё суб'ектыўнае бачанне рэтраспектывы феномена я-чалавека ў гісторыі праблемы чалавека. Да таго ж яны кранаюць адно некаторыя метафізічныя моманты гэтай гісторыі Магчыма, яшчэ не лішне было б спыніцца на эвалюцыі разумення феномена я-чалавека біялогіяй, антрапалогіяй, псіхалогіяй Але ўсе гэтыя, як і многія іншыя (да прыкладу, сацыялогія) навукова-інтэлектуальныя сферы асэнсавання Homo sapiens амаль цалкам засяроджаныя на пытанні ***што ён, чалавек?***,– які ён, з чаго ён, так бы мовіць, зроблены і на якую патрэбу яшчэ прыдатны? І нават Дарвін, які наважыўся эмпірычным шляхам давесці ***скуль*** і ***чаму*** чалавек – чалавек, калі звяртаўся да я-чалавека, як да ***хто***, мусіў спаталяць прагу рацыянальнай веды ірацыянальным – веру! Не змог выйсці за межы ***што*** і Фрэйд, хаця і спрабаваў на подзе псіхааналізу распрацаваць метафізічную мадэль я-чалавека,– аднак ягоная метафізіка, гэтаксама як і ягоная псіхалогія, цалкам засталіся ў кантынууме ***што***.

Верагодна, мела б сэнс наладзіць агледзіны я-чалавека ў праекцыі літаратуры і, шырэй, мастацтва ўвогуле Толькі наўрад ці там убачыцца нешта скрайне адрознае ад таго, што высвятляецца ва ўласна інтэлектуальнай праекцыі. Бо хаця рытарычны аспект пытання ***хто я, чалавек?*** у літаратуры гучыць значна часцей, чым у філасофіі, але ўсе адказы на яго застаюцца альбо ў той самай плоскасці рыторыкі, што і пытанні, альбо вокамгненна скочваюцца ў прорву містыкі. (Як на маё разуменне, дык ці не бальшыня

містычных вучэнняў уяўляе з сябе хутчэй своеасаблівую праяву мастацкай літаратуры, чым мыслення альбо веры.)

Адным словам, далейшае пашырэнне прасторы гісторыі праблемы не ўяўляецца мэтазгодным. Незалежна ад колькасці прааналізаваных вымярэнняў чалавека ў быцці існага, навідавоку выніка, пэўна, застанецца адно і тое самае – адсутнасць хоць якога пазітыўнага адказу на самае прагнае чалавечае запытанне ***хто я, чалавек?*** (і адсюль. навошта, дзеля чаго я, чалавек?).

Верагодна, нямоглясцю чалавека перад праблемай самога сябе тлумачыцца як досыць позняя актуалізацыя гэтай праблемы ў рэфлектыўным досведзе, так і тое, што калі потым яна раз-пораз максімалізавалася, то звычайна ненадоўга і без якіх-кольвек істотных здабыткаў на карысць яе вырашэння. З апошняга можна зрабіць дадатную выснову, што адказ на сакральныя запытанні пра чалавека месціцца (калі месціцца хоць дзе) за межамі магчымасцяў чалавечага розуму Ва ўсялякім іншым выпадку гэты адказ неяк перагукнуўся б з веданнем чалавека пра сваё ***што***.

Дарэчы, амаль напэўна, што феномен веры (як у сакральным, так і ў прафанным сэнсах) сфармаваўся вось з гэтага бяссілля чалавечага розуму, які, як ні могся, не змог зразумець прычыну чалавека ні з падтэкста самога чалавека, ні з кантэкста існавання існага.

Бог – гэта татальная параза розуму. Ён – межавы камень, які пазначае апошнюю магчымасць мыслення, тую скрань, за якой чалавечаму розуму не дадзена абазнацца. І тут – пачатак імперыі веры. .

Вера – гэта быццё без адказу на пытанне пра сэнс я-чалавека, дакладней, быццё без пытання, бо наяўнасць Бога (суб'ектызаванай веры) з'яўляецца універсальным Адказам на ўсе верагоднамагчымыя запытанні, і сакральныя гэтаксама.

Аднак ёсць нешта ў чалавеку (ці нечага не дадалося веры?), што замінае яму назаўсёды задаволіцца быццём без пытання. Час ад часу гэтае «нешта» пачынае смылець і тады зноў чуецца ад веку нязбыўнае ***хто я?***

## *Аблуда сэнсу жыцця*

Уласна, пытанне ***хто я?*** паклікаецца з моўкнасці досыць рэдка, звычайна яно застаецца ўтоеным у праблеме ***сэнсу жыцця***, як у сваёй неразгорнутай агортцы, якая для прафаннай свядомасці выдае сябе за займенніка сакральнага ***хто я?***

Прынамсі такой бачыцца сітуацыя на першы погляд, дакладнасць якога лёгка падмацоўваецца тым, што «генезіс» падмены ***хто я? сэнсам жыцця*** можа быць без асаблівых інтэлектуальных высілкаў выведзены з нястрымнага жадання я-чалавека ўведаць калі не патаемнае ***хто я?***, то хаця б яго прафаннае «альтэр эго», якое месціцца «навідавоку» (у суплёце ідэальных ідэяў ці, зніжана, сярод этычных, сацыяльных і пабытовых імператываў) і таму можа быць у нейкай меры зразуметым і спасцігнутым.

Аднак у сюжэце стасункаў паміж ***хто я?*** і ***сэнсам жыцця***, здаецца, прыхаваная зусім іншая ад той, што бачыцца на першы погляд, фабула Пазней мы яе паспрабуем разгарнуць відочна, а пакуль толькі зазначым, што, магчыма, тое, дзеля чаго жыве я-чалавек (***сэнс жыцця***), і ёсць тым, ***хто*** жыве дзеля гэтага. (Пра нешта падобнае ёсць згадка ў Святым Дабравесці паводле Мацвея. «Дзе скарб ваш, там будзе й сэрца вашае».)

Хаця пачнём мы як быццам нават з адваротнага. .

У досведзе чалавека няма хоць якіх, хоць колькі-небудзь пераканаўчых аргументаў на карысць таго, што персаналізаванае існаванне ў кантэксце быцця існага мае нешта, што неўнікова сведчыла б на карысць нейкага ***сэнсу жыцця***.

За тое, што ***сэнс жыцця*** анталагічна не ўгрунтаваны ў існасць чалавека, сведчыць нічым не ўтаймаваная фантасмагорыя тых сэнсаў, на якія чалавек арыентуецца і, што больш аглядна, – неістотнасць наяўнасці хоць якога сэнсу ўвогуле

Адсутнасць сэнсу ў жыцці я-чалавека не з'яўляецца для яго рэальнай праблемай. Я-чалавек аднолькава інтэнсіўна існуе і тады, калі быццам ведае сваё «сакральнае» прызначэнне, і тады, калі не ведае яго. Увесь гістарычны вопыт сведчыць, што логіка прысутнасці я-чалавека ў быцці не абумоўліваецца логікай разумення гэтай прысутнасці. У кантэксце існавання існага я-чалавек нічым не адрозніваецца ад расліны ці жывёлы. ён жыве таму, што з'явіўся жыць. (І знікае таму, што з'явіўся ) Але ні ягонае з'яўленне, ні ягонае знікненне не залежаць ад таго, у сістэму якіх намысленых каардынат ён дастасоўвае сваё жыццё. Да таго ж сутнасць ягонага жыцця ў значэннях існавання ад





гэтага таксама не залежыць. Яно, як у расліны ці жывёлы, нічым не зарыентавана на нешта яшчэ, акрамя як на прысутнасць у жыцці.

Аб тым, што ў персаналізаванага існавання няма нейкага іншага ад існавання ***сэнсу жыцця***, гаворыць (акрамя шмат чаго яшчэ) як «інстытут смерці» ўвогуле, так і – лакальна – непарыўная ад веку чарга самагубстваў і адтуль жа бясконцы гвалт над чалавекам у самых розных формах, ад індывідуальных забойстваў да сусветных войнаў; гвалт, які не здолелі перапыніць ні табу (эра Татэма), ні этычны кодэкс і сацыяльны закон (эры Міфа і Тэкста).

Калі б я-чалавек не проста прысутнічаў у быцці, як адна з формаў існавання існага, а прысутнічаў з нейкай уласнай я-чалавечай мэтай, выяўляў сваёй прысутнасцю нейкі іншы ад свайго існавання сэнс, то тады гвалт над я-чалавекам якімсьці чынам карэктаваўся б на гэтае яго мета-значэнне А паколькі ніколі нішто не адсланяла я-чалавека ад смерці, у тым ліку і гвалтоўнай, то цяжка ўхіліцца ад канстатацыі, што я-чалавек не мае каштоўнасці большай (нейкай мета-каштоўнасці) за сваё існаванне.

Тады адкуль гэтае вярэдлівае пытанне пра ***сэнс жыцця***, калі яно не вынікае з логікі і запатрабаванняў непасрэднага існавання, якое цалкам задавальняецца само сабой?

Відавочна, што праблема ***сэнсу жыцця*** – гэта праблема не існавання я-чалавека, а праблема ягонага мыслення, якое ніяк не адбіваецца на жыцці як адбыванні жыцця. Калі б праблема ***сэнсу жыцця*** раптам выпала з інтэлектуальнага дыскурса а-рэальнасці, то ландшафт гэтага дыскурса напэўна перамяніўся б кардынальным чынам, але ў ландшафце існавання я-чалавека з гэтай нагоды не ссунулася б ні адна канцэптуальная для існавання парадыгма.

Іншая рэч, што калі праблема ***сэнсу жыцця*** трапляе у кшталт той ці іншай ідэалогіі і трансфармуецца там у нейкі ідэалагемны імператыў, то тады яна істотнейшым чынам уплывае на фармаванне гісторыі падзеяў, што ўрэшце непасрэдна кранае кожнае персаналізаванае існаванне ***Сэнс жыцця***, атаясамлены з вераю ў Словабога, два тысячагоддзі рашуча ўздзейнічаў на ідэалагемны змест і нават тэхнагенны абрыс еўрапейскай цывілізацыі Але што ад гэтага перамянілася ў самой логіцы я-існавання? З тым ці іншым богам (як сакралізаваным ***сэнсам жыцця***), ці ўвогуле без яго, я-чалавек меў бы тое, што меў, што мае,– калі не зважаць на форму маральных канонаў і вектары тэхнакратычных стратэгій

Аднак вызначыўшы, што ***сэнс жыцця*** не з'яўляецца нечым анталагічна ўгрунтаваным у існасць чалавека, нейкай яго неад'емнай экзістэнцыйнай прыналежнасцю, мусім звярнуць увагу і на тое, што сваёй наяўнасцю разбэрсаны, пераменлівы, неакрэслены ***сэнс жыцця***, калі ён зведзены ў нейкую выразную сукупнасць, ставіць пад пытанне існаванне як галоўную каштоўнасць чалавека

Калі б існаванне чалавека было забяспечана само сабой, як сэнсам самога сябе, калі б яно было самадастатковым, экзістэнцыйна і ідэалагемна самазавершаным у самім сабе, то тады наўрад ці я-чалавека неадпрэчна вярэдзіла б пытанне пра сэнс ягонага жыцця.

З апошняга, падобна, вынікае, што існаванне як прысутнасць у быцці таксама не ёсць той самадастатковай каштоўнасцю, якая б цалкам задавальняла я-чалавека, прынамсі такой каштоўнасцю яно з'яўляецца далёка не заўсёды, і таму я-чалавек шукае свайму жыццю падставы ды абгрунтаванні за прасторай самога сябе. Але чаму, не маючы большай за сваё існаванне каштоўнасці, я-чалавек шукае «свой скарб» дзе заўгодна, толькі не ў сябе пад нагамі?

## *Навошта чалавек сам сабе патрэбны?*

Само гэтае пытанне і нават яго пазначэнне заўсёды праміналася ўвагай. Пэўна, з гэтага нешта мусіць вынікаць?

Зрэшты, у тую пару, калі не было дзе і з чаго паўставаць праблеме чалавека ўвогуле, натуральна, не магло быць і размовы пра прычыны патрэбы я-чалавека ў самім сабе. Як не было месца рэфлексіям з гэтай нагоды і тады, калі я-чалавек належаў Богу.

Створаны Богам я-чалавек з'яўляўся ўласнай патрэбай Бога і разам з тым сам быў боскай кропляй, апаўшай на зямлю з нябёсаў У нейкі момант дух гэтай кроплі перасягаў у адваротным накірунку ўсе дзевяць нябёсных сфераў і апынаўся ў Эмпірыі – жытле Бога, дзе і ўтаймоўваўся, мабыць, назаўсёды

Пазней у ідэалагеме «я-чалавек – патрэба Бога» Бог мяняўся на «дзяржаву»,

«нацыю», «грамадства», «сям'ю», тую ці іншую адцягненую ідэю, мэту (прыкладам – камунізм), але сутнасць сітуацыі, наўзбоч усіх гэтых пераменаў, выяўлялася той самай – я-чалавек заставаўся аб'ектам патрэбы нечага, што было па-за ім. І сам сябе ён не разумеў інакш як прыватнай належнасцю адцягненай ад яго самога нейкай універсальнай патрэбы; не разумеў інакш нават тады, калі ўжо суб'ектывізаваў, а потым і экзістэнцыяваў сябе.

Адсюль, са сваёй «сакральнай» належнасці да нечага універсальнага іншага, а не да ўласнага, сінгулярнага «я», я-чалавек і выбудоўваў сабе сістэму вартасцяў (***сэнс жыцця***), якой ацэньваў каштоўнасць ды ісцінnасць свайго адбывання быцця.

Пэўна ж, такая ўпартая няўвага я-чалавека да значэнняў самога сябе для самога сябе зусім не выпадковая, і няўхільна падсоўвае да думкі аб адсутнасці ў чалавеку хоць нейкіх значэнняў, якія маглі б сведчыць пра наяўнасць у ім каштоўнасцяў большых, чым тыя, што абумоўлены ягонай прысутнасцю ў існым. Верагодна, гэтую сітуацыю можна было б адразу заакцэнтаваць і разгарнуць, але ёсць «сёе-тое», што замінае гэта зрабіць адразу.

Рэч у тым, што хаця стратэгіі інтэлігібельных рэфлексій я-чалавека ў пошуках ***сэнсу жыцця*** скіраваныя вонкі, туды, дзе яго самога непасрэдна няма, але ўласнае жыццё я-чалавека, як канкрэтнага бія-сацыяльнага феномена, татальна абумоўленае ***клопатам пра сябе*** нават у тых выпадках (не кажучы пра ўсе астатнія), калі для самога я-чалавека гэты клопат застаецца закамуфляваным у той ці іншай ідэалагеме.

***Клопат пра сябе*** – неад'емная якасць я-чалавека і яго найбольш выразная характарыстыка. У гэтай ягонай якасці, як у эпіцэнтры існавання, сыходзяцца і біялогія, і сацыяльнасць, і ідэалогія. У рэшце рэшт інтэнсіўнасць і чын ***клопату пра сябе*** вымалёўваюць фігуру «Я» чалавека. Калі пакарыстацца бязмежна адкрытай для бясконцых інтэрпрэтацый дэкартаўскай формулай, то можна сказаць. «Я забяспечваю сябе, значыць я існую». Забяспечваю сябе як энергіяй існавання, так і самім сабой Прытым, другое ці не больш істотнае за першае, бо ***клопат пра сябе*** гэта нешта іншае ад шапэнгаўэраўскай ***волі да жыцця***, і хаця ён пэўным чынам звязаны з універсальнай вітальнасцю, але падтрымліваецца не адно вітальнасцю ўвогуле, а звыш яе ***эгаізмам***, як патрэбай гэтай вітальнасці менавіта для мяне самога

З апошняга быццам можна зрабіць выснову, што ў я-чалавеку маецца нешта, што запатрабуе яго для яго самога. Але перш чым пагадзіцца з такой версіяй, паглядзім, ці не ёсць гэтая патрэба сябе як толькі сябе агульнай якасцю ўсяго біялагічна жывога

Усё жывое, што аб'яўляецца да жыцця, жадае быць заставацца ў жыцці, прынамсі, не імкнецца да смерці, унікае яе заўсёды, калі ў патэнцыі ёсць хоць нейкая магчымасць. І гэта як найлепей сведчыць, што існаванне для жывога мае ці не абсалютную каштоўнасць. (Тут мы прамінаем увагай «інстынкт смерці», сумесны з «інстынктам жыцця», бо гэтая бінарная апазіцыя ляжыць у іншым вымярэнні праблемы я-чалавека )

Уніканне смерці жывым – навідавоку. Але нас тут цікавіць другое: тая ці іншая біялагічная структура пад прымусам ***волі да жыцця*** імкнецца ***толькі*** да жыцця ці ***толькі*** жыццё мае сэнс адно тады, калі яно забяспечвае гэтую структуру магчымасцю быць як быць менавіта тым, чым яна ёсць?

Падобна, мы яшчэ не хутка зможам верагодна сцвярджаць пра экзістэнцыйныя стасункі з быццём іншых ад чалавека біялагічных структур. Пакуль нам застаецца адно меркаваць, што для расліны ці жывёлы жаданне быць як быць і жаданне быць сабой сінкрэтычна паяднаныя ў параметрах той біялагічнай формы, якую яны з сябе ўяўляюць. Што да ўласна чалавека, то тут таясамасць быць як быць і быць самім сабой ужо разасоблена разуменнем сябе як «суб'екта»· я-чалавек не проста хоча быць, а хоча быць тым, ***што*** ён ёсць.

У звязку з апошнім нас найболей можа зацікавіць тое, што фармуе аснову жадання чалавека быць самім сабой і што мы ўжо звыкліся называць экзістэнцыяй.

Экзістэнцыя, Dasein (тут-быццё) – ёсць вопыт майго існавання ў аб'ёме маіх здольнасцяў быць адкрытым існаму схопліваць і ўтрымліваць гэтае існае як быційную фігуру самога сябе. Уласна, экзістэнцыя– гэта і ёсць я-быццё. Я-чалавека ***няма*** як ***ёсць.*** Я-чалавек ёсць адно як тое, што адбываецца. Я-чалавек ёсць адбыванне быцця ў значэннях я-чалавека. Ён увесь і цалкам змяшчаецца ў сваёй экзістэнцыі, як ва ўласным вопыце адбывання быцця.

З гэтага атрымліваецца, што экзістэнцыя ёсць тое, што вылучае я-чалавека і з ірацыянальнай плыні вітальнасці і з рацыянальнага цела сацыяльнасці ў нешта такое, з чаго мажліва казаць пра я-чалавека як пра унікальнае, адзінкавае ўтварэнне, тоеснае адно само сабе.





Верагодна, гэта сапраўды так, верагодна, я-чалавек у экзістэнцыйным сэнсе сапраўды ёсць як «Я» Аднак ці можна з гэтага зрабіць выснову, што ў я-чалавеку ёсць нешта, што з неабходнасцю патрабуе я-чалавека для самога сябе і тымсамым тлумачыць навошта я-чалавек сам сабе патрэбны?

Здаецца, такой высновы зрабіць аніяк нельга, бо ***я-чалавек не ёсць прычына самога сябе***. А калі не ён прычына самога сябе, то і ягоная патрэба ў самім сабе, па сутнасці, не ёсць уласнай патрэбай, а нейкім апасродкаваным следствам патрэбы тых прычынаў, якія сваёй наяўнасцю абумовілі я-чалавеку магчымасць тут-быцця

Навошта я сам сабе з сябе самога? Нінавошта!

## ***Сам-насам з тым, чаго няма***

Я-чалавека няма без існага.

Я-чалавека няма без папярэдняга чалавека

Я-чалавека няма без людзей

Я-чалавек немагчымы ў колькасці самога сябе Ён адсутнічае сярод падзей адзінкавага ліку Ён факт збегу вялікай колькасці фактараў і прадстаўляе не сам сябе, а ***гэты*** збег ***гэтых*** фактараў

Паспрабуем вымкнуць з я-чалавека ўсё тое, што звычайна знаходзіць у ім месца (нават не кранаючы «біялогію»), і мы ўбачым, што ад чалавека ў я-чалавеку нічога практычна не застанецца Выгадаванае зверам немаўля ў дарослым стане нагадвае нават не першабытнага чалавека, а звера. (Рэм, Ромул, Маўглі, Тарзан і да т п – гістарычныя і літаратурныя міфы, якія цалкам разыходзяцца са шматлікімі рэальнымі фактамі, назапашанымі навукай )

Я-чалавек не галоўны ў тым, што ён ёсць і якім ён ёсць. Болей за тое, сам я-чалавек мае вельмі сціплае дачыненне да таго, ***што*** ёсць ім Цверджанні экзістэнцыялістаў, быццам я-чалавек тым ці іншым чынам, але выбірае сябе сярод сваіх магчымасцяў быць, абапіраюцца на ўсё тую ж прытоеную гіпотэзу, што я-чалавек ёсць як ***хто*** і застаецца адно высунуць сваю версію гэтага ***хто*** (Да прыкладу трохі працытуем Сартра «Чалавек нясе ўвесь цяжар свету на сваіх плячах. ён адказвае за свет і за самога сябе як пэўны спосаб быцця... Пагэтаму ў жыцці няма выпадковасці. Ніводная грамадская падзея, раптам узніклая і абрынутая на мяне, не з'яўляецца звонку· калі я мабілізаваны на вайну, гэта і ёсць мая вайна, я вінаваты ў ёй, я яе заслугоўваю. Я яе заслугоўваю найперш таму, што мог ухіліцца ад яе – зрабіцца дэзерцірам ці загубіць сябе Калі я гэтага не зрабіў, выходзіць, я яе выбраў, стаў яе саўдзельнікам» )

Я-чалавек не выбірае сябе, як «пэўны спосаб быцця», я-чалавек нічога не выбірае, бо няма каму выбіраць.

Я-чалавек толькі забяспечвае сабой тое, што ёсць ім. Забяспечвае сваім прозвішчам, сваёй біяграфіяй, сваёй экзістэнцыяй. Забяспечвае сваёй прысутнасцю, сваім дзеяннем, сваім учынкам Сексуальным актам ён забяспечвае працяг рода, сацыяльным учынкам забяспечвае наяўнасць сацыяльных структур, інтэлігібельнай дзейнасцю забяспечвае нарошчванне а-рэальнасці Адным словам, я-чалавек забяспечвае сабой усё тое, што зафіксавала сябе ў значэннях я-чалавека, і толькі такім чынам ён забяспечвае сябе самім сабой

Пэўна з гэтага можна патлумачыць і факт адсутнасці патрэбы я-чалавека ў самім сабе. Здавалася б, дзіўна. я-чалавек увесь час толькі і робіць, што забяспечвае сябе самім сабой, аднак пры гэтым ён сам сабе нінавошта не патрэбны, прынамсі гэтая патрэба ніяк не адшукваецца. Але тут, відаць, справа ў тым, што я-чалавек ***не сябе*** забяспечвае самім сабой, а забяспечвае самім сабой ***тое, што ёсць ім***. Калі гэта так, то тады становіцца зразумелым, чаму ён не мае патрэбы ў самім сабе у я-чалавеку няма нічога такога, што па-за экзістэнцыяй было б уласна ім і патрабавала яго самога, як толькі яго

Я-чалавек – усяго тое, ***што*** ёсць у значэннях яго. Ён не абумоўлены сам сабой І нікім (нічым) другім не абумоўлены як менавіта ён, гэты, адзіна магчымы тут і цяпер. Ніхто з людзей не быў вымкнуты з небыцця таму, што непасрэдна яго чакала ў быцці адно яму належнае месца У тым, што той ці іншы чалавек з'явіўся альбо не з'явіўся, няма ніякай сістэмы, ніякай логікі, тым болей – прадвызначанасці.

Хтосьці ёсць, кагосьці няма Хто ёсць? Каго няма? Гэта не праблема Ніколі гэта не праблема. Але мы не станем далей разгортваць тэзу аб татальнай залежнасці

з'яўлення я-чалавека ад выпадку. Бо калі быць больш дакладным, то я-чалавек увогуле не з'яўляецца. Ніякі асабіста Ніхто персаналізавана

З'яўляецца не я-чалавек, а ўсяго толькі біялагічная «балванка» І хаця яна мае свой генетычны код, пол, расавую належнасць і шэраг іншых, уласных адно ёй характарыстык (якія далей будуць уплываць на фармаванне кшталтаў экзістэнцыі), але гэта ўсяго «балванка», своеасаблівы «паўфабрыкат» я-чалавека, што ў невымернай колькасці ў незлічоных стагоддзях вырабляе адна з мноства «тэхналагічных ліній» той вялізнай фабрыкі па вытворчасці біялагічных формаў, якую мы называем Прыродай

Я-чалавек не з'яўляецца, ён становіцца я-чалавекам у працэсе адбывання свайго тэрміну быцця Хаця больш карэктна будзе сказаць, не «ён становіцца», а ім «становяцца» шматлікія аб'ектнасці свету, якія падчас ягонага бытавання накладаюцца сваім цяжарам на першапачатковы біялагічны под і тым самым арганізуюць тое, што чалавек залішне самаўпэўнена называе «Я»

Калі што і застаецца ў я-чалавеку ўласна яго, чалавечым, дык гэта ***мера*** здольнасці прымаць і ўтрымліваць у сабе разнастайныя феномены існага. Але якраз у звязку з абмежаванымі магчымасцямі я-чалавека быць адкрытым для быцця існага, мы, бадай, можам казаць пра я-чалавека, як пра вынік скажэння аб'ектнасцяў існага, што не могуць выявіцца ў чалавеку ў сваёй паўнаце. Чалавек не «мера ўсіх рэчаў, існуючых, што яны існуюць, неіснуючых – што яны не існуюць», а мера скажэнняў усяго як існуючага, так і неіснуючага Вось гэтая мера магчымасцяў сублімаваць скажоныя (усё абсечанае, няпоўнае ёсць скажоным) аб'ектыўнасці рэальнага свету і з'яўляецца тым, што мы называем экзістэнцыяй, гэта значыць уласна чалавечым канкрэтнага чалавека.

Я-чалавек – мера скажэнняў аб'ектыўнасці свету. Накладаючы сябе, як скажоную меру, на аб'ектыўную рэальнасць, я-чалавек атрымлівае неадэкватную ні рэальнасці, ні самому сабе карціну Мабыць, адсюль адна з прычын пракаветнай роспачы я-чалавека, які з гэтага ніяк не можа зарыентавацца ў гушчары быцця І таму застаецца разгубленым сам-насам Сам-насам з тым, чаго няма.

## *Не было. Няма. І не будзе*

Я-чалавек не можа сам з сябе аб'явіцца

Я-чалавек не можа існаваць сам у сабе

Я-чалавек не можа быць сам сабой.

Я-чалавека няма Ёсць своеасаблівае ўтварэнне самых розных праяў быцця існага Гэтае ўтварэнне, індывідуалізаванае пэўнай экзістэнцыяй, натуральна, неяк павінна пазначацца, мець сваю семантычную марку, але традыцыя надання значэнняў саматоеснасці і самадастатковасці, а тым болей сакральнасці гэтаму ўтварэнню, здаецца, абумоўлена ўсяго толькі неабачлівым пераносам сінкрэтычнай цэласнасці знака на ўсю тую шматсэнсоўнасць, што ім пазначаецца

Я-чалавек не належыць сам сабе, ён уласнасць шматлікіх рэальнасцяў, што паходзяць з розных вымярэнняў быцця існага (тэарэтычна нельга выключыць, што нейкім сваім акрайчыкам кранаецца чалавека і «ірэальнае вымярэнне», з чаго і паўстаюць рэфлексіі містычнага кшталту) і на пэўны момант гуртуюцца на прасторы я-чалавека, кожная як на сваёй уласнай прасторы, якую яна сваёй прысутнасцю фармуе ў меру магчымасці фігуры я-чалавека.

Такое разуменне я-чалавека, як прытулка розных «стыхій» (першапачаткова самых простых: вада, зямля, агонь, паветра...), сфармавалася ўжо на самым пачатку асэнсавання феномена чалавека і стратэгічна яно пасюль застаецца нязменным, адно мяняліся складнікі ды змяшчаліся акцэнты з «ідэалістычных» на «матэрыялістычныя» ці наадварот

Разам з тым, за выняткам зацятых матэрыялістаў (і ў старажытнасці і потым), што выводзілі я-чалавека з сумы тых «стыхіяў», якія ў ім апазнаваліся,– усе астатнія вышуквалі яшчэ нешта звыш «сумы стыхіяў» і гэтым «звыш» вылучалі я-чалавека ў новае цэлае, тоеснае толькі само сабе

Гэты «элемент чалавека» ў я-чалавеку шукалі ва ўсялякую пару, калі я-чалавек сам сябе хоць трохі цікавіў. Але не знайшлі, нягледзячы на яго, здавалася б, відавочную наяўнасць, бо хоць каму амаль немагчыма ўявіць такое складанае структурнае ўтварэнне як я-чалавек, зыходзячы з таго, што сітуацыя я-чалавека ствараецца па-за ім самім і зусім незалежна ад яго самога ці ад нейкай трансцэндэнтнай сілы, што мае апеку над ім





Паколькі «элемент чалавека» ніяк не жадаў аб'яўляцца на людзі, давялося пазначыць ягоную наяўнасць гіпатэтычна, выкарыстоўваючы для гэтага самыя розныя гіпотэзы ды паняткі

Бадай найбольш устойлівым сярод мноства самых неверагодных версій і па сёння застаецца тое, што звычайна называецца душой (у сваім вышэйшым вымярэнні – духам), хаця колькасць трактовак формы, зместу і ўвогуле самога факта наяўнасці душы (духа), пэўна, не палягае нават каталагізацыі.

Сярод філасофскіх гіпотэз «элемента чалавека» асабіста мне падаецца найбольш цікавай версія Лейбніца.

Уласна, «манадалогія» Лейбніца – гэта толькі арыгінальная інтэрпрэтацыя «эйдалогіі» Платона. Але калі эйдасы Платона праецыруюць сваю ідэалогію на ўсё сінгулярнае аднекуль з універсуму трансцэндэнцыі і такім рэтрансляцыйным чынам абавязваюць сінгулярыі ўпадабляцца тым ці іншым эйдасам, то манады непасрэдна ўдзельнічаюць у форме і спосабе адбывання быцця ўсялякім элементам існага. Па Лейбніцу кожная кропля вады, кожная жывая істота (неарганічная структура таксама) мае сваю арыгінальную манаду – духоўную, душэўную, энергетычную адзінку субстанцыі быцця

Манады бесцялесныя і гранічна індывідуалізаваныя. Яны замкнутыя самі ў сабе і не маюць ні «вокан», ні «дзвярэй». Аднак, з другога боку, усялякая манада ёсць «жывым люстэркам універсума», і справа толькі ў тым, наколькі яна здольная разгарнуць свае складкі, каб выявіць універсальнае цэлае быцця.

Манадалогія Лейбніца яшчэ доўга будзе выклікаць да сябе ўвагу гісторыкаў філасофіі. Але калі б гэтая гіпотэза XVII стагоддзя нейкім чынам рэальна зафіксавала сваю ісціннасць, то і тады яна мала чаго дадала б на карысць сапраўднасці я-чалавека ў тых значэннях, якія яму тут падшукваюцца. Хутчэй наадварот Бо манада зусім не набліжае я-чалавека да значэнняў суб"екта, да таго, што паўстае з сябе дзеля сябе, а адсоўвае яго ў чын таўталагічнага элемента універсальнага феномена вітальнасці. (Гэта нават калі не зважаць на тое, што сваім паходжаннем манады абавязаныя ўсё таму ж Богу. Ён, як сейбіт зерне, жменяй раскідвае манады па Сусвету, і яны потым прарастаюць каліўцамі існага.)

Пры ўсёй сваёй гранічнай індывідуальнасці, манада – толькі энергія, вітальная сіла, якая на пэўны час арганізуе тую ці іншую форму рэальнасці Як толькі форма зношваецца, парахнее і рассыпаецца ў пыл, манада ўмомант стварае сабе што-небудзь яшчэ А таму ніяк нельга сказаць, што ёсць манада – «Готфрыд Лейбніц». Ёсць манада, якая была нейкі момант «Готфрыдам Лейбніцам» (ці ён быў ёй?), а з гэтага зусім не вынікае, што было нешта яшчэ акрамя таго, што пазначалася гэтымі двума словамі, біяграфіяй у некалькі падзей і экзістэнцыяй, даўно апалай ў нікуды.

Дарэчы, Лейбніц лічыў метэмпсіхоз «схаластычным забабонам». Згодна ягоным цвярджанням, ніякае перасяленне душы немагчымае, бо душа не можа аддзяліцца ад цела. . І хаця шмат хто не менш аўтарытэтны за Лейбніца меркаваў зусім наадварот, мы не станем нават зазіраць у бясконцы прасцяг інтэлектуальных спекуляцый з нагоды душы, духа і да таго падобнага, бо з «душой» ці без «душы» я-чалавек.

– не ёсць прычынай самога сябе;

– не сам з сябе паходзіць,

– не з'яўляецца ўласнікам самога сябе

Асабіста мне гэтага дастаткова, каб упэўніцца, што я-чалавека не было і няма. Натуральна, калі хацець ад я-чалавека нечага большага за тое, што ён ёсць.

## *Калі Тэкст Быцця і напісаны і прачытаны*

Мера таясамасці я-чалавека Тэхнагеннай эры – на пярэднім акрайчыку якой мы знаходзімся,– з тэхнагеннымі комплексамі быцця перасягае ўсе межы значэння я-чалавека, з чаго я-чалавек апынаецца ў сітуацыі, якая пакідае яму адно месца прысутнасці пры быцці Я-чалавек ужо не прытулак усіх стыхіяў быцця, а нешта ўвогуле пабочнае быццю, нешта, што толькі туліцца да цела звышскладанага «камбайна» сусветнай цывілізацыі, які аднолькава інтэнсіўна ахоплівае сваёй дзейнасцю і кванты і галактыкі, але пакідае незапатрабаваным я-чалавека І хаця гэты «камбайн» пакуль не можа абысціся без калектыўнага цэлага чалавека, але кожны я-чалавек паасобку ўжо не мае для яго аніякага істотнага значэння. «Камбайн» сам забяспечвае сябе сабой і настолькі эфектыўна, што ў яго даволі магчымасцяў, каб за свой кошт яшчэ ўтрымліваць я-ча-

лавека як урэшт спрацаваную форму быцця існага так грамадства ўтрымлівае ў багадзельні спрацаванага перастарка (хаця, магчыма, тут болей пасавала б параўнанне не з багадзельняй, а з рэзервацыяй для амерыканскіх індзейцаў).

Натуральна, што і ў Тэхнагенную эру біялагічны лёс я-чалавека застаецца тым самым, як і ва ўсе астатнія часы (нарадзіўся, апладніўся ды знік у невараці), але сітуацыя адбывання тэрміну быцця выглядае інакш, чым раней Яна нечым нагадвае тую, што была ў эру Татэма – гэта значыць сітуацыя чалавека без чалавека.

Я-чалавек – усяго толькі міф пра чалавека. Дарэчы, склаўся гэты міф не ў эру Міфа (у тую пару я-чалавек сябе не вельмі цікавіў), а ў эру Тэкста Тады ж я-чалавек быў сакралізаваны праз лучнасць са Словабогам На гэтым сакралізаваным міфе дасюль трымаецца вера (апошнімі часамі, праўда, не зусім упэўненая) у я-чалавека як нешта большае ды іншае, чым ён ёсць са сваёй сапраўднасці.

Дэсакралізацыя Тэкста і адпаведна Словабога лагічна запатрабавала і дэсакралізацыі я-чалавека, што неўнікова паклікала і ягоную дэміфалагізацыю. Апранаха міфа пакрысе спадае з я-чалавека, і мы пачынаем бачыць яго тым, ***што*** ён ёсць (што яго няма) Ён сябе гэтаксама пачынае бачыць такім і яму робіцца няўтульна і ў значэнні сына Бога, і ў значэнні цара Прыроды, і нават у значэнні звышчалавека тэхнакратычнай цывілізацыі

Час чалавека заканчваецца – у самых розных сэнсах. І ў сэнсе часу, дарэчы, таксама.

Прычына і мера часу, як добра вядома, я-чалавек. Без я-чалавека, без таго, што мае ўласную гісторыю бытнавання, вымкнутую з касмічнага кругазвароту быцця, лінейны час ні для чаго не прыдатны і нікому не патрэбны (нават калі ён насампраўдзе ёсць як нейкая «матэрыяльная» якасць) Але паколькі ў Тэхнагенную эру на месца чалавека заступае «тэхніка», гэта значыць тое, што знаходзіцца адно ў прасторы, то мера часу губляе сваю актуальнасць.

«Тэхніка» не ведае часу ў тых значэннях, якія надаў яму я-чалавек. І хаця «тэхніка» таксама некалі «памірае» («смерць» базавая ўмова для існавання катэгорыі часу), аднак у адрозненне ад біялагічных структур «смерць тэхнікі» залежыць не ад меры вітальнасці, а ад колькасці руху, закладзенага ў меру яе магчымасці Таму не час (працягласць) дзейнасці, а аб ём, колькасць ды якасць дзейнасці кладуцца ў парадыгму параметраў Тэхнагеннай эры. Толькі не тут, не ў гэтым асноўная прычына сыходу падзеі часу са стратэгіі быцця на яго ўзбочыну

Да Тэхнагеннай эры я-чалавек належаў двум часавым вымярэнням (***было*** і ***ёсць***). І хаця Тэкст вынайшаў і замацаваў трэці складнік часу – ***будзе***, але наяўнасць будучыні заўсёды заставалася гіпатэтычнай. Гіпотэза пра ***будзе*** высноўвалася з эмпірычнага вопыту я-чалавека, ***ёсць*** якога несупынна адсоўваецца ў ***было*** і на гэтае месца заступае новае ***ёсць*** Калі безліч ***ёсць*** перасунулася ў ***было***, то натуральна меркаваць, што ***ёсць*** будзе і надалей, гэта значыць, што маецца магчымасць ***будзе***, з якога не перастануць вымыкацца ***ёсць***

Але гэта толькі лагічная выснова, сканструяваная на подзе эмпірычнага вопыту. Ніякіх канкрэтных сведчанняў пра будучае чалавек ніколі не меў, хаця ў Тэкставую эру лічыў сябе жыхаром трох часавых вымярэнняў

Я-чалавек напраўдзе стане жыць у трох часавых вымярэннях тады, калі ён будзе мець будучае як наяўнае рэальнае хаця б у той меры, у якой ён мае мінулае (Так, мінулага таксама няма, як ёсць, але мы трымаем яго зафіксаваным у фактаграфіі, матэрыяльных аб'ектах, памяці )

Дык вось, Тэхнагенная эра (і ў гэтым яе найвялікая навіна ад Тэкставай і ўсіх папярэдніх) павінна рэальна ўнаявіць будучае (будзе) – і быццё я-чалавека стане часава трохмерным. Рэальна, а не гіпатэтычна трохмерным Знакі будучага запрысутнічаюць у сучасным з той ж мерай сапраўднасці, што і знакі мінулага.

Уласна, ужо цяпер, адно балансуючы на пярэднім акрайчыку Тэхнагеннай эры, я-чалавек ведае не толькі кароткатэрміновы прагноз надвор'я «на заўтра», але і большыню тых падзей, што яго «заўтра» чакаюць. Ён дакладна, да хвіліны, ведае ў колькі падыме яго будзільнік, якім транспартам паедзе на работу, колькі аперацый яму давядзецца выканаць на канвееры, якія тэлеперадачы будзе глядзець увечары .. Але ён ужо ведае не толькі сваё «заўтра», але і шмат чаго з больш аддаленага Па гадзінах на гады распісана праграма яго школьнай адукацыі, тое самае і з адукацыяй вышэйшай, на дзесяцігоддзі наперад вызначаны тэрмін выхада на пенсію і г.д. і да т.п

Сцежку на сенажаць можна таптаць хоць кожны дзень новую, чыгунка ці хуткасная магістраль прадвызначае вектары руху на гады і гады. Інфраструктура Тэхнагеннай эры пакуль яшчэ толькі складваецца ў сваіх камунікатыўных і вытворчых парадыгмах,





але ў пару свайго росквіту яна настолькі абмяжуе магчымасці нязмушанага выбару, што ступень уніфікаванасці і запраграмаванасці я-чалавека на пэўную якасць і колькасць руху наблізіцца да ступені уніфікаванасці і запраграмаванасці «машыны» Адно гэта ўжо дае падставы меркаваць пра фармальную прысутнасць ***будзе*** ў ***ёсць***, бо «машына» заўтра робіць тое, што і сёння, і прыватныя адхіленні ды зрэдчасныя выпадковасці сутнасна тут нічога не мяняюць..

Але ўсё гэта знешні бок, так бы мовіць фармальная падстава рэальнага анаяўлення будучыні А карэнная прычына гэтай падзеі ў тым, што на месцы плоскавай, лінейнай прасторы Тэкста ўжо паўстае шматмерная, нелінейная прастора ЭВМ (прынамсі так пакуль мы называем арганізатара і заканадаўцу прасторы Тэхнагеннай эры)

Тэкст праз фокус ***ёсць*** фіксаваў у прасторы а-рэальнасці адно тое, што ***было*** ў рэальнасці, хаця зрэдчас і спекуляваў на ***будзе*** І гэта натуральна, бо магчымасцяў яго аднамернай прасторы, як і тэхналагічнага начыння ніяк не хапала, каб «пралічыць» і зафіксаваць усю метаінфарматыку таго, што ***можа быць*** гэта значыць увесь аб`ём ***будзе***, нават хай сабе лакалізаваны канкрэтным перыядам. (Між іншым, ***будзе*** зусім не невымернае, і ў сваім цэлым яно таксама мае межы, як і ***было***.)

Затое шматмерная прастора ЭВМ (натуральна, калі разглядаць ЭВМ у перспектыве эвалюцыі яе патэнцыялу) у прынцыпе дазваляе фіксаваць і ўтрымліваць усе верагоднамагчымыя варыянты будучага як на макра, так і на мікраўзроўні, і пры наяўнасці патрэбы (ды напрацаванай метадалогіі) выбіраць для кожнай канкрэтнай падзеі (я-чалавека таксама) з усяго корпуса нелінейна магчымых ***будзе*** лінейна-паслядоўную фактаграфію гэтай падзеі.

Не кажучы пра макрарэчаіснасць, мапы будучыні якой заменяюць ужо сёння мала патрэбныя геаграфічныя мапы, але і ўся канкрэтыка быцця будучага зробіцца падлеглай, прынамсі метадалагічна, семантычнай прысутнасці ў ***цяпер***. Цяжка сказаць, ці палічаць тады мэтазгодным рабіць кожнаму асобнаму чалавеку падрабязную «дыяграму» яго ўласнага лёсу (ці нават «дыяраму» альбо нешта накшталт відэафільма пра жыццё наперад), але калі нават з нейкіх меркаванняў гэтым не стануць займацца, то ўсё роўна, хай сабе і апасродкавана, будучае я-чалавека заселіць сваёй прысутнасцю ягоную сучаснасць, бо ўся прастора бытнавання я-чалавека будзе насычана знакамі будучага не ў меншай меры, чым сёння яна насычана знакамі мінуўшчыны..

Маючы за апірышчы папярэдні футуралагічны экскурс, паспрабуем зрабіць наступную выснову. Калі ***будзе*** семантычна канкрэтна і непасрэдна аб'явіцца ў змесце ***ёсць***, то час у звыклым для нас сэнсе сканае

Падзея часу анталагічна паходзіць з наяўнасці пачатку і канца ўсяго, што адбываецца ў існым, а рух часу ініцыюецца вымыканнем феноменаў існага з патаемнага ў непатаемнае На гэтым пераходзе з ***няма*** ў ***ёсць***, а пасля з ***ёсць*** у ***было*** і трымаецца ўся «механіка» часу

Віртуальным (да іх падобным і яшчэ пакуль невядомым) тэхналогіям новай эры наканавана стварыць сітуацыю, калі семантычна ўсё быццё ёсць адразу Усё мінулае, усё цяперашняе, усё будучае ёсць адразу, у адным часава-прасторавым кантынууме

***Усё*** ёсць – ***нічога*** няма (няма няма) З гэтага атрымліваецца, што часу болей не выпадае куды рухацца, паколькі рух часу абумоўлены пераходам быцця з ***няма*** ў ***ёсць***, а тут усё, што можа быць, ужо ***ёсць***, прынамсі ***ёсць*** у магчымасці ведання я-чалавекам семантыкі ўсяго, што можа быць і што *будзе* Сфінкс засмяяўся, і час сканаў .

Натуральна, гаворка тут ідзе не пра біялагічны час і не пра час узнікнення і распада формаў матэрыяльнасці, якія, бадай, ніколі не ўнікнуць лінейна-часавай паслядоўнасці, а пра спыненне руху часу ў прасторы а-рэальнасці, якая рана ці позна семантычна цалкам асягае ўсё, што можа быць у існым,– і на мапе быцця не застанецца белых плямаў

Веданне пра «ўсё быццё», пэўна ж, не адменіць уласна жыцця, руху падзей, чаргі нараджэнняў і паміранняў, але, як у эру Татэма, верне я-чалавека да звычайнага адбывання быцця, якое ідэалагемна нічым не будзе праваквацца

Гэтаму вяртанню да я-чалавека без ідэі чалавека (міфа пра чалавека) будзе папярэднічаць, недзе супадаючы, некалькі найістотных падзей. Адна з іх досыць выразна пачынае праяўляецца ўжо сёння, пра што шмат дзе казалася – у гэтым тэксце таксама.

Розум я-чалавека, здаецца, дасягнуў мяжы сваіх метафізічных магчымасцяў і, як звер, абкладзены сцяжкамі, ліхаманкава шукае выйсця і не знаходзіць. Ён топчацца па даўно вытаптаным альбо датоптвае нeяк дасюль ацалелыя лапікі некранутага. З чаго

ўсюдна пануе таўталогія, як апошняя філасофія Тэкставай эры. Ды, бадай, і ўвогуле апошняя філасофія

Усё істотнае, што магло быць прадумана,– прадумана, выяўлена і прылучана да эйдычнага суплёту ідэй. Таму мысленне ўжо амаль нічога не азначае, тым болей існавання Хто сёння ўсур'ёз скажа: я мыслю, значыць я існую?! Урэшце, амаль мысліць і «машына».

Калі пра «мяжу розуму» казалася шмат, асабліва ў XX стагоддзі, то праблема «мяжы жаданняў» дасюль застаецца па-за належнай увагай, хаця яна куды болей значыць у праблеме я-чалавека, бо і само мысленне – гэта толькі адна з формаў жадання жадання мысліць.

Жаданнем, аб'ёмам і кшталтам «хачу» я-чалавека вызначаецца сутнасць і змест ягонага быцця-для-сябе. Заўважым, не «магу», а менавіта «хачу» адыгрывае ў гэтым заканадаўчую ролю. Я-чалавек можа толькі тое, чаго ён хоча (нават калі ён не можа дасягнуць таго, чаго ён хоча). Памкненне да здзейсненасці жаданняў рухае махавік быцця-для-сябе.

***Хачу*** я-чалавека – модус, разгортванне якога ў бок здзяйснення абумовіла фармаванне цывілізацыі. Тэхнагенная эра – завяршэнне гэтага разгортвання, форма максімальнага забеспячэння ***хачу*** здзейсненасцю як на фізіялагічным, так і на духоўным узроўнях.

Увогуле, жаданні я-чалавека адно здаюцца бязмежнымі, на самой справе іх патэнцыял не такі ўжо і вялікі. Быційна ён вызначаецца патрэбай забеспячэння сябе існаваннем ды самім сабой, а пабытова вельмі рэдка сягае далей запатрабаванняў фізіялогіі і ўяўленняў я-чалавека пра матэрыяльна-духоўны інтэр'ер чалавека Таму належны ўзровень дабрабыту і мабільныя структуры камунікатыўнага дыскурса некалі дазволяць я-чалавеку задавальняць сваё ***хачу*** амаль напоўніцу Натуральна, калі не блытаць ***хачу***, як экзістэнцыйную патрэбу, з фантазіямі на тэму «хачу» Я-чалавек можа мроіць пра валадарства над Сусветам, але з гэтага зусім не вынікае, што ён рэальна жадае хоць якога валадарства

Адным словам, у Тэхнагенную эру ***хачу*** як праблема губляе сваю актуальнасць (спачатку метафізічна, затым быційна і, урэшце, пабытова). З усіх жаданняў, з усіх ***хачу*** застаецца хіба ***хачу хацець***, але дамінаваць будзе не яно, а ***хачу не-хацець***, гэта значыць хачу быць як не быць, быць паўз самога сябе.

Страта падзеі часу, асягнутая мяжа магчымасці розуму і здзейсненая мера магчымасцяў жадання ў сваёй сукупнасці вынікнуць тым, што я-чалавек у Тэхнагенную эру канчаткова страціць актуальнасць як у кантэксце самога сябе, так і ў метакантэксце быцця існага.

Я-чалавек будзе як не-будзе. Будзе без хоць якой-кольвек ідэі самога сябе. Зрэшты, такім ён быў заўсёды раней, пакуль не прыдумаў міф пра чалавека.

Дарэчы, а чаму мы павінны думаць, што гэты міф быў апошнім?

Апошнім! Прынамсі, падобнага кшталту. І справа вось у чым .

Да Тэхнагеннай эры чалавек заўсёды жыў альбо ў свеце створаным Прыродай, альбо ў свеце створаным (багамі) Богам. З усіх чатырох бакоў чалавека акаляла рэальнасць, якая паўставала не з яго волі і мазаля. Апрацаваны ім самім лапік зямлі, некалькі будынкаў на падворку, трохі прыладаў у жытле, як і ўсё селішча разам выглядалі такой драбніцай раўнуючы з усім астатнім светам, зробленым некім іншым, што чалавек не мог не сакралізаваць гэтага магутнага іншага ў якой-кольвек трансцэндэнтнай універсаліі. (Прынцыпова сітуацыю не мянялі і вялікія гарады, якія мела кожная эпоха. У тых «мегаполісах», як і за іх сценамі, аднолькава панавалі зямля, неба, агонь ды іншыя прыродныя ці боскія стыхіі ..)

Чалавек Тэхнагеннай эры месціцца ў свеце непасрэдна створаным ім самім. . Рыхтавалася гэтая перамена спакваля, і хаця анталагічна яна паходзіць з самога феномена чалавека, але гістарычна яе пачатак датуецца часам, калі чалавек ужо вылучыў сябе з цела існага і пазначыў усё адкрытае яму існае як існае-для-чалавека. Гэтым актам ён канстытуяваў свае правы на валоданне і карыстанне ўсёй цялеснасцю быцця дзеля сваёй спажыўнай хэнці. Такім чынам адбыўся прарыў да сучаснай цывілізацыі, якая ёсць ні што іншае, як тэхналогія татальнай перапрацоўкі існага згодна запатрабаванням ***хачу*** чалавека

Цывілізацыя як тэхналогія перапрацоўкі існага, замкнутая на чалавеку, перайначыла космас бытнавання чалавека да той меры, за якой гэты космас ужо не таясаміцца ні з чым (кім) яшчэ, акрамя як з чалавекам. З усіх бакоў і побач





і ўдалечыні ўся прастора, адкрытая чалавеку, каланізаваная чалавекам і густа напакаваная здзяйсненнямі яго фізічнай альбо інтэлектуальнай працы Усюды, куды вока ні кінь, не Прырода, не Бог, а ён сам – чалавек Дык скуль тут хтосьці яшчэ, акрамя чалавека, яго розуму і працы?!

Верагодна, падобнае абгрунтаванне немагчымасці новай сакральнай фігуры, якая б падтрымала міф пра чалавека, выглядае залішне спрошчаным, бо ўсё гэта не адмаўляе містычнага жаху перад небыццём, з чаго найперш і ўзнікае патрэба ў нейкай трансцэндэнтнай сіле, як аптымізацыі гэтага жаху Але пры ўсёй спрошчанасці аргументацыі на карысць немагчымасці новага Бога старога кшталту, чалавек наўрад ці зможа пераадолець сітуацыю ***непасрэдна ім зробленага*** быцця, якой ён неўпрыкмет адгародзіўся ад магчымасцяў сакральнага і тымсамым пакінуў сябе на адзіноце з самім сабой, ды яшчэ без сябе.

Адзін. Будзе туліцца на ўзбочыне быцця нікім і нічым не запатрабаваны. Нікому не патрэбны.

Сам сабе ён ніколі не быў патрэбны. А цяпер ужо нікому і ні для чаго не патрэбны

## *Зусім лірычны эпілог*

Тое, што ёсць, таго ўжо не будзе

Я ёсць – значыць мяне ўжо не будзе Ніколі Нідзе

Мяне ніколі болей не будзе!

Быццё – гэта месца, дзе збіраюцца канаць назусім усе магчымасці быцця Татальны могільнік усяго, што мела волю быць.

Вусцішнасць быцця ў тым, што ***быць*** больш трагічна, чым ***не быць***. Бо ***быць*** – гэта ***ўжо*** быць, а не быць – гэта толькі ***яшчэ*** не быць.

У ***быць*** адзін сэнс болей ***не быць***. Нідзе. Ніколі.

Гэтаму метапесімістычнаму разуменню быцця, як тэктанічнага анігілятара ўсяго, што было вымкнутым у быццё, стае ў апазіцыю метааптымістычная ідэя быцця, як месца, дзе ўсё, што з'яўляецца быць, застаецца назаўсёды – альбо ў вечным кругазвароце альбо ў несупынных працэсах трансмутацый..

Але і той, хто кажа, што ўсё несмяротнасць, і той, хто кажа, што ўсё смяротнасць, пражываюць аднолькавае жыццё. І, напэўна пасля смерці яны не разыходзяцца ў розныя бакі – адзін у вечнае Нешта, другі ў вечнае Нішто,– а трапляюць у нейкую адну наканаванасць. У наканаванасць адсутнасці таго, што было.

Пракляцце быцця яно адбірае быццё.

Неяк бацька паскардзіўся маці.

– Пражыў жыццё, а навошта жыў? Ужо смерць падсоўваецца, а навошта жыў?

– Куды ад смерці падзенешся? З варонамі не паляціш! – адказала маці

Гэтае эсэ напісанае з уласнай патрэбы, з патрэбы ўпэўніцца, ці меў рацыю бацька, ці мела рацыю маці, ці меў рацыю я, калі яшчэ малады і поўны, як вока, жыццём да болю біў па сцяне кулакамі ў адчаі ад непатрэбнасці сябе ні сабе самому, ні гэтаму свету.

Цяпер ужо не памятаю, ці быў у тым адчаі непатрэбнасці дамешак тугі па незваротнасці быцця. Напэўна, быў, бо гэтыя дзве зусім розныя эмоцыі нейкім дзіўным, неэўклідавым чынам заўсёды перасякаюцца на прасторы чалавека.

Я ўкрыжаваны на нелінейным крыжы незапатрабаванасці быццём і любові да быцця Хаця дакладней будзе казаць не пра маю непатрэбнасць быццю, а пра неабавязковасць менавіта ***мяне*** ў быцці Бо сказаць, што быццю непатрэбны чалавек, як феномен быцця (да якога, зразумела, дастасаваны і я), было б залішне безадказна

Чалавек увогуле, чалавек як феномен быцця, пэўна ж, для нечага патрэбны быццю. Прынамсі цяжка, амаль немагчыма пагадзіцца, што феномен чалавека паўстаў з выпадковага збегу акалічнасцяў фізічнага свету, што чалавек сваім цэлым нічым большым за гэтае цэлае не абгрунтаваны, ніякай сакральнай ці астральнай задумай не абумоўлены. Занадта буйна, мудрагеліста, вытанчана арганізавана быццё для чалавека, сам чалавек і той фенаменальна багаты і фантастычна згарманізаваны свет цывілізацыі, які чалавек стварыў,– каб лічыць усё гэта выпадковым збегам акалічнасцяў і зусім не думаць пра тое Нешта, што да ўсяго гэтага павінна было прычыніцца

Дарэчы, праблема Нешта, якое мусіла (ці зусім не мусіла) прычыніцца да феномена чалавека, тут амаль не краналася таму, што мэта была якраз адваротнай: максімальна

адлучыць я-чалавека ад усялякіх спекуляцый на трансцэндэнтным, каб вымкнуць яго з апранахі міфа пра чалавека, які і быў сфармаваны верагоднасцю існавання Нешта.

Я-чалавек без гіпатэтычнага Нешта – вось што, з аднаго боку, цікавіла мяне ў гэтым эсэ. А з другога – я-чалавек без феномена чалавека (наколькі гэта магчыма ў прынцыпе).

Феномен чалавека і я-чалавек – рашуча розныя падзеі Калі карыстацца фальклорным параўнаннем, то феномен чалавека – гэта дрэва, а я-чалавек – лісток на тым дрэве Дрэва – гэта не лісток, а лісток – зусім не дрэва. І хаця лісток немагчымы без дрэва, у лістка і дрэва дзве розныя сутнасці, два розныя зместы быцця і, верагодна, два розныя сэнсы ў быцці.

Дык вось, тут мяне найперш цікавіў не той, хто пасадзіў дрэва, і нават не само дрэва, а лісток на ім Адзін асобны, ці кожны паасобку

Мая цікаўнасць зразумелая. Я сам – лісток, і неўзабаве восень... Дрэву яшчэ быць тысячагоддзі, і не адну тысячу вёснаў на ім яшчэ будзе шапацець лістота . А я ўсё часцей паглядаю на дол. Адтуль пад ранак ужо цягне холадам, і я пачынаю разумець, што ў лістка і дрэва розныя наканаванні· дрэву наканаваны лёс, лістку – толькі доля. .

Можа, яно і добра, што ад вясны да восені лісток мысліць і пачувае сябе дрэвам

Можа, яно і добра, што я-чалавек тоесніць сябе з феноменам чалавека, бо з гэтага ён мае хоць нейкі аптымізм быцця

Мною жыццё не вершыцца,– кажа ён І яму лягчэй адыходзіць у невараць.

Але не толькі знікаць у небыцці – быць у быцці яму лягчэй і весялей, калі ён атаясамвае сябе з усёй гісторыяй людства, з усёй культурай і цывілізацыяй, з усім мысленнем і ўсім эмацыянальным досведам. . Які я вялікі і магутны, які я разумны і здольны,– думае задзіночаны з усім людскім я-чалавек і пачувае сябе трохі бясконцым і трохі вечным. І затым з гэтага ўяўнага пачування пачынае выдумляць сябе ўжо зусім бясконцым і назаўжды вечным..

Вядома, пры жаданні можна цешыць сябе рознага кшталту містычнымі надзеямі на працяг свайго бытнавання ў другіх вымярэннях, светах, быццях, альбо – матэрыялістычнымі версіямі аб прысутнасці ў целе будучыні вартымі рэшткамі сваёй практычнай дзейнасці, уласнай духоўнай энергіяй ці хаця б нашчадкамі роду, але як у гэтых, так і ў мностве другіх варыянтаў самых мудрагелістых прыдумак я-чалавек, як цэлае, анігілюецца і пераходзіць у іншую якасць. І калі нават гэтая іншая якасць, згодна праекту прыдумкі, не паглынае наўсцяж я-чалавека, а ўтрымлівае нейкія прыкметы ягонай экзістэнцыі, то ўсё роўна гэта ўжо нешта прынцыпова адрознае ад таго, чым быў я-чалавек. Зусім не тое, чым ён быў. .

Аднак нават такое нішчымнае суцяшэнне, якое абапіраецца на гіпатэтычную магчымасць «перасялення» калі не ўсяго я-чалавека, то хаця б нейкага яго элемента ў вечнасць, выдае на суцяшэнне дзеля суцяшэння Рэч не ў тым, што няма ***куды*** перасяляцца – няма ***што*** перасяляць. Я-чалавек рэалізуе ў тут-быцці сябе, як экзістэнцыйную магчымасць самога сябе – цалкам. Напрыканцы ў ім не застаецца нічога з таго, што патрабавала б яшчэ аднаго ці некалькі тэрмінаў быцця, тым болей – вечнасці. Напрыканцы я-чалавек дасягае не толькі мяжы свайго розуму, краення сваіх жаданняў, але і скрані магчымасцяў сябе ўвогуле Няма ў ім чаму жыць далей нават тут, дзе ён цяпер жыве Патэнцыял ім пазначанай прасторы вычарпаны. Дзейна, біялагічна, сацыяльна, інтэлігібельна..

Быць – гэта значыць адбыцца. Цалкам

Праз дарогу ад хаты, дзе я нарадзіўся і вырас, за высокім каменным мурам пачыналіся старыя, зарослыя могілкі Як толькі мне было дазволена перабягаць цераз дарогу, увесь вольны час я бавіў з сябрукамі на могілках. Яны былі для нас дзіцячай пляцоўкай, садком, піянерлагерам, стадыёнам .. Там мы гулялі ў хованкі, індзейцаў, футбол, карты. пазней там сустракаліся і гулялі з дзяўчатамі.. На ўжо ледзь прыкметных магільных капцах добра спелі суніцы Яны былі буйнымі і салодкамі Больш буйнымі і салодкімі за звычайныя – ці гэта нам толькі здавалася, бо патрэбна была пэўная адвага, каб ласавацца ягадамі з капцоў над дамавінамі, хай сабе і спарахнелымі.

Могілкам было некалькі стагоддзяў, і пад нашымі нагамі спрэс пластаваўся чалавечы прах. Але калі не лічыць рэшткаў збуцвелых каменных крыжоў ды плітаў і рудых ад іржы жалезных агароджаў, запакаваных у густое кустоўе, то гэтае месца нічым не адрознівалася ад старога парка ці вячыстага леса, паколькі ніхто ўжо не памятаў пра тых – пад дзірваном. .

Хто быў, а хто не быў?! Нехта быў – гэта адзінае, што мы ведалі Бадай нават не Нехта, а ўсяго толькі Нешта. Нешта было тут, адбывалася, і ў гэтым адбыванні нечага нейк прысутнічалі тыя, над сатлелым прахам якіх цяпер раскінулі свае шаты ліпы ды ясені. .

Напэўна, мне не трэба было гойсаць па напластаваннях праху, скакаць праз здзірванелыя магільныя капцы, есці жменяй сакавітыя суніцы, мілавацца з дзяўчынай на заімшэлых магільных плітах. Напэўна, мне не трэба было перабягаць цераз дарогу на могілкі, і тады я разам з другімі суцяшаў бы сябе, што не знікну дазвання ў невараці, а нейкім чынам перабяруся ў наступнае быццё

Але я залішне доўга бавіўся на старых могілках, каб не помніць, ува што згортваецца жыццё чалавека, чым і дзе яно вершыцца І таму, калі закарцела спытацца пра самае кранальнае – што ёсць быццё, хто ёсць ты і ці знойдзецца ў цябе нешта, праз што ты апасля не згубішся ў небыцці, я ўжо ведаў пачатак адказу· быццё падобнае да старых могілак за каменным мурам, дзе жывыя мілуюцца на надмагільных плітах, з якіх шурпаты час паздзіраў усе літары. . Заставалася апазнаць працяг гэтага ведання Але чым далей я паглыбляўся ў росшукі, тым уцямней разумеў, што ўсё болей губляю тое, што шукаю. А потым і зусім згубіў. І ў які бок ні аглядаўся, куды ні зазіраў – няма мяне

Чалавека можна прыдумаць – нельга знайсці. Без ліхтара ці з ліхтаром Здаецца, гэта адзінае, што я зразумеў, скрэмзаўшы столькі паперы

Нельга знайсці тое, чаго няма. Марна шукаць я-чалавека ў нейкіх яшчэ значэннях, акрамя тых, што можна «памацаць пальцамі» Я-чалавек знаходзіцца па-за кантэкстам сакральнага, ён цалкам змяшчаецца ў прасторы рэальнага і ўвесь да рэштках вычэрпваецца экзістэнцыйным адбываннем тут-быцця.

Вось чаму, калі персаналізуючы праблему ***хто ён, чалавек?***, я пытаўся ў сябе ***хто ён, я?***, то ў адказ не чуў нават рэха. Пытанне душыла сябе моўкнасцю.

Цяпер я ведаю, скуль тая моўкнасць: недарэчна пытацца пра таго, каго няма,– ***хто ён?*** Трэба пакінуць гэтую вярэду назаўсёды і болей не думаць пра адказ на пытанне ***хто я?***, а думаць пра іншае пытанне Бо, можа, мяне няма не ўвогуле, а толькі ў тых значэннях, у якіх я сябе шукаў?

Тым не менш, на заканчэнне яшчэ раз трохі нагадаю аб тым, што паўстала паміж мной і хоць якой магчымасцю аптымізацыі жаху небыцця.

*Мяне няма без існага*
*Мяне няма без папярэдняга чалавека.*
*Мяне няма без людзей.*
*Я немагчымы ў колькасці самога сябе.*
*Я не сам сабой абумоўлены. І нічым другім не абумоўлены як менавіта «Я»*
*Я не сам з сябе аб'яўлены.*
*Я не сам з сябе паходжу*
*Не я прычына самога сябе.*
*Не я абраў сябе для самога сябе.*
*Не я вымкнуў сябе з патаемнага.*
*Ні я і ні хто іншы не быў пакліканы з небыцця таму, што ў быцці непасрэдна яго чакала адно яму належнае месца.*
*Я не галоўны ў тым, што я ёсць і якім я ёсць.*
*Я не маю патрэбы ў сабе з сябе самога.*
*Я не належу сам сабе. Я ўласнасць шматлікіх рэальнасцяў, што паходзяць з розных вымярэнняў быцця існага і на пэўны момант гуртуюцца на прасторы, пазначанай мной.*
*Я толькі тое, што ёсць у значэннях мяне.*
*Пакуль мяне няма, я не маю патрэбы ў сабе. І ніхто тады не мае патрэбы ўва мне. І потым, калі мяне ўжо няма, ні я сам і нішто іншае не мае патрэбы ўва мне.*
*Я ёсць, пакуль я ёсць.*

І апошняе.

*Я з'явіўся не таму, што я ёсць як нейкая патрэба менавіта мяне ў гэтым быцці, а я ёсць толькі таму, што з'явіўся.*

Натуральна, мог і не з'явіцца . Не быць. А таго, чаго можа не быць,– няма хоць у якіх іншых значэннях ад тых, што ёсць.

Мог ніколі не быць. Не быў раней Потым зноў не буду

Н я м а

# ТЫ Юры ГУМЯНЮК



*Хварэе паэзія ў тлустай бутэльцы. Бліщчаць яе вочы праз сіняе шкельца.*

## *ВЕРШЫ*

З Юры ГУМЕНЮКОМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ
«ДАБРАНАЧ, РЭВАЛЮЦЫЯ, ГУДБАЙ!»
АНТЫРЭКЛАМНЫ ПРАСПЕКТ НАЙНОЎШАЙ ПАЭЗІІ
«АПОШНІКІ», І АДЗІН З ІХ
АБСАЛЮТНАЯ СІТУАЦЫЯ ПОСТМАДЭРНІЗМУ
АДНЯТЫ
ЁН ЮРЫ, А НЕ ЮРАСЬ І НЕ ЮРКА
ВІДЭАКЛІПЫ
НАСТОІЦЦА Ў САРКАФАГАХ
ГОЛАС З-НАД НЁМАНА
ПАЭЗІЯ ЦІ ПОЗА?



*З ТАБОЙ.*

# З Юры ГУМЕНЮКОМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**– Юры, ты, пэўна, добра разумееш, што сучасны літаратурны працэс як бы выйшаў з-пад усякага кантролю... І гэты момант грэх не скарыстаць у нейкіх сваіх творчых мэтах ці то асобным літаратарам, ці то ідэйна-літаратурным суполкам...**

**Праявы гэтага назіраюцца, але, я сказаў бы, нейкія малазначныя, не маючы пэўнай абгрунтаванай перспектывы. Ну, «Наша Ніва», ТВЛ, новая «Крыніца»... Аднак пакуль што ні за адной з названых літаратурных груповак не замацавалася шырокае кола прыхільнікаў і чытачоў у прыватнасці. Беларускамоўны чытач, і без таго малалікі, у прынцыпе так і застаўся для ўсіх нас адзінасупольным...**

**Бадай, толькі афіцыйны Саюз пісьменнікаў апынуўся ў рангу незалежнага наглядальніка тых літарацкіх плыняў, якія, знітаваўшыся ў галоўным – творчасці, могуць яго (СП) незаўважна ці незнарок знесці сваім стыхійным патокам...**

**...Пры знешнім штылі ў нашай літаратуры ўсё ж адчуваецца падвышэнне ўнутранага ціску, небяспечнага па часе для большасці заземленых літаратараў, але спрыяльнага і плённага для самой мастацкай літаратуры.**

### СЛІМАКІ

*Ты не ведаеш, хто і ты і дзе.*
*Нібы цуцык, скуголіш пад плотам.*
*Слімакоў у сваёй барадзе*
*узгадуеш, напэўна, на потым.*

*Не чакаеш за люстрам акна*
*сарамлівай і цёплай кабеты,*
*што заўсёды сумуе адна*
*і сядзіць за сталом без абеду..*

*Так марудна будуецца дом*
*і праз шкло не відно анічога. .*
*Ты ствараеш уласны фантом,*
*адмаўляеш і д'ябла, і Бога,*

*бо не ведаеш: хто ты і дзе*
*нарадзіўся .. Цяпер жа пад плотам*
*прамаўляеш. «А хто там ідзе?»*
*А ў адказ: «Слімакі ў драных ботах»,*

### МЫ КАМУНІСТАМ ШЛЁМ ВІТАННЕ

*Мы зрэдку ходзім на спатканні,*
*п'ём напаўжартам ці ўсур'ёз,*
*бо беларускія выданні*
*запаланіў афіцыёз.*

*Аднак спаўняюцца жаданні,*
*нібы саўдэпаўскі прагноз.*
*Вось і з'яўляецца кур'ёз –*
*мы камуністам шлём вітанні.*

# «ДАБРАНАЧ, РЭВАЛЮЦЫЯ, ГУДБАЙ!»

**За два апошнія гады пра Юры Гуменюка было напісана столькі, што, здаецца, дадаць штосьці істотнае да ўсяго сказанага ўжо немагчыма. Пісалі пра «ачмурэнне і заварожванне» ягоных вершаў, ад якіх нібыта забываешся «ў салодкім сне». Пра «магічны крышталь», якім паэт гуляе перад чытачом, каб абудзіць ягоную асацыятыўнасць. Пра індывідуальнасць лірычнага героя Гуменюка, і пра тое, што ён «не носіцца з апазіцыяй «свабода-несвабода» (духоўная)». Пра «парадаксальны лірызм» паэта і «мелодыку яго твораў».**

**Аднак ніхто з крытыкаў не наважыўся разглядзець творчасць Юры Гуменюка ў рэчышчы беларускага постмадэрнізму. Увогуле, беларуская крытыка далей агульных месцаў і леташніх кампіляцый ісці не хоча. Як бы хто ні заклікаў трымацца бальшаку традыцыйнай беларускай літаратуры, моладзь даўно ўжо асвойвае іншыя сцяжыны і ляды.**

## ПАВЕРХНЯ

*Паверхня, што вастрэйшая за нож,*
*Ніколі не народзіцца нанова.*
*Яна, нібыта скептык Казанова,*
*а мо і забаронены чарцёж.*

*Яе не знішчыць нат кіслотны дождж,*
*І не стрымае папярэдняя размова.*
*Ты хоць Адама на ўсіх грэшнікаў памнож –*
*Паверхня знівелюе знак і слова.*

*Што ні кажы – ўсе ведаюць яе:*
*паэты п'яныя, старыя камуністы;*
*якая розніца: ці ёсць настрой ці не, –*

*галоўнае, каб быць заўсёды чыстым!*
*Тады яна і чарачку нальe,*
*ажно ў вачах заззяюць аметысты!*

## НАРКАТЫЧНАЕ МОРА

*Сёння пятніца. Заўтра – субота.*
*Зноў адбудзецца так, як і ўчора.*
*А пакуль што – дурная работа,*
*ад якой ты маркотны ды хворы.*

*Гэты тыдзень сканаў безгустоўна.*
*Ты згубіў свой апошні гадзіннік.*

**Твой погляд на сучасны літаратурны працэс?**

– Звычайны чалавек можа канстатаваць увогуле адсутнасць літаратурнага працэсу ў Беларусі, нягледзячы на тое, што выходзяць газеты, часопісы, выдаюцца кнігі, ладзяцца нейкія творчыя вечарыны, імпрэзы і г.д. Для абыякавага індывіда – усё гэта броўнаўскі рух, бессэнсоўная маніпуляцыя спрафанаванымі сімваламі, тузаніна старых маразматыкаў, гульня ў сапсаваны тэлефон у межах замкнёнай моўнай прасторы, гэткай няўтульнай рэзервацыі. Што ж рабіць літаратару, каб рэалізаваць свой творчы патэнцыял? Пісаць, друкавацца, выступаць, сустракацца з калегамі і чытачамі. Значыць – дзейнічаць, рухацца, функцыянаваць, але дыстанцавацца ад афіцыёзу. Такім чынам пісьменнік не можа знаходзіцца па-за літаратурным працэсам, які ўцягвае ў сябе, як багна. Увогуле, бачна, балота – адзін з галоўных беларускіх архетыпаў Дык вось для мяне, не заангажаванага ў афіцыйных пісьменніцкіх структурах, але непасрэднага ўдзельніка мастацкага жыцця, сучасны літаратурны працэс у Беларусі – гэта суцэльная дрыгва. У эпіцэнтры балота знаходзіцца Саюз пісьменнікаў – «труп татальнасці», які ў аганальных канвульсіях імкнецца рэгуляваць кволыя хваляванні балотнае цвілі Адбываецца ферментацыя, як у адстойніку. У выніку адна частка членаў «трупа татальнасці» назаўсёды адыдзе на дно, а другая выплыве на паверхню ў чаканні новае кан'юнктуры, каб заклікаць астатніх ваяроў прыгожага пісьменства актыўна ўдзельнічаць у «дзяржаўнай справе» Аднак творчасць (у тым ліку літаратурная) – гэта справа прыватная, таму палымяныя заклікі капітанаў СП ці рэдактароў падначаленых «творчаму калгасу» выданняў гульня ў сапсаваны тэлефон.

Як бачыце, мы сутыкаемся з нечым ненатуральным, інспіраваным пэўнымі структурамі, а таму хваравітым. Ракавыя пухліны – злоўжыванне друкарскаю плошчаю, кланавасць і карупцыя, баталіі на ганарарна-пасадавай глебе. Амаральнасць і дэградацыя афіцыёзу відавочны. Лекаванне – радыкальная плюралізацыя, стварэнне альтэрнатыўных суполак і выданняў, урэшце – ліквідацыя манапаліста, які узурпаваў крыніцу фінансавання. Інакш мы не выкараскаемся з мярцвяцкае татальнае мадэлі, а літаратурны працэс у Беларусі будзе нагадваць суцэльную дрыгву

**Ігнараваць іх працу неразумна. Нават небяспечна. Бо «піянеры», адчуўшы гэтае ігнараванне, пачнуць ладзіць паралельную літ. структуру – са сваімі выданнямі, цэхам крытыкаў, літаратурнымі прэміямі і г.д. Цяжка прадказаць, хто выйграе ў гэткім супрацьстаянні. Аднак відавочна, што беларуская літаратура толькі прайграе. Ужо няма сэнсу спрачацца: станоўчай ці адмоўнай з`явай стане для беларускай літаратуры постмадэрнізм, – ён ужо існуе, і творы Гуменюка гэтаму пацвярджэнне. Да таго ж незразумела, чаго так хвалююцца прыхільнікі традыцыйнай літаратуры. Бо ніхто з прадстаўнікоў «новае генерацыі» не заклікае «традыцыяналаў» пісаць інакш. «Піянеры» – супраць усякіх (нават эстэтычных) рэвалюцый. Адбываецца заканамернае, пасля ліквідавання таталітарызму, запаўненне вольных культуралагічных нішаў. Усім хопіць месца пад сонцам – і традыцыяналістам, і мадэрністам. Безумоўна, паміж гэтымі полюсамі будзе бясконца доўжыцца перманентная дыскусія. Але дзякуючы ёй і пачне выкрышталізоўвацца «залатая сярэдзіна», пра якую мараць усе – і палітыкі, і дзеячы культуры. Проста сярэдзіны не можа быць, сярэдзіна існуе паміж чымсьці.**

**Юры Гумянюк неаднойчы правакаваў крытыкаў засведчыць прысутнасць беларускага постмадэрнізму (узгадайма «Post scriptum» да зборніка «Твар Тутанхамона»: «Гэтая кніга ёсць апошні металёвы цвік, якім я прыбіў сацрэалізм да крыжа беларускае паэзіі»). Такім чынам вынікае, што й «Водар цела» і «Твар Тутанхамона» з'яўляюцца адмысловымі культуралагічнымі акцыямі, з пэўнымі**





**– Стыль твайго адказу адпавядае нормам юрыспрудэнцыі. Таму, патураючы твайму тону, хацелася б уведаць тваё меркаванне пра набытак айчыннай літаратуры. Што – «жывое», што – «мёртвае»?**

– Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба быць крытыкам-мастадонтам, ледзь не геніем – экспертам эстэтычных вартасцяў Вось дык задача. прааналізаваць НАБЫТАК АЙЧЫННАЕ ЛІТАРАТУРЫ ды яшчэ выявіць «жывое» і «мёртвае»! Чаго-чаго, а «мярцвячыны» ў нас хапае. Асабліва шмат яе з`явілася ў перыяд гэтак званага «культурнага росквіту і пераможнага шэсця сацыялізму», калі ўлада насаджала з дапамогаю «творцаў» паталагічную свядомасць, прымушала хлусіць, выхоўвала сервільнасць. Усе гэтыя опусы пра камуністычную партыю, камсамол, гадзіннікі Леніна, Кастрычніцкую рэвалюцыю, крэйсер «Аўрора», калгасы, партызанскія атрады, чырвоныя зоркі, маўзалей – тыповая мярцвячына. Прадуктавалі падобныя рэчы асобы, мякка кажучы, альбо калабаранцка-прастытуцыйнага тыпу, або невылечна хворыя (з тых, хто «шчыра верыў у светлую будучыню»). Дзякуй Богу, часы калектыўнага псіхозу мінулі..

Аднак трэба сказаць колькі словаў пра «жывое». Гэта – натуральныя чалавечыя пачуцці, якія заўсёды былі апазіцыйныя уніфікацыі, татальнай дыспатыі, афіцыйным канонам. Гэта рамантычная свядомасць – саломінка-выратавальніца, што дапамагае ўзняцца над гнойнаю бытавухай, натуралістычным прымітывам, шматлікімі комплексамі, атрыманымі ў спадчыну ад папярэдняй гістарычнай эпохі. «Жывое» існуе даволі працяглы час, натхняе, пабуджае да актыўнага дзеяння, нават калі трапляе ў «культурны архіў» ці гэтак званы «залаты фонд»

**– Мне падаецца, што ты прамаўляеш не сваімі словамі. Напрыканцы былога і пачатку нашага стагоддзяў падобныя выказванні ўжо гучалі з вуснаў рускіх сімвалістаў, акмеістаў, футурыстаў... Зрэшты, я чамусьці ўпэўнены, што ты не раз перачытваў іх маніфесты... Адсюль і высноўваецца маё наступнае пытанне: постмадэрнізм – гэта арганічная ці штучная з'ява ў эвалюцыйнай культуры чалавецтва?**

– Праблемы ўзаемаадносінаў рэалізму і мадэрнізму, авангарду і сацрэалізму – прадмет не тое што асобнае гутаркі, а

*Галаву перапоўнілі словы.*
*Цела збэсцілі брудныя свінні.*

*Толькі келіх, сляпы экзекутар,*
*добры сябра, адвечны паплечнік,*
*дапаможа забыцца на смутак,*
*намалюе ў пакоі сланечнік.*

*Ён – Ван Гог, мае вінныя фарбы*
*і фантазію, – лепшай не ўбачыш!*
*зразумееш, што жыў ты не марна,*
*хоць цяперака стогнеш ды плачаш.*

*Хай жа здарыцца так, як і ўчора,*
*хай згарыць гэты прывідны тыдзень,*
*хай на дрэве павесіцца злыдзень*
*ды ўскіпіць наркатычнае мора!*

## ТАЯМНІЧАЯ ШАФА

*Таямнічая шафа хавае замежных шпіёнаў*
*і муштруе мышэй, калі зоркі рагочуць у небе.*
*Таямнічая шафа не ведае іншых законаў,*
*бо заўсёды яна ў сексуальнай патрэбе.*

*Таямнічая шафа, як мора для рыб з нейкіх казак,*
*дзе шукаюць заўзята патрэбную страву.*
*Таямнічая шафа зусім не баіцца заразы,*

**мэтамі, задачамі, перспектывамі. З «Post scriptum» вынікае й тое, што далей будзе штосьці адрознае (бо першачарговая мэта дасягнута). Таму разгляд творчасці Гуменюка вымагае іншай нетрадыцыйнай гаворкі, з іншымі крытычнымі арыенцірамі й абсягамі.**

**Калі паспрабаваць адштурхнуцца ад тэрміну «постмадэрнізм» і абстрагавацца ад нацыянальнай культуралагічнай парадыгмы, дык нібыта ўсё проста. Паэт не задаволены той спадчынай, якая дасталася яму (у плане набыткаў і сістэмы літаратурнага гаспадарання, якая замінае паэту напоўніцу здзяйсняць сябе творча, – а гэта натуральна амаль для кожнага амбітнага маладога творцы). Пры ўсёй саркастычнасці і кодавасці паэтычнай мовы Гуменюка, не-не ды і сарвецца з вуснаў яго адкрыты тэкст: «Мы зрэдку ходзім на спатканні, п`ём напаўжартам ці ўсур`ёз, бо беларускія выданні запаланіў афіцыёз» або «тут смярдзіць літаратура – сметнік сацрэалістычны...» Паэт не вагаючыся выбраў уласнае крэда – «заўсёды насуперак», і некаторымі вершамі ўшчэнт папаліў за сабой масты, паслядоўна пашыраючы вакол сябе поле напругі. Аднак у гэтым франдзёрстве ёсць адмысловая стратэгія. Памыляюцца некаторыя крытыкі, якія лічаць, што гуменюкоўская задзірлівасць існуе толькі для таго, каб прыцягнуць да сябе ўвагу. Гэта было б задужа прымітыўна для заходнебеларускага інтэлектуала, ды яшчэ паланіста па адукацыі. Мэта, да якой імкнецца Гумянюк, куды больш складаная – пазбавіць посттаталітарную беларускую літсістэму трывалых структурных сувязяў, разгайдаць яе і гэткім чынам ства-**

*бо жыве толькі ноччу і ведае*
*справу.*

*Ну а справа такая, што нельга*
*сварыцца,*
*нельга плакаць, як плача старая*
*жырафа,*
*бо цвярозы сусед можа так*
*памыліцца,*
*што загіне твая таямнічая*
*шафа.*

## БУТЭЛЬКА

*Хварэе паэзія ў тлустай*
*бутэльцы.*
*Бліщчаць яе вочы праз сіняе*
*шкельца.*

*Не ведаю, як падтрымаць*
*Гаспадыню:*
*падаць ёй гарбуз ці мо жоўтую*
*дыню?*

*Тым часам знікаюць пясчаныя*
*горы.*
*Зямлю захапляе касмічнае мора.*

*Мы молімся ціха ў зялёным*
*сутонні,*
*і кожны трымае бурштын на*
*далоні.*

*А кожны бурштын нам нагадвае*
*шкельца.*
*А кожнае шкельца, як муза ў*
*бутэльцы.*

## ЛЕАПАРДАВАЯ ШКУРА

*Пад дзявочымі нагамі*

цэлае манаграфіі Таму мне не хочацца ўводзіць шаноўнага чытача ў зман, займацца эквілібрыстыкаю тэарэтычных раскладак, канцэпцый, тэрмінаў Справа ў тым, што постмадэрнізм, як ідэйна-эстэтычная плынь, тэарэтычна і на практыцы здымае ўсялякія апазіцыі, таму пытанне «арганічнае ці штучнае» траціць сэнс. Аднак гляньма з іншага боку Калі мы прымаем прасторава-часавую лінейнасць, лічым натуральную змену гістарычных эпох ці сацыяльна-эканамічных фармацый, дык мусім прызнаць, што змены ідэйна-эстэтычных плыняў і мастацкіх накірункаў таксама натуральныя з явы, бо яны адбываюцца ў кантэксце дадзенай эпохі ці фармацыі. Таму і авангард, і постмадэрнізм – гэта, безумоўна, «арганічнае» ў эвалюцыйнай культуры чалавецтва.

**– Скажам, я амаль задаволены тваім навукова-тэарэтычным адказам. Але – бліжэй да практыкі, да самой літаратуры... Паколькі мы, беларусы, ва ўсім пляцёмся ў хвасце, пераймаючы вопыт то Усходу, то Захаду – давай закранём і іх. Што, да прыкладу, гавораць табе такія імёны як Саснора, Сапгір, Айгі, Прыгаў?**

– Пэўна, кожны адукаваны літаратар знаёмы з творчасцю вышэйзгаданых паэтаў Асабіста на мяне ніхто з іх сур'ёзна не паўплываў. Тут можна казаць адно пра метафізічную блізкасць, постмадэрновую роднасць, знешняе падабенства. Дык вось мне бліжэй Аляксей Паршчыкаў, Аляксандар Яроменка, Юры Арабаў, Уладзімір Друк, Віктар Коркія, Цімур Кібіраў Гэтыя людзі, фактычна амаль не друкуючыся ў афіцыйных савецкіх выданнях, сталі класікамі расейскага постмадэрнізму Іх творы набылі сусветны розгалас. З расейскіх празаікаў гэтае плыні я б адзначыў Сяргея Гандлеўскага і Уладзіміра Сарокіна. На Беларусі падобная паэзія, проза і драма з'явілася напрыканцы 1980-х дзякуючы (выбачайце за нясціпласць) мне, Юрасю Пацюпу, Ігару Сідаруку, Лявону Вольскаму ды іншым калегам з Таварыства вольных літаратараў (ТВЛ).

**– Прабачаю ўсім вам вашу «літаратурную нясціпласць»... Але паколькі ты тут загаварыў пра ТВЛ, то ёсць магчымасць распавесці пра дзейнасць гэтага таварыства шырэй...**

– Тут няма ніякага сакрэту ТВЛ паўстала на руінах «ТУТЭЙШЫХ», якія не вытрымалі выпрабавання часам. Некаторыя з іх здрадзілі ўласным ідэалам ды скаціліся на пазіцыі непрыхаванага канфармізму. Але найбольш паслядоўныя прадстаўнікі «ТУТЭЙШЫХ», цвяроза ацаніўшы сітуацыю, узяліся здзяйсняць індывідуальныя праекты. Такім чынам пачала рэалізоўвацца праграма плюралізацыі літаратурнага жыцця. З'явіліся незалежныя выданні: «КСЭРАКС БЕЛАРУСКІ», «НАША НІВА», «ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДУМКА», «КАЛОСЬСЕ», «СЬВІЦЯЗЬ», рэгіянальныя альманахі. Ёсць надзея, што з цягам часу недзяржаўныя газеты і часопісы будуць выходзіць рэгулярна, займеюць уласны твар, זоймуць адпаведнае месца ў літаратурна-мастацкім працэсе. Пазітыўныя зрухі ў гэтым кірунку ўжо адбываюцца. Усё залежыць ад грошай, фундатараў, якія часам дапамагаюць. Свет не без добрых людзей! Аднак зазначу, што большыня альтэрнатыўных праектаў здзяйсняецца дзякуючы вялікай самаахвярнасці ды тытанічнаму энтузіязму прадстаўнікоў новае літаратурнае генерацыі, якія часам не маюць грошай на хлеб. Вось дзе «Героі нашых дзён»!

Што да ТВЛ, то першая спроба стварыць падобную суполку была пасля «Ісlачы-1988», калі Алесь Аркуш даслаў Юрасю Пацюпу ў Гародню ліст з прапановаю заснаваць аб'яднанне літаратараў-нетрадыцыяналістаў. Але тады не хапіла сілаў згуртавацца, каб дзейнічаць у межах рэспублікі. Дый на той час мы ўжо мелі ў Гародні своеасаблівую філію «ТУТЭЙШЫХ», якую назвалі «Верш-гурт Дыяген» Неўзабаве «ТУТЭЙШЫЯ» рассыпаліся, пакінуўшы пасля сябе выдадзены ў «Мастацкай літаратуры» адзіны альманах, які, дарэчы, не адлюстраваў сутнасці руху У Гародні «Верш-гурт Дыяген» дзейнічаў як аўтаномная сябрына. Мяне, Юрася Пацюпу, Андрэя Пяткевіча, Юру Карэйву, Едруся Мазько яднала непрыманне акаляючае савецкае рэчаіснасці, афіцыйных норм і парадкаў, густаў, усёй гэтай няшчырасці й штучнасці. Таму літаратурная творчасць стала формай і эстэтычнага, і палітычнага пратэсту. Мы, вядома, разумелі, што заставацца ў рэгіянальным катле не мае сэнсу, што трэба выходзіць на шырокі прасцяг І вось падчас нарады маладых «Ісlач-1990» знайшліся аднадумцы, якія марылі аб стварэнні незалежнае ад Саюзу пісьменнікаў сябрыны, каб рабіць справу без «бацькоўскае апекі» Пачалася падрыхтоўчая праца. Амаль два гады спаміж суполкамі розных гарадоў вялася карэспан-

*леапардавая шкура.*
*Ды сама дзяўчына быццам*
*вастразубая пантэра.*
*Я валодаю не толькі*
*паэтычнымі радкамі,*
*у якіх падман звычайны –*
*костка цукру ў кубку кавы.*

*Мандарынавая стужка*
*на грудзях у той дзяўчыны*
*прымушае спакусіцца*
*пакаранага паэта.*
*Вось камедыя дэль артэ*
*па-за межамі Парыжа!*
*Вось табе хвіліна шчасця*
*ў незачыненай кватэры!*

*Абуджэнне затрымала*
*экзатычную забаву.*
*Лепей зараз, чым ніколі,*
*ад маны абараніцца.*
*Дзе пачатак ачмурэння?*
*Толькі мне ды Ёй вядома,*
*нас абодвух прытуліла*
*леапардавая шкура.*

## ТОСТ ФІЯЛЕТАВАЙ ГРУШЫ

*Фіялетавая груша хоча быць*
*ананасам проста з неба*
*і глядзець*
*праз акварыум, а потым*
*паляцець*
*у д'ябэльскі вырай піва піць.*

*Мы яе не можам не пусціць,*
*бо яна жадала акалець,*
*пабялела, нібы бабця-смерць.*
*Вось вам крыж, каб болей*
*не схлусіць.*

*А між іншым, файны анекдот,*

**рыць спрыяльныя ўмовы для пераструктуралізацыі гэтае сістэмы. Ва ўсім свеце падобную задачу выконваў мадэрнізм, які пляжыў учарашнія каштоўнасці, здзекаваўся з былых рэліквій, звяргаў аўтарытэты. Гумянюк не стаў займацца вынаходніцтвам ровара. «Усё ў гэтым свеце было, усё ў гэтым свеце вядома, усё ў гэтым свеце гульня» – галоўны лозунг сучаснага еўрапейскага постмадэрнізму, да якога Гумянюк дадаў – «усё ў гэтым свеце псіхадэлізм». А інспірацыяй паўсюднага псіхадэлізму з'яўляецца навакольная рэчаіснасць. «Эксплозія казачных думак – міраж. Мозг стомлены. Вочы святло праклінаюць». Паэт па-майстэрску здзекуецца з чытача. Часам балансуе на мяжы фолу: «Ты ствараеш уласны фантон, адмаўляеш і д'ябла, і Бога, бо не ведаеш: хто ты і дзе нарадзіўся... Цяпер жа пад плотам прамаўляеш: «А хто там ідзе?» А ў адказ: «Слімакі ў драных ботах». Гумянюк вольна абыходзіцца з вядомымі цытатамі, не зважаючы на аўтарытэты і цнатлівую традыцыю беларускай літаратуры. Галоўнае – парушыць устойлівае ўспрыманне агульных рэчаў. Адарваць чытача ад зямлі, падкінуць у паветра і з'едліва памахаць далонькай – «пралятай, спадар Мікола, як фанера над Парыжам». Для гэтага адмыслова зніжаецца стыль, уздымаюцца «пікантныя» тэмы, напускаецца эрытачная лазнеўская пара. Чытач адразу не заўважае падвоху, ён у палоне псіхадэлічных чараў, клішаваная логіка «адключаецца» (бо якой логікай можна асэнсаваць гуменюкоўскія вакханаліі і фрустрацыі), і чытач пачынае спрабаваць неяк па-іншаму (нетрадыцыйна) рэагаваць на атрыманую «мастацкую інфармацыю» (ва ўсякім разе не з пазіцыі «чорнае – белае», «наш – не наш», «праўда – няпраўда»)... калі здолее «адключыцца». Інакш – актыўнае абурэнне і поўнае неўспрыманне «выбрыкаў маладзёна».**

**Здаецца, усё проста. Маем класічны сюжэт мадэрнісцкага абардажу, распрацаваны й выкарыстаны ў большасці еўрапейскіх нацыянальных літаратур. Памятаеце класічнае – «Бросить Пушкина, Достоевского, Толстого и проч. и проч. с парохода современности». Але, але... Нездарма старажытныя грэкі казалі, што двойчы не ўвайсці ў адну раку. І тут паўстаюць асаблівасці нацыянальнай культуралагічнай парадыгмы. Апошні гучны бунт маладых на Беларусі адбыўся ў 20 – 30-х гадах. «Маладняк» пайшоў у «рожкі» на старых. Вынікі «маладнякоўскага» абнаўлення эстэтычнай думкі сумныя. Сёння адбываецца як бы рэверсіўны працэс. Аднак тое паражэнне падсвядома атаясамліваецца з сённяшнімі падзеямі (нездарма «маладнякоўскія рожкі» ўвесь час узгадваліся падчас «тутэйшаўскіх» акцый). Гумянюк шостым пачуццём адчуваў гэтую небяспеку. Таму ён адразу адмовіў ідэі або творчым канцэптам, якія прэтэндавалі б на дамінантнасць. Ён забараніў свайму Пегасу далучыцца нават да адраджэнскіх радоў (пры ўсёй небяспечнасці гэткага кроку – бо беларуская культуралагічная прастора невялікая, за падобнае «рэнегацтва» ў сённяшнія дні нацыянальнага ўздыму можна было апынуцца па-за межамі гэтай прасторы).**

**Гумянюк, калі ўсё ж пашукаць ягоную нішу, стаў заснавальнікам мастацкай плыні беларускага анархізму (на жаль,**

*калі спаць нагамі дагары.*
*Ты да раніцы аб сексе гавары*
*пра забыты піянерамі*
*факстрот.*

*І яна пачуе, гляне ў рот,*
*падтрымае новае пары.*
*Размаўляй ціхутка, не дуры*
*(за сцяною спіць габрайскі*
*бегемот).*

*Куфаль піва. Побач – ананас.*
*Рытуальны момант і настрой.*
*Фіялетавая груша, мы з табой,*
*нават калі ўжо не будзе нас.*

*Дык асушым ёмкасці шчэ раз*
*за прэзідыум і Руста*
*над Масквой.*
*Хутка адпачынак, бо пакой*
*нездарма акупаваў бінарны газ.*

## ВІЗІЯНЕРЫ

**Юрасю Пацюпу**

*Сабакі лізалі ім лыткі,*
*сліной навільжнялі сцёгны.*
*Так цешыліся неафіткі.*
*Паветра глынала стогны.*

*Ажно абуралася мама:*
*«Глянь, сынку, вакол –*
*прастытуткі!»*
*Ды енк ушчала піларама,*
*І дым запыхцеў з самакруткі,*

*сцяной засланіў далягляды,*
*паўстала ў вачох брыдота...*
*Цяпер ты і сам не рады,*
*што сэрца грызе самота.*

*Будуеш слупы абстракцый*

дэнцыйная дыскусія наконт будучай арганізацыі. За гэты час акрэслілася кола сяброў-літаратараў, якія мелі падобныя погляды і эстэтычныя густы, адбыліся супольна наладжаныя вечарыны ў Гародні, Наваполацку і Менску, паўстала выдавецтва «Полацкая ляда». І вось, нарэшце, 8 траўня 1993 году ў Наваполацк з`ехаліся з усёй Беларусі больш за трыццаць чалавек і на ўстаноўчым сходзе заснавалі Таварыства вольных літаратараў (ТВЛ).

**– А цяпер вы ўжо прабачце мне за нясціпласць. Справа ў тым, што я таксама адчуваю сваё дачыненне да стварэння ТВЛ. Выступаючы на даўняй радзе СП, на якой зацвярджаліся кандыдатуры новых членаў Саюза, у абарону аднаго з іх, а канкрэтна – А. Аркуша, я, сказаўшы «лішняе» на карысць кандыдата, як кажуць, «зарэзаў» яго... Вельмі не спадабалася старэйшым пісьменнікам мая высокая атэстацыя творчасці маладога аўтара... Сам Аркуш, пакрыўдзіўшыся на ўсіх і ўся, праз пэўны час і пачаў актыўна ствараць вышэйзгаданае Таварыства вольных літаратараў. Ці не здаецца табе, што і ў маёй версіі ёсць пэўны пазітыў?**

– Калі гаварыць пра творчасць ТВЛаўцаў, ці, дакладней, ідэйную паставу.– НОНКАНФАРМІЗМ, – гэта хутчэй альтэрнатыва афіцыёзу, сервільнасці, сацыяльна-палітычнай кан'юнктуры і уніфікацыі, а не традыцыі. Мы нічога не збіраемся адмаўляць і разбураць. Наша задача – максімальна рэалізавацца ў дадзеным часе і прасторы, не зважаючы ні на што. У беларускай літаратуры можна вылучыць дзве традыцыі: «рамантычную» і «рэалістычную» Творчасць большасці ТВЛаўцаў узгадавалася якраз на рамантычнай традыцыі. Пасля ўжо пачаліся авангардныя і постмадэрнісцкія інавацыі Каб у гэтым пераканацца, дастаткова перачытаць зборнікі вершаў Алеся Аркуша, Славаміра Адамовіча, Юрася Пацюпы, аповесці і апавяданні Вітаўта Чаропкі, Міколы Касцюкевіча. Увогуле, сёння, у часы постмадэрну і маскультуры, рэалізм і рамантызм у чыстым выглядзе проста немагчымыя

**– Тэвээлаўцы, наколькі я разумею, упарта прасякаюць акно ў заходнюю культуру. Але ці ёсць гэта ўратаваннем нашай культуры? Ці не аддаём мы сябе «на водкуп», стыхійна і неўсвядомлена разбураючы пры гэтым спадчынны пласт традыцый?**

**гэтае слова большасць постсавецкіх людзей атаясамлівае з гвалтам, рабункам, анархіяй). Анархізм, мне здаецца, адпавядае беларускаму менталітэту – шматканфесійная талерантнасць, нацыянальная цярпімасць, шматслойнасць і нават эклектызм культуры. Існаванне адзінага мастацкага накірунку ў беларускай літаратуры – ненатуральная, гвалтоўная з'ява (як, дарэчы, і ў любой іншай). Таму стварэнне чагосьці адрознага (у нашым выпадку постмадэрнізму) ёсць лекавая ідэя. Броўнаўскі рух малекулаў – яскравы прыклад дакладнасці анархічнага парадку. З бальшаком асацыіруюцца задужа непрыемныя рэчы (ад сібірскага да ленінскага шляху), і гэтая ўстойлівая асацыяцыя яшчэ доўга будзе адлуджваць беларускіх інтэлектуалаў ад масавых рухаў, агульных месцаў, клішаваных думак. Для гуменюкоўскага анархізму характэрна – выключная індывідуальнасць; адсутнасць любых заклікаў, акрамя хаканца; непрынянцце любой дамінанты (нават рэлігійнай, хаця Гумянюк і католік); касмапалітычнае ўспрыманне свету; поўнае ігнараванне ўлады й дзяржавы; нонканфармізм – як творчае крэда.**

**У які бок далей падасца Гумянюк – цяжкае пытанне, напэўна, ён сам не мае на яго дакладнага адказу. Аднак з упэўненасцю можна сказаць, што гэта будзе незвычайны, магчыма, экзатычны шлях.**

**Гудбай, рэвалюцыя!**

**Алесь АРКУШ**





– Для мяне «культурнае акно» на Захад было менавіта ўратаваннем. Асабліва ў застойныя гады, калі камуняцкія ўлады душылі іншадумства ўсімі магчымымі сродкамі, калі ў мастацтве панаваў усёмагутны сацрэалізм, калі ўсіх апраналі ва уніформу, калі існавала сістэма даносаў, «паліцэйскі» нагляд.. Дзякуй Богу, усё нібыта мінула, як кашмарны сон. Але ў мяне няма пачуцця нянавісці да мінулага. Спрацавала іранічная дыстанцыя, якая ўзнікла яшчэ ў дзяцінстве. Дык вось у 1970 – 1980-я гады, да перабудовы, «культурным акном» у Еўропу для мяне былі польскія тэлевізія і радыё, сусветная класіка. Яны дапамаглі вызваліцца ад абдымкаў татальнай дэбілізацыі, падмацавалі імунітэт супраць «савецкасці». Мае погляды адкарэкціраваліся з дапамогаю перадач радыё «СВАБОДА», якія я чакаў з нецярплівасцю. Сяргей Даўлатаў і Віктар Някрасаў (вечны ім спакой), Уладзімір Вайновіч, Барыс Парамонаў, Аляксандр Геніс, Пётр Вайль. .

Сёння модна разважаць за кубачкам кавы пра разбурэнне спадчыннага пласта традыцый. Мяркую, што небяспека сыходзіць не з Захаду, а з Усходу – Расіі, якая заўсёды, нібы ненажэрная пачвара, імкнулася праглынуць сваіх вонкава слабейшых суседзяў Калі закрануць сферу культуры, дык тут з боку Расіі таксама адчуваецца экспансія. На Беларусь скіраваны некалькі расійскіх тэлеканалаў, мноства радыёстанцый, тайфун «забаўляльнай» літаратуры, у рэшце рэшт маскоўска-піцерская эстрада. У сённяшніх умовах мы не ў стане супрацьстаяць расійскамоўнай навале. Вырашэнне гэтых праблемаў – кампетэнцыя палітыкаў

**– Вось, дакаціліся нарэшце і да палітыкі, пры ўпамінанні якой у мяне пачынаецца распростванне мазгавых звілін... Таму – адыдзем ад нячыстага... Раскажы лепш пра самога паэта Юры Гуменюка. Адкуль ён узяўся, што ён хоча ў гэтым белым свеце, поўным дысгармоніі і роспачных спадзяванняў?**

– Паколькі гаворка ідзе пра мастацтва, кшталтаванне творчай свядомасці, не буду распавядаць пра сваё з'яўленне на Божы свет як біялагічнага індывіда. Падобнымі пытаннямі займаецца фізіялогія. Творца перамог ува мне канчаткова ў 1984 годзе, калі я пачаў пісаць вершы. Дагэтуль ужо займаўся маляваннем, скончыў музычную студыю. Карацей кажучы,

*на глебе жахлівых згукаў,*
*а сябра тваіх фрустрацый*
*працягвае дрогкую руку.*

## ПСІХАДЭЛІЧНАЕ МАСТАЦТВА

*Свет скаціўся да суцэльнага*
*вар'яцтва,*
*быццам п'яны небарака ля*
*вакзала.*
*Падсвядомасць мне таропка*
*загадала:*
*«Палюбі псіхадэлічнае*
*мастацтва!»*

*Я глядзеў на рэчаісныя*
*фарманты,*
*не зважаючы на знешнія*
*прыкметы.*
*Прычапляліся агідныя кабеты,*
*разам з імі недарэчныя*
*мутанты.*

*І пыталіся. «Чаго ж ты*
*не вясёлы?*
*Што за позірк*
*стомлена-пануры?»*
*Падалося, бы тамтэйшыя*
*прафуры*
*павылазілі з д'ябэльскага*
*касцёла.*

*А мяне ўвесь час цікавіла*
*праблема:*
*як без пэндзля выйсці*
*па-за межы,*
*паспрачацца з аграмаднай*
*тэлевежай,*
*папаліць усе на свеце тэарэмы.*

*Толькі свет вар'яцкі чыніць*
*перашкоды,*

# АНТЫРЭКЛАМНЫ ПРАСПЕКТ НАЙНОЎШАЙ ПАЭЗІІ

**У паэтычны кантэкст можна ўвесці любое слова і любое імя. Нават празаічнае прозвішча – Гумянюк, якое, відаць, і ўтворана ад блізкага яму слова гумно – месца, у якім месцяцца плуг і барана, каса і граблі, сена і зерне, сноп і салома... Аднак гэта чыста традыцыйная трактоўка. У даным выпадку бліжэй да месца сугучнае па алітэрацыі слова *гамонка*. Прасцей кажучы, Гумянюк мне бачыцца і чуецца *гаманкім*...**

**Таму нічога дзіўнага няма, што ў кантэкст вершаванай мовы згаданага вершатворцы натуральна ўваходзяць такія словы як «відэакліп», «фрэйдызм», «фотафэйс» – усе яны з сённяшняй гаманлівай маладзёжнай тусоўкі, не кажучы ўжо пра «цела», «віно» і «бутэльку», якія ніколі і не пакідалі спрадвечнага мужчынскага гуртавога гоману. Праўда, што да апошніх слоў, то яны падсвядома ўзгадваюць пра існаванне і такога жаргоннага тэрміна як «гамон»...**

**... І ўсё ж трэба прызнаць, што Гумянюк адважна трымаецца на плыву сучаснага літаратурнага працэсу, не губляецца ў агульным заПЛЯЖаным месцы, адметна адчувальны сваім спецыфічным «водарам цела», і не тоне, выдатна пачуваючы сябе на люстраной вадзе рэчаіснасці. Тут ён, як рыба, але зыркія вочы яго сочаць за**

*абуджае ваяроў*
*АЛЬТЭРНАТЫВЫ.*
*Кожны пяты нараджаецца*
*шчаслівым,*
*бо заглухлі звышмагутныя*
*заводы.*

*Вось і хутка запануе*
*панібрацтва,*
*а паэты атрымаюць ганарары*
*і асушаць перапоўненыя чары*
*на карысць псіхадэлічнага*
*мастацтва.*

## АПОВЕД ПРА АНАКРЭОНТЫКІ

*Дыхнеш трапікальным*
*паветрам,*
*вярнуўшыся з тых рэгіёнаў,*
*дзе смачна гатуюць булёны*
*звычайныя клеркі-інспектары.*

*Пачнеш стракатаць*
*пра экзотыку,*
*заслоны апусціш шаўковыя.*
*«Каханы, нядаўна ў Аёве я*
*стварала анакрэонтыкі. »*

*Засмяглыя вусны прыпыняцца.*
*Лікёр увядзе ў меланхолію.*
*А ў сне прыадчыняць магноліі*
*свае зелянкавыя сківіцы.*

*І казкі пачнуць эратычныя*
*расказваць да самае раніцы.*
*Напэўна, нічога не станецца,*
*Адно што працэсы хімічныя. .*

быў маральна ды інтэлектуальна падрыхтаваны. Таму я вельмі ўдзячны сваім бацькам, што яны выхавалі мяне гарманічным, чуйным да прыгожага чалавекам, хаця самі прафесійна не звязаны з мастацтвам (бацька паводле адукацыі матэматык, а маці – медык). Дык з чаго пачаўся Гумянюк? Калі згадаць заняткі маляваннем – дык з імпрэсіянізму, калі літаратурай – з класічнага мадэрнізму, дакладней, з сімвалізму Вабіла містыка, патаемны, ірацыянальны свет Плюс захапленне сучаснай музыкай, асабліва стылем Heavy Metal Rock. Вось такі пачатак.. Вядома, не хацелася б скончыць свой жыццёвы шлях так, як Ясенін, Маякоўскі ці Купала. Некалі, у юнацкія гады, апазіцыя «жыццё – смерць» мела ў маёй сістэме каардынатаў вялікае значэнне. З цягам часу яна адышла на другі план, хоць матыў смерці прысутнічае ў некаторых маіх творах. Напрыканцы 1980-х – у пачатку 1990-х прыйшлося заняць актыўную пазіцыю. Спачатку – гістарычна-культурны клуб «ПАХОДНЯ», «Верш-гурт Дыяген», універсітэцкае літаб'яднанне. Потым – шматлікія вандроўкі, сустрэчы, вечарыны, публікацыі. Урэшце ў лютым 1991-га ўдалося арганізаваць на базе газеты «Гродзенскі універсітэт» літвыпуск «КОЛА». Ідэя была цудоўная. У ейнай рэалізацыі пажадалі ўдзельнічаць паэты, празаікі, барды і крытыкі з усёй рэспублікі. Такім чынам аўтарамі «КОЛА» сталі Зміцер Санюк, Анжаліна Дабравольская, Ігар Сідарук, Вітаўт Чаропка, Юрась Пацюпа, Андрэй Пяткевіч, Мікола Касцюкевіч, Сяргей Мінскевіч ды іншыя. Аднак смеласць некаторых твораў выклікала незадаволенасць у кіраўніцтва, якое гвалтам прапіхвала ў «КОЛА» рускамоўную слабізну, каб дыскрэдытаваць шляхетныя памкненні маладых літаратараў Аднак на пятым нумары «КОЛА» загадала доўга жыць, і я пачаў здзяйсняць індывідуальны праект на абласным радыё – выпускаць літаратурна-мастацкі часопіс «КАНТЭКСТ» Перадача выходзіла ў эфір тры гады запар, два разы на месяц, і была досыць папулярная...

Увесь гэты час мне здавалася, што лячу над безданню Адсюль – то ўздым актыўнасці, то дэпрэсія Гэта як у працэсе маўлення. хваля эксплазіі, хваля імплозіі. Аднак нават глыбокае расчараванне, апатыя, выкліканыя сучасным станам нашага грамадства, не знішчылі прагу займацца творчасцю. Магчыма, праца на кафедры польскай філалогіі Гарадзенскага універсітэта дапаможа мне далей расці, выйсці на новы ўзровень

**– Ва ўсім – у паставе, у стылі адзення, у літаратурным стылі – ты любіш падаць сябе «выкшталцона», адшукваючы пры гэтым «файныя» формы, не пазбягаючы літаратурнага флірту... Ты – фартовы ігрок і табе пакуль што шанцуе... Безумоўна, гэта заводзіць...**

**Што схіляе да гульні «крапленымі» картамі? Маладосць ці падсвядомае адчуванне прайграць у адкрытую?**

– І маладосць, і «крапленасць» тут абсалютна ні пры чым. Паняцце «гульня» ў псіхалогіі мастацтва разглядаецца як неабходная рэч у творчым працэсе. Псіхааналітыкі Ранк і Сакс сцвярджалі, што мастацтва знаходзіцца недзе ў сярэдзіне паміж сном і неўрозам, а Фрэйд параўноўваў пісанне вершаў з гульнёю дзіцяці. І сапраўды, дзеці вельмі сур`ёзна ставяцца да гульні, ствараючы непаўторны казачны свет, які яны аднак адрозніваюць ад сапраўднай рэчаіснасці. Гэткім чынам дзейнічае, паводле Фрэйда, і паэт, для якога мастацтва – «сны наяве», сублімацыя падсвядомых нyздзейсненых жаданняў Ну а фантазіі – гэта ўжо ўвасабленне мрояў, нерэалізаваных пачуццяў, задумаў, гэта – карэкціраванне недасканалай рэчаіснасці, якая не задавальняе творцу. Безумоўна, я не ідэалізую метад псіхааналізу, але менавіта ён дапамагае разабрацца, што ёсць «гульня» як падсвядомы і наймысны сродак мастацкага выяўлення. Калі казаць пра сябе, дык я, гуляючы сур`ёзна ў словы, выткаў з адкідаў афіцыйнай савецкай культуры, спрафанаваных сімвалаў і паняццяў, якіх спасцігла дэсемантызацыя і якія сёння не напоўнены рэальным зместам, прыгожую стракатую коўдру Яна вельмі пластычная, таму натуральна ўпісваецца ў класічныя формы вершаскладання, ствараючы дадатковыя эфекты.

**– Люблю людзей без комплексаў. Асабліва літаратараў. Хто пра нас скажа добрае слова, як не мы самі?**

**Значыць, ты лічыш, што літаратурны імідж таксама дадае неабходныя штрыхі да асобы творцы?**

– Так, мастак павінен адчуваць сябе ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЮ не толькі ў паўсядзённым жыцці, але (што больш важна) у творчасці. Інакш ён траціць уласнае аблічча, рассычаецца ў шэрым натоўпе. Традыцыйна за беларускімі літаратарамі замацаваўся імідж гэткіх «рахманых, памяркоўных, свойскіх хлопцаў» Аднак няма правілаў без выключэнняў Спадзяюся, я сваёй грамадскай дзейнасцю ды пазіцыяй пацвердзіў гэтую тэзу.

**– А калі адкінуць гэты імідж – ну, скажам, чытач пра Гуменюка нічога не чуў, не ведае, не бачыў яго «запакаваным» у адмысловы гарнітур з чырвоным матыльком, а толькі і ўсяго, што прачытаў дзве танюсенькія брашуркі-зборнічкі яго вершаў, – то чым у такім выпадку адрозніваецца вольны літаратар Гумянюк ад «нявольнага» паэта Пісьмянкова?**

– Тым, чым адрозніваецца Оскар Уайльд ад Пятра Прыходзькі.

**– Што ж, дзякуй. Менавіта такую «кропку» ў нашай гутарцы я і прадчуваў. Пытанні, праўда, засталіся... Але ўжо – да Пісьмянкова, Прыходзькі і... Уайльда...**

---

**ракіроўкай тых рэчаў у быційнай прасторы, як тапелец за ратавальным кругам.**

**Яе не знішчыць нат кіслотны**
**дождж**
**і не стрымае папярэдняя**
**размова.**
**Ты хоць Адама на ўсіх грэшнікаў**
**памнож, –**
**паверхня зніве люе знак і слова.**

**Але як толькі плынь выносіць паэта ў вусце сутнасці – тут ён ніякавее і паэтычная гамонка яго поўніцца мінорнай музыкай небяспекі, надта не спадзеючыся на панацэю «псіхадэлічнага мастацтва», дзе «...свет вар`яцкі чыніць перашкоды».**

**Верш напішацца сам. І не трэба**
**плясці**
**рыфмаваны вянок без**
**сакральнага слова.**
**Мёртвы зыб нам не скажа, калі**
**адысці**
**ў глыбіню цёмнавокую стана**
**начнога.**

**Калі з творча-паэтычнага маніфеста Гуменюка («Твар Тутанхамона») адкінуць выпадковыя там «абцэсіі», «фрустрацыі», «фасцынацыі» і па-сапраўднаму выявіць «шыхт новых эстэтычных каштоўнасцяў», то найперш трэба вызначыць самога Гуменюка як патэнцыяльнага творцу.**

**Ён – не ад зямной пладаноснай глебы. Ён – ад каменю і металу – магчыма, друзу ад глыбаў тых ідалаў, якіх сам і разбурае. Да прыкладу, іранізуючы над «народнасцю» Н. Гілевіча, ён, відаць, і не здагадваецца, што разам з тым іранізуе і над сваёй элітарнасцю, бо ў прынцыпе гэта два полюсы аднаго магніта – папулярнасці і вядомасці. Але калі нядаўнія ідалы былі цэльнай выявай свайго пэўнага часу, то ён пакуль толькі стаіць на друзе няпэўнага часу. У прынцыпе, ён – муляр і архітэктар свайго яшчэ будучага твора. Ён – з бруку і грукату горада, і мова яго не заземленая, а штучная, сяброўска-адраджэнская, кніжная. Не дзіва, што і піша ён рэклама-штампамі гэтай мовы па законах містыфікацыі і абсурду. Па вялікім рахунку ён здзекуецца не толькі з нас і з сябе, што нармальна, але і з самой «сваёй бескарэннай мовы», а гэта ўжо выходзіць за межы паэзіі ці наогул не ўваходзіць у яе межы.**

**Зразумела, што сённяшні сумбурны час дае падставу для хісткасці думак і нявызначанасці пачуццяў, асабліва маладзейшым, якія свайго нічога пакуль не займелі, не перажылі пражытага, а да таго ж адмовіліся ад спадчыны «марнага бацькоўскага вопыту». Гэта – дзеці акварыума, якія глядзяць на свет праз тоўстую засцерагальную паверхню празрыстай тэорыі жыцця, і свет знадворку здаецца ім не зусім рэальным па-за тым шклом, якое праламляе іх зрок, але зусім рэальным бачыцца ім свет у сваім акварыуме – гэткім «наркатычным морам»...**

**Таму, калі ім выпадае трапляць у сапраўднае мора жыццёвай прозы альбо хоць у будзённы паэтычны «вадастаў», то безумоўна, што «зыб» для іх робіцца «мёртвым» і небяспечным, як ва ўжо згаданым вершы Юры Гуменюка.**

**Нейк раптам мы сталі абагаўляць у паэзіі разумовую штучнасць (я маю на ўвазе тут не рэалізм і нават не мастацкую праўду), пайшлі ўслед за навукова-тэхнічным прагрэсам, які якраз і з'яўляецца магільшчыкам жывой прыроды, а значыць, і самой Паэзіі. Забылі, што розум – тленны, а душа – жыватворная, думка – падманная, а дух – сутнасны. Класікі – невылечныя артадоксы! Ды хоць бы той самы Цютчаў: «Мысль изреченная есть ложь».**

**І што ж тады застаецца Паэзіі? І хто такі Гумянюк і зрэшты – я сам?!**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# «АПОШНІКІ», І АДЗІН З ІХ

**Ідзе 1995 год. Можна лічыць, што палова 90-х прайшла, таму, здаецца, узнікаюць магчымасці для вызначэння рысаў беларускай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя. Выходзяць жа новыя кнігі, новыя нумары старых часопісаў, дый узнік зусім новы «Першацвет». (Новая «Крыніца» – гэта ўсё ж такі спараджэнне 1995 года, яна выглядае як аванс беларускай літаратуры для вартага заканчэння эпохі Другога тысячагоддзя.) Але, на жаль, магчымасць вызначэння рысаў беларускай літаратуры 90-х – гэта ілюзія, бо вялікая частка «апошнікаў» – паэтаў і празаікаў новай генерацыі, – нідзе не друкавалася, а калі і друкавалася – то гэта была звычайная мімікрыя пад афіцыйна прынятыя нормы дзеля зафіксавання свайго прозвішча ў пэўным сацыяльным разрадзе – «літаратар», а нестандартныя творы (арыгінальныя ідэі) не маглі прарвацца праз КПП псеўдаправільнага густу. Вельмі характэрны паказчык у гэтым плане – «Першацвет», пры штампаванні якога ў вершах (не кажучы пра прозу і крытыку) без дазволу і згоды аўтараў падмяняюцца і выкідаюцца не толькі асобныя словы, але і радкі; «стрыжка пад адзіны капыл» вядзе да нівеліравання адметнасцяў творчай асобы, таму, натуральна, што ў «Першацвеце», у параўнанні з былымі чырваназменаўскімі «Крыніцамі», так рэзка знізілася ўзроставая планка аўтараў і вартаснасць твораў. Школьнікі яшчэ безабаронныя перад аўтарытэтнасцю (чытай аўтарытарнасцю) часопіса.**

**У «Маладосці» ж функцыю «абсарбавання» і «фільтравання» выконвае шматгадовая чарга. Фактычна «Маладосць» толькі-толькі перайшла мяжу 80-х -90-х. Падобныя прычыны для неадлюстравання пэўных зрухаў развіцця літаратуры ёсць і ў астатніх афіцыйных выданнях і выдавецтвах. З іхняй малакалькасці і нецікавасці грамадства да іх узнікаюць умовы манаполіі, што і вядзе да застою і дэградацыі. Разумна было б увесці ў некаторыя выданні вольныя (непадлеглыя рэдагаванню) старонкі – «папяровыя» Гайд-паркі – гэта адлюстравала б усе «новаахвотасці», дзёрзкія думкі, імкненні і нават стан працякання хваробы беларускае мовы. (У пэўнай ступені набліжаная да ідэі Гайд-парку выступае «Зно» газеты «Культура», дзе ўдаецца сінтэзаваць і філасофскія і літаратурныя праявы свабоднага мыслення.)**

**Аднак у першай палове 90-х з'явіліся і неафіцыйныя літаратурныя выданні – гэта «Наша ніва», «Ксэракс беларускі», «Калосьсе», серыя кніг «Паэзія новай генерацыі». Калі ў першай праяўляюцца звыш-элітарныя тэндэнцыі «займання скалы арла» і стварэння «свайго кола», якое бярэ адказнасць за лёс Беларусі ў культуралагічным аспекце, то астатнія выданні чыста літаратурныя, можа больш даступныя, але, на жаль, яны часта перапыняюцца з банальнай фінансавай прычыны.**

**... Сапраўды, ідавочную аксіёму**

***РЫБЫ – НЕ МЫ, МЫ – НЕ РЫБЫ***

**цяпер даводзіцца даказваць не толькі літаратарам, але і ўсім грамадзянам, бо ў нас ва ўсіх пачынаюць вырастаць жабры, мы пераўтвараемся ў жабракоў, і самае страшэннае – у маўклівых, як рыбы, жабракоў...**

**Хаця «апошнікі» («апошнікі» не толькі таму, што пачалі пісаць у апошняе дзесяцігоддзе, а яшчэ і таму, што гэта апошняе пакаленне, якое заспела жыццё пад прэсам савецкай таталітарнай сістэмы), нягледзячы на свабоду друку, не мелі магчымасці публікавацца, іх творы ўсё ж такі чыталіся ў рукапісах, ці выслухоўваліся на сяброўскіх сабантуйчыках, таму можна спадзявацца – рана ці позна праявіцца сапраўдны твар беларускай літаратуры 90-х (як пасля неразумення і шматлікіх адмоваў, нарэшце, былі надрукаваныя ў новай «Крыніцы» (гл. N 5) некалькі канцэптуальных вершаў аўтара гэтага артыкула, што былі напісаныя ў 90 – 91 гг.).**

**На фоне ўсяго вышэйсказанага лягчэй аб'ектыўна прааналізаваць творчасць аднаго з «апошнікаў», якому ўсё ж пашанцавала выдаць у згаданай серыі «Паэзія новай генерацыі» два зборнікі і тым самым «застолбить» дзялянку ўвагі аскепка беларускай грамадскасці.**

**Выкарыстоўваючы *трафарэт*, можна было б сказаць: зборнікі паэзіі Юры Гуменюка «Водар цела» (1992) і «Твар Тутанхамона» (1994) перакана̀ўча паказваюць, што ў беларускую літаратуру прыйшоў цікавы паэт, цікавая творчая асоба. Але парадокс у тым, што ніякая шаблонная ці тыповая для гэтніх выпадкаў фраза не будзе адпавядаць ісціне, бо паэт прыйшоў не ў тую літаратуру, над якой пакладзены *трафарэт*, а ў тую, для якой *трафарэт* ужо караткаваты. Ён паўстаў па-за межамі абмежаванасці...(!) І тое бачна па першым зборніку, дзе выкарыстаны небывалыя для беларускай літаратуры прыёмы, напрыклад, літаратурная правакацыя (другая назва зборніка «Водар цела» – «псіхадэлічнае мастацтва», але ані верш з гэтай назвай, ані сам зборнік не раскрывае гэтую дэфініцыю – адбываецца гульня ў цукерку, дзе няма цукеркі). Няма цукеркі... Яна ёсць, і знікае, і зноў праяўляецца, і пераўтвараецца, скажам, у... «фіялетавую грушу». Таму, мусіць, вялікі сэнсавы цяжар нясуць словы «водар», «цені», назвы колераў. А абгортка цукеркі – іронія, гратэск, жангліраванне агульнапрынятаванымі канцэптамі-штампамі:**

***Электрычнасць небяспечнасць***
***камунізм капіталізм***
***Сталін Мао Ленін Брэжнеў***
***Рузвельт Рэйган***
***анархізм***

***(Тэлеграф).***

**Творчая свядомасць паэта ў гэтым зборніку, так бы мовіць, балансуе на мяжы паміж мадэрнізмам і постмадэрнізмам (як фізічнае цела паміж Еўропай і Беларуссю – паэт родам з Гародні), бо хоць і адчуваецца важнасць другаснага ў тэксце (абгорткі), але ёсць, няхай і прывідная, цукерка (пэўная мэта твораў – як нас вучылі – выхаванне чалавека, будаванне правільнага свету і г.д.). У Ю. Гуменюка ў іроніі і высмейванні кагосьці безыменнага (напр. верш «Кавалер») праступае пэўная павучальнасць, ці горкі ўздых – не гэтак, браткі, мы жывём, – як у радках:**

***Мы зразумелі шчасце пад***
***наркозам.***
***Ды ўсё жыццё – нібыта нейкі здзек,***
***а чалавек – зусім не чалавек,***
***бо атрымаў павышаную дозу...***

**Паступова ў свядомасці паэта намацоўваецца ўласная пабудова «правільнага» свету, дзеля якой трэба змагацца.**

***Спі ў саркафагу сваёй піраміды,***
***ноччу прачнешся, шукаючы кроў.***

**Саркафагі і піраміды будуць фігураваць у наступным зборніку – «Твар Тутанхамона», але вось ролю абуджанага вампіра, як ні дзіўна, паэт адвёў... постмадэрнізму.**

**Ю. Гумянюк, як яму здаецца, робіць крок у бок постмадэрнізму. Ён – постмадэрніст. (!?)**

**«Файна будаваць уласны светапогляд паводле прынцыпаў «маральнага кодэкса прыхільніка постмадэрнізму», – заяўляе паэт і... распачынае барацьбу з «народнымі пісьменнікамі», камсамолкамі, «рэліктавымі ветэранамі».**

**Так, нельга не пагадзіцца з Ю. Гуменюком, калі ён гаворыць, што яшчэ адбываецца «прафанацыя нацыянальных каштоўнасцяў», «ажыўленне бутафорскага цела», «прыпаркі мёртваму ідалу» (гэтыя праблемы былі закранутыя і ў пачатку гэтага артыкула). Але пры чым тут постмадэрнізм?**

**Узгадваецца артыкул Ю. Гуменюка «Постмадэрновы прарыў і пачуццё дыстанцыі ў беларускай літаратуры напрыканцы 1980-х –у пачатку 1990-х (гл. «Зно» ад 25 студзеня 1995 г.), дзе акрамя трапных цытат-тлумачэнняў постмадэрнізму ўхваляецца барацьба супраць «аксакалаў сацрэалізму» і даецца канкрэтны шлях: «Выйсце – дыстанцаванне і стварэнне альтэрнатыўных парадыгмаў».**

**Аднак жа сам постмадэрнізм даказвае, што няма ні «стрыжнявых», ні альтэрнатыўных парадыгмаў, усе яны заганныя, таму ён адмаўляе іх як эстэтычны дыскурс, які нічога агульнага не мае з якой бы там ні было, нават «самай справядлівай» барацьбой. Як і, наадварот, не прызнае ніякую форму ідэалогіі (любы цэнтралогас), – а барацьба ніколі не бывае без пэўнай ідэалогіі.**

**У лепшым выпадку Ю. Гумянюк да ідэйнага накірунку другой сваёй кнігі мог бы прышчапіць пэўную галіну мадэрнізму – напрыклад, «ваяўнічы» футурызм, але некаторыя вершы гэтага зборніка, асабліва такія як «Народны паэта», ці «Фанера над Парыжам», пераконваюць, што ён, як ні дзіўна, карыстаецца прыёмамі таго ж сацрэалізму ўзору трыццатых гадоў. Бі ворагаў іх жа зброяй! І Ю. Гумянюк не застаўся стаяць убаку (насуперак рэцэпту «дыстанцавання»), аднак жа, праўду кажучы, ён не «ўлез» ПАД узгаданы вышэй *трафарэт*, а, больш адпаведна, «у-з-лез» НА яго і стаў «таптаць» адтуль сваімі гнеўлівымі прамовамі сацрэалістаў. Дзе і на кім ляжыць *трафарэт* – на Ю. Гуменюку ці на яго апанентах, – ужо справа выбару пункту гледжання. А ўвогуле змагацца са старымі «апалагетамі» – гэта, паводле трапнага выказвання Дзмітрыя Кузьміна (рэдактара Маскоўскага часопіса «Вавілон»), – «тое самае, што змагацца з ветракамі». І як бы ні хацелася, але змаганне Ю. Гуменюка зусім не падобнае да змагання Дон Кіхота. Навошта супрацьстаяць прафанаванню адной ідэі прафанаваннем іншай? Тым больш, паэт так захапіўся, што, кажучы шахматнымі тэрмінамі, у эндшпіле, праводзячы заключную атаку, сам «зяўнуў» і атрымаў мат. У пастскрыптуме ён піша:**

**«Гэта кніга ёсць апошні металёвы цвік, якім я прыбіў сацрэалізм ды крыжа беларускай паэзіі».**

**Якой бы паэтыкай пісьменнік ні карыстаўся, але метафара павінна быць без пабочнага (заганнага) сэнсу. А ў гэтай фразе ўзнікае алюзія з Біблія̀й і асацыяцыя з Хрыстом (і ўвогуле з хрысціянствам). Але ж Ісус Хрыстос уваскрос. Дык што, усе напады Ю. Гуменюка на сацрэалізм – дбанне, каб сацрэалізм уваскрос? І яшчэ смяшней – узяў нашыя грахі?..**

**Усё ж такі неабходна адзначыць, другая кніга пацвердзіла паэтычны патэнцыял Ю. Гуменюка; выпрацавалася свая манера, дарэчы, якая спарадзіла перайманні – у апошняй кнізе І. Сідарука «Саната арганата» (1994) ёсць колькі стылізацый а-ля Гумянюк, што само па сабе адметна – праўда, з другога боку над самім паэтам ужо навісае пагроза аднатыпнасці твораў. І самае недаравальнае – адрочана цікавыя творы, якія працягваюць лінію першай кнігі, спляжваюцца ідэалагізаваным кантэкстам.**

**Не зразумелай да канца застаецца і прычына запозненай рэакцыі адкату ад неверагоднай гульні асацыяцыяў да лёгка прадказальнага змагання з «аксакаламі сацрэалізму» і рознымі ідаламі. Безумоўна, «прафанацыя нацыянальнага» вельмі раздражняе паэта, аднак зноў, паводле пэўных яго фразаў, сама сабой узнікае адна з пабочных версій тае прычыны – гэта адсутнасць пастамента для вывы самога Ю. Гуменюка, аднак пастамент павінен быў быць не бяздарным сацрэалістычным «злепышам», а – ні больш ні менш – выкшталцонай егіпецкай пірамідай, якая мроіцца аўтару ўсюды. А доказам правамернасці атрымання ім пастамента могуць быць словы з уступнага эсэ:**

**«Мы ўсведамляем, што спадкаемца атрымоўвае самы каштоўны падарунак – адказнасць за нашчадкаў. Таму і ўзіраемся адно аднаму ў вочы-акіяны. Прагнем глыбіні. Хтосьці з нас падуладны. Хтосьці – уладар. Залатой сярэдзіны не існуе».**

**Напрыканцы хочацца прывесці супрацьлеглае выказванне аднаго вельмі разумнага чалавека: «Таленты ніколі не размяшчаюцца ўрыткальна, а заўсёды становяцца ў шэраг; ніколі адзін аднаму не замінаюць, а калі адыходзяць, то ў шэрагу застаецца пустое месца, іх няма кім замяніць».**

**Безнадзейна пераскокваць час, ён сам усё расставіць на свае месцы. І нават калі творчасць вымагае барацьбы, то, думаецца, не варта прыкрывацца моднымі, але далёкімі ад яе спайменнямі.**

**А тых, хто проста перацягвае адзін ад аднаго драную коўдру, застаецца толькі пашкадаваць.**

**Сяргей МІНСКЕВІЧ**

# АБСАЛЮТНАЯ СІТУАЦЫЯ ПОСТМАДЭРНІЗМУ

У чарзе да ўролага я трынаццаты. Бабулькі ўспамінаюць, як было ў нас за немцамі, як добра было на работах у Нямеччыне, як хацелася даць маладому немчыку...

Пайшоў пятнаццацты дзень, як мне спрабуюць паставіць дыягназ. Настрой катастрафічны. І тады я заўважаю ногі доктаркі з траўматалагічнага, падобныя на контрфорсы новага Вавілона. Трызнішча: пад маскаю-тварам Тутанхамона мімікрыруе белае тварышча Юры Гуменюка, беларускага постмадэрнісцкага паэта, які старанна прыбівае сацрэалізм да крыжа беларускай паэзіі.

«Навошта яму гэтыя разборкі?» – скрозь сон задаю сабе пытанне і вяртаюся ў логвішча ўласнага цела.

Чарга хутка малее. З папраўкаю на гады бабулі атрымліваюць адносна добрыя дыягназы. Я думаю пра кніжку вершаў Гуменюка «Водар цела» і ўспамінаю арганістку Галю з касцёла Маткі Боскай Будслаўскай. Галя любілася з ксяндзом, з сяброўкай-валейбалісткай, лабатым студэнцікам з політэхакадэміі і са мною. Са мною яна любілася прыхапкам, а я хацеў падоўгу. Але ўсё ж водар ейнага цела я запомніў – гэта быў водар старой беларускай хаты, па́рнага летняга дня, сырадою, закрасавалага ячменю, водар цяляці, якое праз хвіліну паваліцца з перарэзаным горлам...

У Галі былі далікатныя смочкі грудзей, а я быў занадта прагны. Малінавая кропля крыві выступала разам з кропляю малака. Калі арганістка Галя мроіла сябе Паннаю Неба, я ізноў узгадваў майго знаёмца Гуменюка і яго ўпартае жаданне разлічыцца з Народным Паэтам і камуністамі, каб пасля патануць у акіяне мазахізму.

Чытаючы ў чарзе да ўролага другую кніжку калегі Ю. Гуменюка, я адчуваю сябе фітапланктонам, кнігай, старонкі якой гартае скразнячок, цэрэбральным паралічам сябе адчуваю, скокамі святога Віта...

І тут мяне запрашаюць зайсці. О, матка боская! За сталом сядзіць васпан Гумянюк у белым доктарскім каўпаку. Ён адразу пытаецца, што мяне турбуе. А што мяне можа турбаваць у кабінеце ўролага, як не мой дарагі penis, мой бязмежна любімы дзетародны орган. Ён трапіў у пікантную сітуацыю, мой чэляс, і ўжо каторы дзень яму ніхто не можа дапамагчы. Застаецца адзін сродак – і доктар Ю.Г. прапісвае мне чытанне на ноч тэкстаў Тутанхамонавых пірамідаў. «Гэта самы радыкальны сродак», – запэўнівае мяне эскулап і... ператвараецца ў Серафіма Вілоравіча Камінтэрна, які трымае ў сваіх тоненькіх ручках маю медкарту і слабым голасам прамаўляе, што аналіз пробы з цэрвікальнага канала не абазначыў... «Але я маю праблемы!..» – кажу я, прыкметна хвалюючыся. «Вы любіце згараць на вогнішчы кахання, – парыруе доктар Камінтэрн, – а гэта небяспечна. Небяспечна кахацца на чырвонай звяздзе. Лепш палюбіце галаву Неферціці (даруйце за каламбур) альбо жаніцеся. Апошняе – самы надзейны сродак». «Але я не магу зрабіць апошняе, я клерк, я на дзяржаўнай службе і атрымліваю зарплаты ўсяго на два месячныя праязныя білеты!» – зрываюся я на крык. «Тады чытайце на ноч «Твар Тутанхамона», – разводзіць рукамі божы дзьмухавец і здзімае са стала дзённыя пасевы флоры.

Ужо за дзвярыма, на паліклінічным калідоры, адчуваю раптам, як ува мне прарастае эмбрыён гомасексуалізму – яшчэ адзін сродак вырашэння праблемаў.

Ах, доктар Ю.Г., што вы са мною робіце! Я пікірую ад акта да акта: як «юнкерс», «як фанера над Парыжам». Мая актыўнасць расце ў геаметрычнай прагрэсіі. Вы ведаеце, чым гэта пагражае актуалізаванаму вамі аб'екту, а таксама слімакам, двайнятам? Вы павінны былі пралічыць усе магчымыя негатыўныя вынікі. Найвышэйшай ступені здаровасці свайго арганізма я дасягаю ў экстрэмальнай сітуацыі, а паэзія – гэта і ёсць экстрэмум, эксцэс. Доктар, ваш «Твар Тутанхамона» раздражняе мой эпітэлій, але не кране нутра; вантробы мае патрабуюць натуральнай арганікі, а не эрзацаў. Грані вербальнага крышталю патрабуюць дашліфоўкі, харэічна-дактыльныя краты павінны быць плацінавымі, у крайнім выпадку – залатымі. Ніякіх падробак, сусальнасці, пазалоты! Толькі натуральныя матэрыялы. Паэзія – гэта як $H_2O$, яна паўсюль. Яна імжыць вобразамі на Крайняй Поўначы гэтак жа паспяхова, як і на экватары. Вобразы любяць масціцца ў гняздзечкі прыгожых слоў. Памятайце пра гэта, док. Шліфуйце словы, апладняйце іх кожны раз, калі вам не спіцца. Інакш я павінен буду ажаніцца з першай сустрэчнай, якая скажа мне: ах, якія ў вас доўгія вейкі, як у жанчыны!

І я такі вазьму яе замуж, бо «Твар Тутанхамона» залечвае, але яшчэ не выздараўляе.

Славамір АДАМОВІЧ





# АДНЯТЫ

*(паводле верша Юры Гуменюка «Двайняты»)*

Ты жывеш, як быццам,
недалёка,
на мяжы егіпецкіх снягоў,
вымяраеш спадчыну
барока
крыламі ўзбянтэжаных
крукоў.
Ходзіш між сучасных
саркафагаў,
чуеш подых д'ябла з-пад
зямлі,
п'еш віно з махроў
чырвоных сцягаў,
абыходзіш у пад'ездзе
Віскулі.
І фанера ў небе пралятае
(ці кабеты страчанай
абрыс?) –
рыфмай уздымаецца над
краем
і ляціць сякерай зверху
ўніз.
Ейны бюст навобмацак
не знойдзеш.
Ён схаваўся ў нёманскай
вадзе,
каб яго не джаліў пры
народзе
адраджэнскі
унтэр-авадзень.
Той жыве, здаецца,
недалёка,
корпаецца ў чэрапе тваім.
Постмадэрн і шызаамарокі
там будуюць свой
Ерусалім.
Разам вы – пацешныя
двайняты,
сябрукі, старыя кавалеры,
напаўмеханічныя жаўнеры
паабапал пані
Секс-гарматы.

P.S. Назву твора давялося змяніць (дакладней, зменшыць), бо толькі палова і нават меней слоў у гэтым вершы мае, астатнія ж перапісаў у Гуменюка. Як азначыць гэты літаратурны прыём, пакуль не ведаю, але згодны і на «плагіят». Зрэшты, амаль тое ж самае Юры сам робіць з творамі Пушкіна, Гілевіча ды іншых класікаў і «народных паэтаў». Праз плагіят у Гуменюка я міжволі надаю яму статус класіка айчыннай літаратуры – але і сапраўды не адмовіўся б, каб у нас былі такія класікі.

Юрась БАРЫСЕВІЧ

# ЁН ЮРЫ, А НЕ ЮРАСЬ І НЕ ЮРКА

Большасць (у гэтым слове, як у порхаўцы, месціцца слова шэрасць) нашых паэтаў не ствараюць свет, засяляючы яго сваімі вобразамі, а проста ўслаўляюць тое, за што плацяць і самым актыўным даюць узнагароды. «Беларускія выданні запаланіў афіцыёз», – канстатуе Юры Гумянюк і, стварыўшы свой свет з «тварам Тутанхамона», з «фанерай над Парыжам», з «металёвым цвіком» у падгніўшым целе сацрэалізму, ідзе на прагулянку з маркізам дэ Садам. Ён «здольны панурыцца ў бездань слова і пісаць тэхнакратычныя санеты», бо ён, як бы там ні было, творца. Яго творы можна любіць як распусную жанчыну, і гэтак жа ахайваць. Можна нават сказаць, што ўсё гэта не паэзія, а толькі пародыя на наш свет. Усё можна.

Гумянюк, на маю думку, самаўпэўнены, а часам і занадта. Ён лічыць, што ён паэт, а значыць, так павінны лічыць усе. Ён вольны літаратар. Вольны ад чаго? Ад Саюза пісьменнікаў? Ад дзяржаўных выдавецтваў? Ад першага і другога. А самае галоўнае – ён вольны гаварыць тое, што хоча. Ён малады. Гэта як недахоп, гэта яго і перавага над усімі, хто старэйшы за яго. Ён быў вольным з пачатку свайго з'яўлення. Адно, што яго і сёння няволіць, – гэта ўласнае «я». Яно ў яго на першым плане. Яно крычыць у яго кожным творы. А інакш і нельга. Шэпту ў нас ніхто больш не чуе. Нават і тыя, што ўсё жыццё шапталі і шапталіся.

Юры Гумянюк умее сябе паднесці. Ён – хадзячая самарэкляма. Не рэклама, а менавіта – рэкляма. Ён не баіцца сказаць, што ён геній. А ў нас, каб цябе прызналі геніем, інакш і нельга, бо навокал шмат літпапугаяў, якія будуць паўтараць твае словы.

Юры Гумянюк ведае, што яму сёння трэба. Ён хоча друкавацца. Яму трэба друкавацца. Яго хвалюе тое, што пра яго гавораць і што могуць сказаць. І ён не Юрась і не Юрка, а Юры. Святы Юры? Да святога вельмі далёка. І ці павінен быць святым паэт? Ён смяецца і насміхаецца. Ён спакушае і спакушаецца. І ён увесь у гэтым, і ў гэтым сутнасць яго паэзіі. Ён дуэлянт, які, робячы выклік саперніку, можа і не з'явіцца на дуэль, задрамаўшы ў абдымках пекнай паненкі. Ён хоча быць лідэрам, і гэта напісана ў яго на лбе. Ён крыўдлівы, як малое дзіця, якому абяцалі цацку, але ўсё не даюць яе. І ён бярэ сам тое, што яму трэба. Ён любіць сябе, ён любуецца сабой, ён паважае сябе, ён ведае сабе цану, і я, ведаючы яго, зусім яго не ведаю, бо ён Юры, а не Юрась і не Юрка.

P.S. Ці скажа Юры Гумянюк: «Я зусім не такі!»?

Віктар ШНІП

# ВІДЭАКЛІПЫ

*(Псіхадэлічнае літаратуразнаўства)*

**1**

**Вось я пасялю цябе ў сабе, і нікуды ты ад гэтага не ўцячэш. Расхіну нябачную прастору душы – і пакладу цябе, маленькага, у белым садзе пад яблыню, не ў белым тваім пінжаку, а ў тонкіх белых пялюшках... Якое чуллівае відовішча! Ты такі мілы мне! З гэтага і пачнём.**

**...Ты ляжыш на цёплай, сагрэтай сонцам, зялёнай траве, побач гудуць аксамітныя чорна-аранжавыя чмялі, а недзе воддаль – там-сям чырванее агністы мак. Усё яшчэ наперадзе – ты сам і твая паэзія.**

**2**

**О «гіерогліфы адваротнага боку жыцця неардынарнае асобы»!..**

**«...Не пад яблыняй, а на пяску пад пірамідай, – кажаш ты. –**
**Усведамляю, што бацькам**
**маім быў прыгожы Азірыс,**
**а маці – лагодная пані Ізіда...»**

**Мы – «узіраемся адно аднаму ў вочы-акіяны. Прагнем глыбіні. Хтосьці з нас падуладны. Хтосьці – уладар. Залатой сярэдзіны не існуе»...**

**3**

**Першую кнігу Юры Гуменюка «Водар цела» адкрывае верш «Зялёнае вока».**

**«Зялёным вокам» Прырода назірае за гульнямі (са словам!) сваіх дзяцей. Яно – быццам зялёнае сонца ў небе. Яно адно: і аднаго дастаткова, бо «зялёнае вока» – філасофскі сімвал, наіўная графічная выява гэтага сімвала.**

**Бывае, яно робіцца маленькім і бачыцца ў звычайных рэчах і рэчывах:**

**А вока зялёнае ў дробным**
**кілішку,**
**нібыта кавалачак цукру**
**ў гарбаце...**

**Алесь Аркуш, заснавальнік ТВЛ, асоба, якой Юры Гумянюк прысвяціў нізку вершаў, неяк прызнаўся, што мае на сотках свайго лецішча незразумелы бетонны слуп («Калосьсе», 1993, N 1). Для Алеся ён – «жывы стод»: «Я ажывіў яго. Праўда, слуп можа толькі бачыць – я намаляваў яму ВОКА».**

**«Зялёным вокам» Прырода назірае за гульнямі сваіх дзяцей...**

**4**

**Старажытная паляна.**
**Мы молімся ціха ў зялёным**
**сутонні.**
**І кожны трымае бурштын**
**на далоні...**

**«Бурштын» – у кожнага – сваёй формы. Кожны паэт мае сваё ўяўленне аб «першацагліне» пабудовы сусвету...**

**«Прырода гаворыць мовай матэматыкі; літары гэтай мовы – кругі, тохкутнікі і іншыя матэматычныя фігуры», – сцвярджае амаль наш сучаснік Галілео Галілей.**

**5**

**«Размалёваны гадзіннік» бачу часта на ручках сучасных дзетак. На цыферблаце – героі любімых мульцікаў (яркія жоўтыя, чырвоныя, зялёныя фарбы!). Або проста малюнкі-напамінкі, «калі спаць, калі ўставаць, калі работу пачынаць...»**

**Эх, шчаслівыя дні-гадзінкі дзяцінства! А як вырастаем, дык «у пяску шукаем пяціграннік» – што-небудзь «гэтакае», якоесьці «няправільнае цела»; у адрозненне ад класічных «правільных целаў», з якіх, як лічылі старажытныя грэкі, пабудаваны матэрыяльны свет (куб, актаэдр, тэтраэдр і інш.), пяціграннік у матэматыцы – заўсёды толькі «няправільнае цела».**

**Падрастаючы, дзеткі адчуваюць вар'яцкасць (разбалансаванасць) дарослага – сапраўднага! (?) – свету, пра што «святы Юры» піша ў сваім вершы «Псіхадэлічнае мастацтва»:**

**Толькі свет вар'яцкі чыніць**
**перашкоды,**
**абуджае вараў**
**АЛЬТЭРНАТЫВЫ.**

**Расплавіўся, як у Далі, і вось куды «пацёк» «размалёваны гадзіннік».**

**6**

**Юры Гумянюк – святы «ваяр АЛЬТЭРНАТЫВЫ». Ён, як святы Георгі на кані, – ударам кап'я прыціскае да зямлі ненавісную яму і, мабыць на ўвазе, усім старую канцэпцыю творчасці – «бесхрыбетную» змяю, у пазнейшых варыянтах – цмока.**

**Вершнік, які праціне кап'ём змяю, – вельмі старажытная выява. Яна ўзнікла ў драматычны момант чалавечай гісторыі, на зломе дзвюх культурна-рэлігійных фармацый і адлюстроўвае трыумф узброенага чалавека і яго новага ладу жыцця над ранейшым прыродным (касмічным) ладам, сімвалам якога была змяя, а таксама шчодрая рагуля, плодная свіння...**

**Юрам пісана: «Узнікае новая канцэпцыя паэтычнага светаадчування. Накшталт новае рэлігійнасці»... Пытаюся тваімі ж словамі: «Надта хочацца быць ваяром-цемрашалам»? Як там табе?, «на кані»? – «Тутака зусім іншае адчуванне. Зноўку знаходзішся ў статычнай паставе, набываеш пазамежнае забарвенне. А тыя, што ўнізе, ананімныя асобы з прыземленымі жаданнямі, хіба толькі ў сне прымаюць цябе за фараона».**

**Шкада толькі, што «менавіта ў гэткім наркатычным іншасвеце й нараджаецца новая канцэпцыя сучаснае творчасці»! У мяне чамусьці генетычны страх перад ідэямі, якія перамагаюць.**

**7**

**«Мяне даўно прывабілі егіпецкія піраміды. <...> Я й сёння захапляюся мастацтвам Старажытнага Егіпту», – прызнаецца Юры Гумянюк у сваім эсэ «Твар Тутанхамона». Гэты «Твар», як сфінкс, адкрывае ў другой кніжцы і сцеражэ ланцуг паэтавых пірамід-вершаў, у кожным з якіх, па ідэі, пахаваны свой фараон. У атачэнні пышнага багацця постмадэрнізму...**

**Далей развіць гэтую думку перашкаджае смех: у Амерыцы «фараонамі» называюць паліцэйскіх! За вочы, вядома. За іх заўсёды «расплюшчаныя вочы»... А што, блізка: таксама «ваяры»!**

**Не разумею, чаму на вокладцы самой кнігі «Твар Тутанхамона» Тутанхамон нейкі бязвокі, «нефараоністы»... Хіба што гэта «песня спаліла сфінксу вочы»?**

**8**

**«...хіба толькі ў сне прымаюць цябе за фараона».**

**9**

**«...Марскія хвалі змываюць некаторыя карціны, якія ты [ты!] любіш маляваць на пясчаным экране».**

**Маленькі босы хлопчык на пясчаным беразе мора. Забаўляецца тым, што назірае, як хвалі змываюць яго слядкі, а пасля – кропачкі, рыскі на вільготным пяску...**

**– Юрык! – паззвала маладая жанчына-маці. Азірнуўся на голас і пайшоў да яе... стары сівабароды дзед.**

**10.**

**У вершы «Тэлеграф» слова «электрычнасць» у адным радку і без знаку прыпынку злучана са словам «небяспечнасць». Вершы Юрыя небяспечна наэлектрызаваныя бліскучымі вобразамі: «жоўты агеньчык», «Вогненная Ружа», «агністы мак», «сярэбраны клык», «сонечныя сцэны», «цені... гарачы, як ведзьмы ноччу пры народзе», «ззяе вогненны парог», «раптам выбухне сэрца», «тунель да святла», «ажно ў вачах заззяюць аметысты»...**

**Можа, і сапраўды, «нас электрычнасць [сіла агністая] рухае ўвесь час»?**

**11**

**І разумею, і непакоіць мяне, што шмат «піва», «віна», «каньяку» ў гэтых вершах. Пералічваюцца як з «неад емнымі» прыметнікамі словы: «паэты п'яныя, старыя камуністы...» Адзін верш нават мае назву «Цела і віно» (сам верш вельмі цікавы). Трывожаць радкі: «Толькі мары ў галаве, нібы піва...», «Мы зразумелі: шчасце пад наркозам» і некаторыя іншыя.**

**Юры, сам ведаеш: *Хварэе* паэзія ў тлустай бутэльцы».**

**12**

**Вы ведаеце, «як чырванее пляма на зялёным»? Калі доўга глядзець на яе, а потым адвесці вочы – убачыцца зялёная пляма на чырвоным фоне. Гэта – завецца каханнем.**

**Вельмі прыгожа і нова для беларускай паэзіі гучыць у вершах Юры Гуменюка тэма кахання. Юрась Пацюпа неяк заўважыў, што ў нашай літаратуры «здаўна і трывала замацаваная ўстаноўка на татальны і паверхоўны этнаграфізм як адзнаку беларускасці». У кніжках «Водар цела» і «Твар Тутанхамона» мы знаходзім нешта іншае – «экзатычную любоў»:**

**Я тады выпадковыя літары**
**скрэслю**
**І цябе, экзатычную, ўвечары**
**высню.**
**.. ...........**
**І адбываецца містэрыя**
**кахання**
**па-за мяжой свядомасці**
**публічнай.**
**.............**
**Мы знаходзімся**
**немаведама дзе,**
**забыўшыся на Божы свет**
**і ўсіх астатніх.**

**Найбольш цікавыя для разгляду гэтай праблемы вершы «Экзатычная любоў», «Леапардавая шкура», «Вогнішча кахання», «Амарока», «Келіх». Верш «Келіх» – гэта выкшталцонае запрашэнне ў эратычны свет паэта, звернутае да жаночай асобы: «Прышпілі да сукенкі чырвоную ружу, зазірні асцярожна ў крыштальны сусвет. Нехта там, мне здаецца, гуляе нясмела...»**

**13**

**«... форма сцячэ, нібы мыла». У мастацкім творы яна настолькі скрыжаваная са зместам, што ўявіць сабе гэта «сцяканне» немагчыма. Як, напрыклад, уявіць, што знікла, «сцякла» вертыкальная рыса ў выяве крыжа: знікне сам «крыж» – твор мастацтва.**

**14**

**«Металёвыя рыфмы-цвікі забіваю...» Чаму так недалюбліваюць рыфму сучасныя паэты? Паэты-постмадэрністы, ствральнікі фантасмагарычных калажаў, склееных з выяў, «выразаных» з часопісаў усіх часоў і народаў?..**

**Рыфмы – гэта рытмы, а з апошніх пачыналася ўсё так званае «архаічнае мастацтва».**

**15**

**Назва «Водар цела» скарочана гучыць як ВЦ (вылічальны цэнтр). «Мастацтва змяшчае ў сабе ў няяўным выглядзе найбольш старажытную частку вядомай нам вышэйшай матэматыкі», – піша Герман Вэйль у кнізе «Сіметрыя». У аснове ўсяго ляжыць матэматыка, яе абстрактныя (?) законы. Юры Гумянюк – паэт-чыны звястун новай «постнеэўклідавай навукі». ПостпостЭўклід, постЛабачэўскі.. Гэта цікавей, чым постмадэрніст.**

**16**

**Толькі тое, што «праявілася», здзейснілася, адбылося тут, у матэрыяльным свеце. Падчас начной экскурсіі да помніка старажытнага дойлідства – знакамітага Полацкага Сафійскага сабора – (а гэта было ў праграме канферэнцыі «Альтэрнатыўная літаратура», у 1994 г.) мы з Юрам удваіх спускаліся ўніз, з гары, на якой стаяў сабор, па доўгай драўлянай лесвіцы, абліты электрычным святлом... Астатнія экскурсанты засталіся там, уверсе. Мы ішлі моўчкі. У атачэнні такой прыгажосці гаварыць нічога не хацелася...**

Канферэнцыя скончылася, скончылася апошняе яе мерапрыемства, нас чакаў вакзал... Я падумала: «Як гэта зыходжанне па фантастычна прыгожай лесвіцы – двух людзей, ноччу, у амаль незнаёмым горадзе – падобна да ўсёй экзатычнай паэзіі Юры!» І сказала яму аб гэтым унізе, на развітанне...

Потым нас дагнала хваля натоўпу.

17

«...шаноўны мой браце!..»

18

Ствол белай яблыні ў тым свяшчэнным садзе «спружынай развіцця» абвіла мудрая змяя (што потым – цмок, дракон...). У яе жаночыя вочы. Ты ведаеш яе – па старажытнай эмблеме лякарскай навукі. Недзе побач – на поўдні – у будучыні – твае піраміды...

Ты напісаў у вершы «Спадкаемца»: «Усведамляю, што я спадкаемца памерлых багоў...» Ружавокі дракон цябе вабіць:

Мае ён аксамітную скуру.
Я яго прытулю, як кабету...

Мудрая змяя з замілаваннем нахіляецца над маленькай істотай – табой – пад яблыняй, і ўжо не ты, а яна па-мацярынску пяшчотна табе кажа:

Ружавокі дракон,
мой маленькі,
спі салодка да лепшай
гадзіны,
спі, пакуль твой адбітак
ссівелы
люстраное захоўвае цела.

«Дабранач, рэвалюцыя, гудбай!»

19

Вось такая яна, «паверхня, што вастрэйшая за нож».

Тая матэматычна закручаная прастора...

Людка СІЛЬНОВА

# НАСТОІЦЦА Ў САРКАФАГАХ

Плыты беларускай паэзіі заносіць на імклівых паваротах Леты. Дый рухаюцца некаторыя з іх на фарсаванай хуткасці неапрабаваным фарватэрам. Абы не заброснелым старыком, дзе цвіце зялёная раска й крэхчуць лупатыя жабы. Але крый Бог не дагледзіць стырнік і ўзаб'ецца плыт на падступную водмель – гукай, лямантуй тады ў цемень начную, перакваліфікоўвайся ў бурлака. Рызыкоўная рэч – рухацца навобмацак. А калі ніхто з папярэднікаў бакен не запаліў? А ў кантовай дасавецкай бутэльцы, вылаўленай у хуткаплыннай рацэ, – цыдулка з прываблівa-мройнымі словамі: «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...» Яшчэ адна ідылія ў духу лятучага галандца.

Другім пасля Багдановіча на егіпецкія піраміды паклаў вока Юры Гумянюк. Сумовіцца з муміяй значна прасцей, чымсьці з сярэднестатычным беларусам. Як, мабыць, і ўвесці ў вушы фараону Тутанхамону, у чатыры разы старэйшаму ад Скарыны, што Гумянюк – самы выбітны паэта постсацыялістычнай эпохі на Беларусі.

У «псіхадэлічным мастацтве» Гуменюка мне імпануе разняволенасць, адсутнасць любога думкапаклонства (хоць гэтак улюбёныя ім фараоны, як вядома, не любілі панібрацтва). Але Азірыс, Ізіда, Ра, Дыяген, а ўперамешку з імі Ленін, Тувім і Гілевіч адной сваёй прысутнасцю наўрад ці змогуць намагніціць паэтычную прастору. Роля самога аўтара ў некаторых опусах амаль незаўважная. Распінаючы ненавісны сацрэалізм на «крыжы беларускай паэзіі» й дэманструючы зайздросную нястомнасць сваіх «зрокавых аналізатараў», Гумянюк шматкроць, з уласцівай яму апантанасцю, эксплуатуе зацяганы творчы метад «джамбулізм» – што бачу, тое з тым і сашчапляю. Каб не выраслі часам грушы на вярбе...

Але паэзія, адрасаваная фараонам, мусіць настоіцца ў саркафагах. Таму прапаную прэзідэнту Рэспублікі Беларусь пахадайнічаць перад егіпецкімі ўладамі аб кансервацыі вершаў Ю. Гуменюка ў пірамідах, часова зачыніўшы іх ад наведвальнікаў. Але няпэўнасць застаецца: ці дажыве хто, каб пакаштаваць іх гадоў праз тысячу...

Міхась СКОБЛА

# ГОЛАС З-НАД НЁМАНА

Сутыкаючыся з новай з'явай у творчым жыцці, прасцей шматзначна маўчаць і рабіць выгляд аўтарытэтна-недасягальнага сноба. Але ці варта адкладваць на потым, затойваць міжвольныя думкі аб гэтым новым, што сябе яшчэ не сцвердзіла, не выявіла дастаткова, але ўжо чакае жывога водгуку, бы кожны нованароджаны гук у адухоўленай прасторы? Тым больш, калі гэта паэтычная рэакцыя на адчувальныя зрухі ў сённяшнім жыцці, як у адносінах да таго, што хвалюе ўсіх, так і сябе самога.

У паэтычных спробах мо найхутчэй падзяліцца сваімі перажываннямі, калі яны не даюць спакою. Таму чакаеш шчырых галасоў, шукаеш іх у перыёдыцы, спадзяешся, што яны абавязаны чутна заяўляць пра





сябе. І спадзяванні не застаюцца дарэмнымі. Адзін з такіх самых экстравагантных галасоў належыць паэту, учарашняму выпускніку Гарадзенскага універсітэта Юрасю Гуменюку, аб вершах якога і аб горадзе, дзе ён жыве, маю жаданне выказацца.

Правакуе на гэта эпатажнасць парадаксальных метафар, гіпербал, алегорый яго вершаваных радкоў, якія выразна розняцца ад больш узважаных рыфмаванняў іншых літаратараў налётам эстэтычнага анархізму. Гумянюк у гэтым кідкім самавыяўленні выглядае вельмі «гарадзенскім», па-заходняму раскаваным. Характар горада, натуральным чынам, уплывае на яго спецыфічныя супярэчлівыя настроі і літаратурныя, так бы мовіць, «інтэнцыі» і «экзерсісы».

Першае ўражанне, якое робіць Гародня пасля Менска, – аазіс архітэктурна-гістарычнай захаванасці, шматслойнай, грунтоўнай, як і берагі ракі Нёман – абрывістыя, высокія, утвораныя напластаваннямі розных геалагічных эпох. За 50 апошніх гадоў, калі тут умацавалася змрочная і чырвоная ўлада, горад у параўнанні з іншымі абласнымі цэнтрамі і сталіцай Беларусі менш пацярпеў ад татальных разбурэнняў. Ведаючы гісторыю, тут можна «моўчкі размаўляць» з сівымі мурамі, вежамі, нат з нёманскімі хвалямі. Сумна іншае. Над усім гэтым вобразатворчым куткам навісла як бы свінцова-цяжкая хмара правінцыйнасці. Нягледзячы на ахвярныя шматгадовыя намаганні нешматлікай інтэлігенцыі, у Гародні нестае паўнавартаснага культурнага жыцця, якое б ускалыхнула большасць яго жыхароў ад беспрабудна-мяшчанскай санлівасці, млявасці. Аказваецца, можна жыць у атачэнні выдатных гістарычных помнікаў і быць абсалютна індыферэнтнымі да ўсяго, што адбывалася і адбываецца, апроч уласных бытавых праблем. Расслабляе многіх «крэсавая» самазахопленасць, ліхаманіць магчымасцю хуткага заробку кірмашовая «таўкучка». Універсітэцкая ж грамада, з якой паходзіць паэт, не можа падараваць гораду хоць крыху ад свайго інтэлектуальнага патэнцыялу, паўплываць на пашырэнне свежых думак, як гэта ўласціва ў кожным універсітэцкім заходнім горадзе. Сумная канстатацыя, якая патрабуе асобнай грунтоўнай гаворкі, выяўлення прычын яўных і прыхаваных. Але і актыўная адзінка, свядомая ў сваіх мэтах, можа мець немалое ўздзеянне.

Дык што можа абудзіць гэтую «спячую каралеўну» – пацалунак ці аплявуха зухаватага юнака? Спадзяешся на таго, хто не спяшаецца прыстасоўвацца, а робіць па-свойму, без спадзевак на агульныя апладысменты. Зрэшты, у такім канфліктным становішчы ёсць заўжды свае перавагі. Кантраст між каларытным гістарычна-захаваным асяроддзем, якое не можа не інспіраваць, і ардынарнай бязлікасцю замбіраванага ўсё яшчэ ладу існавання нашага народу, з чым немагчыма прымірыцца, правакуе да шокавых параўнанняў, нечаканых лагічных і алагічных высноў, пошукаў выйсця за ўсе «дапушчальныя» межы. Такі гарадзенскі клімат і незалежны характар неардынарнай паэтычнай тэндэнцыі, якая ўжо друкаваным чынам замацавалася за прозвішчам Гуменюка.

У 1992 і 1994 гг. ён падрыхтаваў і выдаў пры дапамозе і падтрымцы сяброў суполкі «Полацкае ляда» дзве кніжкі сваіх вершаў і эсэ «Водар цела» і «Твар Тутанхамона». Не чакаў чаргі ў дзяржаўных выдавецтвах, але вырашыў прабіцца да прызнання праз незалежны «самвыдат». Ужо адно гэта вартае ўвагі. Але няма залішняе рацыі гераізаваць такую маладзёжную ініцыятыву і ставіцца да яе вынікаў бескрытычна. Як кажуць, на вельмі салодкім можна сапсаваць самыя моцныя зубкі. А тут – яшчэ расці і расці маладому аўтару. А зважаючы, што ён не пазбягае насмешкі з усяго, што яму не падабаецца, то і зацікаўленаму чытачу, і зычліваму крытыку ёсць за што ў аўтара парадавацца і ёсць за што паўшчуваць.

Я ніяк не збіраюся праводзіць тут педантычную экспертызу напісанага ім на прадмет вызначэння дозы яго здольнасцяў ці проста «градусаў», пад уздзеяннем якіх ён кідаецца пісаць і піша нешта «блытанае» і часта вельмі «алагічнае». Бо ў сваіх тэарэтычных абгрунтаваннях аб прыродзе натхнення паэт часта спасылаецца на кілішак, куфаль і т.п. Каб не ведаў гэтага маладзёна ўжо некалькі гадоў, то мог бы паддацца на такую эстэтычную правакацыю і зблытаць даволі пашыраны прыём вобразнага параўнання з літаратурным заклікам да празмернага ўжывання моцных напояў. Зрэшты, не ў пансіёне для абстынентаў ён гадаваўся, а ў Гарадзенскім універсітэце, дзе ніхто не адмаўляе сабе часам павесяліцца з сябрамі.

Мяне прываблівае другое ў гэтым віхурыстым і чырванашчокім франце. Як нязмушана і жвава ён выплёхвае на паперу эмоцыі і асацыяцыі наконт свайго светаўспрымання без усялякага ўнутранага «стоп-крана». Закруціць галаву, ажно не паспець угнацца за нечаканымі зваротамі яго думак, як быццам не вершы чытаеш, а, сапраўды, хмельны кілішак перакуліў, што аж парушыліся ясныя і строгія абрысы рэальнасці. Але ў такім стане вобразы нашага жыццябыцця, скранутага з мёртвай кропкі, становяцца больш пазнавальнымі, жывымі, непасрэднымі. Ім можна даверыцца, не шукаючы фальшу, надуманасці. Яны атрымліваюцца ў паэта непрадказальнымі, бо ніколі невядома, чым ён пачне свой новы рыфмасплёт, а на чым спыніцца, каб працягваць здзіўляць далей. Нічога не зробіш. Гэта яму ўдаецца.

Яго не заўсёды разумелі. Меў малапрыемныя выпрабаванні падчас вучобы, калі па дробязях спрабавалі «паставіць на месца». Займаўся выдатна, вызначаўся літаратурнай ініцыятывай як складальнік студэнцкага выдання «Кола», нават вёў на абласным радыё беларускамоўную перадачу. Але перажыў непераадольныя

складанасці, каб нарэшце атрымаць залік па методыцы выкладання расійскай літаратуры! Толькі гэта ніяк не адпрэчыла яго ад вальналюбства.

Можа, каму было і няўцям, навошта студэнту аддзялення паланістыкі пісаць па-беларуску? Прагматычна прыкінуўшы – «ніякага навару». Такое рэдка бывае. Чарада паэтаў у асноўным папаўняецца з шэрагу выпускнікоў «белфака» і «журфака» Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Таму лірычнае дапаўненне з іншага гняздоўя вельмі цешыць. Гэта спрыяе яму крыху ў іншым кантэксце зірнуць на творчасць Цвятаевай і Буніна – своеасаблівых апосталаў пяра для менскай літаратурнай моладзі, далучыцца да непараўнальна шырэйшай інфармацыйнай прасторы. Польскамоўныя крыніцы ў адрозненне ад расейскіх не засыпаюць няшчасных бібліяфілаў мільённымі тыражамі ідэалагічнай, а апошнім часам і таннай камерцыйнай маны, а знаёмяць з многімі здабыткамі айчыннай і сусветнай культуры, навукі, педагогікі. Кажам айчыннай у адносінах да польскай, бо вялікі мацярык нашай польскамоўнай беларускай культуры ажно да сярэдзіны XX ст. існуе амаль не раскрыты. Ёсць дзе шукаць, даследаваць і разнявольвацца, быць незаштампаваным. Гумянюк, на шчасце, мае такую рэальную магчымасць. І гэта тое-сёе тлумачыць у характары яго смелых навацый.

Пра што піша Гумянюк? Нейкай вузкаакрэсленай тэматыкі не трымаецца. Ідзе нават за выпадковым вобразным словазлучэннем, яго мелодыкай. У цэлым жа яго вершы не пазбаўленыя агульнага настрою, цэльнасці. Мазаіка асацыятыўных абразкоў часта складае жывы зрэз шырокіх жыццёвых рэфлексій, а то і трапнага пранікнення ў нейкія прыхаваныя ад павярхоўнага аналізу і адчування сферы падсвядомых блуканняў чалавечых думак. Гэта перажывае кожны чалавек, не аддаючы сабе «справаздачы» ў блытаніне сваіх суб`ектыўных перажыванняў, атаясамленняў, што ўспыхваюць і згасаюць у галаве, як цьмяныя агеньчыкі.

Гумянюк адчувае, што ў гэтым самакапанні можа дасягнуць вельмі шматзначных параўнанняў, і не баіцца паказацца смешным, інфантыльным. Нават спрабуе падвесці тое пад тэарэтычнае абгрунтаванне, называючы свой падыход «псіхадэлічным мастацтвам». Прасцей кажучы, паэт піша без кантролю «самарэдактарства». Вядома, гэткім чынам лягчэй атрэсціся ад розных клішэ і стэрэатыпаў, навязаных застойным менталітэтам нашага грамадства. Тое ўжо спрабавалі творцы дадаізму, беручы на ўзбраенне абсурд формы выразу. Але цяпер не такія ўжо і трагічныя часы, і «дадаістычны хмель» ужываецца «псіхадэлічным» першапраходцам толькі для затраўкі.

У трывожна-цьмяных адчуваннях маладому паэту яшчэ не хапае ўласнага фантасмагарычнага візіянерства. Таму ён міжволі цытуе з арсеналу рэтрасімвалізму – «у калодзеж кінуць сатанінскае дзіця» і іншыя надуманыя жахі, хутчэй з практычнага і ўбачанага з «відзікаў», чым са свайго ўсвядомленага вобразнага Апакаліпсіса.

Такі ўзрост, што цяжка ўтрымацца ад экзатычнага сентыменталізму ўперамешку з яўнай пыхлівасцю, калі яго раптам «пачынае вабіць ружовы дракон», якога хочацца прытуліць, як кабету, і да т.п. Дапісаўся, дафантазіраваўся і да «вастразубых дзяўчын-пантэр», з якімі наважваецца счапіцца на «леапардавай шкуры»! А пэўна, падсвядомасць лягчэй даследаваць з больш вабнай «сінявокай музай», калі, дзякаваць Матухне-прыродзе, маем на нашай зямлі гэтулькі натхняльніц!?

Прачытаўшы некалькі дзесяткаў яго вершаў, хай сабе няроўных, нават спрэчных, застаецца пачуццё радасці. Нарэшце жывы зрух, патрабаванне паэтычных правоў на ўсёдазволенасць. Нам што, гэтага цяпер хапае?! А тут яшчэ іронія, здаровая ўсмешка адносна ідэалагічнага табу, фетышаў у радках аб «маўзалеях», «старэйшых братах» і іншых «хімерызмах», што, на шчасце, непрымальна для паэта ў якасці «творчага матэрыялу». Цытаванне розных сацэпахальных «крылатых выразаў» у кантэксце ўласных выразаў – свайго роду паэтычная вакцына супраць розных рэаніматарска-некрафільскіх вірусаў, якія ўсё яшчэ могуць пагражаць замбіраванаму асяроддзю. Але трэба ведаць меру. Навошта засмечваць сваю паэзію featuring рознымі аскепкамі ідэалагізаванай тэрміналогіі? Лепш выдумляць неалагізмы накшталт псіхадэлізму.

Значна больш актуальна для прадстаўніка новага пакалення літаратараў выпрабоўваць гучанне беларускай мовы ў сутыкненні са старажытнымі – егіпецкай, асірыйскай – ды іншымі. Бо яшчэ рэдка адбываецца ў нашай культуры сувязь са светам. Выдатна, калі паэт піша пра Ісіду, Тутанхамона, абрынаецца ў розныя старажытныя персаніфікацыі. Але не варта яму блытаць боб з гарохам, будуючы піраміды з піўных бляшанак, ці, мяшаючы святое з амаральным і прадажным,– «прыбіваць сацрэалізм да крыжа беларускай паэзіі». Цынізму ў нас і так дастаткова. Хай новае і маладое ратуе нас, цягне як мага далей ад розных шклянак ды бляшанак, хай хмяліць і ўзвышае нас «наркатычнае мора» паэзіі.

І калі гэтага віхурыстага і нязгодніцкага Гуменюка такое «мора» не выкіне на бераг, то хай і далей апранае маску Тутанхамона, лётае, як фанера над Парыжам, і гарыць на вогнішчы кахання. Самае галоўнае сёння – абудзіць Яе Вялікасць Паэзію, а для гэтага апрабаваных і хрэстаматыйных сродкаў яўна не хапае. Назваўся псіхадэлістам – шукай новых!

Яўген ШУНЕЙКА





# ПАЭЗІЯ ЦІ ПОЗА?

## або Некалькі праекцый на вершатворчасць Ю. Гуменюка

*РАКУРС ПЕРШЫ. Ушанавальны і кампліментарны*

Юры Гумянюк – рэвалюцыянер у сучаснай вершатворчасці. Напрыканцы зборніка «Твар Тутанхамона» (1994) ён з упэўненасцю канстатуе: «Гэта кніга ёсць апошні металёвы цвік, якім я прыбіў сацрэалізм да крыжа беларускай паэзіі». Ю. Гумянюк паўстае бунтаром ля ціхага высознага дому айчыннай літаратуры. Ён, нібы рокер, які поначы на матацыкле без глушыцеляў носіцца побліз гэтага літаратурнага гмаху. Тыя, хто, вобразна кажучы, жывуць на яго верхніх паверхах або шчыльна зашклілі лоджыі, не чуюць рокату маладога творцы. Іншыя ці то самазабыўна спяць волатаўскім сном, ці то махаюць рукой, маўляў, усё гэта проста хуліганства, але пры сённяшняй анархіі няма каму прымаць меры.

Ю. Гумянюк свой сярод сваіх: тых, хто залічвае сябе да «паэзіі новай генерацыі» і нібыта ўзяўся апантана расчышчаць ляда ды закладваць падмурак супермадэрновага дома на ўзор еўрапейскай архітэктуры. Гумянюк – апостал беларускага мадэрнізму пры канцы XX ст. Ягоныя паводзіны на «літаратурным праспекце» – гэта своеасаблівы фарс, «перфаманс» ці, інакш кажучы, спектакль паэта-блазна, які свавольнічае, бянтэжыць, жангліруе словам без усялякіх схемаў і правілаў. Свабода творчага самавыяўлення – ягоны галоўны прынцып. Ён не жадае быць такім, як усе, складае экстраардынарныя вершаграмы, у якіх пануе вобразна-стылёвы вэрхал. Ю. Гумянюк сваімі творамі ў беларускай паэзіі адмаўляе звыклыя салаўіныя свісты, дзятлаў барабанны стук, не злівае ўласны голас ва ўнісон з гэтымі зыкамі, а ўсчынае какафонію. Ён бунтуе супраць замаскаванага сучаснага канфармізму, дэманструючы свой іншасвет – свет, дзе пануе вобразна-стылёвы тлум, гарэзлівая гульня, слоўны рок-н-рол. Ягоны стыль зніжана-парадыйны і, разам з тым, крыкліва-прэтэнцыёзны. Нельга не адчуць, што радыкалізм маладога мадэрніста нясе антыафіцыйную скіраванасць. Ён арганічна не прымае літаратурнай казёншчыны і падзёншчыны, «табеля аб рангах». Як падаецца, за сваю вершатворшасць, «псіхадэлічнае мастацтва» (так яго вызначае сам аўтар у падзагалоўку да кнігі «Водар цела», 1992) Ю. Гуменюку не суджаны ў будучым ушанавальныя лаўры лаўрэата чарговай Дзяржаўнай прэміі ці каранаванне ў народныя паэты. Кнігі Ю. Гуменюка – свядомы пратэст супраць уніфікацыі паэзіі і творцаў, і яму, мажліва, некалі ўздасца належнае за тое, што сёння ён вось такі, а не іншы. Хоць гэтак праз гадоў ...наццаць, бадай, ён зірне на сябе ранейшага з усмешкай.

*РАКУРС ДРУГІ. Крытычны і крыху іранічны*

Пасля знаёмства з «Тварам Тутанхамона» ўзнікла ўражанне, што аўтар кнігі прабыў гадоў гэтак з восем-дзесяць у летаргічным сне. А на пачатку-сярэдзіне 90-х прачнуўся, азірнуўся вакол і «выбухнуў» гневам супраць сацрэалізму, які застаўся дзесьці на задворках мінулага. Аднак поза бунтара-пагромшчыка яму ўпадабалася настолькі, што ён стаў заўзятым магільшчыкам сацрэалізму. Не хачу выглядаць апалагетам гэтага метаду, тым больш прыкладваць намаганні рэанімаваць яго, але не згодны, што сацрэалізм – той жахлівы монстр, які спустошыў ніву паэтычнага мастацтва. Так, была нівеліроўка, канфармізм, кан'юнктура. Але бачыцца і іншае – сцвярджэнне маральна-этычных ідэалаў, прага святла і цнатлівасці, сумленнасці і чалавечнасці. Няхай сёння Ю. Гумянюк як творчая асоба незалежны, сам сабе пан, але тое, што яму бракуе ўнутранай культуры самавыяўлення – факт відавочны. Ён нібы забыўся на «рэфлектыўны традыцыяналізм» (С. Аверынцаў) – спаконвечныя традыцыі красы і духоўнасці нашай паэзіі і трапляе ў палон вульгарнага натуралізму, дэманструе прымітыўны густ. Яго паэтычныя формы зазвычай пазбаўлены духоўнай вартасці. Пра ніякую эстэтыку, вытанчанасць і гаварыць не даводзіцца. Вось два прыклады ягонага пошуку новых вобразаў і вобразных сродкаў (хай чытач даруе за гэтае цытаванне):

*Не ўспамінай пра*
*шэры-брэндзі-ананасы,*
*асветліць шлях*
*нам Лямпа-Ільіча.*
*Згніюць дашчэнту ўсе*
*буржуі-підарасы,*
*спазнаўшы кшталт*
*Дамоклава мяча*
**«Заклік камсамолкі»**

*Твой лірычны герой*
*не ўмірае,*
*сцяўшы зубы стаіць*
*на каленях,*
*цвёрды фалас сліной*
*навільжняе,*

*нібы так запаведваў*
*сам Ленін.*
**«Акт»**

**Хай распластаюцца прыхільнікі мадэрновай элітарнасці ў рэверансах перад Ю. Гуменюком, абвяшчаючы падобныя радкі «новай» паэзіяй, а я інакш гэта не назаву як вершаванай брыдотай, якая не мае аналагаў у цнатлівым і пакутлівым беларускім паэтычным мастацтве. Навошта з нашай нацыянальнай паэзіі рабіць распусную дзеўку? Сацрэалізм быў народжаны да жыцця ідэалагічным прымусам, і таму паэзія выракалася сваёй мастацкай прыроды, яе падманвалі і бязлітасна гвалцілі. Дык навошта ёй, удыхнуўшай духоўнай свабоды, калоць наркотыкі дурману і ачмурэння? Шлях, які паказвае Ю. Гумянюк, зманлівы для маладых, але ён бязмэтны, тупіковы. Праўда, тут трэба сказаць, што я не супраць эрасу ў паэзіі. Эратычныя пачуцці – вулкан творцы і паэзіі ўвогуле. Інтымныя перажыванні, выказаныя з гранічнай шчырасцю, вобразна-прачула, кранаюць заўсёды:**

*Адчаго не была ты ў юнацтве*
*імклівай ракой?*
*Я б аддаў табе ўсе свае хвалі,*
*каб зліцца з табой.*

*Адчаго я не полымем быў,*
*калі быў юнаком?*
*Я б прайшоў праз усе твае*
*пушчы*
*кіпучым агнём.*

**Гэта радкі з верша Аркадзя Куляшова «Ты і я», якія пісаліся амаль у адзін час з ягонымі «Камуністамі». Хоць і бракавала эрасу ў нашай паэзіі, але не была яна ў часы сацрэалізму абсалютна бясполай ды фрыгіднай. Самае таемнае выпявалі паэты, выказвалі любоўныя згрызоты, памятаючы пра тое, што існуе мова вобразных алегорый, сімвалаў, эўфемізмаў, ёсць мяжа чалавечай прыстойнасці, нават табу. Ю. Гумянюк густа змешвае палітыку і чарнуху, інтым і бруд:**

*Абсалютна новыя крэацыі:*
*а гадзіне ночы – фасцынацыя,*
*раніцай – другая мастурбацыя,*
*а на працы – дэкамунізацыя.*
**«Дзень, як тыдзень»**

**Вершатворца жадае прышчапіць паэзіі нейкі вулічны, дваровы «мадэрн». Хаця, можа, я і памыляюся, не разумею вершаванай эклектыкі і творчых высілкаў Ю. Гуменюка. Гэта ж ён такім чынам ажыўляе беларускае мастацтва, ставіць эксперымент, дапамагае пазбавіцца савецкіх комплексаў.**

**Уяўляю, як у эфектнай позе, самаўлюбёна наш айчынны мадэрніст прыцвікоўвае на Галгофе да крыжа беларускай паэзіі сацрэалізм. Пачуваю сябе ніякавата, бо не ведаю: смяяцца ці плакаць. Міжволі згадваю радкі з верша «Народны паэта» ў дачыненні да выратавальніка-месіі гаротнай беларускай мовы:**

*Я ўпаду перад ім на калені,*
*і забудуцца дрэнныя дні.*

***РАКУРС ТРЭЦІ. Аптымістычны і крыху дыдактычны***

**Ю. Гумянюк – паэт, не абдзелены на талент. І найбольш ярка ягонае творчае «я» выявілася ў зборніку «Водар цела». Вось дзе дае знаць пра сябе паэзія як краса слова і краса формы самавыяўлення. Уражвае пластыка, магія радка, музыка пачуццяў, выказаных з эстэтычнай віртуознасцю ў вершы «Твая Венецыя»:**

*Сівое неба, як Венецыя ў віне,*
*А хмары – дзюбаносныя*
*гандолы –*
*плывуць, нібыта вучні з новай*
*школы,*
*куляюцца ў расчыненым*
*вакне.*
*І чараўнік майструе хмарачос,*
*які да сонейка павінен*
*дакрануцца.*
*Навокал травы калыхаюцца*
*і гнуцца,*
*ствараюць штохвіліны*
*дзіўны мост*

**Гэты верш напісаны ў духу Верленаўскага жывапісу, ён, без перабольшання, з'яўляецца анталагічным. Эстэтычную асалоду пакідаюць творы «Эпіцэнтр», «Мяжа», «Экзатычная любоў». Імпануе і спроба відэакліпаў, хоць яны і выглядаюць дэкаратыўна. Паэт у «Водары цела», як бы крытычна мы ні ацэньвалі ягоныя творы, абвострана выяўляе несамадастатковасць паэзіі як мастацтва, дэманструе арыгінальнасць паэтычнай псіхатэхнікі пісьма, сутнасць якой заключаецца ў выяўленні суб'ектыўнасці ўражанняў. Ён адчувае, што «мы ў трансцэндэнтным круцімся штоноч», захоплены працэсам саманазірання і самараскрыцця. Калі ў вершы паэта бярэ верх эстэтычная выкшталцонасць эмоцыі, псіхааналіз, эталагічнае сузіранне, то там і захапляешся Ю. Гуменюком, адчуваеш яго сапраўдную аўтарскую індывідуальнасць. Не, зусім не хочацца падвёрстваць гэтага паэта пад некага, каб ён упадабняўся, скажам, а-ля Разанаву. Проста жадаецца, каб Ю. Гумянюк быў годны свайго таленту, памятаў, што паэзія – гэта той «дух аднаго індывіда» (Гегель), які здольны стварыць новы свет думак і пачуццяў. Сацрэалізм – ужо леташні снег, сёння ж, кажучы словамі паэта, «для духа нет оков» (Я. Баратынскі). Таму неўвядальнае толькі прыгожае і вечнае, духоўнае і эстэтычна самабытнае.**

**Крытычна-аптычныя**
**назіранні вёў**
**Алесь БЕЛЬСКІ.**



# Эльке ЭРБ | ЯНА



*Калі зыначаны позірк кошкі*
*набывае кшталт чалавечага,*
*ці не магло б змяніцца,*
*зыначыцца тое,*
*што робіць з нас чалавека?*

*Пра Яе*

# МАЯ СЯСТРА ЭЛЬКЕ ЭРБ

# *ВЕРШЫ*

*Пра Яе*

# МАЯ СЯСТРА ЭЛЬКЕ ЭРБ

Эльке Эрб Паэтка, аўтарка некалькіх кніжак лірыкі і кароткай прозы, лаўрэатка прэміяў Петэра Тухеля (1987) і Генрыха Мана Нямецкай Акадэміі Мастацтваў (1990) Нястомная перакладчыца твораў слынных расійскіх паэтаў – ад Пушкіна да Пастарнака, аўтараў іншых краінаў – Грузіі, Італіі, а ў апошнія гады –і Беларусі

Эльке Эрб. Яна ўвайшла ў мой жыццёвы і творчы лёс са шчодрага на сонца і золь траўня 1992 года, калі разам з гурцікам пісьменнікаў я мела радасць удзельнічаць у Тыдні беларускай літаратуры ў Берліне Нашым прытулкам там была густоўная, даладная віла на беразе Ванзэе – сядзіба Literarisches Colloguium, арганізацыі, клопат каторай – налада ўзаемінаў з прадстаўнікамі так званых «малых літаратураў» На наступны дзень па нашым прыездзе ў ФРГ у канферэнцзалі гэтай установы планавалася творчая сустрэча Адама Мальдзіса, Васіля Быкава і аўтаркі гэтых радкоў з нямецкай грамадскасцю. Норберт Рандаў, званы прафесар-славіст і бліскучы перакладчык, папярэдзіў, што некалькі маіх вершаў перастварыла панямецку Эльке Эрб і сама прачытае іх на вечарыне.

Спадарыня Эльке прыйшла за гадзіну да імпрэзы Яна энергічна атрэсла і склала мокры парасон (на вуліцы дажджыла), прыязна перазнаёмілася з усімі, каго бачыла ўпершыню, і шырока расхінула абдымкі насустрач ужо добраму свайму знаёмцу Алесю Разанаву. Сярэдняга росту, хударлявая, проставалосая – з грыўкай па бровы, з уважлівым

*ДАЛЕЙ НІЧОГА,*
*Я ІДУ*
*ДАЛЕЙ*

**Ігра на фартэп'яна гэта рэакцыя на фартэп'яна.**

**(У каторы ўжо раз: Я сяджу ці ляжу ўдома**
**і прамаўляю ў думках:**
**Я ХАЧУ ДАДОМУ.**

**Гэтак жа я магла б сказаць: Я ХАЧУ ПАМЕРЦІ.**
**Абодва сказы не маюць на ўвазе тое,**
**пра што яны кажуць, абодва яны –**
**ігра на фартэп'яна.)**

*СЕРАНАДА*

**Хоць думаю я: Як з часцінкаю –**
**так і з цэлым!**
**Адначасна! Сумесна!**

**(Ніколі інакш. Толькі так.**
**Так нясхісна. Зацята!),**

**хоць думаю так я (вечна так:**
**Як з часцінкаю –**
**так і з цэлым!)**

**не ведаю ж анічога,**
**невядома нічога**

**пра Даванне & Бранне.**
**Псоту. Успадкаванне.**
**Жыццё & Быццё.**

**Гэткія думкі мае – таксама Прырода.**
**Значыць, любіш сукупнасць ты, значыць, кожнага,**
**і любоў твая – палкая, ўдалая!**
**Не крадзі шчасця!**
**І няшчасце**
**месціцца**
**у недзялімай матэрыі.**

**І я заўжды так думаю,**
**як фізіка.**

**Нават рэч нежывая**
**уласнай вагою**
**сцвярджае гэта.**





*ВЯЛІКАЕ І МАЛОЕ.*
*ПРЫВАТНАЕ І АГУЛЬНАЕ.*

**Не здавольваюся малым, прыватным,**
**не бачу вялікага.**
**Бо спазнаю яго тут,**
**калі яно паўстае прад вачыма.**

**Гэтак горны масіў,**
**калі толькі падножжа яго ў полі зроку,**
**апынаецца**
**вонкі ахопу. Выява яго**
**узнікае на якімсь павароце, не**
**абавязкова ў дарозе. Імкнуся**
**да разгляду, а не**
**маю ўразлівага адчування,**
**што супыняюся на малым, і вялікае**
**застаецца вонкі ўвагі,**
**і па-ранейшаму (датычна аблічча**
**існага) пад пагрозай быць не спазнаным,**
**і нават не спасцярожаным.**
**Позірк на вялікае, каторае потым**
**стаецца хутчэй агульным, а не вялікім,**
**выяўляе яго па-за супынкам**
**як складанасць!**

*НЕ, НЕ ТОЕ,*
*ШТО ТЫ ДУМАЕШ!*

**І не тое, што думала я!**

**Віслае**
**на душы альбо**
**на раніцы,**

**у залежнасці ад варункаў стаецца**

**нечым, накшталт кардонкі,**
**змесціва якой – старая гумка,**
**прышпілка, пара ігральных картаў,**
**кароль, туз, скручаная**
**ручка шарыкавая, скумат шоўку, розныя**
**ключы ды іншы падобны скарб,**

**мізэрна ажыўлены мурашкамі,**
**ды няўгледна**
**пажыраючымі кляшчамі.**

**Ну, а як думаў ты?**

позіркам светлых вачэй з-за тоўстых шкельцаў вялікіх акуляраў і шырокай усмешкай на твары, яна адразу развеяла маё завочнае меркаванне пра немцаў і немак як пра стрыманых, «зашпіленых на ўсе гузікі» самаздаволеных асобаў Годную разняволенасць добразычлівых пачуццяў у стасунках з намі выяўлялі потым усе нашыя новыя знаёмыя Ад паэтаў жа, мусіць, сама іхняя натура вымагае ўразлівасці і адкрытасці. І як тут не прыгадаць другую сустрэчу з Эльке Эрб ужо ў Мінску, у чэрвені гэтага года, калі на наступны дзень пасля нашай сумеснай літаратурнай вечарыны ў Доме літаратара яна зайшла да мяне ў гатэльны пакой і стала расказваць, як а палове восьмай ранку ўжо хадзіла па набярэжнай і бліжэйшых да гатэля вуліцах і ўглядвалася ў прахожых у спадзяванні ўбачыць хоць адно знаёмае аблічча. «Дзе яны, мае ўчарашнія людзі? Як бы я кінулася да іх сёння, як бы абняла іх усіх – ужо блізкіх мне, зразумелых, родных!» – ускліквала ўзбуджаная спадарыня Эльке.

А ў творах сваіх паэтка Эльке Эрб такая спакойная, разважная, няўзрушная: не паэзія, а тэарэтычныя выклады, дыстыляванае разумаванне наконт вялікага і прыватнага, часцінкі і цэлага І гэта было б праўдай, калі б паэзія мела наканаванне толькі канстатаваць падзеі ці, у лепшым разе, тлумачыць свет Эльке Эрб свет *стварае*. Сама паэтка з усмешкай сцвярджае, што яна мае вельмі нязначнае дачыненне да ўласных твораў, што іх дыктуюць ёй «гномікі з нейкага крышталёвага падземнага палаца» і яна ніколі не ведае наперад, калі і якія радкі з іхняй дыктоўкі змушана будзе занатаваць на паперы. Ці не адсюль элітарна-медытатыўны характар паэзіі Эльке, заўсёдная падтэкставасць і пункцірнасць, перарывістасць ейнага пісьма? Ці не тут корань чытацкага ўражання, што

ўся творчасць Эльке –гэта «рэакцыя на фартэп`яна», «ігра на фартэп`яна», рэгламентаваная не нотамі, а ладам і сэнсам музыкі, дапалай да ўнутранага слыху выканаўцы і ў выглядзе імправізацыяў аддаваная ўсім, хто захоча і зможа прыўласціць гэты свет? Але апошняе магчыма толькі пры ўмове сутворства. У вершах Эльке Эрб столькі прасторы, што почасту губляешся ў ёй, не знаходзячы, на што абаперціся Стаўка паэткі – на саўдзельную разумовую і душэўную працу чытача, на тое, што ён, субяседнік, уласнай уявай давершыць, дамалюе карціну, абазначаную аўтаркай пункцірам, зашыфраваную шматкроп'ем Запросіны да думання набываюць часам даволі мудрагелістую форму, хоць вонкава яны ўвасоблены ў нібыта дужа простыя, «прастакутныя» ці «лінейныя» канструкцыі Нямецкамоўнаму чытачу, мажліва, і не надта складана прыняць правілы гульні, прапанаваныя паэткай А вось перакладчыку на іншыя мовы даводзіцца пераадольваць немалыя цяжкасці Эльке Эрб выключна нязмушана пачувае сябе ў роднай моўнай стыхіі, вольна абыходзіцца з граматыкай і лексікай, беспярастанку эксперыментуе, творыць новыя словы і паняцці, агульнавядомыя ж выразы і фразы почасту напаўняе зусім новым сэнсам. Праз тое і нялёгка чытачу (а перакладчык перадусім чытач, канечне) адшукаць у вершах Эльке «жывую ваду» паэзіі, тую акавіту, той «чысты элемент жыцця», якога, як заўважае сама паэтка, «бракуе нам усім, ува ўсім і ўсюды» Чаго ж бракуе нам, людзям? Перш за ўсё, бадай – веры ў сябе, у моц светлага, боскага пачатку ў кожнай чалавечай істоце Мы не ўсведамляем належна ані сваёй знітаванасці з акаляючай арганічнай і неарганічнай прыродай, ні сваёй вылучна важлівай ролі на эвалюцый-

## *НАША*

**колісь, у доме**
**з відам на Сямігор'е:**

**На першым паверсе справа**
**у закутку на саломе ляжала,**
**стаяла і ела з карыта**

**сапраўдная белая каза.**

## *ПАДАРОЖЖА ПА СЛЯДАХ*

**1 Раней быў замешаны кот.**

**2 Тады маем вось гэта:**
**Я, мая кошка. Мая кошка, я.**
**Мы жывем у вёсцы, мы п'ем малако.**
**Наш кукарэка стаіць на варце.**

(1975)

**3 Кошка мінала мяне, ішла ў дом.**
**Яна была котная.**
**Позіркі нашы сустрэліся.**
**Абмяняліся тым,**
**што стаяла ў вачах дзіцянятаў,**
**чый позірк быў амаль чалавечы.**

**Дзіцянё перад самым акотам**
**ужо не проста й не толькі дзіцянё.**
**Кошка перад самым акотам**
**ёсць кошка перад самым акотам.**

**Лёгкі звіх у маім засяроджанні**
**распашырваўся бы кукарэку**
**гуманітарнае анталогіі.**

**4 Кошка мінала мяне, ішла ў дом**
**поніз, там, дзе яна ішла.**

**У кошкі быў вялікі жывот**
**поніз, там, дзе яна ішла.**

**Кошка ішла і ў сваю прышласць**
**поніз, там, дзе яна ішла.**

**5 І вось я думаю:**
**Калі зыначаны позірк кошкі**





**набывае кшталт чалавечага,**
**ці не магло б змяніцца, зыначыцца**
**тое, што робіць з нас чалавека?**

**Мяне цікавіць ураўненне.**
**Мяне абяззбройвае знак роўнасці.**
**Мяне ўзрушвае таўталогія.**

**Усякая добрасць трыадзіная,**
**праз тое яна і добрасць.**

## *«НАС НІХТО НЕ ЗМУШАЎ»*

**1-шы сведка: Нельга было, я рабіў**
**гэта ахвотна, па ўласнай волі,**
**з поўным перакананнем,**
**як лёгка захопчывы юнак.**

**2-гі сведка: Нельга было, я, да прыкладу,**
**рашуча адмовіўся,**
**і ўсё-такі выжыў, я**
**насампраўдзе й дагэтуль я.**

**3-ці сведка: Нельга было, магчыма,**
**Я баяўся. А можа, і не.**
**Яны бралі мяне на шантаж.**
**Я зусім не баяўся.**
**Магчыма. Без іх бы**
**лепей, напэўна, яшчэ лепей**
**без іх я, магчыма, пражыў бы.**

## *ПАЗАЧАСАВЫЯ КАРОВЫ*

**Мычаць каровы за маёй спіною**
**у той час, як я гаманю з суседкай.**

**І каровам хочацца кожны дзень есці.**
**Нядольніцам агульнаеўрапейскага рынку.**

**Мычаць. І сумленню няма як маўчаць.**
**І яму няма калі адпачываць.**

**Пазачасавая нядзеля**
**святам была б для сумлення.**

ным шляху нашага касмічнага асяроддзя і саміх нас як асобаў, надзеленых свядомым розумам, правам і магчымасцямі вызначаць шляхі развою цывілізацыі Эльке Эрб нагадвае пра гэтыя праблемы. «Мілы, я думала, ніякіх няма ў мяне братоў у полі, братоў у полі» («Васілёк, спарыш, мак-самасейка») «Не крадзі шчасця! І няшчасце месціцца ў недзялімай матэрыі» . («Серанада») «І вось я думаю· Калі зыначаны позірк кошкі набывае кшталт чалавечага, ці не магло б змяніцца, зыначыцца тое, што робіць з нас чалавека?» («Падарожжа па слядах») «На першаплане маіх зацікаўленняў узнікае немец. Ці не чыніць ён псоты нам, калі ўгрунтаванасць яго квітнее, ці не паразітуе ён?» («Перспектыва ў лютым»).

Мастацтва валодае магутнай уладай няўгледна бурыць умоўнасці прасторы і часу, надаючы існасцівым духоўным, этычна-эстэтычным каштоў насцям любой нацыі кшталт агульначалавечага скарбу

Эльбе Эрб жыве і творыць у значна адрозным ад беларускага грамадскім, сацыяльна-палітычным, культурным кантэксце роднай Нямеччыны, аднак ейны творчы наробак, нягледзячы на яшчэ толькі асвойваную нашай традыцыйна песеннай паэзіяй мыслярскую форму, выяўляецца зразумелым і патрэбным і нам

Дзякую лёсу і спадарыні Эльке Эрб за нагоду і мажлівасць нашага даверлівага паэтычнага суразмоўя Мы грунтоўна рознімся і фізічным, і творчым аблічам Але важлівае не гэта Светлае мыслетворства нямецкай паэткі дазваляе мне шчыра прызнаць яе сястрою І хай будзе так!

**Ніна МАЦЯШ**

## *ПЕРСПЕКТЫВА Ў ЛЮТЫМ*
***(адказ на адну анкету)***

**Не хачу думаць**
**пра магчымую заўтрашнюю бяду,**
**хай сабе гэта і не тыпова.**

**Не магу не думаць**
**пра затручаную прыроду вакольнага свету**
**і збэшчаную прыроду чалавечай дзейнасці.**

**На першаплане маіх зацікаўленняў узнікае немец,**
**сустрэча, якой я радая;**

**трэба яго вывучаць:**
**Ці не чыніць ён псоты нам,**
**калі ўгрунтаванасць яго квітнее,**

**ці не паразітуе ён?**

## *ПРА ЗІМУ*

**Тваё пісьмо гэта якісьці новы краявід, кажу я.**
**Бо ўсюды, думаю, акольвае мяне, бы краявід.**
**Такое вось напрошваецца параўнанне. Чаму я не маўчу?**
**Яно даходзіць так, бы ў рэху?**

**І гулка весціць, мне здаецца, пра зіму.**
**Што краявідам новым тым, яно галёкае, будзе зіма.**
**Зябка? Сумеўшыся, спыняюся, задумваюся,**
**і раптам цямлю, яно не мае азначаць,**

**што: «Новы краявід гэта зіма», канечне,**
**а: «Зіма ёсць новы краявід».**
**(Снягі ды лёд гэта зіма, канечне.)**
**(Зіма ёсць снег і лёд.)**

**Зіма гэта якісьці новы краявід у краявідзе.**
**Дзе анічога невядома больш пра папярэдні.**
**...І як бы ўсё на палазы**
**зноўку пастаўлена. Усё паўсюль. Дзе адцяпер**
**такое ўсё, што нават летам, адцяпер...**
**яшчэ малюткае яно, ды ўжо...**
**так побач, неахопна незнаёмае, сядзіць... (быццам сядзела),**
**стуліўшыся, пад палазамі...**

**Зусім няведамы йшчэ край так побач.**
**Зусім навюткі яшчэ край так побач.**





**Дзесьці прытоены. На сподзе «пятлі» заечае залеглы.**
**Але ўжо як на палазах...**

**Даволі нейкага штуршка, каб нават летам...**
**Рыўка, уліплага абутку.**
**Прытоены і непрызнаны. Сціслы. Новы.**
**Зіма ёсць снег і лёд.**

## *ВАСІЛЁК, СПАРЫШ, МАК-САМАСЕЙКА*

**Мілы, ты чуў, ты чуеш**
**іх, тваіх братоў, субратоў, сямёрку**
**лебедзяў, слухаў, слухаеш**
**пярнатых у небе –**

**бласлаўляльна махае ўслед**
**рукою пастушка.**

**Мілы, я думала, ніякіх няма ў мяне**
**братоў у полі, братоў у полі.**

**Чаму не віталася я з жытамі?**
**Стрункімі.**

**Цямка глядзіць каменне.**
**Заварожана прысягаюць**
**кволыя матылі.**

***Пераклала з нямецкай***
***Ніна МАЦЯШ.***

## *ЗНАДВОРНЫЯ ПРЫКМЕТЫ ЖЫЦЦЯ*

**Мая адсутная маці**
**падае аб сабе час-почас**
**высокі голас – прыкмету**
**задаволенага жыцця**

**Але ж гэта ўява:**
**яе больш няма**

**Сапрана з перасялення.**

28.2 94

### *АДВАГА*

**Пад бараной, да работы падрыхтаванай,**
**крывавыя пісягі: так трэба?!.**

5 3.94

### *ШТО ЗВЯЗВАЕ РЭЧАІСНАСЦЬ*

**Ноч. І цёмныя петлі**
**азначыліся адначасова**
**знутры і знадворку: месца,**
**прынятае наваколлем.**
**Дугі, зашмаргі, сілы, вузлы**
**таксама гэтакім чынам:**

**нібыта эбен,**
**чорнае дрэва,**

11.5 94

### *ВОДГУК*

*Ф.М*

**Мае падставу, угрунтаваную ў рэчаіснасць,**
**не адпускаць без увагі імгненне,**
**наадварот: яна яго выстукае,**
**яна яго выслухае (аркестр),**

**а яно,**
**прыязна настроенае,**
**адгукнецца.**

24.12 92, ліпень 94

### *У ДУМКАХ ПРА БАЦЬКУ*

**бачыцца постаць яго ні на цалю**
**не абмалёўваецца знадворку**
**ні грудзі ні скронь ні плячо**
**без позірку яго бога**
**бязлюдны хаўрус**

13.3.95 (уначы)

***Пераклаў з нямецкай***
***Алесь Разанаў.***



# Вітаўт ЧАРОПКА

У НАС



*«Бо наша барацьба не супраць крыві й цела, але супраць начальства, супраць уладаў, супраць сусветных валадароў цемры гэтага веку, супраць духаў злосці паднябесных».*

**Пасланне Паўла да эфесцаў (6х12)**

# МАСКА ХІМЕРЫ

## Odi et amo*

«Мая споведзь – слова на развітанне Некалі ты дакарала мяне за няшчырасць, цяпер я буду шчырым перад сабой. Ад нашага кахання табе застаўся прыемны ўспамін, а мне – гэтая споведзь.

Чаму ты думаеш, што я не кахаў цябе? Ці палічыла мае прызнанні за маску, за якой я хаваў адно жаданне – задаволіць сексуальныя патрэбы? Ці вырашыла, што я ніколі не буду тваім? Ці не даравала мне, што я скарыстаўся тваёй наіўнасцю і даверлівасцю і сілай узяў цябе? Ці яшчэ што, але ты абвінаваціла мяне ў двуаблічнасці Дарэмна я апраўдваўся. Ты не паверыла таму, хто кахаў цябе, каго і ты, паводле тваіх прызнанняў, кахала. А вынік – наша разлука, а цяпер вось і расстанне.

Нібыта сышла ты з карцін Батычэлі – чароўная вабнасцю маладосці Я не прадбачыў, што чакае нас у будучым Памятаеш нашу першую сустрэчу – у кавярні. Ты села за столік побач са мной Чырвань на тваім твары выдавала ніякаватасць і сарамлівасць неафіта. Некалькі разоў ты крадком зірнула на мяне, і я адчуў містычную сувязь паміж намі І калі цябе папрасілі прачытаць свае вершы, ты прашаптала трапяткім голасам некалькі радкоў і нібыта засаромелася, замоўкла. Як праз скажурку наліўнога яблыка, прасвечваліся на тваім твары сакавітасць і свежасць. Жанчына ўладарна абудзілася ў тваёй натуры і цяжар дзявочай цнатлівасці прыгнятаў твой гонар. Ты ўжо тады прагла грэхападзення. Нават зімой, не зважаючы на холад, выставіла свае ногі на агляд. Вось якая прывабная! Як не зразумець. ад юрлівых позіркаў мужчын прыемна замірала тваё сэрца. З сяброўкай па чарзе прыпадалі пафарбаванымі вуснамі да цыгарэты. Я таксама запаліў цыгарэту, а сам глядзеў на твае ногі. З-пад чорнага капрону прасвечвалася спакуслівая бель. Прызнаюся, хацелася, нібыта жартам, абняць каленкі і пацалаваць іх. Чамусьці я быў упэўнены, што мая «нахабнасць» не абурыць цябе і за смехам ты схаваеш сваю радасць. Я захацеў цябе! Што тут незвычайнага? Усё ж я мужчына, малады мужчына. Зрэшты, я шукаў сабе эмоцый, каб не ператварыцца ў біялагічную машыну для напісання тэкстаў Слова і папера высушылі маю душу Мне патрэбна была жанчына

І чаму ёй не магла быць ты? Патаемная мара без асаблівых надзей на здзяйсненне Чым мог я табе спадабацца? Я з'явіўся перад табой не ў арэоле славы, каб асляпіць цябе, ды і багатай кішэняй не падкупіў бы, бо яна пустая І не прыгажосцю мог я скарыць тваё сэрца Я спадзяваўся, што нас зблізіць агульнае захапленне літаратурай Мне здавалася, што ты, узнёслы і летуценны чалавек, жывеш у свеце паэтычных уяўленняў Выбар адбыўся паводле сваёй асабістасці, якую любяць у другім больш за знешняе аблічча. З вышыні сваіх духоўных палётаў я апускаўся на зямлю

З той сустрэчы імя Хэльга завалодала маім розумам, як замова ад адзіноты, як абяцанне кахання. Я шукаў цябе і не знаходзіў І толькі праз два месяцы ўбачыў на вуліцы Бег за табой і баяўся згубіць цябе Канечне, калі б я перад гэтым не выпіў гарэлкі, дык можа і стрымаў бы свой парыў Але хмель распальваў мяне, і сэрца імкнулася ўслед за табой. Думаю, была ў гэтай сустрэчы нейкая наканаванасць. На аўтобусным прыпынку сярод натоўпу людзей я адшукаў цябе – сумную і загадкавую Ты не здзівілася майму з'яўленню, а нават узрадавалася. На тваіх вуснах з'явілася ўсмешка Ты ахвотна прыняла прапанову пазнаёміцца, не адмовілася прагуляцца па горадзе Захоплены ўдачай, я быў упэўнены ў сабе. Падпарадкаваў тваю волю, і ты пакорліва прыняла мяне

Праз увесь горад мы пешкі йшлі да твайго дому. Вячэрняя цемра, асветленая ліхтарамі і агнём вокнаў, надавала нашаму падарожжу рамантычнасць. Мы не зважалі ні на час, ні на адлегласць, ні на стому Мы адкрываліся адно перад адным і праглі спазнаць адно аднаго. Доўгая дарога была такой кароткай І мы стаялі каля твайго дома. Яшчэ трошкі, яшчэ хвіліну – толькі б не вяртацца ў рэчаіснасць. Час падманвалі размовай, за словамі пра тое-сёе гублялі час. Твой голас гучаў самім замілаваннем у маім сэрцы Не важна было, пра што казала ты, а важна, што казала з пяшчотай і радасцю.

* **Ненавіджу і кахаю** *(лац.)*.





Развіталіся мы, дамовіўшыся на сустрэчу ў нядзелю Я запрасіў цябе наведаць стары парк. Як ты ўзрадавалася, як заўсміхалася і згодна кіўнула галавой

З нецярпеннем юнака чакаў я нядзелі. Абяцаннем шчасця ты ўваходзіла ў маё жыццё Ты таксама нецярпліва чакала сустрэчы Колькі суму гучала ў тваім голасе, калі ты прасіла мяне па тэлефоне вырваць цябе з абрыдлых хатніх сцэнаў, за якімі сцераглі цябе бацькі

Векавыя дрэвы старога парку схавалі нас ад гарадской мітусні Марознае сонца расплывалася вечаровай чырванню па нябёсах. Мы аглядалі закінуты палац, ад якога засталіся чырвоныя цагляныя сцены Хадзілі сярод гэтых сценаў, нібыта трапілі ў край рамантычных прывідаў

Памятаеш, як хацелі мы распаліць вогнішча з прамерзлых галінаў і сухіх сцяблін. Агонь так і не разгарэўся Але нас саграваль трапяткія погляды і радасныя ўсмешкі, за якімі хавалі мы сваю сарамлівасць. І гэтае чаканне, калі нашы пачуцці перамогуць сарамлівасць і аддадуць нас у палон кахання Мы пілі віно, наліваючы яго з бутэлькі ў пластмасавыя шкляначкі. Але не віно п'яніла мяне Я п'янеў ад жадання расцалаваць цябе. Ты сядзела на паваленым дрэве Мароз і выпітае віно чырванню ўпрыгожвалі твае шчокі Чароўная і жаданая. . Я не стрымаўся, а ты не супраціўлялася ўзаемнай цягнасці нашых сэрцаў Нашы вусны сустрэліся ў пацалунку

О, гэтае нечаканае імгненне, калі крысо твайго паліто раптам саслізнула ўніз, і я ўбачыў вабную стройнасць тваіх ног, іх спакуслівую бель, якая прасвечвалася праз чорны капрон. Ты як здагадалася пра маю мару і не пабаялася марозу, каб я мог любавацца гэтым цудам жаночай дасканаласці І я абняў твае ногі, удзячны табе Разам са мной ты аддалася пачуццям На каленях я стаяў перад табой, а мае вусны, як галодны чмель, забіралі з пунцовых пялёсткаў тваіх вуснаў мядовы прысмак любові, а мае рукі, як крылы анёла, абдымалі твае ногі Я не саромеўся і цалаваў іх, адчуваючы і праз настыглы капрон іх пяшчотнасць. Блаславёнае імгненне Апошні дзень зімы павольна і непрыкметна пакідаў нас. Ён развітваўся з намі дыяментамі-сняжынкамі Гэта было падобна на казку· дрэвы белыя ад снегу, прыцемкі, цішыня, сняжынкі,– і мы сярод зімовай казкі Заўтра па календары павінна наступіць вясна – наша вясна, а пасля надыдзе наша лета, і наша восень напоўніць наша жыццё новай мудрасцю спазнанага кахання, і наша зіма таксама будзе добразычлівай да нас. І мы будзем удзячны гэтаму дню Так думалася мне.

Самы прыўкрасны свет, у якім можна цалаваць каханую, у якім каханая прыўкраснейшая і за гэты свет Мы нарэшце апамяталіся Нехта крычаў нам услед. Уяўляю, што яны пабачылі і што маглі падумаць пра нас. Твае ногі апляталі маю шыю, а я цалаваў іх. Вось распуста! Так, распуста І яшчэ якая Хай ведаюць, што каханне вось такое распуснае і бессаромнае Мы смяяліся ў адказ, шчаслівыя ад прызнання ўзаемнай любові.

Памятаеш, як знайшлі мы прытулак у маім доме Як нашы пачуцці злучыліся ў адно вечнае і боскае, жаночае і мужчынскае І ты – мая, мая.. Тваё першае «грэхападзенне» Мілая мая дзяўчынка! Ты знайшла ў сабе іронію, каб са слязьмі і смехам павіншаваць сябе: «Вось я і стала жанчынай» Навошта было каяцца, прызнаваць сваю віну? Я хацеў даць табе надзею, бо «грэхападзенне» – гэта толькі пачатак у новае жыццё, якое адорыць цябе чарамі кахання. І калі я стаў тваім першым, дык я хацеў застацца і апошнім. І я назваў цябе каханай Як рыцар, я знайшоў гэтую запаветную чашу, напоўненую тваімі слязьмі, і шчаслівы прыпаў вуснамі да яе, каб вылечыць раны сэрца ад пакутлівага шляху да цябе, ад адной жанчыны да другой Праз падзенне ўзвысілася ты да патаемных вышыняў любові. З Афрадыты Пандэмас, зямной і звычайнай, з грэху і страсці ператварылася ў Афрадыту Уранію, нябесную і ўзнёслую, маё натхненне і сэнс.

Я хацеў цябе, хацеў зноў і зноў цалаваць і лашчыць тваё маладое і прыгожае цела, быць ягоным уладаром і ў пачуццёвым забыцці аддаваць яму сваю сілу і пяшчоту І хіба гэта не каханне? Я кахаў цябе не сардэчнымі перажываннямі, не рамантычнымі марамі, я кахаў цябе вуснамі і рукамі, сваім целам і сваёй страсцю. Замест «Я кахаю цябе», я

казаў: «Я хачу цябе»,– што для мяне была тоесным І ты хацела мяне, радавалася майму жаданню. Першай спяшалася на нашы сустрэчы і гатова была чакаць мяне, як ты казала, і гадзіну, і другую, і трэцюю. І твая адданасць мне была даражэйшай за любоўныя ласкі. Ты была маёй! Мая радасць, маё шчасце і маё каханне! Ты была злучанай са мной нашым каханнем.

Дык што здарылася? Чаму ты абвінавацiла мяне ў няшчырасці да цябе? Ты і сама не можаш адказаць. Апраўдваешся сваёй інтуіцыяй. Можа, і падумала ты, што за страсцю нічога апроч страсці і няма? А ты чакала іншага – рамантычнасці, узнёсласці і высакароднасці Але страсць наша была ўзнёсласцю і рамантыкай, калі мы млелі ад асалоды і ўзносіліся на вяршыню шчасця.

І вось ты западозрыла мяне ў ашуканстве, не верыла маім словам. Ты пазбягала сустрэч са мной. Мінулі вясна і лета, і калі восенню мы сустрэліся .. Так лёгка ты забылася пра мяне Трэба толькі гадаць, што здарылася. Можа, уся гісторыя нашага кахання трывіяльная Знайшла сабе маладзейшага і прыгажэйшага. А я для цябе быў той мужчына, які адчыніў табе забароненую браму ў свет страсці. Раней я дзівіўся, што ты ніколі не называла мяне па імені. А чаго здзіўляцца – табе быў патрэбны мужчына, а не каханы. І цяпер я – прыемны ўспамін. Я не верыў у тваю здраду, пакуль знаёмы не распавёў, як ты пад ручку разгульвала па горадзе са сваім выбраннікам. Каб умеў плакаць, дык заплакаў бы. Начамі не спаў, і ўспаміны пра нашы сустрэчы ўзмацнялі мой боль. Да роспачы даводзяць думкі, што ніколі ўжо не паўторыцца шчаснае імгненне, калі, пераадолеўшы перашкоды тваёй адзежы, я прыпадаў сасмяглымі вуснамі да тваёй юнай жаноцкасці. Маё цела памятае тваё цела і жадае яго.

Цыгарэту за цыгарэтай выпальваю – супакойваю сябе. І толькі пад раніцу, знерваваны, забываюся кароткім сном. А днём п'ю гарэлку і смяюся з сябе і са свайго змарнаванага шчасця Не магу ўцячы ад сябе, не магу выракчыся цябе Я веру, што ты вернешся, а ты не вяртаешся. У роспачы не магу змірыцца з гэтым.

Але дзеля чаго я прыдумваю сабе пакуту? Каго я кахаю? Таго, хто здрадзіў мне Калі б ты і вярнулася, калі б я і дараваў тваю здраду, усё роўна паміж намі стаяла б крыўда і дакор.

Годзе! І вось урачыста і велічна падымаецца ў маёй душы нянавісць. Вялікае пачуццё! Нянавісць да рабства падымала мяне з каленяў, нянавісць да сваёй нікчэмнасці і нямогласці надавала мне сілы Ненавідзячы тых, хто адымаў маё я, маю волю, мой гонар, мае пачуцці, станавіўся я моцным, рашучым і жорсткім. Нянавісць – вялікае пачуццё! Слабасць пакарала мяне за даверлівасць.

Хай нянавісць да цябе патушыць агонь маёй страсці»

## ЧОРНЫ ЧАЛАВЕК

Пакуты адрынутага – цяжкія пакуты.

Ні адрачэнне ад каханай, ні замовы, ні воля, ні сіла не дапамогуць. А калі час і загоіць сардэчныя раны, дык боль яшчэ доўга будзе нагадваць пра сябе

Прызнанне ў нянавісці было страхам перад пакутамі адрынутага. Сэрца не падманеш, не падманеш і цела, якое памятала кожную рысу Хэльгінага цела і жадала яго. А зняважаны гонар мужчыны патрабаваў змагацца за права на сваю жанчыну. Нянавісць была бяссільнай перад каханнем. Па начах, лежачы ў ложку, Віктар (нібыта хто знарок падсоўваў яму гэтыя ўспаміны) прыгадваў сустрэчы з Хэльгай і перад вачыма паўставала яна. Ён гнаў гэтае насланнё, але яно ўваходзіла ў яго само, станавілася сутнасцю яго, і як пазбавіцца гэтых чараў, Віктар не ведаў. Хоць, зразумела, выратаванне магла прынесці сваім вяртаннем Хэльга Але ж. яна пайшла. Да каго? Як вярнуць яе?

І ўсё ж ён яшчэ верыў.

Днямі Віктар шукаў сустрэчы з Хэльгай. Аднаго разу ён прастаяў тры гадзіны каля універсітэцкага будынка, дзе слухала яна лекцыі. Замёрз на халодным восеньскім





ветры, паліў цыгарэту за цыгарэтай, але зацята чакаў Хэльгу Некалькі знаёмых, якія праходзілі міма, спыталіся, што ён тут робіць. А ён горка жартаваў «Шукаю сваё каханне». Яны смяяліся, не падазраваючы ўсяго трагізму ягонага прызнання. Ён не дачакаўся, замерзлы і знерваваны паехаў дадому Кляў сябе за сваю слабасць, якая прывяла яго да мяжы прыніжэння. Гэтая хвароба, якую ён называў каханнем, перамагала яго, рабіла паслухмяным рабом свайго хваравітага пачуцця. І ён ненавідзеў сябе.

Сустрэўся з Хэльгай Віктар выпадкова. У той дзень ён вяртаўся з выдавецтва. У скуранай папцы ляжаў рукапіс ягонай кнігі. «Твар Хімеры» – гэтак называўся раман пра вядомага «прарока» Іаана Лэйдэнскага і створаны анабаптыстамі Новы Ерусалім. Крывавая гісторыя пра тое, як добрымі намерамі мосціцца дарога ў пекла. «Прарок» замест зямнога раю пабудаваў зямное пекла. Як усё гэта было знаёма па жыцці ў краіне «шчасця», як усё паўтарылася зусім нядаўна: і забойствы, і пакаранні, і рабская праца, і закон моцнага, і разбурэнне цэркваў, і паленне кніг, і ўлада бязбожнікаў. Нібыта новыя ўладары кіраваліся вопытам «прарока» Іаана. Кніга ўжо рыхтавалася да друку і неўзабаве павінна была пабачыць свет. Нарэшце мара, якой Віктар жыў, стала амаль рэальнасцю. Ён прадчуваў тую радасць, з якой дома будзе пераглядваць падрыхтаваныя да друку старонкі, любавацца ілюстрацыямі і чытаць знаёмы тэкст, які цяпер набываў чароўную сілу друкаванага слова.

І вось у падземным пераходзе Віктар убачыў Хэльгу

Ён спускаўся па прыступках, а яна ішла насустрач з двума юнакамі. Хэльга развіталася з імі, а з адным са смехам пацалавалася

У вочы кінуўся выразны кантраст – беласнежны жаночы твар і чорны твар гэтага чалавека. Віктар нават і прыняў яго за мурына. Неяк непрыкметна той са сваім спадарожнікам знік. Віктар падаўся ўслед за Хэльгай, паклікаў яе. І калі яны прывіталіся, пажартаваў, маўляў, што гэта за любоў у цябе з мурынам Хэльга не зразумела яго.

Пра якога мурына ты кажаш?

– Таго чорнага, з якім ты цалавалася.

Яна гучна рассмяялася і адказала:

– У цябе ад рэўнасці пацямнела ў вачах. Гэта мой каханы.

– Каханы? – не здзіўленне, а расчараванне вырвалася з душы Віктара. – Як жа? – Ён надаў голасу весялосці, каб схаваць сваю разгубленасць.– А мне падалося.

– Ты памыляешся Завуць яго Улад. Што цябе яшчэ цікавіць?

***

«Не, гэта было не пацямненне, а прасвятленне, падараванае мне зверху Толькі на імгненне я ўбачыў таго, хто паўстаў супраць мяне. Мой зрок, як рэнтген, высветліў тое, што непадуладна простаму воку – чорны німб, чорную аўру гэтага чалавека. Прыгадваецца класічнае чорны чалавек, які знішчае тых, каго Бог адарыў іскрай творчасці. І ён стаў паміж намі. Гэты Улад, пра якога Хэльга некалі распавядала, нейкі яе знаёмы Паводле Хэльгінага аповеду, ён захапляўся акультызмам і хацеў, як харызмат, атрымаць дар «казання на іншых мовах». Маю насмешку выклікала і тое, што «Біблія» ў яго ляжала побач з кнігай пад красамоўнай назвай «Радасці сексу». Настольныя кнігі Забівае сабе галаву ўсялякай лухтой і дурыць наіўных дзяўчат містыкай і шчасцем ап'янення ад хрышчэння Духам Святым Я ўбачыў чорную сутнасць ягонай душы. Хто ён такі . Улад? Цяпер ён для мяне не юнак, які штудуе працы па чараўніцтве Папюса і Штэйнера, пазнае «прасвятленні» Рэрыхаў і Блавацкай або наведвае зборышчы харызматаў, каб навучыцца размаўляць на іншых мовах. Ён уяўляецца мне пагрозлівай зброяй чорных сілаў. Я не сумняваюся, што гэта так. Раней я не верыў ні ў Бога, ні ў чорта, а тым больш – у містыку Калі і пісаў пра д'ябла, дык як пра міфічную асобу, як пра страх чалавечага бяссілля перад магутнасцю прыроды, як пра сімвал зла, але цяпер гатовы паверыць у ягонае існаванне. Улад зачараваў Хэльгу, падначаліў яе волю сабе. А калі гэта так, дык сустрэча з Хэльгай не выпадковая, а наканаваная

Мы сядзелі з Хэльгай у кавярні, пілі і размаўлялі. Я жыў шчасцем блізкасці з каханай,

вялікай радасцю было для мяне дакрануцца да яе рукі. І я хацеў не раставацца з ёй  Але Хэльга прызналася, што а пятай гадзіне павінна сустракацца з Уладам  Час яна правяла прыемна  А я думаў, што яна радавалася мне, калі вочы яе зіхацелі гарэзлівасцю і так міла іграла ўсмешка на яе вуснах. Хэльга радавалася сустрэчы з ім, з маім чорным чалавекам  Ён ведаў, як ударыць па мне

І калі на вуліцы Хэльга на ўсе мае просьбы застацца адказвала адмовай, дык я ў адчаі гатовы быў выкінуць папку з кнігай  У гэтае імгненне і яна была непатрэбнай мне  Я ўжо занёс руку, каб шпурнуць папку ў падваротню і, плюнуўшы на ўсё, падацца прэч  Але, відаць, Бог дапамог мне. Так было яму ўдагоду, каб паўз нас ішлі дзве жанчыны  Простыя жанчыны з торбамі ў руках – яны выратавалі маю кнігу  Мая рука міжволі апусцілася ўніз  Хвілінны ўсплеск адчаю згас. Аднак разважлівасць пакінула мяне. Я прыніжана прасіў Хэльгу не даць памерці нашаму каханню  Яна толькі смяялася з мяне. Я застаўся адзін у вечаровым горадзе»

Была позняя ноч, калі Віктар напісаў гэтае прызнанне. Ён зноў перачытаў ясенінскага «Чорнага чалавека»

**Черный человек!**
**Ты прескверный гость.**
**Эта слава давно**
**Про тебя разносится.**

Злавесны сімвал чорнага чалавека палохаў Віктара.

Ён адчуваў небяспеку. Нібыта невядомы і нябачны вораг затоіўся ў ягоным пакоі і чакаў моманту, каб нанесці смяротны ўдар. Халадок страху сціскаў сэрца. Трывожнае яўканне ката Ра, які насіўся па пакоі, павялічвала адчуванне страху

І пра сустрэчу з чорным чалавекам ён напісаў дзеля таго, каб ведалі, хто прынёс яму смерць. Прадчуваючы яе блізкасць, Віктар напісаў развітальны ліст – на ўсякі выпадак.

«Не верце, што я памёр, мяне забілі  Я аказаўся слабейшым у барацьбе з сіламі цемры. Я ведаю, хто мой забойца – гэта чорны чалавек. Пра яго я напісаў

Я кахаў цябе, Хэльга, і даруй, калі ты крыўдзішся на мяне. Прашу· ратуйся. Не паддавайся таму, хто хітра выдае сябе за твайго добразычліўца, хто разлучыў нас і расправіўся са мной. Ён завалодаў тваёй воляй і сэрцам, ён стаў тваім уладаром  Ратуй сябе, мая дарагая Хэльга

Не плачце, мая душа там, дзе яе чакаюць.

Віктар. 3 гадзіны 15 мінут. 27 кастрычніка».

Гэтую ноч ён не спаў. Баяўся заплюшчыць вочы, каб не заснуць і стаць бездапаможным  Баяўся выключыць святло, каб не застацца сам-насам з жахлівай цемрай  І толькі раніцай, калі развіднела, ён заснуў.

А дванаццатай гадзіне яму патэлефанаваў сябар, паэт па мянушцы Нішцяк. Як амаль усе паэты, і гэты лічыў сябе геніем, а свае вершы – акурат шэдэўрамі і чытаў іх кожнаму свайму знаёмаму. Але Віктар шчыра ўзрадаваўся ягонаму званку і падаўся да яго ў госці

Пасля таго, як яны выпілі за сустрэчу, Віктар і распавёў пра сваю гісторыю кахання. Нішцяк уважліва слухаў яго, але перапыніў·

– Пачакай, пачакай! Я нешта не разумею  Што за містыка? Пры чым тут містыка?

– А пры тым, што гэты чалавек авалодаў воляй і свядомасцю Хэльгі. Сапраўдныя чары Цынабера. Хітрая д'ябальская гульня  Давесці мяне да адчаю і растаптаць.

– Канец дваццатага стагоддзя, ты ж сучасны чалавек, а ў цябе ўяўленне, як у сярэднявеччы. Гэта ў той час людзі тлумачылі свае дэпрэсіі сатанінскім насланнём, чарадзействам варажбітоў  усіх гэтых фантазій хворага розуму  Тады жылі з верай у Бога, а цяпер.. Смешна, здраду жанчыны лічыць чарадзейскім насланнём, сурокам. Прыдумаць сабе чорнага чалавека. Смешна! Выкінь з галавы гэтую дурноту  Ты ж пісаў пра Іаана. Асоба, якая над людзьмі ўладарыла. Такі характар вывучаў, а сам не можаш сабой кіраваць. Ды Іаан гэтага чорнага чалавека шугануў бы так, што той бы разам з дзвярыма вылецеў. А ты прыдумаў сабе нейкага чорта, як Ваня Карамазаў. І чым больш





ты верыш у яго існаванне, тым больш баішся яго. Давядзеш сябе да таго, што ноччу табе сапраўды з'явіцца твой чорны чалавек і ты палезеш ратавацца ад яго ў пятлю.

Жанчына цябе разлюбіла, дык ты не першы і не апошні  Будзь мацнейшым за сваю крыўду  Падумаеш! Паводзіны жанчыны цяжка растлумачыць. Гэта стыхія прыроды. Вось любіла цябе, а цяпер не любіць. Гэтак ёй хочацца, і чаго ты чапляешся да яе  Хай .. не заслужыла цябе  Вунь колькі дурняў было – і рэзалі сябе, і другіх рэзалі, і вар'яцелі. А дзеля чаго? Паглядзі на гэтых прыгажуняў праз дзесяць гадоў. Колькі іх па вуліцы снуўдае – бясформенная біялагічная маса. Вось дзеля гэтага вар'яцець? Што за глупства? Нейкая дзяўчына засціла табе ўвесь свет  Ты ж мужчына. Вунь Сцяпан Разін падняў княжну на рукі і выкінуў у рэчку. Уявіла, што яна панна ягонага сэрца, думала, што прамяняе яе на ўсё астатняе. Выкінь Хэльгу з сэрца. Падумай, звесці ўвесь свет вось да такой мізэрнасці,– паэт паказаў на паўзногаць.– У цябе ёсць мэта, вось і займіся яе ажыццяўленнем, прымі сваю страту, ідзі далей  Пішы, чытай, нарэшце прыдумай сабе які занятак, напрыклад, вывучыць якую-небудзь мову  Будзь моцны, ты ж мужчына  Табе трыццаць два гады, праз год Хрыстовы ўзрост, а ты духоўна і маральна непадрыхтаваны нават перажыць здраду легкадумнай і пустой бабы  Выкінь яе з сэрца. Вось прыйдзі дадому і напішы на паперы· «Я не кахаю Хэльгу», і парві  Гэтак штодня пішы «не кахаю» і рві  А калі яна і пазвоніць табе, ніякіх размоваў  «Прабач, я заняты, пішу раман. Няма часу на пустыя размовы». Вось так. А як сустрэнеш яе, дык калі ёй направа, ты ідзі налева, калі ёй налева, табе направа – не па дарозе. І няхай яна сабе жыве сваім нікчэмным жыццём, няхай кахае чорнага чалавека, белага чалавека, жоўтага, каго хоча  Жанчына, якую кахаў кароль, здрадзіла яму з вулічным жабраком. Знайшла, што хацела, і шчаслівая  Можа, ёй такі і патрэбны  просты, зямны і ніякі, такі, як і сама  Яна такая, а ты зусім іншы  Перамажы сваю слабасць. Пераможца іншых  моцны, пераможца самога сябе – магутны.

Гэтыя довады здаваліся пераканаўчымі – яны разбівалі ўсе страхі Віктара  Глупства, трывіяльную гісторыю жаночай здрады тлумачыць містыкай, чарадзейскім насланнём  Сапраўды, можна прыдумаць такога чорнага чалавека, што зрэшты ратавацца ад яго палезеш у пятлю  Але адчуваў, што цяжка адрачыся ад каханай  Нікога ён так не кахаў. Можа быць, ён нешчаслівы з ёй, але без яе не ўяўляў жыцця, без яе – пустка.

І верыў, што Хэльга вернецца да яго, верыў, бо любіў яе

Пасля Віктар некалькі гадзін правёў з рэдактарам у выдавецтве. Ён з жахам прыгадваў тое імгненне, калі ледзь не выкінуў папку з макетам  За хвілінную ўспышку рэўнасці пазбавіць сябе таго, дзеля чаго ён жыў – кнігі! Глупства, несусветнае глупства. выкінуць сваю працу і не толькі сваю, але і працу рэдактараў, мастакоў і многіх іншых людзей  Не, гэтая кніга ўжо не належыць яму. Сваю справу ён зрабіў, прынёс з мінулага падзеі гісторыі і перадаў тым, хто данясе іх да чытача  Рукапісы не лётаюць!

Над горадам загучалі ўдары званоў  У храмах пачыналася служба  Віктар вырашыў зайсці ў царкву і паставіць свечку  Хоць нябесныя сілы дапамогуць яму. Непадалёк ад будынка выдавецтва знаходзіўся Кафедральны сабор. Дзве высокія вежы, аздобленыя пілястрамі і нішамі, увенчаныя крыжамі, вось ужо чацвёртае стагоддзе ўзвышаліся над горадам. Паміж вежамі на баракальным шчыце нядаўна выклалі мазаічную выяву Божай Маці, якая нібыта стала сімвалам вяртання веры ў горад бязвер'я

Сярод вернікаў сёння ў храме быў і Віктар  Вернік з нехрышчонай душой, які верыў, што на нябёсах пачуюць і ягоныя малітвы. І ён стаяў сярод вернікаў каля ракі з мошчамі святой Софіі Слуцкай. Вялікае містычнае таемства яднання свету явы са светам вечнасці, зямлі з небам, людзей з душамі, душаў з Богам. І як галасы анёлаў гучалі спевы царкоўнага хору – мілагучныя жаночыя і велічныя мужчынскія  Маленькая дзяўчынка не даставала да падсвечніка, і маці беражліва ўзяла з ручак дачкі свечку, запаліла яе і паставіла ў падсвечнік. А дзяўчынка няўмела, але з дзіцячай радасцю далонькай асвяціла сябе крыжом. У яе вачах адбіваліся вясёлыя і святочныя агеньчыкі свечак. Паставіў свечкі і Віктар – адну за сябе, а другую за Хэльгу, і папрасіў святую Софію паспрыяць ім знайсці адно аднаго. Ён верыў, што ягоную мальбу пачуюць. Прасіце – і

будзе дадзена вам! Зачаравана паглядаў Віктар на сінія агеньчыкі свечак, якія перарасталі ў ружовае трапяткое полымя, што свяцілася рознакаляровымі арэоламі. Трывога кальнула ягонае сэрца. Хэльгіна свечка знемагала ад агню і згіналася, нібыта не вытрымлівала цяжару гарэння. Свечка апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, корчылася ад болю, плакала воскам, які накіпам прыставаў да яе танклявага цела. Нібыта сімвал пакутаў Хэльгі, якія прынёс ёй сваім каханнем. І ён не ведаў, што рабіць. Адзетая ў чорнае манашка выняла свечку з падсвечніка, патушыла яе «Дайце астыць ёй, яна размякчэла і не можа як след гарэць», растлумачыла яна.

Вось разгадка ягонага кахання. Гэтак і Хэльга знемагала пад цяжарам ягонай страсці. Ён хацеў быць моцным, а стаў жорсткім і злым. Дабрату і сардэчнасць лічыў праявай слабасці, не вартай мужчыны. Хэльга чакала ўзнёслай любові, а ён прагнуў цялеснага задавальнення, страсці і распусты І каханне не ўзвышала Хэльгу, не прыносіла прасвятлення душы, не давала адчування радасці і шчасця Каханне стала для яе абавязкам прымаць ягоную страсць, гарэць ягоным агнём, падначальвацца ягонаму жаданню Яна пайшла да другога. Але дзеля чаго? Ці ратаваць сябе, ці ратаваць яго, Віктара? Яна прызналася, што не здрадзіла яму Дык як разумець яе ўчынак? Хіба як спробу выратаваць яго, дапамагчы яму стаць чалавекам, якога магла б зноў пакахаць? Ні слоў, ні просьбаў, ні пераканання яе ён не паслухаў Вось тады і пайшла, каб у барацьбе за яе любоў задумаўся, разабраўся сам у сабе і зразумеў, што чорны чалавек – гэта ён. І ў пакутах ачысціўся б ад чарнаты і зла Гэта было адкрыццё, якое дало яму надзею.

***

Хэльга спазнялася. Віктар углядаўся ў прыцемкі ў надзеі ўбачыць здалёк постаць каханай

Учора па тэлефоне ён дамовіўся з ёй схадзіць у тэатр і вось нецярпліва чакаў Хэльгу Круціў галавой па баках, прагнуў убачыць яе і не бачыў. Прызначаны час мінуў Нецярпліва выпаліў некалькі цыгарэт. Замерзшы на ветры, заходзіў пагрэцца ў хол метро. Навошта падманваць сябе, што нешта перашкодзіла ёй прыйсці? Не змагла, бо не захацела. Але ён верыў і чакаў Яна прыйшла, і ён радасна кінуўся да Хэльгі.

– Ледзь адпрасілася,– паведаміла яна

– У каго? – здзівіўся ён

Улад адпусціў мяне на вечар

Што ж атрымліваецца – гэты Улад кіруе Хэльгай, вызначае яе паводзіны, кантралюе яе кожны крок.

– Гэтак ён і тваё Я забярэ, каб быць уладаром не толькі твайго сэрца, але і душы І чым жа ён так цябе зачараваў?

Хэльга загадкава ўсміхнулася і адказала·

– Мне з ім прыемна і хораша.

Паміж імі паўстаў ён. Хэльга была цяпер другой Зусім не той, якую Віктар ведаў Знікла ранейшая гарэзлівасць і непасрэднасць Да яго адносілася холадна і стрымана. Дык, можа, сапраўды яна пакахала гэтага Улада і няма ніякай надзеі вярнуць яе? Але, з другога боку, і з ім не рве сувязі. Не, яшчэ нічога не вырашана. Няхай Хэльга пераканаецца, што ён па-ранейшаму кахае яе і каханне ягонае сапраўднае. Няхай зразумее сваю памылку

На спектакль яны паспелі за некалькі хвілін да пачатку. І калі пагасла святло і залу напоўніла музыка аркестра, Віктар асмеліўся і ўзяў Хэльгу за руку А на сцэне тварылася дзеянне О, гэта дзіва! У перакрыжаваннях промняў ліхтароў пад музыку прыгожыя мужчыны і жанчыны танцам распавядалі гісторыю кахання і нянавісці, дабра і зла. І вось страсць кахання зліваецца ў дуэце двух целаў. Калі жанчына рухамі свайго гнуткага цела, гарачым бляскам вачэй іграе жаданне быць з мужчынам. Іх целы сплятаюцца, як змеі, як агонь з дымам, і становяцца самой страсцю, палкай і трапяткой. Затоена глядзіць зала на сцэну. І жаночае цела ў моцных мужчынскіх руках, як кветка на сцяблiне,





раскрывае сваю прыгажосць, сваю вытанчанасць і грацыёзнасць. Пачуццёва гучыць музыка, напаўняючы душы суперажываннем. І на апошнім акордзе, калі стомленыя ад страсці целы заміраюць, ажывае ўсплёскам удзячнасці і замілавання зала

У антракце Хэльга паведаміла Віктару, што яна павінна ісці на сустрэчу з Уладам.

– Зноў! Хоць раз ты можаш не паслухацца яго? Што ў цябе за абавязак перад ім? – з горыччу мовіў Віктар.

– Гэта не абавязак! Я кахаю яго!

Усе высілкі Віктара разбіваў гэты загадкавы чалавек, які авалодаў сэрцам і розумам Хэльгі. І адчай толькі заганяў Віктара ў безвыходнасць. Ён не ведаў, што адказаць.

– Ты так і не зразумеў, што я пайшла ад цябе,– выразна мовіла Хэльга, каб запомніў і зразумеў

Яна пацалавала Віктара ў шчаку і пабегла ў гардэроб. А ён стаяў разгублены ў холе тэатра, спадзеючыся на нейкі цуд. І калі Хэльга весела памахала яму рукой з-за шкляных дзвярэй і растала ў вячэровай цемры вуліцы, ён асуджана ўздыхнуў.

Спектакль Віктар не дагледзеў. Цяпер гэтая сцэнічная любоў здавалася яму хлуснёй, прыдуманай казкай і выклікала агіду. Ён суцяшаў сябе. Чаго адчайвацца? У яго ёсць іншае – кніга, якая будзе ягонай веліччу і славай «Нарэшце зразумеў, хто ты? Чорны чалавек – гэта тваё Я, а Я – гэта твая сутнасць. А гэтая нікчэмная дзяўчынка хай шкадуе сябе, разлюбіла цябе, разлюбі і ты яе Ты наіўна думаў, што яна змагалася за цябе. Як ты памыляешся – гэта Я змагаюся за цябе з тваёй слабасцю Ты можаш ненавідзець усіх, але сваё Я, сваю існасць ты любіш і не адмовішся ад яе І не прыніжай сябе. Ты правільна зрабіў, што адпусціў яе Хай ідзе да свайго ніякага, годнага яе самой ніякай. Ён велікадушна робіць табе падарунак, якая абраза твайму гонару! Ён гандлюе сваёй каханай, як Абрам сваёй жонкай, Сарай»,– казаў Віктару ягоны чорны чалавек, ягоная існасць. На ўсе спробы Віктара запярэчыць яму ён жорстка і лагічна разбіваў яго. «Твая сіла ў тваёй сіле. Перад табой шлях да велічы і славы, ты станеш уладаром людскіх сэрцаў і думак. Дык будзь ім»

Дома Віктар напісаў на паперы «Я не люблю Хэльгу» і парваў яе Але жаданай палёгкі не адчуў

Ён сядзеў на кухні і паліў цыгарэту за цыгарэтай. Нарэшце не вытрымаў і патэлефанаваў Хэльзе.

Яна, як пачула ягоны голас, дык рэзка кінула яму: «Адчапіся ад мяне»,– і паклала трубку «Гэта жорстка, – загаварыў Віктар сам з сабой.– Яна асуджае мяне на новыя пакуты. Жорстка, несправядліва, нягодна Ці разумее яна гэта, ці адчувае? Што яна робіць? Каханне нараджае эгаістычную самаўлюбёнасць, агрубляе сэрца Дзе твая дабрыня? Дзе твая жаноцкасць? Усё жаноцкае заглушыла ў табе захапленне «новым каханнем»? Ці адклікнулася тваё сэрца на мой боль?» І крыўда патрабавала выліць усю нянавісць да Хэльгі, вызваліць душу ад набалелага, нібыта пасля гэтага ён зможа разлюбіць яе Раптам ён адчуў на сабе нейчы панічлівы позірк. З аконнай шыбы, на фоне вячэровай цемры, пагладаў на яго нехта, як і ён, барадаты і з доўгімі валасамі. Віктар падбег да акна Чалавек з шыбы расцягнуў вусны ва ўсмешцы Віктар пазнаваў і не пазнаваў сябе Няўжо ягоны твар такі злавесны і халодны, што сам пужаецца яго?

Дык хто ты, чорны чалавек?

– Я – гэта ты, а ты – гэта я. Ха-ха-ха,– рассмяяўся гучна прывід у шкле.– Не пазнаеш сябе?

– Што табе трэба ад мяне? Я ненавіджу, ненавіджу сябе, ненавіджу ўсіх. Радуйся, ты перамог.

Ён схапіў са стала нож і паласнуў ягоным лязом па запясці левай рукі. Ці не навостраны быў нож, ці моцная жыла вытрымала лязо, але толькі чырвоны пісяг выступіў на запясці. Адчайны крык маці, які прагучаў за спінай, ацверазіў Віктара. Ён выпусціў нож. І цяпер убачыў, што прывід у шыбе быў ягоным адбіткам.

– Нешта робіцца са мной Шалею .. – І ён разумеў, што гэта праўда

# ЗАКАХАННЕ

Гэтак няўмольна цягне злачынцу на месца злачынства Можа, каб зноў адчуць хмельнае пачуццё баязлівасці і смеласці, а можа, каб пакаяцца? Наступным днём Віктар адправіўся ў стары парк – туды, дзе піў ён з Хэльгай віно бяды, хмель якога толькі цяпер ударыў яму ў галаву, і ён ачмурэў ад рэўнасці, крыўды і адчаю

Сэрца тахкала, як матор, гонячы па целе гарачую кроў. Цыгарэта за цыгарэтай згаралі на ягоных вуснах. Свой шлях пазначыў ён абгарэлымі гільзамі фільтраў Запалкі не давалі яму агню. Лёгкі вецярок тушыў кволыя ўспышкі, але Віктар упарта скроб сёрнымі галоўкамі аб карабок і высякаў агонь, каб запаліць чарговую цыгарэту.

Гэта быў парк ягонага дзяцінства. Сюды ён бегаў, каб застацца сам-насам і схавацца ад тых, хто хацеў завалодаць светам ягоных мараў Тут яму было радасна, а цяпер яму не да радасці, цяпер ён стомлены ад наслання кахання

Насустрач яму з-за дрэў выехала на кані жанчына – загадкавая і велічная ў сваёй прыгажосці. Распушчаныя валасы падалі на яе плечы. Ганарлівым позіркам каралевы яна паглядзела на сустрэчнага, ледзь усміхнулася і праехала міма яго. Парк жыў сваім жыццём, а ён быў толькі госць, які шукаў апошні дзень зімы Віктар прыгадаў палотны Станіслава Жукоўскага з іх матывам светлай самоты аб мінулым, дзе ў восеньскім спакоі дагарае сонечнае святло На гэтых палотнах няма людзей, але іх прысутнасць адчуваецца ў настальгіі аб пражытым імгненні. І здаецца – прырода ажыве гучнымі галасамі, але цудоўнае гэтае маўчанне спакою.

Ён знайшоў тое месца. Падышоў да яго з хваляваннем чалавека, які чакаў цуда. Раптам, наперадзе, з куста ўзляцела маленькая шэрая птушка. Віктар палахліва здрыгануўся. Пад нагамі валяліся патрэсканыя і пачарнелыя пластмасавыя шкляначкі, з якіх пілі яны з Хэльгай віно. Вось ён – напамін аб шчаслівым дні Замілаванне і горыч, пяшчота і боль абудзіліся ў душы. Як п'яны, ён прыпаў шчакой да шурпатага ствала яблыні і ледзь не заплакаў «Хэльга, – прашаптаў Віктар, я кахаю цябе» Ён падняў з зямлі маленькі зморшчаны яблык і адкусіў ягоную кіславата-салодкую плоць.

–Я спазнаў зло, а цяпер вось паспытаў яблык дабра, – сказаў Віктар сам сабе – Хай! Я дарую табе, Хэльга, здраду І не трэба мне разбураць тваё шчасце, нават калі мой удачлівы супернік шчаслівы за кошт маіх пакут Я дарую яму, бо Хэльга выбрала яго

Вяртаўся Віктар дадому, калі прыцемкі забраліся ў ягоныя вочы Па нябёсах паўзлі чорныя хмары Ён не палохаўся змрочнай цемры І так спакойна і прыемна было на душы, нібыта яе ніколі не каталі гора і страсць.

– Усё роўна. выйграў я свой бой або прайграў. Няхай няўдача, але гэта мая няўдача І адзінота – гэта мудрасць, гэта погляд вакол сябе, каб быць самім сабой.

Як прывід з цемры, выехала на кані жанчына. Яна маўчала, і ён маўчаў І яны размінуліся Ён вяртаўся ў сваю адзіноту, пакінуты, нелюбімы, растаптаны, смешны, нечалавечы, і мармытаў словы пра каханне Сёння ён зведаў, што такое закаханне То рэўнасць, то нянавісць, то крыўда асляплялі яго Сёння ён пакахаў Хэльгу не целам, не страсцю, а душой

***

У гэты вечар да яго вярнулася Хэльга Яна ажыла ў ягоным уяўленні «Я ўглядаюся ў твае вочы і чытаю тваю тайну Самае патаемнае ты кажаш вачыма і не давяраеш вуснам, але яны пануюць над маімі вуснамі А нашы языкі пераплятаюцца, як змеі. Твае далоні паслухмяна здаюцца ў палон маіх рук. А мае рукі скідаюць з цябе вопратку Я хачу апярэдзіць час, бо кожнае імгненне крадзе ў мяне шчасце, і дрыготкімі пальцамі я расшпільваю гузікі тваёй кофтачкі, рву засцежкі тваёй спаднічкі. Мае вочы адчуваюць прыгажосць твайго цела. Мае вусны вядуць мяне за сабой ўніз да тваіх ног і падымаюць мяне ўверх да тваіх грудзей Ты ціхім уздыхам даеш мне кліч – ты чакаеш майго парыву Я прымаю тваё чаканне, я хачу цябе.

Чаканне апраўдана, і вось страсць галавакружнай кругаверцю падхоплівае нас у сваім парыве. І мы ляцім з ім, наталяемся пачуццём палёту, і ўрачыста гучыць у душы





шматгалосы гімн жыццю, ажно халадок слёз на вачах – радуйся жыццю, жыві. А пасля – павольнае аціханне парыву, як супакаенне, і смута, як Бетховенская – узнёслая і светлая І лёгкі ўздых прасвятлення і ўдзячнасці»

***

Ён ішоў па дарозе ў горад, а вакол стаяла змрочная цішыня Не спявалі птушкі, не шапацелі вершалінамі дрэвы, ні гуку і ні голасу. Здавалася, што вымер свет. Ён прыслухоўваўся да сваіх крокаў і палохаўся іх, бо гэтак ненатуральна гучна разносіліся яны па наваколлі Трывога ахапіла яго. Ён пабег, каб хутчэй мінуць гэтае заклятае месца Трохі супакоіўся, калі ўбачыў наперадзе дзве чалавечыя постаці, што набліжаліся да яго. Насустрач ішлі двое мужчынаў За пасамі, якія апяразалі іх сярмягі, тырчалі сякеры Мужыкі былі падобнымі на сялян з этнаграфічных малюнкаў – даматканыя сярмягі, высокія капелюшы на галовах, палатняныя порткі, лапці на нагах і доўгія бароды Але ён не здзівіўся ім, наадварот, узрадаваўся: «І тут сустракаюцца людзі»,– падумаў. Мужчыны параўняліся з ім і моўчкі абышлі яго з двух бакоў Ён азірнуўся ўслед ім і не паверыў сваім вачам яны нібыта праваліліся пад зямлю. За спінай у яго была пустая дарога. Куды яны падзеліся? Але куды больш здзівіўся, калі зірнуў сабе пад ногі – замест пантофляў на ім былі доўгія з батфортамі боты. Да самага нізу апускаўся з плеч шэры суконны плашч, а на галаве сядзеў шэры капялюш з шырокімі палямі Цяпер ён быў падобны на беднага сярэдневяковага вандроўніка. Такой неверагоднай была гэтая імгненная змена, што ён нахіліўся і з недаверам рукой памацаў боты, плашч, зняў з галавы капялюш і агледзеў яго Што гэта за дзівосы, ён не мог растлумачыць, але тое, што гэта рэальнасць, сведчыла сама рэальнасць. У вушах звінела, нібыта ён стаяў пад правадамі высакавольтнай лініі Адчуў мяккі ўдар у спіну, як ад выбуховай хвалі Пад нагамі пахіснулася зямля, і апошняе, што ён памятаў, – яго падхапіла ў паветра. Ачуняў, лежачы на зямлі, паварушыў рукамі і нагамі – жывы. Убачыў высока над сабой зорнае неба. Што заставалася рабіць, як не бегчы з гэтага заклятага месца І ён пабег І ўжо ладна засталося за ягонай спінай, але горада наперадзе ён так і не ўбачыў Вось тады і ахапіў яго сапраўдны страх. Здалося, што гэтая дарога вядзе толькі ў цемру. Але ўбаку ледзь бачна мігцелі агеньчыкі. Ён падаўся праз поле туды Будынак, да якога ён дабраўся, паказаўся яму знаёмым – двухпавярховы, з чырвонай цэглы і высокім дахам. Праўда, раней ён бачыў толькі ягоныя руіны, а цяпер будынак быў цэлым Такое ўяўленне, што ён трапіў у мінулае. З усіх вокнаў лілося яскравае святло, а гучныя галасы і вясёлая музыка наводзілі на думку пра шумлівае баляванне Хоць каля высокага параднага ганку з прыступкамі ён нікога не сустрэў. Падняўся на ганак, штурхнуў вялікія дзверы, якія надзіва лёгка паддаліся, нібыта самі расчыніліся перад ім Зала, асветленая сотнямі свечак, якія гарэлі ў высокіх пазалочаных падсвечніках, нагадвала памяшканне нейкага храма Каля задняй сцяны ўзвышалася нешта падобнае на бажніцу, на якой стаяла скульптура крылатага чалавека, які нібыта спускаўся з нябёсаў у гэтую залу. У правай руцэ скульптуры гарэла паходня, якая чадзіла чорным дымам, а ў левай руцэ быў рог Правай нагой гэты стод таптаў нейкую пачвару з трыма кракадзілавамі галовамі, на дзвюх з якіх красаваліся каралеўская карона і папская ціара, у пашчы трэцяй галавы тырчаў меч. Каля ног стода знаходзілася скульптура арла з каронай на галаве Перад пастаментам стаялі яшчэ тры стоды, але меншыя за верхні Тое, што адбывалася тут, і сапраўды нагадвала баляванне Некалькі дзесяткаў чалавек, павярнуўшыся адно да аднаго спінамі, скакалі і гучна спявалі. Усе яны мелі самую розную адзежу ад сялянскіх сярмяг да аксамітавых камзолаў. А твары людзей хавалі маскі Нейкі маскарад? Ягонае з'яўленне не выклікала здзіўлення, нібыта прынялі за свайго. Да яго падбег чалавек у камзоле і падаў кубак з зялёнай вадкасцю. Без сумненняў і боязі ён выпіў вадкасць. Гаркаваты з салодкім – непрыемны прысмак. Незнаёмец схапіў яго за руку і пацягнуў у кола. Ён не ўпарціўся і падначаліўся волі гэтага шалёнага кола, якое закружыла ў безразважлівым парыве Як і ўсе, ён скакаў, размахваў рукамі, нешта выкрыкваў.

Дзівосная шчаснасць ап'яніла, і ад пачуцця асалоды ён пачаў гучна смяяцца

Колькі працягвалася гэтае шаленства, не ведаў Агонь свечак, маскі, постаці людзей перамяшаліся ў вачах, крыкі, спевы, смех, тупат ног па каменнай падлозе зліваліся ў адзіную какафонію гукаў Раптам усё сціхла Нібыта па загаду, людзі спыніліся У сярэдзіну кола выйшаў апрануты ў доўгі, да самай падлогі балахон, белы з чорнай аздобай і шырокімі рукавамі, чалавек у масцы казла. Гірлянды ружаў увівалі ягоныя спіну і грудзі. Гучна грукацелі абцасы башмакоў з залатымі спражкамі. Чалавек вёў, трымаючы за руку, аголеную жанчыну – толькі адна маска заставалася на ёй. І не бачачы яе твару, можна было зразумець, што гэта прыгажуня. Яе стройнае і вытанчанае цела святлом свечкі ў цемры вабіла і зачароўвала. Вось яна – тая, якую ён чакаў, прадчуваў, пра якую марыў, якую шукаў, толькі яе хацеў Яна ягоная, і ніхто не будзе валодаць ёю Не разумеючы, што з ім адбываецца, ён выйшаў з кола. Адабраць, адбіць, украсці жанчыну, не аддаць яе другому. Але густы дым без паху, як туман, пачаў падымацца з-пад ног мужчыны і жанчыны. Ён кінуўся наперад. Перад вачыма стаяў белым прывідам дым. Рукі мацалі ягоную бесформенную пустату І нікога ў сярэдзіне не знайшоў, як раствaрыліся яны. Ён кінуўся ў адзін бок, пасля – у другі, кінуўся назад – наперад: дым і пустата. І ўжо трэба было выбірацца з завесы падману. Як невідушчы, кружыўся ён, пакуль не спала аполка дыму. Усе прысутныя разам засмяяліся, паказваючы на яго рукамі Рогат, хіхіканне, віск, свіст – бязлітасна і жорстка білі яго. Прыступ гневу і нянавісці быў настолькі моцны, што ён кінуўся да статуі, схапіў за гірлянды ружаў і пачаў зрываць іх. Статуя раптам пахіснулася і паляцела з пастамента ўніз. І перад тым імгненнем, як яна разбілася, у прысутных вырваўся ўздых адчаю.

Ён стаяў адзін у зале. На падлозе валяліся растаптаныя гірлянды ружаў і гліняныя аскепкі скульптуры таго, каго гэтыя людзі лічылі сваім боствам Яны зніклі. За сённяшні вечар з ім адбылося столькі дзівосаў, што цяпер ужо не здзівіўся Пэўна, у гэтым свеце, у які ён трапіў, усё, што адбываецца, трэба ўспрымаць як рэальнасць.

Жаданне знайсці жанчыну павяло на пошукі. Са свечкай у руках па драўлянай лесвіцы ён падняўся на другі паверх і пайшоў па калідоры, які заканчваўся дзвярыма. Пакой, у якім ён апынуўся, відаць, быў спальняй, бо каля сцяны стаяў драўляны ложак, на высокіх спінках якога знерухомелі разьбяныя постаці амураў, што цэліліся з лука ў сваіх ахвяр. Ахвярамі, пэўна, былі тыя, хто трапляў сюды. Ён пераступіў парог Святло свечкі сягнула далей у цемру, і ў куце ўбачыў яе. Тая, пра якую ён марыў, сядзела ў драўляным крэсле, адкінуўшы галаву на калені. Яе аголенасць хаваў кітайскі халат з вышытымі чырвонымі крылатымі цмокамі. Думка, што за гэтай лёгкай тканінай хаваецца яе прыгожае цела, ап'яняла яго Але твару жанчыны і цяпер не ўбачыў з-за маскі, што закрывала яе вочы і нос.

Жанчына нібыта чакала яго, бо не здзівілася.

– Патушы свечку,– спакойна прамовіла яна.– Ідзі сюды.

Ён падышоў да жанчыны і сеў у другое крэсла, якое стаяла насупраць яе, патушыў свечку. Цемра раздзяліла іх, але ўзаемная прыцягальнасць адчувалася ў іх затоеным чаканні Трэба было нешта казаць, завесці размову. Зрэшты, яна была адзіным чалавекам, які застаўся ў гэтым будынку ад усёй хеўры І яна магла растлумачыць ягонае становішча.

– Што тут адбываецца? – спытаўся ён – Нейкі шабаш?

– Ты не памыліўся Сёння ноч на трыццатае лістапада – ноч шабашу. Вось толькі ты ўсіх разагнаў,– роўным голасам адказала жанчына

І каб пераканацца ў сваёй здагадцы, што ён у мінулым, знарок спытаўся.

– А які цяпер год?

– Ты, пэўна, шчаслівы чалавек, што нават і гады не лічыш Тысяча пяцьсот трыццаць чацвёрты

– Што? – вырвалася ў яго.

– Ты здзівіўся?

– Не, – прыйшоўшы ў сябе, адказаў ён





Значыць, яго здагадка апраўдалася

– Дзе ж я апынуўся?

– У Новым Ерусаліме

– Мюнстэр! ізноў здзіўленна ўскрыкнуў

– Быў некалі Мюнстэр. А пасля таго, як мы пабудавалі божае царства, – наш горад стаў Новым Ерусалімам

Ад хвалявання ажно падняўся з крэсла і пачаў хадзіць. А ўслед замітусіўся па сценах ягоны вялікі і выразлівы цень.

Гэта неверагодна! Гэта немагчыма! Іаан! Новы Ерусалім! Не, пэўна, ён занадта захапіўся ерассю, што вось і сніцца пачалося, што ён трапіў у Мюнстэр да сваіх герояў Вось ужо сапраўды, каб займацца ерассю, трэба ўмацавацца ў веры Тады ніякая наслань не прычэпіцца Але рэальнасць таго, што адбывалася з ім, была настолькі відавочнай, што ён не паверыў бы ў сон, нават калі б усё гэта і прыснілася Цяпер толькі гэтая жанчына магла дапамагчы вярнуцца ў свой час. Ён апусціўся на калені і ўзяў яе далоні.

– Хто ты такая, прыгожая і таямнічая?

– Дзівара! Прыгажэйшая за ўсіх жанчын Нявеста прарока Іаана Але хто ты?

– Я вандроўнік. Толькі не думаў, што так далёка забяруся. Завуць мяне Віктар.

– Віктар – значыць Пераможца. Можа, гэта пра цябе напрарочыў прарок Маціс, што пераможа Пераможца? А можа, ты той, каго паслаў мне лёс?

Яна асцярожна вызваліла свае далоні і павольна пачала гладзіць ягоныя рукі, а пасля сашчапіла іх на ягонай шыі

Я хачу цалаваць цябе, прыгажэйшая за ўсіх жанчын, – прызнаўся ён.

Яе блізкасць туманіла яго свядомасць, і жаданне любіць гэтую жанчыну з кожнай хвілінай усё больш валодала ім.

Цалуй жа мяне! Цалуй, мой Пераможца. Растапчы мой гонар і сорам

– Умілаваная і ўлюбёная мая!

– Плаці сваёй пяшчотай за маю пяшчоту Плаці шчодра.

Раніцай іх разбудзіў тупат конскіх капытоў, што пачуўся каля дома. Унізе загрукалі абцасы ботаў, пасля пад цяжарам ног зарыпела лесвіца Нехта падымаўся на другі паверх.

– Гэта па мяне, а можа, па цябе, – прамовіла Дзівара – Схавайся

Ён хутка саскочыў з ложка, схапіў сваё адзенне і забіўся ў шчыліну паміж сцяной і шафай. А Дзівара, сеўшы на ложку, спакойна надзела на твар чорную маску Дзверы расчыніліся, і ў пакой ўваліліся чатыры ўзброеныя воіны.

– Дзе ён?! – закрычалі яны

Дзівара, не азірнуўшыся на іх, паправіла рукой валасы, што хвалямі бруіліся па яе плячах, і насмешліва кінула:

– Каго гэта вы згубілі?

– Прарок загадаў злавіць і пакараць чалавека, які ўчора быў тут.

– Дык вы яго шукаеце ў спальні нявесты прарока?

Дзівара паднялася з ложка Велічная і ганарлівая, яна стаяла перад воінамі Аслупянела пaглядзелі яны на аголеную жанчыну, нібыта ім адкрылася таямніца вечнай жаноцкай прыгажосці

– Прэч адсюль! – уладарна крыкнула яна

Яны спінамі адзін за адным пакінулі пакой, ліслівымі словамі скупляючы сваю памылку.

– О прыгажэйшая за ўсіх жанчын!

Калі воіны выйшлі, Дзівара, адзяваючы сукенку, мовіла.

– Цябе шукаюць, Пераможца

Ён выйшаў са свайго сховішча, хацеў пацалаваць жанчыну – яна ўсміхнулася:

– Не час.

– Дзівара, дзе знайсці цябе? Калі мы сустрэнемся?

– Чаму быць, таго не мінаваць.
– Улюбёная мая, дазволь хоць убачыць твой твар
– Не, – адмоўна пахітала яна галавой і зняла з шыі залаты ланцужок з медальёнам – Вось, на памяць.
Ён узяў медальён, адкрыў вечка і ўбачыў партрэт. Гэта была Хэльга. Яе валасы, яе блакітныя вочы, яе нос, яе вусны, яе мілавідны авал твару. Гэта была Хэльга.
–Ты?! – здзіўлена ўсклікнуў ён і зірнуў на жанчыну
Але Дзівара, як прывід, знікла З вуліцы пачуўся тупат конскіх капытоў
На гэтым і скончыўся сон Віктара.

## ПРАСВЯТЛЕННЕ

Ён не мог без Хэльгі Хоць на імгненне забыцца пра яе ў размовах са знаёмымі Віктар званіў ім па тэлефоне, а рука прыпадала да магічных лічбаў яе нумара Праз аднастайныя доўгія гудкі ён, здаецца, чуў яе ціхае «Алё». Зачараванае кола куды ні кінешся – усюды Хэльга Гнаны сумам, ён адправіўся на ўскраіну горада Ішоў і думаў, як пазбавіцца ад гэтага кахання Пры пераходзе вуліцы ён адчужана глядзеў на машыну, што ехала насустрач Рэзкія гукі сігналу глухлі ў вушах. Чыясьці моцная рука схапіла ягоную руку і моцна тузанула назад. «Куды лезеш, дурань»,– прагучаў над вухам незадаволены голас. Машына імкліва праляцела ўпрытык з Віктарам – халодны струмень паветра ўдарыў яму ў твар І ён нібыта працверазеў Лез пад самыя колы Але яму было цяпер усё адно, памрэ ён ці будзе жыць.
За вуліцай на беразе возера жыла сваім клопатам вёсачка Тут быў зусім іншы свет, нават пахла не смуродам газаў, а гаркавата-прыемным дымком, што там-сям падымаўся з комінаў Было спакойна і прыемна. І не прыгнятала атмасфера людской незадаволенасці і агрэсіі Людзі не перашкаджалі Для іх ён выглядаў дзіваком, які радасна размаўляў сам з сабой ды яшчэ размахваў рукамі, нібыта з некім спрачаўся.

..А ён размаўляў з Хэльгай. І не возера яны бачылі і не шматпавярховыя скрыні дамоў на процілеглым беразе, а нязведаны акіян Гэтак стаяў даўней на беразе чалавек, і хвалі пакорліва замiралі перад нагамі свайго Пераможцы – таго, хто пракладзе шлях да новага свету Бачыў ён зямлю сваёй мары Ці Майсей гэта быў, ці Калумб?
Яны сядзелі ў лодцы, што калыхалася на вадзе каля прычалу Сваю няёмкасць ад блізкасці хавалі за дымам цыгарэт Але ён ведаў, што Хэльзе падабаецца сядзець побач з ім у лодцы, ёй прыемна і хораша. За вёскай напаткалі белую козачку Жалезны ланцуг прыкуў яе да ўвагнанага ў зямлю кія, і яна стамілася хадзіць вакол сваёй няволі, легла адпачыць. Козачка трывожна зірнула на іх, ускочыла на ногі. Крывавыя згусткі на поўсці зліпліся ў каўтуны, а ружовыя смочкі чырванелі, як язвы, крывёю. Забытая сваімі гаспадарамі жывёла дрыжала ад холаду, і на вялікіх сумных вачах, здавалася, з'явяцца слёзы.
І яны пагладзілі козачку і дакрануліся да яе рагоў Нібыта да рагоў казы Амалфеі, каб прынесла шчасце
Вярталіся прасветленыя. Маўчалі, але гэта было маўчанне шчаслівых людзей, якія захоўвалі самыя дарагія для іх словы. Радасць і шчасце выпраменьваліся з іхніх вачэй, гралі ўсмешкамі на іхніх вуснах. Дзеці аглядваліся на іх. Хлопчык гадоў пяці у выпацканай пылам палатнянай куртцы з нашытай чырвонай зоркай на грудзях падбег да Віктара, мімаходзь дакрануўся да яго рукой і засмяяўся. Віктар уявіў шчасце Хрыста, які даваў людзям энергію сваёй духоўнай чысціні. Пэўна, вось гэтак падбягалі да яго дзеці, каб дакрануцца да ўзнёслай прасведы.

У нядзелю вечарам Віктар выбраўся паслухаць музыку. Канцэртнай залай служыў будынак былога касцёла У невялічкім гардэробе падышоў да яго барадаты чалавек з ясным поглядам добрых вачэй і запытальна сказаў
– Вас нешта турбуе, бачна па вачах. Ачысціце душу перад Богам, і вам палягчэе





Віктар усміхнуўся. Раскрываць сваю душу незнаёмцу не дазваляў гонар.
– Усё нармальна! – адказаў Віктар бадзёрым голасам.
– Але вазьміце
Незнаёмец дастаў з сумкі невялічкага памеру кніжку ў чорным пераплёце з высесненым золатам крыжом на вокладцы Віктар адкрыў кнігу і на тытульным лісце прачытаў назву «Новы запавет»
Маленькі цуд! Нібыта Бог паслаў гэтага чалавека, каб дапамагчы яму прыйсці да веры
Спакоем і ціхай радасцю поўнілася душа, і боль, і трывога зніклі Ён растварыўся ў музыцы Ляцеў з ёй у стыхію прасторы і часу Нічога не разумеў і нічога не хацеў разумець, не думаў і не хацеў думаць. Безмяцежны, лёгкі, прасветлены Божая шчаснасць? Ён верыў, што гэта так.
У добрым настроі Віктар вяртаўся дамому і быў удзячны незнаёмцу за ягоны падарунак. Ён гартаў «Новы запавет» і чытаў тое, што было падкрэслена алоўкам.
«Бо хто ўзвышае сябе, той паніжаны будзе, а хто паніжае сябе, той будзе ўзвышаны»
«І сказаў ім. заўважайце, што чуеце якою мераю мераеце, гэткаю й вам адмерана будзе і дадзена будзе вам, што слухаеце»
«І, калі любіце любячых вас, якая вам за тое ўдзячнасць? Бо-ж і грэшнікі любячых іх любяць»
«Бо хто ходзіць у цемры, той не ведае, куды йдзе»
Нібыта для яго падкрэсліў гэтыя словы невядомы добразычліўца, каб зразумеў ён сваю заблудзь і прычыны свайго падзення Так, узвышаў ён сябе, прагнуў славы і велічы – і вось паніжаны. Мерыў нянавісцю і злом – і адмерана яму нянавісцю і злом.
І асуджаны ён самім сабой на паніжэнне і пакуту Але знайшоў Віктар і папярэджанне сабе У «Евангеллі» паводле Лукі невядомы падкрэсліў наступныя радкі і паставіў знак пытання – задумаўся. «Калі нячысты дух выйдзе з чалавека, то ходзіць па бязродных мясцох, шукаючы супакою, і, не знаходзячы, кажа. вярнуся ў дом мой, адкуль выйшаў.
І, прыйшоўшы, знаходзіць яго вымеценым і прыбраным, тады йдзе і бярэ з сабою сем другіх духаў, больш злых за яго, і, увайшоўшы, жывуць там і бывае для чалавека таго апошняе горш за першае».
І шлях да выратавання ўказвалі Віктару
«Калі хто не народзіцца нанава, не можа бачыць царства Божага».
Успрымаў гэтыя словы як Божую волю Цемра ягоных сумненняў растала. І ён паверыў, і гатовы быў узяць крыж свой і йсці за Хрыстом Але ганарлівая думка спакусіла яго. Сімвалічнае значэнне ягонага імя – Пераможца Дык якая перамога наканавана яму? Можа, менавіта ён, слабы і прыніжаны чалавек, пазбаўлены Божай абароны, выйграе гэты бой, бой з чорнай сілай Вось ягоная перамога!
Раніцай наступнага дня Віктар выправіўся ў выдавецтва падпісаць кнігу ў друк. Працы хапала, трэба было яшчэ раз перагледзець макет, але Віктар спадзяваўся, што да сустрэчы з Хэльгай а чацвёртай гадзіне, на якую яны ў рэшце рэшт дамовіліся, ён паспее.
Людская плынь падхапіла Віктара, як бязвольную істоту, і заштурхнула ў набітую людзьмі жалезную скрыню трамвая Набіліся, што і паветра не глынуць. «Што ж, прыніжуся, каб узвысіцца»,– са скрухай прымірыўся з такім становішчам Віктар. Гэтая людская маса жыла вернасцю наканаванай дарозе ад хаты да працы, ад працы да хаты, ад званка да званка, з дня ў дзень, з году ў год. І вось крык абурэння «Чёго павіс на мне, як сапля? Я не должан цябе дзяржаць. Вось так і на рабоце – адзін укалывае, а сем на ім вісяць. Што глядзіш? Павесіў пысу клінам». І абурэнне аціхае. «Трэба любіць людзей, вось я і люблю І што ж? Мая бессмяротная душа задыхаецца ў гэтай жывой магіле. А трамвайчык па рэйках тук-тук. Я задыхаюся Як на аперацыйным стале, боль расцягвае хвіліны ў вечнасць». Заціснуты людзьмі, ён задыхаўся ад недахопу паветра. Аслабелае бяссоніцай цела не вытрымлівала Апошнім намаганнем волі ён усё ж дачакаўся свайго прыпынку Прабіўся да выхаду Некалькі хвілін ён стаяў і піў марознае моцнае паветра.

Вакол яго з'явілася купка юнакоў і дзяўчат – бадзёрыя, расчырванелыя, вясёлыя. І гледзячы на вабнасць юнацтва, ён прадчуваў сваё паражэнне, бо сілы ягонай маладосці канчаліся Але ў яго заставалася вера, і яна не патрабавала доказаў Ён верыў, што Хэльга кахае яго, сама таго не разумеючы, кахае памяццю вуснаў, вачэй, рук, памяццю кахання І гэтая вера надавала яму моцы

Пяць гадзін ён гуляў у словы – замяняў іх больш трапнымі і дакладнымі, выпраўляў памылкі. Нарэшце апошняя старонка адпусціла яго Стрэлкі гадзінніка дабраліся да трэцяй гадзіны, і ў Віктара яшчэ хапала часу да сустрэчы з Хэльгай Шчаслівы, ён хадзіў па горадзе Зайшоў у кнігарню, прабег вачыма па паліцах з кнігамі. Слыхам улавіў знаёмыя сігналы «Маяка», голас дыктара паведаміў: «Четыре часа тридцать минут» Мінула паўгадзіны з часу дамоўленай сустрэчы, а ён і не заўважыў Прахадзіў шчаслівы, забыўся Гэтак не бягуць на пажар, як бег ён Праімчаўся на чырвонае святло цераз праспект перад самымі машынамі і паспеў ускочыць у адчыненыя дзверы аўтобуса. «Хутчэй», падганяў ён у думках вадзіцеля. Аўтобус, як на зло, спыняўся каля кожнага святлафора – чырвонае святло запальвалася на ягоным шляху Кожная лішняя хвіліна магла стаць для Віктара трагічнай Што думае Хэльга? Знарок спазніўся? Учора казаў ёй колькі б ні чакала яго – і гадзіну, і дзве, і тры, – ён абавязкова прыйдзе І вось нібыта праверыў яе на вернасць.

Нарэшце аўтобус дабраўся да прыпынку, і Віктар птушкай вылецеў з ягонай клеткі. На крылах свайго адчаю панёсся ён на месца сустрэчы. Ляцеў і задыхаўся, задыхаўся і ляцеў Калі да кінатэатра, каля якога яны павінны былі сустрэцца, заставаліся лічаныя метры, ён перайшоў на крок, з трывожным пачуццём абагнуў рог дома. Асуджана ўздыхнуў Ён не ўбачыў Хэльгі, не знайшоў яе і ў холе кінатэатра, куды яна магла зайсці пагрэцца. «Жыццё дало адказ. Хэльга не любіць мяне. Не дачакалася, бо я для яе ніхто. Так.. Так. – Ён ціха засмяяўся з горачы. Вось і пераканаўся, што шчаслівы не заўважае часу Смех! Стаў ахвярай свайго шчасця» Ён абышоў будынак кінатэатра, аглядаючыся па баках. Знаёмай постаці ў чырвонай куртцы не ўбачыў Ну што ж, настаў час прызнаць сваё паражэнне. Віктар глянуў на гадзіннік. Што такое? Стрэлкі паказвалі пятнаццаць гадзін пяцьдзесят мінут Ён нават спытаў, колькі часу, у некалькіх чалавек, і яны пацвердзілі дакладнасць ягонага гадзінніка. І ён уцяміў· «Маяк» паведаміў маскоўскі час, а розніца з мясцовым акурат гадзіна. Вось ужо ён смяяўся з сябе, вось радаваўся памылцы, як дзіця радуецца дарагому падарунку Трэба быць п'яным ад жыцця, каб адчуць усю ягоную хмельную прыемнасць. Чаго ён стаіць? Ён пабег да падземнага пераходу, дзе прадаваліся кветкі. Выбраў ружу і беражліва схаваў яе пад куртку каля сэрца.

Хэльга спазнялася. Мінула палова гадзіны, а яна не з'яўлялася Віктар нецярпліва хадзіў па вуліцы Хваляваўся, як юнак. «Мілая мая, дзе ты? Пачуй, што я клічу цябе Прыйдзі», – прасіў ён Вечаровыя прыцемкі кралі з вачэй яснасць. Ён інстынктыўна імкнуўся насустрач кожнай жаночай постаці І вось ён, цуд! Хэльга ішла да яго, як надзея прыходзіць да таго, хто страціў надзею Сорам быць шчырым стрымаў ягоную радасць. Але ад удзячнасці Хэльзе расшпіліў куртку і паказаў ружу.

Маё сэрца стала кветкай Хочаш узяць яго?

Хэльга радасна кіўнула галавой, і яе рука беражліва ўзяла кветку. Яна з такім дзіцячым захапленнем трымала ў руках ружу і ўдыхала яе водар, што не толькі Віктар, але і людзі радаваліся за яе, як радуюцца непасрэднасці пачуццяў дзяцей Як нешта дарагое, яна любоўна агарнула далонямі кветку і ўсміхнулася

Пасля яны пілі каву з лікёрам, водар якога п'яніў іх. Ён распавёў, як падарожнічаў з ёй на беразе возера, як палілі цыгарэты ў лодцы, як дакраналіся да рагоў Амалфеі. Ад ягонага позірку не ўтаілася расчуленасць у вачах Хэльгі Да яе сэрца дайшлі ягоныя словы Толькі шчырасцю і пяшчотай ён верне да сябе Хэльгу

А пасля яны пакідалі сляды на асвечаных ліхтарамі вуліцах. Ён паказваў Хэльзе куточкі старога горада, дзе можна было ўбачыць велічныя помнікі мінулага – касцёлы і цэрквы, фасады якіх заляпілі шэрай цэглай, а самыя будынкі пахавалі за сучаснымі выродлівымі гмахамі.





У кнігарні, куды яны зайшлі, Віктар набыў кнігу паэзіі. Вельмі ж зачаравана паглядала Хэльга на яе, вось і зрабіў ёй падарунак. Хоць кніга і каштавала багата, але ён хацеў паказаць сваю шчодрасць і бескарыслівасць.

На вуліцы яна здзіўлена спытала.

– Адкуль ты ўгадаў маю мару? Я марыла... Але..

– Гэта казка, дзе збываюцца нашы мары.

І Хэльга, як казачная прыгажуня, загадкава ўсміхнулася яму І ён жыў у гэтай казцы, бо не заўважаў гэтага рэальнага свету.

А пасля чорны цень лёг на ягоную душу. Хэльга раскрыла кнігу і прачытала першы верш, які трапіў ёй на вочы Ціхі варажбітны голас жанчыны даносіў да ягонай свядомасці страшныя словы·

**Я не для ангелов и рая**
**Всесильным богом сотворен;**
**Но для чего живу, страдая,**
**Про это больше знает он.**

**Как демон мой, я зла избранник,**
**Как демон, с гордою душой.**
**Я меж людей беспечный странник,**
**Для мира и небес чужой;**

Халодная чарната дабралася да самых ягоных пазванкоў, ажно пацямнела ў вачах.

**Прочти, мою с его судьбою**
**Воспоминанием сравни**
**И верь безжалостной душою,**
**Что мы на свете с ним одни.**

Гэта быў верш паэта, які адчуваў над сабой дэманічную ўладу· «И гордый демон не отстанет, пока живу я, от меня» Пэўна, гэты мяцежны паэт перажываў нешта падобнае, што давялося цяпер перажыць Віктару. І невыпадкова Хэльга знайшла гэты верш

– Навошта ты прачытала гэты верш? – спытаўся Віктар у Хэльгі.

– Ды проста – Голас яе гучаў весела, і цяжка было западозрыць, што Хэльга мела нейкі намер.

«Как демон мой, я зла избранник» – гэтак трэба разумець?

– Памятаеш канец «Фаўста»? Прачытай і зразумееш Прабач, але мне трэба ісці

– Ты пакідаеш мяне?

– Мяне чакае ён.

Зноў тое самае! Даць яму надзею, а пасля жорстка ўдарыць у самае сэрца. Прыём спрацоўваў Крыўда на Хэльгу ў адно імгненне абудзіла ў яго пачуццё помсты

– Ты мяне любіш? – рэзка спытаўся Віктар

Хэльга адказала не адразу У яе вачах ён бачыў шкадобу да сябе, заўчасна ёю асуджанага Яна апусціла галаву, нібыта не хацела сустракацца з ім позіркам, адмоўна хітнула галавой

– Тады расстанемся.

– Я не хачу, – разгублена і нясмела запярэчыла Хэльга

– З гэтым трэба канчаць. Ідзі.

Яна зрабіла некалькі крокаў і павярнулася да яго.

– Пазваніць табе можна?

– Навошта? Ты прыносіш мне боль.

Хэльга яшчэ якое імгненне стаяла, нібыта чакала, што ён пераменіць сваё рашэнне, і сумна паглядала на Віктара.

Ідзі, спознішся, а ён будзе незадаволены

Пайшла Хэльга марудна, як няўпэўненая ў сваім рашэнні. Але раптам рэзка павярнулася і вярнулася да Віктара

– Ведаеш, мне прысніўся сон, што я ўцякаю ад цябе Нейкі лабірынт, а я бягу па ім І доўга-доўга бегла, пакуль не трапіла ў тупік. І я вярнулася да цябе Было так сорамна перад табой, – прызналася Хэльга Але вярнулася.

Навошта яна распавяла яму гэты сон? Каб даць яму надзею – і зноў паўторыцца гэтая д'ябальская гульня з ім Трэба быць рашучым – раз і назаўжды парваць з Хэльгай

– Мала што прысніцца Я не Фрэйд, каб тлумачыць сны, – насмешліва адказаў Віктар. Ён глядзеў ёй услед, пакуль яе постаць не растала ў людскім мностве

## АПАФЕНЕЙ

Горад апусцеў для Віктара На яго насунулася цемра Ён зразумеў сваё бяссілле перамагчы наканаванае Як п'яны, ішоў па вуліцах, і цемра стаяла ў вачах Каля нейкай кавярні Віктар спыніўся. І што яму засталося як не напіцца Алкаголем суняць свой боль. Ён адчыніў дзверы кавярні і спусціўся па прыступках уніз у цьмяна-асветленую залу. Замовіў сабе сто грамаў гарэлкі і выпіў, паўтарыў і зноў замовіў па-новаму Людзей не бачыў, галасоў не чуў Цемра асляпіла яго і цяжарам пустаты хіліла ягоную галаву ўніз, і ён падтрымліваў яе рукой Плакаць і выць па-сабачы хацелася

«Зноў я застаўся са сваім гонарам і прыніжэннем. Адзін без веры, без надзеі і любові У сваёй дзёрзкасці я асмеліўся падумаць, што Хэльга мая. Але вось з'явіўся гэты Ён – і я згінуў у цемры» Нейкі мужчына з няголеным тварам, трымаючы шклянку, напоўненую горкім хмелем гарэлкі, падсеў да Віктара Глынуў, чмокнуў і пачаў плакацца

– Уяўляеш, знюхалася з нейкай Фаняй Мужык яе ўвесь час у камандзіроўках – месяц, два тыдні, тыдзень. Мужык ішачыць, а яна блядуе Вось і маю ад сям'і звяла. Днямі там прападае – Нечаканы субяседнік дастаў з кішэні заношанай джынсавай курткі гарбузнае зерне і моцнымі зубамі раскусіў яго, выплюнуў шалупінне, а зерне праглынуў – закусіў – У чацвер раніцай прыехаў, застукаў там, спала Так пабіў, так пабіў Фаня, тая ўцякла, ведае, што да мяне лепш не трапляць. Я яе так пабіў. Прыстала да цела,– ён сціснуў кулак. – А я біць умею без сінякоў Па мяккаму, па нырках. Во, насочкам нагі Дружкі на зоне навучылі Так яе біў, думаў, усю ахвоту адбіў А яна, бачыш, зноў Што я, хлопчык? Мне трыццаць чатыры гады, а яна маладзейшая на восем гадоў Дачка ў школу пайшла, сыну тры гады А яна што творыць? Калі захацелася блядаваць, дык скажы адразу Не дуры мне галавы, разыдземся. Напляваць мне на ўсю яе радню. Вось уяўляеш, я не п'ю, але яна давяла мяне Што сёння ўчыніць? Ужо вечар, а дома яе няма. – Ён паднёс шклянку да вуснаў і нервовымі глыткамі асушыў яе – Ну, дзякуй табе Дзякуй

– Жыццё, усялякае бывае, – адказаў Віктар

– Так, жыццё, і ад яго не схаваешся – Мужчына падняўся з-за стала і, сагнуўшы плечы, асуджана паплёўся да выхаду

«Якія мы слабыя, мужчыны, як толькі закахаемся ў жанчыну, дык становімся яе рабамі Безразважлівасць і адчай забіваюць нас»,– падумаў Віктар. Яму самому хацелася камусьці невядомаму і выпадковаму распавесці пра сваю бяду. Не маўчаць, не насіць боль у сэрцы Ён нават азірнуўся па баках. Але за сталамі сядзелі то закаханыя парачкі, то п'яныя кампаніі, дзе ён быў бы нежаданым і лішнім. Побач за суседнім сталом сядзелі чацвёра мужчын, пілі і гучна размаўлялі Нехта з іх выкрыкнуў· «Ды што ты ведаеш пра жанчын?!» Віктар прыслухаўся

– Дык вось, каб ведаў, што жанчыны з вышэйшага свету вельмі хутка і лёгка распазнаюць усялякі фальш у паводзінах мужчын Але любяць, калі мы на дзень нараджэння дорым ім кветкі Жанчыны простыя любяць, калі ім заўжды дораць кветкі Яны верныя любоўніцы Няхай ты нават ім здрадзіў, яны па-ранейшаму будуць любіць цябе і заўжды даруюць табе Рабочыя дзеўкі любяць моцных хлопцаў, каб з-за іх біліся, не любяць, калі дораць кветкі. Сялянкі любяць, калі дораць сукенкі





Розніца паміж мужчынам і жанчынай простая. Мужчына хоча, але не можа, а жанчына можа, але не хоча Вось тут і ўся трагедыя кахання! Мы асуджаны, як там у Фаўсце·

**Вечна-жаночае**

**Вечна заве!**

Хмель туманнай апаволкай засціў свядомасць Віктара. Людзі згубілі свае воблікі і ператварыліся ў цені, святло пацямнела Галасы зліліся ў адзін гул. Словы, што даляталі з суседняга стала, не ўспрымаліся ім, нібыта былі без сэнсу, як набор гукаў Праходзілі праз мозг, як вада праз сіта, не выклікалі ў Віктара асэнсавання, дзеяння і жадання, і ў пустэчы здранцвеласці каналі без следу Адзінае, што ён адзначыў, – нехта гучна і рэзка крычаў

Дзіўнае пачуццё ахапіла Віктара. Яму здавалася, што некалі даўно ён быў у гэтай зале з цаглянымі сценамі, абвешанымі воўчымі шкурамі, сядзеў за такім жа разьбяным сталом, на такой жа шырокай лаве А побач, за суседнім сталом, весялілася кампанія Толькі адзежа іншая не джынсы, швэдры і красоўкі, а грубыя палатняныя камбінезоны, чорныя парты і боты На грудзях гэтых гуляк віселі металічныя нагруднікі, а на плячах – наплечнікі На шырокіх скураных пасах матляліся засунутыя ў похвы шпагі і палашы Металічныя гелмы ляжалі каля іх ног Без сумнення, гэта былі ландскнехты Яны пілі піва з вялікіх драўляных конавак і заўзята рэзаліся ў карты Яшчэ адзін чалавек сядзеў у кутку, не піў, не еў І стол яго быў пусты Нібыта чалавек зайшоў сюды адпачыць або кагосьці дачакацца Чорны капюшон плашча закрываў твар чалавека, да таго ж ён апусціў галаву ўніз, быццам яго не цікавіла тое, што тут адбываецца.

Але доўгія танклявыя пальцы з пярсцёнкамі, якія зіхацелі ў святле свечак, скакалі па шкляной ручцы кія ў выглядзе чэрапа – выдавалі ці то нецярпенне, ці то трывогу гэтага чалавека.

А ён сядзеў, піў з гора, бо страціў каханую, і міжволі падслухваў размову.

– Што яшчэ прыдумае наш Прарок? – казаў адзін з гульцоў у карты – Бязбожнікаў выгнаў, срэбра і золата падзяліў, роўнасць устанавіў. Цяпер няхай жанчын зробіць агульнымі Вось тады і будзе рай

Ваякі засмяяліся і пачалі марыць.

О, уяўляю, як Прарок выступіць з прароцтвам, што Богу даспадобы, каб мужчына меў любую жанчыну, бо не мужчына для жанчыны, а жанчына для мужчыны

– Ха-ха-ха!

– А прыгажэйшую за ўсіх жанчын Прарок зробіць агульнай жонкай?

– О О! Ён хавае яе ў замку, і сам Фаўст не даступіўся б да гэтай жанчыны

– А я, калі ўбачыў яе аголенай, дык ледзь язык не праглынуў Якія ногі, а грудзі. Ах! Хоць бы адным вокам зірнуць яшчэ на яе

І ён здагадаўся, што гэта тыя ваякі, якія раніцай шукалі яго самога і перад якімі з'явілася ў сваёй магічнай прыгажосці Дзівара Прыслухоўваўся да кожнага слова, можа, нешта даведаецца пра яе

– Калі Фаўст не можа завалодаць прыгажэйшай за ўсіх жанчын, дык, можа, мы?

– Ха-ха-ха!

– Стаўлю на кон,– барадаты, з доўгімі валасамі, выцягнуў медальён на залатым ланцужку і раскрыў яго – Вось яна, Дзівара! Стаўлю

Ён пазнаў гэты медальён – падарунак Дзівары

Машынальна рука нырнула ў кішэню пад плашч, і ён пахаладзеў, бо не знайшоў медальёна

Згуляем на прыгажэйшую за ўсіх жанчын

За суседнім сталом запанавала цішыня

Не мог ён застацца ўбаку, бо павінен быў абараніць тую, якую пакахаў. І таму падняўся і падышоў да ландскнехтаў

– Я хачу гуляць.

– А што ты паставіш? – спытаўся барадаты і паклаў на стол медальён

Стаўлю ўсе свае грошы, – адказаў ён і дастаў з-пад плашча капшук з талерамі

Болей ніхто не згадзіўся гуляць. Ён сеў за стол. Барадач уважліва глядзеў на яго і ўсміхаўся. Павольна тасаваў замусоленыя, патрапаныя карты. А ён адчуваў на сабе цяжар пільных позіркаў і трывожную цішыню. І вось адна за адной карты леглі каля ягонай далоні. З забабоннай перасцярогай узяў іх. Нібыта насмешка над ім – карты былі горшымі адна за адну Разлічваць на выйгрыш немагчыма.

– Стаўлю яшчэ

– Што?

– Што пажадаеш, тое і стаўлю.

Барадач не зводзіў з яго вачэй, глядзеў спадылба і хмыкаў сабе пад нос.

Душу тваю жадаю Душу паставіш на кон? – павольна і выразна прамовіў барадач.

Адмовіцца – значыць прайграць, а згадзіцца – атрымаць шанец на выйгрыш. Які тут выбар? Ды хіба гэты ваяка зможа забраць ягоную душу? Хай бярэ, калі зможа.

– Стаўлю!

І карта, на якую ён спадзяваўся, пазбавіла і гэтага шанцу.

– Што яшчэ магу я паставіць? – ціха спытаўся ён.

– Жыццё! – рэзка кінуў яму барадач.

– Я буду гуляць.

– Дарагая плата, – папярэдзіў барадач, па-ранейшаму не зводзячы з яго позірку.

Халодны пот кропелькамі пабег па ягоным целе. Гульня прымала небяспечны паварот. Але які ў яго выбар?

– Дамовіліся, карту!

І барадач працягнуў яму карту Ён, паклаўшы яе ў далонь, з хваляваннем адкрыў Сёння шчасце здрадзіла яму.

– Стаўлю сваю імя, болей нічога не засталося ў мяне.

– Прымаецца.

Ён узяў карту. Гэты бой прайграў. А барадач задаволена зьмітаваў яму ўсмешку і з замілаваннем паглядзеў на яго.

– Усё!

Раскрылі карты, і ягоныя грошы, ягоная душа, ягонае жыццё і нават ягонае імя сталі ўласнасцю гэтага ваякі.

– А цяпер маё жаданне. Ты,– барадач навёў на яго палец,–ты ажэнішся з прыгажэйшай за ўсіх жанчын. А калі не, дык твая душа, жыццё, імя будуць маімі.

– Та-а-к,– здзівіліся ваякі.– Ну і загадаў ты. Хіба ж гэта магчыма? І Фаўст не справіўся б з гэтым

– На тваё жаданне мне пляваць, Дзівара і так мая.

Ён падняўся з-за стала і ўзяў медальён

– Тое, што ты ставіў, належыць мне Гэты медальён мой. Не ведаю, як ён трапіў да цябе. Ты ставіў не сваё

Чырвань гневу выступіла на твары барадача, ягоныя вусны скрывіліся ў злаславай усмешцы. Вялікія далоні замкнуліся ў цвердзь кулакоў

– А хто ты? Як гэты медальён апынуўся ў цябе? Можа, ты той, каго шукае Прарок? Ану, хлопцы, бярыце яго!

Ландскнехты ўскочылі на ногі і выхапілі з похваў шпагі і палашы. Ён адступіў назад. Разумеў, што яму не справіцца з чатырма здаровымі і ўзброенымі мужчынамі, але ўцякаць ад іх было б ганьбай. Яны насоўваліся на яго, самаўпэўненыя і задаволеныя, прадчуваючы лёгкую перамогу

– Панове, у чым справа? – З свайго кута падняўся чалавек у чорным плашчы і, абапіраючыся на кій, выйшаў на сярэдзіну залы, павярнуўся да ваякаў.– Мне сорамна за вас, рыцары. Такія, пэўна, цяпер норавы – чацвёра на аднаго. О, якая мужнасць! Што за рыцары? Я такіх не сустракаў, але, дзякуй Богу, нарэшце сустрэў. Я прымаю ваш выклік! – Сваёй насмешлівай інтанацыяй чалавек проста правакаваў ландскнехтаў на бойку.

– Не лезь пад ногі! – закрычалі яны.





Чалавек спакойна стаяў перад імі і круціў кіем

– Вы засумняваліся ў маіх магчымасцях?

– Не злуй нас.

– А то што будзе?

– А вось пакажу! – Адзін з ваякаў кінуўся наперад.

А чалавек толькі і чакаў гэтага моманту – хуткім натрэніраваным рухам схапіў кій дзвюма рукамі і сагнуў яго ў дугу. Калі ваяка падбег да чалавека і замахнуўся на яго кулаком, ён адпусціў кій Пруткай пружынай ляснуў канец па занесенай руцэ і рассек рукаво камбінезона Ваяка завыў ад болю і адскочыў убок.

– Моцны ўдар? Нічога, бывае і горш, супакоіў нешчаслівуца чалавек.

Нехта з ваякаў узмахнуў шпагай, але чалавек спрытна выбіў яе з ягоных рук. Шпага ўпала на падлогу. Чалавек зноў сагнуў кій і зрабіў крок наперад.

Самаўпэўненасць на тварах ваякаў змянілася баязлівасцю. Мужныя рыцары адступілі перад чалавекам Барадач хутка прыгнуўся і паспрабаваў ударыць палашом па ягоных нагах. Але той угадаў гэты намер, таксама прыгнуўся і адпусціў кій. У цішыні прагучаў глухі ўдар кія па целе Тое, што ён убачыў, уразіла. Барадача, як пушынку, падкінула ўверх, і той паляцеў на сцяну. Бразнуўся спінай аб яе і споўз уніз на падлогу. І варта было чалавеку зноў сагнуць кій у дугу, як ваякі разам са сваім водцам кінуліся да дзвярэй і выбеглі з залы

За дурную галаву – нагам праца! – гучна засмяяўся ім услед пераможца і адкінуў з галавы капюшон.

Цяпер можна было ўбачыць ягоны твар – смуглявы, суровы і ўладарны, на якім выступаў буйны гарбаты нос. Чорныя валасы з сівізной, гладка зачасаныя назад, агалялі высокі лоб. З-пад густых броваў, якія сыходзіліся на пераноссі, ганарліва паглядалі праніклівыя вочы

Перапрашаю вашу мосць, што пазбавіў вас задавальнення, – звярнуўся да яго чалавек. – Але гэтыя смелыя рыцары закранулі мой гонар.

– Каму ўдзячны за дапамогу?

– О, не трэба ўдзячнасці! Я ваш адданы слуга Мяне таксама некалі спальваў агонь кахання, і я шукаў у ім асалоды Як не зразумець мне вас! Але думаю, нам тут не дадуць спакойна паразмаўляць

Чалавек павёў яго за сабой па цёмных вуліцах горада.

– Дарэчы, Віктар, будзем знаёмы – доктар Фаўст. Я даўно сачу за вашай творчасцю. Прызнаюся, вельмі мне падабаецца вось гэтая рэч, – і чалавек, які назваў сябе Фаўстам, выразна прачытаў·

– Ён заўсёды ў пошуках, уладар нябыту Употайкі ад сваіх падданых – намёкаў на цені – ён шукае сілу быцця Каб па жылах пустэчы разлілося жыццё і намёкі на цені сталі целам і словам. Толькі сіла быцця, як тайна багоў, схавана ад усіх. І пакуль ён шукае, ягоныя падданыя – намёкі на цені – шнырaць па людскіх снах.

Вабяць яны людзей светлай марай нябыту. Там любое жаданне – ява. Хто паверыў – той сарваўся І паміж быццём і нябытам цень яго мільгне і растане намёкам у вечнай пустэчы.

Але пакуль ёсць уладар нябыту, і мне наканавана быць... Хай ён не ведае мяне і хай я яго не бачыў.

Ён быў, бо быў і я, ён ёсць, бо ёсць і я.

І наканавана мне быць, пакуль у адказ на маё імя ён будзе адклікаецца. «Я»

***

Зноў тая ж зала кавярні, вясёлая кампанія за суседнім сталом, гукі галасоў, дым цыгарэтаў Але як пасля сну хочацца растлумачыць убачанае і зразумець сэнс знакаў падсвядомасці, гэтак і цяпер Віктар задумаўся над сваёй відзежай. Што гэта? «Уладар нябыту – той, хто па-за гэтым светам. Ён прывід, ён мяцежны дух і падданыя ягоныя не адкідваюць цені – прывіды. І ўладар імкнецца праз дух увасобіцца ў чалавеку і быць

антычалавекам Геніяльны ён у сваіх злахітрых і аблудлівых фантазіях. І гэтыя фантазіі ён падсоўвае ў снах людзям і мне падсоўваў і прываблівяў светлай марай быць літаратарам. Я паверыў яму і выціскаў з сябе словы, каб апісаць сны нябыту Нават набіў руку, навучыўся гуляць са словамі Я паверыў у славу, якой зачараваў мяне ўладар. І я жыў і не жыў, быў паміж быццём і нябытам. Сляпыя празарэнні, якія я не зразумеў І ўладар нябыту праз дух свой ажыў ува мне Мой лёс вызначаны ім. Вось ён шэпча мне, як геній Сакрата, і словы ягоныя гучаць у маіх вушах і перашкаджаюць пачуць усё іншае «Дарэмна ты адмаўляўся ад мяне Ты выбраннік зла і нянавісці. Я не загінуў, твой Каін не загінуў, бо твой светлы і шчыры Авель баяўся грэху Авель, а дзе брат твой Каін? А брат Каін жывы, ён даў табе магчымасць убачыць свет вачыма Авеля, і што ты ўбачыў – падман і хітрасць, тваю шчырасць аплявалі Ты спадзяваўся на вялікі цуд кахання? А дзе гэты цуд? Не ашуквай сябе Ты атрымаў ад уладара дар фантазіі, ад Бога дар слова Цяпер ты можаш сачыняць самыя неверагодныя гісторыі і аздабляць іх чарамі слова Бог насмяяўся з цябе, дык праклянi каханне».

Віктар не заўважыў, як праехаў свой прыпынак. Давялося доўга ісці дадому. Настойліва і ўпарта ў вушах гучала «Праклянi! Праклянi!» Праходзячы каля крамы, ён прыгадаў просьбу маці купіць торт Дзіўнае супадзенне. прадаваўся толькі адзін гатунак і называўся ён «Казка». «Вось мая казка! Ха-ха-ха!» Рукі ягоныя дрыжалі, нібыта адлічваў ён апошнія грошы Невідушча Віктар даставаў з гаманца грашовыя паперкі і кідаў іх касіршы. Яна лічыла іх, давала рэшту, а ён зноў вяртаў яе, нічога не разумеючы Пасля таго як жалезная машына касы закляцала сваім механізмам і выплюнула чэк – права валодаць казкай, Віктар пайшоў да прылаўка.

– Малады чалавек, а чэк вам не патрэбны? – аклікнула яго касірша.

Вось як? Вярнуўся за гэтай індульгенцыяй. Злавесна прагучаў голас прадаўшчыцы «Дайце яму ягоную «Казку».

Ён нёс сваю казку, сваё матэрыялізаванае ўяўленне аб шчасці, смяяўся «Цяпер, як Кронас, з’ем сваю страсць і мару Я прыніжу гэтым веліч Багоў Ха-ха-ха!»

«Так, так,– казаў яму Каін Ты навучыўся мудрасці і безразважлівасці, слову і пустаслоўю, любові і нянавісці, цемры і святлу Праклянi сваё каханне Пакажы людзям іх Божае пакаранне – каханне Выкрый гэты падман».– «Не, не, не Я кахаю. Каханне ёсць, незразумелае і недасягальнае для мяне Людзі шчаслівыя, бо кахаюць» Каін смяяўся ў адказ. «Дурань!»

Дома Віктар прыгатаваў вячэру і дастаў бутэльку гарэлкі. «Чаму я павінен баяцца зла, калі я сам выбраннік зла? І я павінен жыць у сваёй гармоніі светлага і чорнага, нізкага і высокага, добрага і злога А таму я левай рукой наліваю гарэлку ў чарку, а правай падношу да вуснаў і выпіваю сам за сябе. Вось я і прымірыў левую руку з правай І дзеля понта я ўмыю рукі пад кранам Хай багі смяюцца з людзей, а я смяюся з багоў А цяпер вып’ю другую чарку Сёння дзень Апафенея, а заўтра дзень пахмелкі, а паслязаўтра новы дзень. Дык вып’ю за тое, каб заўсёды быў дзень, за які можна было б выпіць.– Ён смактаў дым цыгарэт і мармытаў сабе пад нос: – Яшчэ чарку вып’ю. Бог любіць тройцу».

Тэлефонны званок перапыніў гэтае вар’яцкае дзеянне. З надзеяй, што яму званіла Хэльга, Віктар падняў трубку і расчараваўся Мужчынскі голас назваў яго імя Голас Віктар не пазнаваў і таму не ведаў, хто яму пазваніў

– Аб вашым каханні ходзяць пагалоскі,– чуў ён з трубкі.

– Гэта ўсяго толькі фарс. Жыццё – тэатр, а мы ў ім акторы Вось я і сыграў сваю ролю закаханага, так геніяльна, што гледачы паверылі ў праўдзівасць майго падману

– Геніяльны правакатар асабістай славы! А Бога вы не баіцеся?

– З кім я размаўляю?

– Вам звоняць з нябеснай канцылярыі,– насмешліва прамовіў незнаёмец.

– Ну і жарты!

– Калі вы адмаўляецеся ад свайго кахання, дык хай вам прысніцца сатана,– на гэтым суразмоўца паклаў трубку.

І раптам з радыё пачуўся гучны вар’яцкі рогат Голас ажно задыхаўся ад злавеснай





радасці. Перадавалі нейкую рэкламу і вось уставілі гэты рогат Страх ударыў Віктара па сэрцы Нібыта сам уладар нябыту смяяўся з яго, радуючыся сваёй перамозе.

***

– Куды мы ідзём? – спытаўся ён

Чалавек, які назваўся Фаўстам, не адказаў яму. Віктар падначальваўся ягонай маўклівай волі і пакорліва крочыў за ім Убаку з цемры выступаў спічасты абрыс касцёла. Раптам захацелася схавацца ў храме ад нечага непазбежнага. Міжволі ён павярнуўся, але тут жа паслізнуўся на прыхопленай ільдом лужыны і ўпаў на зямлю. Фаўст азірнуўся і прамовіў·

– Цябе чакаюць. І працягнуў яму кій.

Ён ухапіўся за кій і падняўся на ногі

– Я дару табе жазло мага.

З тропатам ён узяў у рукі гэтае незвычайнае жазло, хацеў падзякаваць Фаўсту за падарунак, але не ўбачыў яго перад сабой, нібыта той зліўся з цемрай. Паклікаў яго – не азваўся. Вакол панавала цемра. Толькі наперадзе мігцеў агеньчык ліхтара Ён падаўся туды і падышоў да двухпавярховага будынка. Над дзвярамі на жалезным кручку вісеў ліхтар, за шклом якога гарэла свечка. І раптам дзверы павольна адчыніліся, і яскравае святло з памяшкання вырвалася на вуліцу, асвяціўшы дарогу да будынка Нейкая невядомая сіла падхапіла яго над зямлёй і панесла да адчыненых дзвярэй Ён апынуўся ўнутры вялікай залы без упрыгожванняў, без мэблі – толькі пафарбаваныя жоўтыя сцены Здавалася, свецiцца само паветра, бо ні свечак, ні люстраў ён не бачыў Святло асляпіла яго – і ў вачах пацямнела Магільны холад забраўся пад адзенне. За спінай бразнулі дзверы. Ён агледзеўся па баках.

– Я вітаю цябе, Пераможца! – Голас гучаў ніадкуль, але ён выразна чуў яго, нібыта самі сцены загаварылі з ім

– Хто ты? І дзе ты?

– Я ёсць і мяне няма! Я тут і я ўсюды! Цяпер і я буду ў Трыадзінстве. Айцец – Сын – Вешчая Душа. Я прыніжу Бога, і ўсе ягоныя намеры стануць мне вядомымі. І я дам людзям Вялікае пісьмо Людзі пойдуць не за Хрыстом, а за табой, Пераможца. Я правёў цябе праз тыя пакуты і прыніжэнні, на якія не асудзіў свайго сына Бог. Я пазбавіў цябе дома – і ты рос у казённых сценах. Я пазбавіў цябе любові – і ты зведаў людскую нянавісць. Пяць гадоў ты ўтаймоўваў распалены метал, пяць гадоў ты быў там, дзе дом твайго бацькі, у пекле. Ты быў жабраком і пасмешышчам. Цябе не любілі, табе здраджвалі Я даў табе свой дух. Ты падняў смяротна хворую маці.

Мы прынізілі веліч Бога, мы насмяяліся з яго Мы зняважылі гонар самалюбцы Хрыста, які адно і казаў: я я. я.. Тваёй Галгофай стала тваё жыццё. І любоўю, якую абвяшчаў Хрыстос, прыбіў я цябе да твайго крыжа – любові. Трыццаць два гады ты вісіш на гэтым крыжы, пакутуеш ад любові, не зло, а любоў прынесла табе няшчасце Ласкавы і ціхі голас гучаў ніадкуль, бо гучаў адусюль.

– Але я жыў нават на тваёй дыбе, – запярэчыў ён. – Я ўдзячны Богу, што нешта зрабіў патрэбнае людзям, што я чуў музыку, бачыў прыгажосць свету, адчуў асалоду кахання

– Жыў? А вось гэта памятаеш? «Са мною здарылася, пэўна, заканамерная рэч, я ненавіджу людзей і сябе, ненавіджу сваё жыццё. Свет пабудаваны на жорсткасці. Адно я бачыў у сваім жыцці – жорсткасць. І кожны намагаецца адно аднаго растаптаць, падначаліць сабе Калі ты слабы і просты, дык ты становішся рабом, а калі ты моцны і хітры, дык пан» Памятаеш? «Рукапісы, як ерэтыкоў на вогнішчы, палю. Гарэць яны без крыкаў, моўчкі адыходзяць у нябыт. А я, як інквізітар, зняважліва пазіраю на іхнюю смерць»

Болей не трэба было тлумачыць. Ён прыгадаў, як колькі гадоў таму спаліў свае запіскі

– Рукапісы твае сталі нябытам. Але ўладар нябыту вяртае спаленае Ты – гэта Я, а Я – гэта Ты – Гучны смех працяў усё існае. – Вось табе мой падарунак. Ідзі і ўладар.

У ягоных руках апынулася маска, зробленая з мяккага і тонкага матэрыялу, нібыта з чалавечай скуры.

Раптам святло пагасла, і цемра запанавала ў зале. Ён сунуў маску ў кішэню і пайшоў да дзвярэй Намацаў іх рукой і штурхнуў. Дзверы зарыпелі на завесах. Ён спыніўся ў нерашучасці, прыслухоўваючыся да цішы. Аднекуль чуўся сонны храп Не верачы цішыні, ён некалькі хвілін прастаяў на адным месцы Нічога, апроч гэтага храпу, не пачуў Супакоіўшыся, ён адчыніў дзверы Але вось дзіва – замест вуліцы за дзвярыма ён убачыў у святле ліхтара прыступкі, якія вялі ў вузкі калідор. З сутарэння дыхнула сырасцю сцен. Пачуўся лёгкі шоргат мышэй. Ён выняў з ліхтара свечку і, трымаючы яе ў руцэ, спусціўся па прыступках уніз Святло свечкі вымалёўвала на сценах вялікі і страшны цень ягонай постаці З кожным крокам, на які гучна адзывалася сутарэнне, узмацняліся дрыжыкі ў каленях. Усё ж ён прызвычаіўся да гуку сваіх крокаў і піску мышэй, адчуў сябе больш упэўнена, але дрыжыкі ў каленях не сціхалі Спыніўся Пачуў асцярожны шоргат, нібыта нехта крадуся да яго Яму стала душна, праглынуў сліну «Гэта ж мышы»,– прыгадаў ён Зноў адчуў дрыжыкі ў каленях.

Куды ён прыйшоў, гэтак і не даведаўся, бо прачнуўся. Папярэджанне «нябеснай канцылярыі» спраўдзілася – яму прысніўся сатана.

## ДАЖЫЦЬ ДА СВЯТЛА

Гэтага не можа быць, але вось гэта і было. І падзеі, што адбываліся з ім, не выглядалі выпадковымі, ён знаходзіў у іх магічную сувязь. Адчуваў, што неўзабаве наступіць і кульмінацыя Якой яна будзе? Але розум супраціўляўся і спрабаваў знайсці тлумачэнне гэтым падзеям – яны выпадковасць, а сны і трызненні – праявы псіхалагічнага надлому і адарванасці ад здаровага жыцця. Гэта хворае ўяўленне Варта толькі паверыць ва ўсю гэтую д'ябальшчыну – і сам сябе палічыш д'яблам. Не, гэтага не можа быць, калі нават гэта і было.

Адно – з ім адбываецца нешта незвычайнае. Цяпер ён быў ужо не тым ранейшым, якім ведаў сябе, а іншым. Напалову вар'ят, напалову блазен? Ды і знешне ён змяніўся – твар схуднеў, завастрыліся сківіцы, а вочы пазіралі з люстэрка адчужанасцю і не пазнавалі яго. Сам не свой.

Жыў, як у сне. Рэальнасць ім не ўспрымалася. Калі нешта і рабіў, дык рабіў, як самнамбула, несвядома, машынальна, падначальваючыся звычкам ці інстынктам. Ён забываўся назвы рэчаў і імёны знаёмых. Прызнаваў гэта з горкай іроніяй. «Вось і словы паўсталі супраць мяне». На працы прысутнічаў механічна Нават лік дням згубіў. На пытанне, калі ён падрыхтуе нарыс, адказаў: «Заўтра, у чацвер» Спахапіўся і паправіў сябе. «Заўтра, у сераду» А дзень быў чацвер. Фізічна ён прысутнічаў у гэтым свеце, а падсвядомасцю – у другім.

Гэты дзень, пятага лістапада, пачаўся для яго незвычайна

Раніцай Віктар слухаў саракавую сімфонію Моцарта. З акустычных калонак магнітафона ўзлятала магія музыкі Урачысты і аптымістычны палёт мелодыі захапіў яго і ўзняў над безнадзейнасцю і адчаем Ён сачыняў хвалу языку – гэтай жывой мембране нашых думак і пачуццяў. «Я перакладаю з языка пачуцця на язык страсці, з языка страсці на язык слова – Кахаю. Я рассякаю языком вузел сваёй адзіноты, мой язык размаўляе са мной, суцяшае і шкадуе мяне. Мой язык – меч маіх слоў

І будзе дзень, калі ён мовіць галоўнае для мяне слова. І гэтае слова будзе маім нараджэннем».

Пасля ён адправіўся на працу. Выйшаў з метро і нырнуў у людскую плынь. Няхай душа сумуе, але гэта светлы сум па блізкім развітанні з самападманам. Міне каханне – і загоіцца боль. Але апошні акорд яшчэ не сыграны, хоць фінал ужо гучыць у сэрцы спакоем

Зноў Віктар выканаў сваю прызвычаеную ролю «хлопчыка для біцця» На гэты раз





галоўны абразліва адазваўся пра аўтараў з навуковымі рэгаліямі і, не знайшоўшы з кім іх параўнаць у бяздарнасці, знайшоў вачыма Віктара і ўрачыста, як Вій, паказаў рукой на яго: «Вось яшчэ адзін вучоны. І кніжку напісаў, і другую». Злая радасць злятала з вуснаў чыноўніка. Віктар ускіпеў «У вас больш кніжак». Гэтага было дастаткова, каб галоўны змоўк. Але Віктар палічыў сябе зняважаным, падняўся са свайго месца і пакінуў пакой рэдакцыі. Яму крычалі прыхлебнікі галоўнага. «Вярніся», а ён у адказ ляпнуў дзвярыма.

Да сваёй радасці ён сустрэў паэта Нішцяка Віктар шчыра ўзрадаваўся сустрэчы – хоць пагаварыць будзе з кім. На руцэ ў Нішцяка павісла дзяўчына гадоў пад васемнаццаць, якая з-за кахання да яго, хай і без надзеі на шчаслівую будучыню, без ваганняў наплявала на свой гонар і сорам. І Віктар не асуджаў яе, а ўслаўляў гэтую бессаромнасць і безразважлівасць. Убачыўшы паэта і ягоную каханку, ён начапіў на твар маску горкай пакуты І каханне да Хэльгі ператварылася ў гульню ў каханне, і ён цяпер стаў героем свайго фарсу. А таму, нібыта спакутаваны несуцяшальнай бядой, ён панура маўчаў, а калі казаў, дык не да сэнсу, а паэтаву каханку называў Хэльгай і, нібыта апамятаўшыся, перапрашаў яе за памылку. Гэтую гульню ўспрынялі за сапраўднасць, а ён цешыўся сваім падманам, гэтай перадышкай у барацьбе з самім сабой, з прывідамі-ценямі, з жахамі, з прыдуманым ім героем, які выклікаў на бой самога ўладара нябыту, а гэтым героем быў ён сам

Паэт расстаўся са сваёй каханкай каля кінатэатра, дзе некалі Віктар сустракаўся з Хэльгай. Пакуль яны дамаўляліся аб чарговай сустрэчы, ён бегаў вачыма па афішах і наткнуўся на красамоўную назву «Кінг-Конг жывы». Кінг-Конг – фантастычная гарыла, народжаная камерцыйным уяўленнем галівудскіх майстроў. Але Кінг-Конгам піянеры артэкаўскага лагера ў Крыме называлі велізарную высечаную са скалы галаву правадыра, які марыў быць літаратарам. Некалькі хвілін не хапіла Віктару, каб расшыфраваць гэты знак «Кінг-Конг жывы».

Нішцяк развітаўся са сваёй каханкай і падышоў да яго Яны выправіліся ў бліжайшую краму выпіць кавы. Па дарозе Віктар са смехам прызнаўся.

– Як я сыграў сваё каханне? Нават ты паверыў. Цікавая забава.

– А ты цёрты калач. Паверыў, думаў, што завярнуўся на гэтай бабе, а ты камедыю мачыў Нішцяк!

– Так, цёрты калач. Хай ходзяць пра мяне легенды і паданні Ужо пры жыцці стаў чалавекам з легенды. Смаркачы зайздрасці пацякуць у аматараў гісторый хвароб. Мая хвароба называецца маленькая страсць да вялікага кахання Падыграеш мне?

Паэт захапіўся ідэяй, і пасыпаліся парады і прапановы. Так захапіўся, што гатовы быў распавесці пра гэтае вялікае каханне па радыё, каб людзі даведаліся пра чалавека, які з-за жанчыны рэжа сабе вены. Гуляць дык гуляць.

– Але ва ўсёй гэтай гісторыі я аднаго не разумею, чаму я прыняў яго за чорнага чалавека. Што за наслань? Памятаеш ясенінскае

Нагоняя на душу тоску и страх
Черный человек,
Черный, черный.

– Але чорны чалавек прыйшоў і да Моцарта і заказаў яму рэквіем. Прынамсі, гэтак у Пушкіна:

Мне день и ночь покоя не дает
Мой черный человек. За мною всюду
Как тень он гонится..

Віктару зрабілася не па сабе, зноў гэтыя містычныя супадзенні са злавеснымі сімваламі

Я бачыў некалькі разоў гэтага выбранніка і ніяк не мог разгледзець ягоны твар,–

казаў паэт. Такое ўражанне, што ён чалавек без твару Не запамінаецца морда ягонага твару А вочы хавае за шкло разумных акуляраў Хоць бараду адгадаваў. Ужо ўпадабляецца табе

– Ён здаецца мне ценем, што сунецца за Хэльгай, і яна прызвычаілася да яго

– Ды не, проста ён зброеносец. Ведаеш, дзеўкам падабаюцца вось такія хлопчыкі-пажы, што чакаюць іх, праводзяць дадому Іх трываюць толькі з-за самалюбства, каб ганарыцца перад сяброўкамі – у мяне ёсць паж. І табе з ім змагацца?

Я хачу ўбачыць гэтага чалавека.

У краме была звычайная ява – тавар і чэргі. Заклапочаныя людзі шукалі на прылаўках патрэбнае, і разяваліся іхнія раты на лічбы кошту І толькі вар'ятка ў заношанай штучнай футры і з раскіданымі па плячах валасамі была абыякавай да ўсяго. Сядзела на кукішках у куточку каля дзвярэй, прытуліўшыся спінай да сцяны, і крэмзала нешта алоўкам у школьным сшытку. Не заўважала, што і цыгарэта ў яе вуснах не дыміцца – нішто не перашкаджала палёту яе думак, пісала і ўпівалася імі, хай нават і вар'яцкімі. Ён ведаў гэтую чароўную сілу слова, яно падначальвала чалавека, вяло за сабой, выклікала ў душы экстаз творчасці. Яна жыла ў бяскрыўдным і наіўным захапленні і была шчаслівай, бо мела тое, чым жыла, – саваё захапленне Ні пашана, ні слава, ні ўзнагароды, ні багацце яе не прываблівалі І Віктар пазайздросціў ёй, бо яна верыла, што яе шчасце сапраўднае, а не самападман

Яны прыладкаваліся ў хвост чаргі, якая паўзла да касы, што намаганнем дзяўчыны-касіркі – жывой прылады нежывога механізму – выбівала чэкі са здзеклівым словам «спасибо» Ад гучнага голасу паэта азірнуўся на іх юнак, які стаяў наперадзе І гэтак ласкава, міла і ветліва ўсміхнуўся Віктару, а ягоныя чорныя добрыя вочы гэтак з любасцю пазіралі на яго, што юнак здаўся анёлам Нават, як у анёла, у яго былі кучаравыя валасы і мілавідны, жаночы твар. Аднак халодная снежная бель ягонага твару выглядала ненатуральна. Юнак паглядаў на Віктара і дарыў яму сваю ўсмешку Але такая пяшчота і любоў таксама былі ненатуральнымі і прытворнымі, каб паверыць у іх шчырасць. І ўжо не анёлам здаўся Віктару гэты юнак, а чорным пасланнікам уладара нябыту, які шкадаваў яго, бездапаможнага і слабога.

«Анёлак» нібыта адчуў, што ягонае прытворства разгадалі, адвярнуўся Нияк неўпрыкмет ён прапаў са сваім чэкам з вачэй, і Віктар забыўся на яго

Яны папілі кавы, паразмаўлялі на лаўцы ў скверыку пра літаратурныя навіны і разышліся. Гадзіннік паказваў каля шасці гадзін вечара Час цемры апусціўся на горад. Можна было схавацца ад людскіх вачэй і застацца сам-насам Быць то Авелем, які клікаў яго да чысціні і любові, то Каінам, які пераконваў яго ў аблудлівасці кахання, што ўпіваецца ўладай над ім, і ўмела і хітра распальвае ў ягонай душы пагібельную страсць.

Ён падаўся да будынка універсітэта. Неўзабаве павінны скончыцца лекцыі Ён хацеў убачыць Хэльгу з яе выбраннікам, каб пераканацца ў безнадзейнасці свайго кахання Забіць надзею, забыцца на Хэльгу і залячыць гэтую любоўную язву

Віктар не хаваўся, стаяў каля выхада Плынь дзявочых вачэй абцякала згорбленую постаць незнаёмца каля дзвярэй Ужо апошнія пакідалі гэты кірмаш нявест, а непатрэбны ім мужчына цярпліва чакаў свайго прысуду. І ўбачыў, што хацеў убачыць. Яны ішлі, пабраўшыся за рукі. Віктар не разгледзеў ягонага твару Сапраўды, нешта безаблічнае было ў гэтым чалавеку акуляры і чорная барада – вось і ўся ягоная адметнасць. А можа, Віктар і не разгледзеў яго, таму што пазіраў на Хэльгу – прасветленую і шчаслівую з мілай усмешкай на вуснах. Такой яна не была з Віктарам Яны прайшлі каля яго І гэты чалавек у чорнай куртцы і чорных джынсах, ягоны ўдачлівы супернік, не мог і здагадацца, хто стаяў перад ім, на якія пакуты асудзіў яго за права весці пад руку Хэльгу А яна і не зірнула на Віктара, прайшла, як паўз незнаёмага. Прыніжаны і разгублены, памкнуўся ён услед за імі Яны спыніліся на ганку Гэты чалавек гучна і весела з некім размаўляў Стаяў спінай да Віктара і ў сваім захапленні забыўся пра Хэльгу Узнёс апранутыя ў пальчаткі рукі ўгару і сагнуў ногі ў каленях, нібыта вось так хацеў перадаць тое, чаго не змог выказаць словамі Калос на гліняных нагах – вось вобраз, які прыгадаўся Віктару.





Хэльга ўбаку цярпліва чакала, пакуль нагаворыцца яе любімы чалавек. На імгненне Віктар і Хэльга засталіся сам-насам. Віктар узяў жанчыну за руку

– Пайшлі са мной,– жартаўліва праз горыч і адчай выціснуў ён з сябе

Хэльга адмоўна хітнула галавой І, адмаўляючыся ад яго, яна здавалася Віктару такой недасягальнай, што ніколі не была такой жаданай, як цяпер Ён зноў быў пакінуты Хэльгай дзеля гэтага чалавека, які адняў ягонае шчасце

Прытулак Віктар знайшоў у бары Дома літаратара, задымленага цыгарэтамі і набітага п'янымі галасамі наведвальнікаў. За адным столікам за бутэлькай гарэлкі плялі языкамі знаёмыя Віктару кніжнікі, якія мазолілі асадкай вялікі палец правай рукі і шчыра лічылі, што пішуць «нятленкі». Сярод іх быў і Нішцяк. Побач з ім сядзеў празаік, які праслаўляў у сваіх творах часы міфаў аб «зямным раі» і меў доступ да сытнага карыта. Былі тут і паэт-авангардыст, які лічыў сябе нацыстам, і паэт, які ўявіў сябе геніем і заяўляў усім, што ягоны верш варты тамоў раманістаў Хоць заўсёды скардзіўся што напісаў такое геніяльнае, такое-такое, што... Ды шкада, вось рукапіс ці згубіў, ці нехта ўкраў. Вось з гора і п'е – ад стала да стала, ад чаркі да чаркі Быў тут і журналіст, які працаваў у камуністычнай газеце Сум і сабраў іх за адным сталом. Пілі гарэлку і языком практыкаваліся ў блявузганні. Авангардыст-нацыст прапаноўваў журналісту-інтэрнацысту ўзяць у яго інтэрв'ю і ўжо плаціў за гэтую паслугу чаркай.

Нішцяк гучна, каб перакрычаць усіх, чытаў свае вершы Геній і празаік сварыліся паміж сабой з-за краплі «Ты мне наліў па паясок, я пра цябе напішу, які ты гад»,– лаяўся празаік. «А пайшоў ты кніжкі пісаць». І Віктар са сваім словам палез у гэты хаўрус, і немагчыма было яго суняць. Казаў ён з захапленнем пра Бога. Авангардыст смяяўся: «Я – творца, не буду кагосьці ўзвышаць над сабой».

– А вось я ўдзячны, што пазнаю свет праз Божае слова,– хваліўся Віктар

Геній наліў яму ў чарку гарэлкі Піць ён не хацеў – і так п'яны ад жыцця Перадаў чарку празаіку, і той удзячна заліўся замілаваннем

– О, Віцюша, дзякуй. Я цябе люблю Я пра цябе напішу ва ўспамінах, які ты добры

Віктар не слухаў яго, а захоплена казаў

– У сваім самалюбстве лічым, што мы духоўныя правадыры народу Мы творцы Ха-ха-ха. А мы ўсяго толькі ахоўнікі божай іскры. Ён выбраў нас і запаліў сваю іскру ў нашых душах, каб словам мы падтрымлівалі ў людзях веру, надзею і любоў Мы павінны захоўваць Божы дар, не прадаваць яго за грошы, не губіць у распусце і ліхадзействе, не прапіваць. Нам выпала такая доля І трэба быць удзячным Богу за ягоны дар

Калі гаворка перакінулася на каханне, Віктар з пахвальбой паказаў шнар на руцэ Вось як трэба кахаць. І аб чым ні казалі, ён лез са сваім словам

– Ну вар'ят Вар'ят! – здзіўляліся з яго.

Празаік, які закончыў медыцынскі інстытут, памацаў ягоны пульс і вынес дыягназ

– Вар'яцееш Пульс учашчоны Табе трэба злом заняцца лес карчаваць ці цэглу цягаць, ці вагоны разгружаць – дапамагае

Адзінае вартае, што пачуў Віктар за гэтым сталом, – радок з верша генія. «І анёлы плачуць з нас».

– Так, анёлы плачуць з нас – кніжнікаў і фарысеяў, – пагадзіўся Віктар.

***

Але ўладар смяяўся з яго Зноў Віктар пачуў па радыё гэты гучны рогат І адчуў нябачную прысутнасць побач з сабой самога ўладара нябыту Дзесьці затаіўся ў кватэры і назіраў за ім. Якую яшчэ ён прыдумаў пастку? Куды нанясе свой удар? Як яго перамагчы? «Кінг-Конг жывы» «Сапраўды, жывы Дэманскі дух літаратара не знайшоў прытулку, бо зямля не прыняла ягонага цела Вось і шукае ахвяру. А можа, і знайшоў І дух літаратара выбраў мяне – таго, хто марыць быць вялікім літаратарам, каб маім словам плесці павуцінне па дарозе да Бога, паказаць людзям шлях да зла Гэтага не можа быць». Але прыгадаў Віктар дзіўны выпадак. Колькі гадоў таму ён трапіў на выступленне нейкага мага

Высокі мужчына, адзеты ў чорны гарнітур, са скамянелым у суровасці тварам і вострым драпежным позіркам сам па сабе выклікаў баязлівую пачцівасць, а загадкавае слова «маг» надавала яму арэол таямнічасці. Маг запрасіў на сцэну жадаючых удзельнічаць у сеансе гіпнозу, сярод іх выйшаў і Віктар Як ні махаў маг над ягонаю галавой рукамі і не вадзіў далонню перад вачыма – ніякага выніку. Другіх пазбаўляў волі і прымушаў на смех гледачоў паказваць розныя забавы. то грыбы збіраць, то на мовах казаць, то сачыняць вершы, а вось ён застаўся пры ясным розуме і пры сваёй волі Напрыканцы сеанса маг паведаміў, што зарадзіў іх сваёй энергіяй, і цяпер, калі пажадаюць, любое іх жаданне здзейсніцца Віктар не паверыў яму, але было ў яго адно жаданне – вылечыць хворую маці, якую ўжо і дактары спісалі. Тры гады яна нерухома ляжала, прыціснутая хваробай. Прыйшоў дадому і, як навучаў маг, засярodзіўся і пачаў адлічваць з дзесяці да нуля. І рукі самі падымаліся на ўзровень плячэй і крыламі павісалі над маці. Слова замовы «падымайся», здаецца, пацякло па руках, і энергія жадання перадалася хворай Якім было ягонае здзіўленне, калі назаўтра раніцай маці паднялася з ложка! З гэтага дня і пачала хадзіць. Вось такі выпадак Тады Віктар не верыў у цудадзейную сілу, якую атрымаў ад мага. І, прыгадаўшы гэты выпадак, цень падазрэння закраўся ў ягонае сэрца. Ці не перадаў маг яму дух літаратара? Бо да сустрэчы з магам нічога ў яго не атрымлівалася – ні сюжэта прыдумаць, ні стыль свой знайсці, ні веры ў свой дар. А пасля неяк усё само сабой. і вось напісаны апавяданні, аповесці і нават раман. Сюжэты прыходзілі ў снах, стыль выпрацаваўся, і вера з'явілася ў сваю таленавітасць і выключнасць. І мара стала іншай. не проста быць літаратарам, але вялікім літаратарам, сачыняць такое, каб гэта руйнавала звычныя ўяўленні аб маралі і прыгажосці, каб гэта шакіравала сваёй бессаромнасцю і грубасцю І, значыць, дух літаратара аддае сваю злахітрую атруту, а ён, як паслухмяная біялагічная машына, пераносіць яе на паперу. І ў марах ужо выношваў кнігу, якой зацьміў бы славу маркіза дэ Сада.

Лёг спаць Віктар а дванаццатай гадзіне З надзеяй чакаў сну, здаровага сну Устрывожыў яго кот

Нешта здарылася з ягоным Ра Кот бегаў па кватэры і трывожным яўканнем нібыта хацеў папярэдзіць аб нечым небяспечным. Такой ласкавай істоты, як Ра, Віктар не сустракаў. І вось нібыта чорт усяліўся ў яго Адчайна завыў і кінуўся на дыван, што вісеў на сцяне, і залез па ім амаль да столі. Каціныя енкі напалохалі Віктара Ён ускочыў з ложка і адарваў ката ад дывана, у які той запусціў кіпцюры, пагладзіў, але той злосна хапаў зубамі за руку «Богам заклінаю, згінь, злы дух». І адбыўся цуд! Кот пасля замовы супакоіўся і мірна ўладкаваўся каля свайго гаспадара Віктар не мог паверыць у тое, што адбылося.

Замова падзейнічала. Пад уражаннем гэтага адкрыцця ён прамовіў: «Заклінаю Богам, дэман мой, я выракаюся цябе»

Ён адчуваў на душы незвычайную лёгкасць і спакой У гэтым стане прасведы Віктар вырашыў заўтра абавязкова хрысціцца. Можа, дзеля гэтага рашэння і паслаў Бог да яго Хэльгу і вучыў сваімі знакамі, вёў да храма. Пэўна, Божая прадбачнасць і цяпер мудра кіравала ім, бо Віктар зняў з кніжнай паліцы «Святое пісьмо» і паклаў кнігу каля падушкі. Шчаслівы ляжаў ён на спіне, адчуваючы сябе пад бацькоўскай апекай Бога, і чакаў пакуль сон неўпрыкмет ахутае яго і дасць яму адпачынак. Але перад заплюшчанымі вачыма мільгалі то гліняныя аскепкі, то кардонныя маскі, то чалавечыя чарапы. Ён расплюшчыў вочы, каб пазбавіца ад гэтай відзежы А пасля.. Віктар не паспеў нават спалохацца. Раптам у вачах пацямнела. Нібыта зрокам душы, ён убачыў у цемры бясформенны, расплывісты, як плазма, чарнейшы за ноч цень, які навіс над ім і дрыготкімі шчупнямі пацягнуўся да яго. Неадчувальныя, без фізічнага болю, ціскі схапілі за горла, сквалі ягоны рот так, што ён не мог паварушыць вуснамі. Ні гуку, ні крыку, ні стогну, ні хрыпу не вырвалася праз мёртва сцятыя зубы Ледзяны холад ад пятак да сэрца пранік смяротнай атрутай у кожную клетачку ягонага цела, у кожную клетачку клетачкі, пракаціўся здранцвеннем па касцях і пазванках. З апошніх сіл Віктар намагаўся





разарваць путы сваіх вуснаў, каб хапіць глыток паветра. І тады ягоная душа ірванулася з грудзей да горла. Сваім цяплом апякла жалезную хопку на горле, на імгненне аслабіла яе пальцы і адчайна ўдарыла ў анямелы язык, і той, як мембрана ў тэлефоннай трубцы, варухнуўся З цяжкасцю Віктар прамармытаў дзве літары «Б – О» – пачатковы склад імя адзінага ягонага абаронцы,– ціскі баязліва задрыжалі на горле, а душа пракрычала праз шчыліну зубоў і другі склад выратавання «Ж – А» І гэты склад, злучыўшыся з першым, ледзь чутным шэптам «Божа» ударыў па пачвары. Яна імгнення ірванула свае выродлівыя рукі ад ягонага горла і знікла, забілася ў куткі цемры. Віктар ажыў Цела зноў слухалася яго. Уключанае ім святло вярнула яму дзейнасць. Трэба было абараняць сябе ад новага ўдару Але як? У яго быў усёмагутны абаронца Бог І тое, што ён паклаў каля галавы «Святое пісьмо», успрымаў як Божае прадбачанне Божае слова стала непераадольнай перашкодай для чорнай пачвары, уратавала ягоную душу, якая супраціўлялася смерці, і ягонае жыццё, якое цяплілася на кончыку языка. У гэтай няроўнай барацьбе з уладаром нябыту на дапамогу яму прыйшоў Бог.

Віктар не паглядзеў, колькі часу паказваў гадзіннік, запаліў свечку перад абразом «Усіх смуткуючых радасць» і па малітоўніку чытаў малітвы. І першай была малітва супраць злога.

«І ўваскрэсне Бог, і рассыплюцца ворагі яго, і ўцякуць перад абліччам усе, што ненавідзяць яго. Як развяваецца дым, так хай развеяны будуць, як тае воск перад вагнём, так хай чэрці згінуць перад тымі, што любяць Бога, што ахінаюць сябе знакам крыжа й у весялосці кажуць: Радуйся Найсвятшы і Жыццятворчы крыжу Госпадні! Бо праганяеш чортаў сілаю на Табе ўскрыжаванага Госпада нашага Ісуса Хрыста, каторы ў пекла зайшоў і сілу д'ябла перамог, і дараваў нам цябе, крыж свой пачэсны, на збаўленне ад усякага супраціўніка О, Найсвяцейшы і Жыццятворчы крыжу Госпадні! Памагай мне із святою Уладаркаю Дзеваю Багародзіцаю, і з усімі святымі на вякі.

Амін».

Малітву за малівай чытаў ён, і ўпэўненасць у Божай абароне пазбаўляла жаху перад чорнай пачварай. Аднак яна, пэўна, была тут, у пакоі, бо чаго ж пачаў насіцца з яўканнем кот, нібыта ўбачыў яе пачварнае аблічча і папярэджваў Віктара. Трывожнае яўканне ката разбудзіла маці Нічога не разумеючы, яна, санлівая, прытупала ў пакой

– Звар'яцеў! – пачуў Віктар за спінай яе голас. – Ноч, а ён дурнотай маецца Святло нагарае, грошы гараць.

Ён не ведаў, як растлумачыць маці, што адбылося з ім Ці паверыць, ці не палічыць звар'яцелым?

Віктар падняўся з каленяў і прамармытаў

– Нечысць, нечысць...

Жаночым сэрцам адчула маці, што нешта жахлівае пагражае сыну, і перахрысціла яго.

Дзесьці а пятай гадзіне раніцы Віктар калі і не супакоіўся, дык упэўніў сябе, што небяспека мінула Кот сціх і заснуў на ложку. Нядоўга засталося да світанку. Толькі дажыць да святла. А раніцай ён ахрысціцца. І гэты бой за ягоную душу скончыцца паражэннем уладара нябыту

Стомленасць навалілася на Віктара, і ён не мог супраціўляцца яе сіле. «Я пад абаронай Бога, і няма чаго баяцца нечысці»

Ён выключыў святло і лёг у ложак. Каля галавы зноў ляжала «Святое пісьмо» Хоць і лічыў сябе абароненым, але вочы не заплюшчваў, як воін, быў гатовы да бою Праз рассунутыя на акне шторы з вуліцы ў пакой лілося святло ліхтара Цемра губляла сваю жахлівую чарнату. Выразна бачыліся сцены і мэбля Супакоены, ён заснуў

Але пачуццё небяспекі раптам зноў увarвалася ў сон. Віктар адчуў, як нехта крадзецца да ягонага ложка Ён прачнуўся і падхапіўся на ногі. У дзвярах стаяла нейкая белая постаць.

– Бо-жа! – закрычаў ён

Ягоны адчайны голас зліўся са спалоханым жаночым ускрыкам. Жах страсянуў

ягонае цела, нібыта нехта моцна ўдарыў па ім І ў наступнае імгненне ён разгледзеў таго, хто краўся да яго Добра, што ён распусціў шторы на акне і святло вулічных ліхтароў асвятляла пакой – ён разгледзеў белую сарочку маці

Але гэты страх быў патрэбны яму Як гіпнатызёр рэзкім рухам рукі вяртае да рэальнасці загіпнатызаванага ім чалавека, гэтак і страх сваім рэзкім ударам страсянуў Віктара і вярнуў яго да явы з памежжа нябыту і жыцця

Вось ішла праведаць цябе, – прамовіла маці.

А ён, падначальваючыся незразумеламу парыву гневу на маці, закрычаў·

– Хто мой бацька?

І маці, якая захоўвала гэтую таямніцу, напужаная ягоным патрабавальным крыкам, разгублена прамовіла·

– Уладзімір

Віктар пахаладзеў ад гэтага прызнання. Уладар міру! Вось-вось – і тайная завеса няведання ўпадзе, і ён зразумее

– Хто ён такі?

– Не ведаю Я адзін раз толькі і была з ім, а пасля ніколі не бачыла

– Ні прозвішча не ведаеш, нічога?

– Не.

– Дык навошта ты нарадзіла мяне ад невядомага? – закрычаў Віктар

– Я закахалася ў яго адразу. Вось так і здарылася Хоць і прапаноўвалі зрабіць аборт, вырашыла нараджаць. Мне цыганка нагадала, што не нараджу я, а тут вось зацяжарала. Я была шчаслівай, што ў мяне будзе дзіцё, – вінавата апраўдвалася маці І яму стала шкада яе, разгубленую і падманутую жыццём, але павінен ён даведацца ўсю праўду

– А чаму ты назвала мяне Віктарам?

– Не я цябе назвала гэтак, а акушэрка. Вось і згадзілася

– Ну ахрысціць мяне ты магла?

Хацела, але ўсё мяне адгаворвалі людзі Так і застаўся нехрышчоным

Вось і даведаўся . Зразумеў, чаму смяяўся ўладар з яго. «Я – гэта ты, а ты – гэта я»

Але ён не памёр перад сваёй смерцю, і ў яго быў шанс выратаваць сябе.

***

Гэта быў дзень 6 лістапада, свята «Усіх смуткуючых радасць» Над горадам з самай раніцы вісеў дождж. Чорныя і змрочныя хмары навалілся на яго і кінулі ўніз дажджавыя завесы

Сон не адпускаў Віктара да дванаццатай гадзіны. На ранішнюю службу ён спазніўся Цяпер толькі вечарам можна было ахрысціцца. Віктар з нецярпеннем падганяў час і не ведаў, чым заняцца Трывожнае пачуццё нагадвала пра небяспеку Гэты бой з уладаром нябыту яшчэ не закончыўся Ён чакае моманту, каб нанесці яму смяротны ўдар Але дзе і калі? Пэўна, па дарозе ў храм Віктар супакойваў сябе. «Не баяцца. Мой страх мацуе майго ворага, пакуль я баюся яго, дагэтуль ён моцны».

Перад выхадам з дому ён палез у сакратэр па грошы і не знайшоў іх. І не гэтак патрэбны былі яму грошы, як хацеў упэўніцца, што яны зніклі без следу з чорнай пачварай Тады ён ужо дакладна пераканаўся б у рэальнасці існавання гэтай чорнай сілы, што вяла з ім бой Шукаў і не знаходзіў Дык хай гараць гарам гэтыя грошы, каб з-за іх перажываць. Але яны не згарэлі, а ляжалі у шуфлядцы пісьмовага стала, куды ён зазірнуў Узяў ён і «Святое пісьмо», паклаў ва ўнутраную кішэню курткі Гэтую кнігу Віктар чытаў у трамваі, па дарозе ў царкву А колы тук-тук – і жалезная скрыня кацілася па рэйках. Да выратавальнага храма было яшчэ далёка Тук-тук выбівалі колы ход часу І словы Пісання супакойвалі Віктара.

Вось нарэшце і патрэбны прыпынак. Уважліва перайшоў дарогу і праз парк накіраваўся да царквы Марыі Магдалены Чаму ён выбраў гэтую царкву? Храм у гонар былой грэшніцы, якая верай выратавала сваю душу І ён, грэшнік, ішоў ратаваць сваю душу, ішоў пад ахову Бога.





На жалезнай фортцы ажурнай баракальнай брамы вісеў замок. Храм быў зачынены Расчараваны, Віктар абышоў вакол жалезнай агароджы Рана прыехаў. Гадзіннік паказваў пяць гадзін, а служба пачыналася а шостай. Скараціць час Віктар вырашыў у кнігарні, якая знаходзілася непадалёк. Пад'ехаў туды на трамваі Ужо пачало змяркацца. Надакучлівы дождж скончыўся. Мокры асфальт зіхацеў водбліскамі ліхтароў і аўтамабільных агеньчыкаў

Віктар зайшоў у кнігарню гэты рынак чужых думак, чужых прыгод, чужога жыцця, у якіх знаходзяць людзі адпаведнасць сваім думкам, сугучнасць сваім страсцям, мару пра лепшае жыццё.

Ён быў адзіным наведвальнікам кнігарні Святло люстраў несла ў застаўленае кнігамі памяшканне хатні спакой Каля касы сабраліся тры маладыя жанчыны-прадаўшчыцы і ціха размаўлялі паміж сабой

Гэта быў морг нікому не патрэбных кніг-нежыцей На паліцах стаялі кнігі, да якіх баяліся дакрануцца рукі жывога чалавека Вось яны – запыленыя тамы літаратара, імя якога золатам зіхацела на пераплёце «Дзе твая душа лётае, дзе твой дэманічны дух? Чакаў, хто прызнае сябе літаратарам, хто напіша гэта магічнае слова на сваёй кніжцы жыцця А ўладар нябыту рыхтаваў маю плоць для твайго фізічнага ўвасаблення І ў храм не пускаў, не даваў дня знайсці, часу выбраць, ад Бога адводзіў гонарам»,– думаў Віктар.

Непрыемны халадок прабег па ягонай спіне З белай пластмасавай скрынкі радыё прыгучаў смех, здавалася, стрыманы і нязлосны, але адчувалася прыхаваная насмешка і зласлівасць. Зноў уладар смяяўся з яго. Перадавалі нейкі спектакль. Два мужчынскія галасы вялі паміж сабой дыялог Ласкавы голас першага паведаміў·

– Консул даручыў мне прапанаваць табе спыніць вайсковыя дзеі.

І толькі Віктар ведаў, што гэтыя словы адрасаваны яму Ведаў, хто такі консул, і чаму менавіта гэты спектакль гучыць па радыё

– О! Цікава, на якіх умовах, – адказаў другі персанаж.

Ты любіш і любімы адной знатнай жанчынай

Гэта яму, Віктару, прапаноўваюць умовы Геніяльная сатанінская гульня Не ведаеш, які наступны ход.

– Хто гэта мовіў? – гнеўна гучаў голас другога. – Што аб гэтым можа ведаць консул? Якая вам справа да майго асабістага жыцця? Якое дачыненне яна мае да перамоваў аб міры, які вы мне прапаноўваеце?

Першы персанаж загаварыў хутка і цвёрда:

– Ты любіш яе і любімы ёю Сенат гатовы прасіць яе стаць тваёй жонкай; калі ты будзеш жанаты на любімай жанчыне, консул дасць табе права выбару· пажадаеш ты праявіць сваю доблеснасць на полі сечы – ты атрымаеш званне квестора, а захочаш спакойнага жыцця пад апекай хатніх лар – ты будзеш прызначаны прэфектам у адзін з гарадоў, куды пажадаеш.

Вось якія прывабныя абяцанні прапаноўвае яму консул· вярнуць Хэльгу, славу, грошы, уладу, толькі не адрачыся ад яго «Позна, консул Я не веру табе Ты хацеў расправіцца са мной, калі я разгадаў тваю тайну Ты прайграў у гэтай бітве з чалавекам Не буду я апраўдваць зло і нянавісць. Я люблю Бога, я люблю любоў, я люблю жыццё». І сугучна думкам Віктара быў адказ другога персанажа, які з абурэннем казаў·

– І так восем гадоў майго жыцця ўсе мае здольнасці, усе духоўныя сілы я аддаваў святой і высакароднай справе, я без жаху ішоў насустрач кожнай небяспецы я заклікаў да зброі маіх сяброў па няшчасці, я вёў іх да перамогі, а цяпер я скажу ім: «Тое, што вам здавалася перамогай,– ёсць паражэнне, волі нам не заваяваць, вяртайцеся да сваіх уладароў і зноў працягніце рукі, каб іх закавалі ў ланцугі».

Тое самае мог адказаць і Віктар. І ён восем гадоў аддаў сваёй кнізе, нават працу кінуў, сядзеў без граша, пераносіў нястачы, каб напісаць пра маску хімеры, за якой хавалася зло няволі. І вось цяпер адмовіцца ад кнігі, прызнаць сваё паражэнне і прапанаваць людзям паслухмяна насіць ланцугі рабства. Віктар засмяяўся і разарваў

перамовы з консулам Нядоўга засталося чакаць перамогі над ім Гадзіннік паказваў палову шостай. Трэба было адпраўляцца ў царкву Аднак цікавасць да кніг затрымала Віктара ў кнігарні. Прабег вачыма па пераплётах кніг, што гадамі пыліліся на паліцах. Што казаць – ляжачых не б'юць. Асобны аддзел займала кніжная макулатура пра баевікоў, прастытутак, сышчыкаў і другіх герояў нашага часу – забаўныя коміксы ў параўнанні з кнігамі жахаў. Толькі ад іх назваў рабілася не па сабе «Д'ябал», «Вандруючы д'ябал», «Улюблёны д'ябал», «Зорка сатаны», «Нараджэнне цемры», «Свет ведзьмаў» З вокладак ашчапериліся ікластыя і акрываўленыя зеўры пачвар Непрыемнае ўражанне ўзмацнялася сабачым выццём, што чулася з вуліцы Віктар міжволі прыслухаўся. Адчай перадсмяротнага прадчування гучаў у гэтым выцці. Ціхія галасы прадаўшчыц, якія, не зважаючы на Віктара, абмяркоўвалі свае праблемы, супакойвалі яго. Чаго баяцца? І нечысць бяссільная перад чалавекам, які прыняў Божую апеку Нечакана яму захацелася запаліць. З асалодай удыхнуць дымок цыгарэты і выпусціць яго з вуснаў. Жаданне было такое моцнае, што Віктар пайшоў з кнігарні, каб хутчэй зацягнуцца цыгарэтай. У цесным калідорчыку перад дзвярыма ён дастаў з пачка цыгарэту Зірнуў за шкло дзвярэй і ўбачыў невялічкага беспароднага сабаку. Рудая ўперамежку з белай поўсць жывёлы была ўскудлачана. Хвост закруціўся бублікам. Дзіўна, але ў сабакі не было пярэдняй правай лапы. Сабака задраў галаву і ашчаперыў на чалавека вострозубую пашчу Чырвоны доўгі язык скакаў ад нецярпення між ікламі З вісклівым злосным брэхам сабака кінуўся на шкло дзвярэй Жаданне запаліць было мацнейшым за хвілінную разгубленасць перад гэтым асленленым незразумелай нянавісцю зверам. Віктар пстрыкнуў аб карабок і паднёс агонь да цыгарэты. Зацяжка вярнула яму ўпэўненасць. Ён смела штурхнуў нагой дзверы і выйшаў на ганак. У ягонай руцэ гарэла запалка. Светлы агеньчык весела трапятаў на ветры. А вусны сціскалі цыгарэту і стрымлівалі крык страху Сабака адступаў перад чалавекам, хоць і люта гыркаў на яго, выгінаў пругкае цела, нібыта рыхтаваўся да скачка. Калі агонь запалкі патух, сабака спыніў сваё адступленне, прысеў на заднія лапы і па-ранейшаму злосна рыкаў на Віктара. Сама мудрасць кіравала чалавекам. Не спалохаўся ён, не пабег, не закрычаў Спакойна выняў левай рукой з вуснаў цыгарэту, а правай правёў перад сабой знак крыжа.

– У імя Айца, Сына, і Святога Духа! Згінь, злыдзень!

Сабаку нібыта працяў боль, ён шалёна заскуголіў і захістаў галавой. Водбліск пекла – цьмяна-яскравы і жахліва-магічны – бліснуў у сабачых вачах. Як перад смерцю, звер кінуўся проста на чалавека. Хутка ляцелі па зямлі тры пругкія лапы. Спалохайся чалавек: закрычы – і сабака адчуў бы сваю перавагу і хапіла б аднаго шалёнага ўкусу. Хто трымаў у гэтае імгненне ягонае сэрца? Але яно не задрыжала. Чалавек стаяў непахісна І перад самымі ягонымі нагамі раз'ятраная пачвара нырнула ўбок і падскочыла да ўваходу ў кнігарню. Вільготным ад белай пены носам ударыла па дзвярах, адчыніла іх і ўварвалася ў калідор Наступныя дзверы сталі для яе непераадольнай сцяной. З залы ў вочы біла святло. Грудзьмі ўзляцеў сабака на шкло Яшчэ некалькі разоў узлятала гэтая шалёная лютасць на дзверы і кожны раз усё слабей. Сабака аціх.

Толькі цяпер боязь закралася ў ягонае сэрца, але ён не наважыўся адчыніць дзверы, каб паглядзець, што здарылася з сабакам Заставалася сесці ў трамвай і пад'ехаць да царквы, а там ён ужо недасягальны для ўладара.

Каля прыпынку Віктара аклікнула нейкая жанчына, нізкая, адзетая ў старое паліто, з сумкай у руках.

– Малады чалавек, у вас ёсць запалкі? Дайце прыкурыць.

Яна таропка дастала з кішэні цыгарэту і дрыжачымі пальцамі паднесла яе да вуснаў. Віктар падзяліўся агнём з жанчынай.

– Ой, грошы згубіла, – заплакала яна. Пяцьдзесят тысяч.

– Не перажывайце Можа, куды сунулі? – супакоіў яе Віктар.

– Ды не, згубіла. Усё абшарыла ..

– Ма-ма! Ма-ма! – паклікаў жанчыну хлопчык, які падбег да яе.





– Не мучце сябе дарэмна. Што згубіш, тое не вернеш.

– Але грошы цяпер галоўнае.

– Хіба грошы? Радуйцеся, што сын ваш здаровы і жывы. Вось самае галоўнае ў жыцці. А грошы нажывеце, не трэба з-за іх гэтак мучыцца.

І жадаючы пацвердзіць свае словы, паддаючыся шчыраму спачуванню, ён выняў з кішэні гаманец і, не лічачы, выцягнуў з яго стос паперак і працягнуў іх жанчыне

–Вазьміце, хай супакоіцца ваша сэрца.

Жанчына машынальна прыняла гэты дар, пэўна, не разумеючы, што адбылося, пасля спахапілася.

– Ой! Хай вам дапаможа Бог Дайце я пацалую вашу руку! – Яна схапіла ягоную руку і ўдзячна прыпала вуснамі да далоні.

Віктар сарамліва адхіліў руку. Ніхто яшчэ не праяўляў да яго падобнай удзячнасці, і так няёмка было прымаць праяву чалавечай шчырасці

– Шчасця вам! – пажадаў ён і пайшоў далей.

Ён быў і сам удзячны жынчыне, бо яна абудзіла даўно забытае ім пачуццё спрычыненасці да чужога гора і выклікала ў душы жаданне добрай справы.

Не прайшоў ён і некалькі крокаў, як убачыў вялікага чорнага сабаку, які сядзеў на задніх лапах каля ганку крамы. Зноў!

Але Віктар пераадолеў боязь, падышоў да сабакі і пагладзіў яго па поўсці. Сабака падняўся і весела замахаў хвастом.

– Чаго сумуеш? прамовіў Віктар.

– Гасцінца чакае ад гаспадара, па-сяброўску кінуў яму нейкі мужчына, які падымаўся па прыступках у краму

– Малады чалавек, – аклікнула Віктара ўсё тая жанчына – Хочаце, я пагадаю вам

Прапанова была нечаканай, і Віктар не ведаў, што і адказаць. Жанчына заўважыла ягоную разгубленасць і настойвала на сваім.

– Я ўмею гадаць, можа, нечым і вам дапамагу Пойдзем да мяне.

«Гэта нейкая пастка, завабляе ў яе каб не пусціць мяне ў царкву», – падумаў Віктар і вырашыў адмовіцца.

– Прабачце, я спяшаюся.

– Ды гэта нядоўга, мінут дваццаць. Будзеце ведаць сваю будучыню. Не сумнявайцеся.

Жанчына чакальна пазірала на яго. А Віктар хістаўся, страх перад магчымай пасткай стрымліваў яго, але шчыры позірк жаночых вачэй выклікаў давер да яе. Ды і магчымасць зазірнуць у сваю будучыню прываблівала. Але, зрэшты, чаго баяцца? І ён пагадзіўся

Праз некалькі мінут Віктар сядзеў на кухні ў кватэры жанчыны. Сама гаспадыня нешта рабіла за ягонай спінай, папрасіўшы яго не азірацца назад. Віктар чуў яе ціхі шэпт – шаптала яна замову. І прыгадалася яму, як некалі ў маленстве лячыла яго ад спалоху замовамі старая знахарка. Ён спалохаўся сабакі, які пагнаўся за ім

Вось бабця і адвяла яго да знахаркі. Сядзеў, зачараваны яе таямнічымі словамі пра духаў лугавых, пра вятры начныя, пра чорны лес, пра бел-гаруч камень. Адкрывала знахарка яму невядомы свет. Злы сабака пасля ўжо не сніўся, але падсвядомы страх перад сабакам так і застаўся ў Віктара на ўсё жыццё

Жанчына падышла да Віктара і паставіла на стол пустую малочную бутэльку Віктар з цікавасцю і трывогай назіраў за ёй. У бутэльку яна кінула нейкія карэньчыкі і наліла туды вады з другой бутэлькі, што дастала з буфета. Рабіла яна ўсё гэта моўчкі, паглыбіўшыся ў сябе. Запаліла тонкую царкоўную свечку і паставіла яе каля бутэлькі, адрэзала з ягонай галавы пасму. І гэта ўжо было падобна на нейкае рытуальнае дзеянне. Жанчына страсянула бутэльку з вадой і пачала паліць на свечцы валасы. Доўга ўглядалася ў шкляную празрыстасць бутэлькі.

– Бачу, ты баішся чагосьці, але ўжо не сабак. Нешта чорнае-чорнае замутняе ваду, – казала гадалка.

І хоць вада ў бутэльцы па-ранейшаму злівалася з празрыстасцю шкла, Віктар верыў,

што яна пачарнела. З першага яе прызнання ён зразумеў, што яна мае дар гадаць.

– Ты змагаешся Але з кім змагаешся? Цьмяна бачна. – Гадалка зноў спаліла на агеньчыку свечкі пучок валасоў, здзіўлена вохнула Ты змагаешся з самім сабой Так, так. Вось нейкі чорны чалавек. Гэта ты, але і не ты Ён рыхтуе табе бяду, ён хоча быць табой. Але ты пераможаш . самога сябе. Табе дапаможа жанчына. Невядомасць. Цябе чакае невядомасць, дзе нехта невядомы чакае цябе Усё. Нічога не бачу.

Такім было прадказанне гэтай жанчыны Яна не растлумачыла прадказання І Віктару засталося самому разгадаць яго Але як разгадаць, калі нічога дакладнага – адны намёкі. Хто ён гэты чалавек, які рыхтуе яму бяду і хоча быць ім самім? Верыць ці не верыць у гэтае прадказанне? Толькі час мог пацвердзіць або абвергнуць яго. Ясна было адно, што бой яшчэ наперадзе, бой, у якім ён пераможа самога сябе

Нарэшце Віктар дабраўся да царквы. З надзеяй пераступіў ён парог храма Даплыў да выратавальнага берага, і цяжар трывогі ўпаў з ягонай душы. Служба яшчэ не пачалася. Некалькі чалавек запальвалі свечкі перад абразамі. Цішыня і своеасаблівая ўрачыстая прастата, што панавала ў храме, схілялі Віктара да даверу Ён не саромеўся прызнацца ў сваім жаданні Спытаўся ў жанчыны, якая прадавала свечкі ў прытворы, як яму прыняць хрышчэнне.

– Ахрысціцца? Трыццаць гадоў, а ходзіць нехрышчоным!

Не асуджэнне, не дакор гучаў у голасе жанчыны, а здзіўленне Віктар разумеў здзіўленне чалавека, які не ўяўляў сваё або чужое жыццё без Бога ў душы. Тут падышла яшчэ адна жанчына, мяркуючы па чорнай рызе і чорнай хустцы на галаве, манашка, і прыязна параіла яму:

– А навошта вам сёння хрысціцца? Лепш заўтра. Заўтра сядміца. А сёння папасціцеся і раніцай папасціцеся, пасля прыміце хрышчэнне і прычасце, і Бог даруе вашы грахі. Пачнеце новае жыццё

Мудрая парада. Віктара прывабіла гэтая магчымасць ачысціць душу ад цемры грахоў і чыстым, як дзіцё, увайсці ў сваё новае жыццё Ён вырашыў ахрысціцца заўтра. Але баяўся начы, ці не паспрабуе чорная пачвара – гэты злы дух, гэтае спараджэнне ўладара нябыту – нанесці па ім свой апошні ўдар Душа ягоная яшчэ не ахрышчаная, а значыць, барацьба за яе працягваецца Небяспека яшчэ не мінула «Калі я веру ў абарону Бога, значыць, я не павінен баяцца за сябе»,– вырашыў Віктар

Вяртаўся пасля вячэрні дадому ў трамваі Ад стомы заплюшчыў вочы і забыўся лёгкім сном.

Бачыў ён Хэльгу, і яна ласкава ўсміхалася яму А пасля ціха, нібыта палохалася разбудзіць яго, нешта прамовіла яму. І ён здагадаўся, што за словы падаравала яму каханая, бо яе вочы глядзелі з каханнем. З ягонай аслабелай далоні выпалі дзве свечкі Віктар прачнуўся

***

Ён дабраўся па вузкім сутарэнні да прыступак, падняўся па іх і ўпёрся ў нізкія дзверы Што б ні чакала яго там, за дзвярыма, ён адчыніў іх. Прыгнуўшы пад скляпеннем галаву, пераступіў парог Ён апынуўся ў вялікай зале. На каменных сценах у жалезных колцах тырчэлі паходні, якія сваім святлом разганялі цемру Пасярэдзіне залы на ўзвышэнні стаяў трон – высокае драўлянае крэсла. Без сумневу ён трапіў у стары герцагскі замак. Пасля таго як прыхільнікі прарока захапілі ў горадзе ўладу, іх правадыр пасяліўся ў замку. Нанятае войска пільна дзень і ноч вартавала ўсе замкавыя брамы, і ніхто без дазволу самога прарока не мог трапіць у замак. Але, пэўна, новы гаспадар не ведаў пра падземны ход, бо не паставіў да яго варту

Ён зачыніў дзверы, і яны зліліся са сцяной – ніводнай шчылінкі Лёгка ўдарыў жазлом і высек з дзвярэй глухі каменны гук. Дарогі назад не было Цяпер ён ці выратуецца, ці загіне. Трэцяга не ведаў. Раптам з суседніх пакояў пачуўся гучны тупат ног, бразганне даспехаў і зброі. Варта! Ён ліхаманкава прабег вачыма па ўсіх кутках залы. Куды б схавацца? Але ні калоны, ні выступа сцяны ці другога сховішча не ўбачыў. У гэты момант





у залу ўварваліся ландскнехты. Радаснымі крыкамі прывіталі незнаёмага ім чалавека. «Вось ён! Вось ён! Хапай!» Смяротныя джалы дзідаў нацэліліся на яго. Воіны з усіх бакоў, трымаючы перад сабой зброю, падбіраліся ўсё бліжэй і бліжэй Позна было ўцякаць. Ён узяў у абедзве рукі жазло і сагнуў яго ў дугу. Чакаў, хто першы асмеліцца кінуцца ў бой А калі гэты смяльчак замахнуўся на яго палашом, ён адпусціў жазло. Са свістам, рассякаючы паветра, жазло ўдарыла па палашу і выбіла зброю з рук. Невядомая сіла, што таілася ў жазле, цягнула за сабой. Ён нават зрабіў некалькі крокаў, не маючы моцы ўтрымацца на адным месцы, і машынальна падняў жазло ўгору. І дзіва – ён лёгка, як птушка, узляцеў пад скляпенне. Зверху бачыў здзіўленыя твары ландскнехтаў. Яны задралі галовы і недаўменна наглядалі за ім. Смех вырваўся з ягоных грудзей. Ён нырнуў у шырокі праём выхаду і пакінуў залу. Праляцеў праз яшчэ адну залу з высокім скляпеннем і апынуўся над лесвіцай, падняўся на другі паверх. Тут ён апусціў жазло і павольна дакрануўся рукамі да падлогі. У яго быў час знайсці Дзівару Ён крадком пайшоў з пакоя ў пакой Наперадзе пачуў нечыя галасы. Бясшумна падышоў да наступнага пакоя У глыбіні яго перад высокай разьбяной шафай стаяў доўгі і хударлявы чалавек і прымерваў на сябе камзол. Побач стаяў яшчэ адзін чалавек, адзеты ў чорны плашч. Ён ужо гатовы быў пайсці далей, але да вушэй данеслася· «Прарок». Чалавек у чорным плашчы гэтак звярнуўся да таго, хто прымерваў камзол. Вось гэты новаяўлены прарок, які прагнуў быць уладаром гэтага горада, душаў і целаў ягоных жыхароў.

Ён асцярожна зайшоў у пакой і схаваўся за мармуровую скульптуру рыцара на высокім пастаменце. Прарок і ягоны суразмоўца, які сваёй постаццю і чорным плашчом нагадваў Фаўста, не заўважылі яго. Стаялі яны спінай да яго, так што іх твараў ён не бачыў. Прарок пакруціў у руках камзол і кінуў яго на падлогу·

«Не, сарочку, якую сарочку Дзесьці сарочка. Я некуды яе паклаў Дзе яна? Ну дзе? Ах, вось вісіць. Добра. Ах. У мяне новы залаты ланцуг Трэба пахваліцца перад людзьмі. Сарочка. Што надзець?» Прарок зняў з сябе шоўкавую з карункавымі рукавамі сарочку, надзеў другую. «Куды я дзеў камзол?» Чалавек у чорным нахіліўся, падняў з падлогі камзол і ўгодліва падаў яго прароку «Не хвалюйся, без цябе не пачнуць»,– супакоіў прарока. «Добра, хай пачынаюць. Парты. Якія парты? Чорт, што рабіць? Ай, надзену гэтыя Што будзе – тое і будзе». Прарок нацягнуў на ногі кароткія да каленяў порткі, незадаволена паглядзеў на іх. «Ай, не тое Не салідна». – «Ты іх яшчэ не надзяваў»,– мовіў чалавек у чорным. Прарок падбег да вялікага люстэрка, прымацаванага да сцяны, палюбаваўся перад ім, зноў пабег да шафы. «Не тое – не тое, трэба выходзіць на вячэрні прыём. Што надзець – пярсцёнак ці сыгнет?» – «Пярсцёнак яшчэ ніхто не бачыў. Якія карункі! Ах, як зіхацяць»,–пераконваў чалавек у чорным. І прарок паддаўся яму «Добра, хай пярсцёнак»

Прарок адзеўся і разам з чалавекам у чорным пайшоў з пакоя. «Дарэмна сыгнет не надзеў»,– пашкадаваў прарок.

Ён пакінуў сваё сховішча. Падышоў да стала і ўзяў сыгнет, насунуў яго на палец, палюбаваўся вытанчанай ювелірнай працай – на золаце быў выгравіраваны герб горада. Гэты занятак перапыніў гук крокаў – нехта бег сюды, у пакой Ён зразумеў, што не паспее схавацца, тады машынальна сунуў руку ў кішэню і выцягнуў адтуль маску У адно імгненне надзеў яе на твар За спінай нехта ўскрыкнуў, і тады ён павольна павярнуўся тварам да ўваходу. Перад ім стаяў той барадаты, з кім ён гуляў у карты. Барадач разгублена пазіраў на яго і не ведаў, што сказаць. Значыць, не пазнаў яго, прыняў за кагосьці іншага.

– Што табе трэба?! – як мага гнеўна закрычаў ён – Я не люблю паўтараць!

Недарэмна сыграў ён угневанасць, ландскнехт задрыжаў перад ім

– Ды вось шукаю..

– Ну і што? Я не бачу, каго шукаеш

– Ды я... – ваяка лісліва схіліўся ў паклоне

І гледзячы на гэтага дужага чалавека, які прыніжаўся перад ім, ён адчуў хмельнае пачуццё сваёй перавагі. Маска давала яму ўладу над гэтым чалавекам Рабская пакорлівасць другога ўзвышала ягонае самалюбства.

– Прэч! – кінуў ён зняважліва

Ландскнехт хуценька выбег з пакоя. Вось дык маска. Схаваўшыся за яе, можна знайсці Дзівару і вызваліць каханую з гэтага логава. Маску ён не зняў. Ішоў па калідоры і не хаваўся, зазіраў у кожны пакой У адным з іх ён убачыў нейкага юнака, які на карачках поўз па падлозе і нешта шукаў. «Чым займаешся?» – спытаўся ён. Юнак ускочыў на ногі і збянтэжана замармытаў: «Дык вось..» Жаданне праверыць чары пераўвасаблення спакусіла яго, і ён сурова прамовіў· «Ты чаму стаіш? Не хочаш працаваць. Я не люблю такога, за гэта страшна караю», – і сам са здзіўленнем слухаў свой гняўліва-пагрозлівы голас. «Змілуйцеся». І ў гэтай нясмелай просьбе было тое, чаго ён хацеў, – яго прымалі за нейкага важнага чалавека, яго баяліся. Згорбленая постаць юнака дрыжала пад ягоным позіркам. Нясмелая дзіцячая ўсмешка прасіла літасці. «Ды вось прыбіраю...» – «Ну і што... а я не бачу». Юнак нахіліўся і папоўз на карачках па падлозе, старанна шмаруючы яе анучай Што ён без маскі, якая давала яму ўладу, у параўнанні з гэтым высокім і прыгожым юнаком ніштоства. Вось яна, асалода і сіла ўлады, – яна падымае цябе над людзьмі, законамі І ты, кволы і непрыгожы, становішся богам.

Якраз у пакой убег яшчэ адзін юнак, убачыўшы яго, здзіўлена знерухомеў Ён вырашыў працягваць сваю гульню і накінуўся на гэтага: «Якога чорта мітусішся, працы няма?» – «Не, не, я працую. Толькі вядро трэба».– «Навошта табе вядро?» – «Паліваць камяні». – «Камяні?» – здзівіўся ён такому дзіўнаму занятку. «І я хачу вырасціць свой камень для пабудовы светлага рая».– «Час паліваць камяні, яны будуць нашай зброяй». Ён падышоў да вядра, узяў яго ў рукі і зразумеў, што даў маху Хіба важны чалавек павінны нешта рабіць, яго справа загадваць. Сваю памылку ён выправіў – выліў з вядра ваду на падлогу і шпурнуў яго ў юнака. «Бягом працаваць!» – крыкнуў ён. І той пабег Вялікае задавальненне ўладай адчуў ён. Але гэта была толькі першая прыступка яе, а як там на самай вяршыні, там якое задавальненне?

Калі ён увайшоў у пакой прыгажэйшай за ўсіх жанчын, яна сядзела на ложку ў белай сукенцы. Паднялася насустрач яму і спынілася. А ён ад радасці забыўся, што ягоны твар закрывае маска.

– Дзівара, я знайшоў цябе. Памятаеш пра таго, хто прыдумаў цябе, хто адкрыў тваю прыгажосць?

Насцярожаным позіркам яна спыніла яго. І ён нават засумняваўся· ці гэтая жанчына страсна любіла яго.

– Ты не кахаеш мяне? – спытаўся ён.

– Я цябе не кахала і не пакахаю,– рэзка адказала Дзівара.

– Ты ненавідзіш мяне за тое, што не пасяліў цябе ў гэтых палатах, што не асыпаў цябе золатам. Ты памыляешся, усё гэта я табе даў. У гэтым гарэме ўсё ў цябе ёсць. Недарэмна прадала сябе. Навошта я прыйшоў? Я верыў табе А цяпер бачу, хто ты..

Слёзы пацяклі па шчаках Дзівары Але не шкадобу выклікаў у яго гэты плач, а зняважу

– Плакаць вы ўмееце.

Раптам Дзівара кінулася да дзвярэй і выбегла з пакоя.

Нават калі б ён і выйграў гэты бой, дык усё роўна застаўся б у пройгрышы Бо не ён Пераможца, а той, каго выбрала Дзівара, – прарок І гэта за яе ён ставіў на кон душу, сваё жыццё і сваё імя!

Зноў тупат ног. Ландскнехты шукалі яго. Вось затупалі за ягонай спінай. Радасныя крыкі

Ён хацеў зняць маску, але пальцы адчулі жывое цяпло плоці. Маска злучылася з ягоным тварам, стала ягонай скурай, ягоным носам, ягонымі вуснамі. Маска ператварылася ў ягоны твар. Гэтага не можа быць, але гэта адбылося

Віктар прачнуўся. Была раніца 7 лістапада 1993 года.

У гэты дзень Віктар прыняў святое хрышчэнне Адрокся ад уладара нябыту, плюнуў праз правае плячо тры разы і прамовіў тры разы· «Адракаюся ад сатаны» Перадаў сваю душу Богу. І калі падышла яго чарга, ішоў да купелі як да запаветнай мары. Здзейснілася!





Святая вада з купелі, якую ліў на яго святар, змыла з цела плюгавасць. Не ўрачыстасць, а радасць. І як узнагароду за веру павесіў святар на яго шыю маленькі медны крыжык на чырвоным шнурку. І быў ён упершыню, як хрысціянін, уведзены ў храм і дапушчаны да бажніцы Ён нёс на руках ахрышчанага хлопчыка. Чужое дзіця даверліва абдымала ручкамі ягоную шыю. І ў гэтым Віктар бачыў сімвал свайго вяртання да людзей

Але бой яшчэ не скончыўся. Гэта Віктар зразумеў, калі шчаслівы ішоў па горадзе Непадалёк ад царквы стаяла пахавальная машына На заднім шкле была прыклеена карцінка – вясёлы чорцік паказваў з раскрытага роту доўгі чырвоны язык. Уладар нябыту даў знак. Смяецца той, хто смяецца апошнім Рана святкаваць перамогу.

Зусім ён не змрочны, Харон. Падстаўляе свой твар сонечным промням і ад задавальнення жмурыць вочы. Дыміць цыгарэтай І нібыта забыўся пра гэты свет, бо на вушах ягоных – слухаўкі плэера. І калі меркаваць па ягонай усмешцы, дык настрой у Харона цудоўны. У чаканні нябожчыка ён нецярпліва прахаджваецца вакол сваёй ладдзі – жоўтага невялічкага аўтобуса з чорнай жалобнай паласой па баках.

## ПЕРАМОЖЦА ПЕРАМОЖЦЫ

Віктар прадчуваў гэтую сустрэчу. Сама дынаміка падзей падказвала яму, што развязка яшчэ наперадзе. І ён чакаў гэтай сустрэчы Рыхтаваўся да яе. Першае, што зрабіў, дык пастрыгся і пагаліўся. Выкінуў з сэрца пачуццё трагізму, якое ператварыла ягонае жыццё ў трагедыю Радасць і бадзёрасць выбраў ён у свае саюзнікі. Хоць і разумеў ненатуральнасць гэтай радасці і бадзёрасці. Часам мільгала думка завесці новы раман і новым каханнем вылечыць безнадзейны боль страты. Клін выбіваюць клінам. «Развітаўся з гэтым каханнем, як развітаўся з тым каханнем, як дагэтуль развітаўся з нейкім каханнем, як перад усім развітаўся з першым каханнем. Яно прыходзіць, як пакаранне за безлюбоўе, як узнагарода за чаканне. Дзіцё грэху і страсці – яно, як бастард, пазбаўлена бацькоўскіх правоў, ад яго адракլася маці Яно – мае ганьба і сорам. Ці не лепш секс – раўнавага жаданага з магчымым? Дык бывай, гэтае каханне Не пакутаваць, не памятаць, не спадзявацца... чакаць»

І вось гэтая сустрэча адбылася Быў дзень 24 лістапада – дзень нараджэння Хэльгі З раніцы за акном павольна лёталі сняжынкі На дахах дамоў, на парэнчах балкона ляжаў пуховы шалік снегу Свет абнаўляўся Віктар любіў першы снег І прыгадаў, як у дзяцінстве, убачыўшы першых снегавых матылькоў, абрадаваны выбягаў на вуліцу і пілікаў на цацачным гармоніку. Спевам захаплення, шчырай радасцю вітаў ён прыход зімы Ад мілай усмешкі распраўляліся зморшчынкі гадоў у ягонай бабулі А ён з асалодай таптаў снег, прыслухоўваючыся да мяккага хрумсту пад нагамі, і выцягваў з мяхоў гармоніка гармідар музыкі Ён глядзеў з ціхай радасцю ў акно. Снег падаў на зямлю, як манна нябесная, і бялела чарната зямлі. З школы выбягала дзятва і са смехам хапала гарачымі далонькамі сняжынкі. І хацелася жыць.

Віктар сустрэў Улада ў тым самым падземным пераходзе, дзе першы раз і ўбачыў яго Улад ішоў яму насустрач Паголены, без барады. Не пазнаў бы яго, каб не акуляры ў металічнай аправе і ўсё тыя чорныя куртка і джынсы Сэрца здрыганулася Вось ён! Віктар прайшоў бы міма, каб раптам не з'явілася жаданне бліжэй разгледзець гэтага чалавека, на свае вочы пераканацца, што той, як кажуць, харошы хлопец, а не прыдуманы ім чорны чалавек. Ён павярнуўся і пайшоў услед за Уладам. Выбраннік Хэльгі падняўся па прыступках з пераходу і накіраваўся да вулічнага тэлефона. Віктар спыніўся непадалёк і назіраў за ім. Нічога прыгожага ў ягоным твары ён не знайшоў. З-пад схаваных за акулярамі вачэй выступалі вострыя скулы і выцягнуты нос. Адзіная прыгажосць – металёвая аправа акуляраў. Нежывым здаваўся ягоны твар, і белая скура толькі ўзмацняла гэтае ўражанне І, пэўна, каб схаваць гэтую змярцвеласць, Улад павольна працаваў ротам, пераждоўваючы гумку. Ростам ён быў аднолькавы з Віктарам, аднак ледзь прыкметна горбіўся. Нічога адметнага. Але нечым ён выклікаў агіду.

Улад набіраў тэлефонны нумар, і па лічбах, на якія торкаўся ягоны палец, Віктар зразумеў, што той званіў Хэльзе Як ён хацеў, каб Хэльгі не было дома, каб іхняя размова не адбылася. Але Улад, заткнуўшы пальцам вуха, нешта казаў у трубку Значыць, Хэльга дома. Пэўна, Улад напрошваўся на сустрэчу. Здагадка пацвердзілася, бо, паклаўшы трубку, Улад зайшоў у краму, што знаходзілася побач Праз вітрыну Віктар бачыў, як той прыглядаўся да шэрагаў бутэлек з віном Сумненняў не было Улад збіраўся ў госці да Хэльгі, віншаваць яе з днём нараджэння. Цікава, чым частуе гэты Рамэа сваю каханую?

І стала нават крыўдна за Хэльгу. Улад не траціўся на яе, купіў дзве бутэлькі таннага піва і схаваў іх у ранец. Канечне, кветак ён не возьме Навошта? Яна ўжо ягоная, і ён з разлікам скнары і прагматыка адносіцца да яе Каханне ж яе заваявана. Улад выйшаў з крамы Віктар, нібыта віж, хаваючыся за людскія спіны, падаўся следам за ім. Хацелася канчаткова пераканацца ў сваёй здагадцы Заставалася правесці яго да прыпынку і пахаваць сваю веру. Але раптам іскарка надзеі ўспыхнула ў сэрцы Віктара Улад павярнуў у другі бок. Віктар з надзеяй сачыў за ім Іскарка ўспыхнула і згасла. Улад зайшоў у аптэку Здагадвацца, навошта наведвае мужчына аптэку перад візітам да жанчыны, не трэба І ўсё Хэльга памерла для яго. І нават слова «каханне» цяпер выклікала ў яго нянавісць. Так, пераможцу выбрала Хэльга А ён, дурань, пэўна, лічыў, што яе паслаў Бог, каб правесці яго ў храм. Хвіліна расчаравання доўжылася і не канчалася. Бо яе канец стане пачаткам адзіноты і безлюбоўя, бо, здавалася, ён ніколі ўжо не здолее палюбіць ніводную жанчыну І калі Улад выйшаў з аптэкі і накіраваўся да прыпынку, жыццё пачало для Віктара новы адлік. Хвіліна расчаравання скончылася

Да прыпынку пад'язджаў аўтобус, аднак Улад не паспяваў А Віктар мог трапіць на яго. Апярэдзіць Улада і ў Хэльгі сустрэцца з ім. У спакойным стане Віктар ніколі б не наважыўся на гэты крок, але ён быў у адчаі чалавека, які страціў каханую. Кароткае імгненне не дазваляла яму засумнявацца – трэба было дзейнічаць. Супраць рашучага кроку заўсёды знойдзецца тлумачэнне – абставіны. Гэта апраўданне нашай немагчымасці, але застаецца для суцяшэння – затое «Калі б . , але затое» Дык вось, каб не засталося суцяшэння. Віктар дабег да прыпынку ў той момант, калі аўтобус спыніўся, нырнуў у салон Чаму быць, таго не мінуць.

Хваляванне нарастала ў душы Віктара з набліжэннем да Хэльгінага дома. Наперадзе яго чакала кульмінацыя.

Канечне, Хэльга прыняла ягоны званок за сігнал Улада і адчыніла дзверы Радасны выраз яе твару скрывіўся ў грымасу недаўмення

– Прывітанне! – кінуў Віктар і рашуча пераступіў парог

Хэльга перамагла хвілінную разгубленасць і пачала бой.

Яна хітрыла, калі казала, што не мае часу і спяшаецца, але ён не верыў Скінуў куртку і павесіў яе, зняў чаравікі

– У тваім доме я нежаданы госць?

Што за гульня?

Тое, што Хэльга траціла вытрымку, давала яму перавагу

Ён быў гаспадаром становішча

– Не хвалюйся, ён прыйдзе Можа, прынясе табе бутэлечку добрага віна, але, думаю, траціцца ён не будзе Абыдзешся і півам. Ды і кветак не прынясе А вось у аптэку абавязкова зазірнуў. Такая парода. Ты ж стала даступнай для яго.

Хэльга не адказвала, моўчкі паглядала на Віктара. Вочы яе пацямнелі ад смуты Ноздры носіка дрыжэлі ад частага дыхання.

– Паўза зацягваецца. Чаму быць, таго не мінуць. Лепш пачастуй мяне кавай ды паразмаўляем.

Кавы яны так і не папілі, ды і пагаварыць не ўдалося. Хэльга выбрала маўчанне Не адказала яна і на галоўнае пытанне Віктара.

– Чаму ты пайшла ад мяне?

– Здарылася тое, што здарылася. Не буду тлумачыць, няхай час усё растлумачыць.

– Старая і звычайная гісторыя, як адзін згубіў каханне другога





І як унутрана ні рыхтаваліся яны, але на патрабавальны кароткі званок абое ўздрыгнулі. Хэльга хуценька выбегла, а Віктар застаўся сядзець за сталом на кухні Пачуў, як Хэльга адчыніла дзверы, як суха прывіталася з Уладам. Пасля з вітальні даляцеў шэпт, і вось голас Улада высокай нотай ударыў па слыху· «Дзе ён?»

Улад увайшоў на кухню. Распрануўся перад гэтым На ім былі чорныя джынсы і швэдар, акурат чорны чалавек. Нейкае імгненне ён стаяў і глядзеў на Віктара. А вочы хаваліся за акуляры Твар, абцягнуты блеклай скурай, крывіўся ад працы шчэлепаў, якія пераціралі гумку Пакрытая слінай гумка мільгала на ягоных зубах.

– Ты хто? – выпалі з ягоных вуснаў два словы.

– А ты хто?

– Я? – Улад нібыта задумаўся і апусціў галаву ўніз, пры гэтым складкі пад сківіцай сабраліся ў другі падбародак, надаўшы ягонаму твару выгляд прысыпанага чалавека, галава якога была толькі жавальным апаратам ды мазжачком кардынавала ягоныя рэфлексы і інстынкты. – Я чорны чалавек. А ты ніхто? Нават адна-адзіная жанчына, якая пакахала цябе, і тая кінула. Ты не здольны нават кахаць. Нікчэмнасць, ты прайграў – Ён казаў з пагардлівым здзекам чалавека, які лічыў сябе пераможцам

– Горача, але гэта яшчэ не ты.

Віктар падняўся з-за стала. Нечага падобнага ён чакаў – яго правакавалі на звадку Але чакаў ён, што Улад скіне сваю маску А так усё атрымлівалася да смеху крыўдна – трывіяльная разборка двух супернікаў з-за жанчыны Улад яўна не падыходзіў на ролю сатанінскага слугі Звычайны, просты і ніякі

– Ты памыляешся Рана святкаваць перамогу Я – Пераможца. Можаш мне не верыць. Але калі я і сапраўды Пераможца, як лёгка памыліцца і як цяжка расплачвацца за памылку Мне падуладны час і прастора, мне служаць героі і ўладары. Вялікі ўладар сваёй улады Мая дзяржава – слова Да апошняй літары, да Я пашырыў межы сваёй улады Сваім падданым даў існасць, даў імя, даў ім уяўленне пра ўчора, сёння і заўтра

Улад ціха засмяяўся і перапыніў Віктара:

– Учора яны басякі, сёння – абутыя ў лапці, а надыдзе заўтра – будзе ім заўтра. Усё ім будзе мала, усё ім будзе не так то ў хлебе восці, то ў горле косткі За потныя высілкі – табе чорная няўдзячнасць, і нават горкім успамінам не станеш у памяці іх,– падыграў яму Улад.– А калі хочаш ведаць, хто я, дык ведай· я твой кат

– Калі вынесеш смяротны прысуд, знойдзецца і кат, – адказаў спакойна Віктар, цяпер ужо ведаў – гульня пачалася.

– Ты можаш халодным потам выпарыцца Можаш адчайным крыкам растаць. Птушкай узляцець пад нябёсы Як ні ўцякай, як ні ратуйся, ад ката не ўцячэш і не ўратуешся. Ён з'явіцца. – Улад падняў ніз швэдара і дастаў з-пад папружкі чорны рэвальвер

Круглае зеўра смерці, паднятае рукой Улада, нацэлілася ў сэрца Віктара. Жалезныя патроны, што тырчэлі ў барабане, чакалі руху пальца на курку. Не, Улад не стрэліць. Віктар быў упэўнены ў гэтым Калі Улад просты, звычайны і ніякі, дык ён не наважыцца, а калі ён – ягоны кат, дык не такую кару прыдумаў уладар нябыту

– Што ж. калі няварты сваёй адзінай, з'яўляецца трэці, каб памёр другі, – працягваў гульню Віктар – Аддай мне тое, што я заслужыў

І тут увайшла Хэльга і зблытала карты ў гэтай гульні.

– Улад! – закрычала спалохана жанчына. Навошта?

Ён азірнуўся назад, і гэтага імгнення хапіла, каб Віктар імкліва скочыў наперад і схапіў ягоную руку, рэзка ірвануў яе ўніз і заламаў Глухі стрэл ударыў па нервах Віктара. Рукі сталі непаслухмянымі, адпусцілі руку Улада. Ягоны кат павольна асеў і адкінуўся спінай на падлогу Белая гумка выпала з ягоных ашчаперaных зубоў

Нерухома ляжаў Улад. Віктар і Хэльга стаялі над ім, баючыся прызнаць ягоную смерць. Вусны жанчыны дрыжэлі ад узрушэння, здавалася, яна зараз заплача. А Віктар адчуў страшную пустату, у якую ён ляцеў, і чарната перад вачыма засціла дно гэтай

пустаты. Гэтак бывае ў сне, калі сніш, што ляціш некуды ў чорную бездань. І кожнае імгненне гэтага падзення ўзмацняе страх. Толькі страх, які стаў і целам, і думкай Адчужана паглядаў ён, як Хэльга нахілілася над Уладам, памацала ягонае запясце.

– Усё, – ціха прамовіла яна.

– Ад свайго мяча і загінуў.

Ён не разумеў, што казаў, але баяўся маўчання. Словы вярталі да явы, словы разганялі адчай.

Трэба было здавацца Віктар пазваніў у міліцыю і коратка паведаміў: «Я забіў чорнага чалавека». Не заўважыў, як з языка сарвалася «чорнага», назваў адрас. Засталося чакаць прыезду міліцыянераў, а там – следства. Так, у яго былі шанцы давесці сваю невінаватасць. Але шмат залежала ад Хэльгі. Якія яна дасць паказанні.

Яны сядзелі ў яе пакоі, а паміж імі стаяў стол. Хэльга, нахіліўшы галаву на падстаўленую руку, маўчала, не плакала.

– Не думаў, што ўсё гэтак трывіяльна скончыцца.

– Драматычна, – папраўіла яго Хэльга.

Віктар не растлумачыў, што меў на ўвазе. У гэтай сатанінскай гульні ён чакаў незвычайнага, калі не геніяльнага ходу, атрымалася трывіяльна труп.

– Дай выпіць, – папрасіў Віктар.

Хэльга дастала з бара бутэльку лікёра і наліла ягонай зеленаватай вадкасці ў келіх. Прыемны пах ківі не стасаваўся з горкім смакам.

– Ну і гадасць. Не лікёр – адэкалон. Нейкая польская падробка, пэўна?

– Не можа быць! Улад купляў яго, і мы раней пілі, здзівілася Хэльга, наліла сабе і прыгубіла. – Сапраўды, нейкі дзіўны прысмак.

– А, усё роўна, хутчэй захмялею. Ты мяне ненавідзіш?

– Я дарую табе за ўсё...

– Дзякуй табе і дзякуй за тое, што я спазнаў сам сябе

І прагучаў званок.

Я сам адчыню, – падняўся Віктар з крэсла і выйшаў у вітальню.

Гэта была міліцыя. Трое высокіх і мажных міліцыянтаў проста з парога загадалі паказаць забітага. Віктар павёў іх на кухню, адчыніў дзверы і здзіўлена ўскрыкнуў. Памыліўся ён – сатанінская гульня не скончылася Не прадбачыў гэтага геніяльнага ходу. Улад жывы і здаровы сядзеў за сталом. Павольна працаваў шчэлепамі над гумкай

Ну, што здарылася? Дзе труп? – спытаў старэйшы з міліцыянераў з пагонамі капітана.

Вось, – няўпэўнена кіўнуў Віктар галавой на Улада. – Толькі я не разумею.. Ён жа быў мёртвым.

– Вельмі добра, што вы прыехалі, радасна заявіў Улад, падняўся на ногі – Пазбаўце нас ад гэтага вар'ята. Уварваўся ў чужы дом Мяне за нейкага чорнага чалавека выдае, слугой сатаны называе. А пасля раптам нешта стукнула ў галаву, вырашыў, што застрэліў мяне з рэвальвера. Я думаю, ягонае месца ў «дурцы». Нармалёвы чалавек такога не робіць. – Улад казаў з такім шчырым абурэннем у голасе, гэтак гнеўна махаў рукамі, што нават Віктар, каб не ведаў, што ён маніць, паверыў бы яму.

Капітан павярнуўся да Віктара і насцярожана паглядзеў на яго.

– Што, «крыша» паехала?

– Не, я кажу праўду. Ён маніць. Я зайшоў у госці, а ён заявіўся і пачаў пагражаць мне рэвальверам. Я схапіў яго за руку, і тут стрэл... Пульс правяралі – нежывы. А вось цяпер ажыў ..

–Ах,– Улад дастаў з кішэні рэвальвер.– Гэта ўсяго запальнічка. – Націснуў на курок і высек агеньчык.– Я хацеў запаліць, а гэты вырашыў, што я хачу яго забіць, выхапіў запальнічку, ну – і пстрыкаць, крычаць, што забіў мяне, пабег званіць вам. Вось спытайцеся,– Улад паказаў рукой на Хэльгу, якая прыйшла на кухню.

– А вы што скажаце? – звярнуўся да Хэльгі капітан.

Асуджана ўздыхнула Хэльга.





І Хэльга. . і яна... Усё стала ясна Віктару. Як жа ён памыляўся. Хэльга дзейнічала разам з Уладам – верны яго памочнік. Вешчая Душа! Не, яна пасланніца царства мёртвых Хель – зброя ў руках уладара нябыту. І задумалі яны зрабіць яго вар'ятам Віктар адчуў як у галаву ўдарыў хмель выпітага і абурэнне, якое ён стрымліваў, ужо не кантралявалася ім. Ён закрычаў:

– Гэта змова! Змова! Яны ўсё падрыхтавалі! Сатанінская гульня. Не верце ім! Я не вар'ят. Яны хочуць засунуць мяне ў вар'ятню Яны служаць сатане!

Ён усё больш і больш распаляўся, ап'янелы і абураны, ужо не стрымліваў гневу і гнеў зававліваў яго ў пастку І не мог стрымацца, калі ўбачыў задаволеную ўсмешку Улада.

– Ты радуешся, чорны чалавек? Ты не перамог! – Віктар ірвануўся наперад. Нянавісць кіравала ім – схапіць свайго ворага і душыць, душыць, душыць.

Міліцыянты натрэніравана схапілі Віктара за рукі і закруцілі іх за спіну Ён супраціўляўся, але схапілі яго жалезна – не вырваўся. Тоўстыя падэшвы ботаў прыціснулі Віктара да падлогі. На запясцях рук ляснулі абцугі наручнікаў і прыкавалі да іх правую нагу На мове міліцыянтаў гэта называлася «зрабіць ластаўку»

– Цяпер вы самі бачыце, што гэта вар'ят. І месца ягонае ў вар'ятні,– мовіў да міліцыянтаў Улад. – Chucuntue pucesasa maniere[1]

– Трэба выклікаць дактароў, хай яны займаюцца ім У нас і так спраў хапае,– адказаў капітан.

Віктара пакінулі ляжаць на падлозе ў кухні, а міліцыянты, Хэльга і Улад былі ў суседнім пакоі. Рэзкі боль у зацёкшых руках і назе вырваў з Віктара стогн Боль мацнеў, наручнікі ўпіваліся сталёвымі сківіцамі ў ягоныя косці, здаецца, павольна рэзалі іх. «Праклінаю цябе, Уладар! Божа, дапамажы!» – крычаў Віктар Толькі смерць магла выратаваць яго ад невыноснай пакуты Некалькі разоў моцна стукнуў галавой аб падлогу, каб разбіць чэрап – пакончыць з сабой А з пакоя чуўся гучны смех міліцыянтаў і Улада, нібыта смяяліся яны з ягоных пакутаў «Гады, гады Сатанінскія выраdкі!» – крычаў Віктар. Здаецца, спынілася ў жылах кроў і па іх пацёк агонь. Плакаў ад болю, біўся галавой аб падлогу, кляў. То слёзна прасіў, маліў вызваліць яго. Хутчэй бы ўжо прыехалі гэтыя дактары. Ён пераканаўся ў сваёй слабасці, ён не варты ні перамогі, ні кахання, і адзінае для яго шчаслівае жыццё – вар'яцкае

І вось званок у дзверы Новыя галасы ў вітальні. Прыехалі. На кухню ўвайшлі міліцыянты, знялі наручнікі. Ён падняўся З асалодай адчуваў, як па анямелых руках расцякаецца кроў і тушыць агонь болю.

– Пайшлі, цябе чакаюць, – штурхнулі Віктара ў спіну

Тупы мацнеючы боль наваліўся раптам на галаву. Нібыта галава трапіла пад цяжкі прэс, які павольна сціскаў яе, і яна апускалася ў плечы і вось-вось не вытрымае ціску і разарвецца на кавалкі Кароткае аблягчэнне, а пасля бязлітасная рука прыняла прэс у рух. «Гэта ад лікёру Наўмысна падсунулі мне нейкай атруты», падумаў Віктар.

– Пайшлі, цябе чакаюць.

Як у сне, убачыў Віктар перад сабой людзей у зялёных мундзірах і белых халатах, твары іх расплываліся і нагадвалі жоўтыя плямы. Нехта ў белым сядзеў у крэсле, расплюшчыў вочы, зірнуў на яго

– Ты хто?

«І зразумеў, навошта трапіў сюды. Ідзі і валодай. Маска на маім твары стала тварам прарока. Сатана даваў мне ўладу І не адмовішся ад гэтай улады, бо тады чакае мяне смерць. Я павінны давесці, што прарок я, а не вось гэты чалавек, які сядзеў на троне. І тады і ўлада, і горад, і прыгажэйшая за ўсіх жанчын будуць належаць мне.

«А ты хто?» – пытаннем на пытанне адказаў я Ні страху, ні разгубленасці не паказваў. Хто з нас двух сапраўдны, ніхто не ведаў Прарок паддаўся майму патрабавальнаму голасу і пачаў апраўдвацца «Я прарок Іаан Мне дадзена прароцтва ад Бога». І я засмяяўся. Смехам забіваў прарока «Не шукай мяне ў сваіх спісах. Я магу назвацца

[1] **Кожны вар'яцее па-свойму** *(франц.)*.

ўлюбёнцам лёсу, я магу назвацца шукальнікам ісціны, я магу назвацца пераможцам, але я называюся імем, якое я заслужыў, – Прарок. Ты самазванец, мой нікчэмны двайнік, які ўявіў сябе роўным мне, вялікаму прароку Новага Ерусаліма. Ты хацеў сесці на мой пасад. Ты захацеў узвысіцца і будзеш скінуты». Усе моўчкі назіралі за нашай дуэллю, і толькі пераможцу яе прызнаюць сваім уладаром. «Ты пасланец сатаны Прыйшоў, каб разбурыць Новы Ерусалім»,– прарок угадаў Але ў мяне быў пераканаўчы довад. «Бог ёсць любоў і дабро, а значыць, сатана не стварэнне Божае, значыць, ён спараджэнне нябыту і сам нябыт. Значыць, і пасланец сатаны не існуе ў гэтым свеце. А я ёсць. Вось я, вялікі прарок Новага Ерусаліма». І пасля гэтых слоў я падняў угору руку з адзетым на правым сярэднім пальцы сыгнетам з гербам горада. «Вось сведчанне маёй улады!» Прарок аж падняўся з трона, адчайна зірнуў на свае далоні, у сляпой надзеі ўбачыць пячатку на сваім пальцы. І асуджана падняў ён галаву, вачыма шукаў чалавека ў чорным плашчы. Дарэмна не надзеў ты сыгнет Прайграў Трэба было скарыстацца гэтай разгубленасцю і нанесці апошні ўдар. Я пайшоў насустрач прароку, які спусціўся па прыступках са свайго пасаду. «Забіць, забіць яго!» закрычаў ён воінам Ніхто з іх не варухнуўся. І мы падышлі адзін да аднаго Нашы позіркі сустрэліся Вялікія чорныя вочы прарока гарэлі злахітрасцю і нянавісцю. Яны пужалі мяне Але я павінны быў перамагчы прарока, не адвесці сваіх вачэй. І гэтак глядзелі мы адзін на аднаго. Усмешка кранула вусны прарока. Нібыта здагадаўся аб маёй слабасці.

І ў гэты момант у зале з'явілася Дзівара Адзетая ў лёгкую белую сукенку з распушчанымі валасамі, яна павольна і велічна ішла да нас. І людзі расступіліся перад ёй. Як Феміда, яна магла адна выбраць пераможцу дуэлі. Наш лёс цяпер належаў прыгажэйшай за ўсіх жанчын. Дзівара стала паміж намі – двума пракамі з аднолькавымі тварамі. І яна павярнулася да мяне і падала мне сваю руку Прарокам стаў я Усе, хто быў у зале, радаснымі крыкамі прывіталі мяне, свайго ўладара. А той, каму выпала роля самазванца і майго двайніка, заплакаў. Слёзы цяклі па ягоных шчоках. З яго смяяліся. «Не глядзіце, не глядзіце!» – прасіў ён. «У няволю»,– загадаў я. Ландскнехты схапілі яго і пацягнулі ў вязніцу

І выйшаў на сярэдзіну залы чалавек у чорным плашчы, і гучна закрычаў, што яму была відзежа – прарок павінны стаць царом усёй зямлі і валодаць пасам і скіпетрам бацькі свайго Давыда. І я пацведзіў· «Так, і мне Бог даў гэты знак» «Ты наш цар!» – прызналі ўсе. Узышоў на пасад. Цараванне маё нядоўга доўжылася. Але якое цараванне! Цараванне сатаны. Я быў вялікім тыранам, а Дзівара вялікай блудніцай. Грэх стаў святасцю, нянавісць – выратаваннем, зло – шчасцем. І калі Новы Ерусалім паў, я знік, а за мяне пакаралі няшчаснага Іаана, якога імператарскія жаўнеры знайшлі ў вязніцы І ён забраў у магілу тайну свайго Антыя. Даўно гэта было, што я толькі цяпер прыгадаў. І пад новай маскай я з`яўляюся зноў, страшны двайнік. Да каго з`яўляюся, каго змяняў, пад чыім імем панаваў, не ўспомню. Вось яна маска Хімеры, не скінуць мне яе, тварам маім стала».

Віктар падбег да люстэрка і схапіўся рукамі за шчокі, нібыта хацеў садраць маску З люстэрка на Віктара глядзеў нехта падобны на яго, але ў чужых вачах была нянавісць, а вусны смяяліся зласлівай усмешкай. Віктар пазнаваў сябе і не пазнаваў Нібыта і ён, але чужы самому сабе «Хімера!» – закрычаў Віктар і кулаком ударыў па чалавеку Паляцеў звон разбітага люстэрка. Боль у галаве сціх. Яснасць вярнулася да Віктара Убачыў міліцыянтаў, дактароў, Хэльгу Чалавек у белым халаце, які сядзеў у крэсле, з адвіслымі мяшкамі пад вачыма, спакойна мовіў·

– Паранойя ды яшчэ шызафрэнія Трэба лячыцца, прарок.

– Нічога вы не зразумелі: ёсць Бог, ёсць і антыбог, ёсць Хрыстос і ёсць антыхрыст, ёсць наш свет і ёсць антысвет, а значыць, у кожнага з нас ёсць наш антыя. І гэты антыя з'яўляецца, каб стаць нашым Я, завалодаць нашай душой, нашым жыццём і нашым імем І творыць тое, што творыць антычалавек. – Гэта было прасвятленне, якое толькі цяпер прыйшло да Віктара.

Цяпер Віктар убачыў і Улада. Той стаяў каля дзвярэй на балкон Па-ранейшаму працаваў сваімі шчэлепамі Адчуўшы на сабе позірк Віктара, ён засмяяўся.

– Трызненне.

Кропля крыві з парэзанай рукі ўпала на падлогу Гэта быў знак!

«Наша барацьба не супраць крыві й цела»,– мільганула ў галаве Віктара У яго заставалася імгненне, вось гэтае імгненне . Гэта ён больш адчуў, чым зразумеў. Імкліва рвануўся да Улада і ўхапіў рукой за валасы, ірвануў іх з адчаем апошняга намагання. Усе ў адзін голас ахнулі Маска з прыклеенымі да яе валасамі зляцела з твару Улада І ўсе ўбачылі сапраўдны твар гэтага чалавека

Яны стаялі побач, як два браты-блізняты, толькі адзеннем і адрозніваліся Ды ў валасах Віктара больш срэбрылася сівізны

– Што гэта за спектакль? – абурыўся капітан

– Я нічога не разумею! – падняўся з крэсла доктар

Антывіктар усміхнуўся і падняў галаву

– Пераможца пераможцы! – мовіў ён

Павярнуўся да дзвярэй, зрабіў некалькі крокаў і нібыта зліўся з шырокім і высокім шклом дзвярэй – знік. Лёгкае воблачка дыму паднялося пад столь і растала.

Быў і не быў І міліцыянты, і дактары кінуліся да дзвярэй Пад іх нагамі затрашчалі акуляры Антывіктара.

– Дзе ён?

– Размазаны па шкле! Лопнуў, як мыльны пухір

Віктар з агідай кінуў пад ногі маску Нехта крануў яго Азірнуўся Хэльга падавала яму руку

– Уцякай, – шапнула яна.

Яны ціхенька выйшлі з пакоя. Віктар сунуў ногі ў пантофлі, зняў з вешалкі куртку. У гэты час Хэльга адчыніла дзверы. Ліфт быў свабодны, і яны паспелі ўскочыць у яго перад носам міліцыянтаў, якія выбеглі ўслед за імі з кватэры Хэльга націснула кнопку апошняга паверха Дзверы ліфта павольна зачыніліся, і ён паплыў уверх.

– Там ёсць ход на дах. Выйдзеш праз апошні пад'езд, – тлумачыла Хэльга.

– А як жа ты?

– А я застануся

– Вядзі, пакутніца былая, І браму ў сферу адчыняй, – мовіў Віктар – Гэта разгадка тваёй ролі?

Хэльга загадкава ўсміхнулася ў адказ

Так і здарылася, пакутніца адчыніла, хай і не браму ў нябесную сферу, але гэтыя дзверы на дах можна лічыць брамай у новае жыццё, або ў невядомасць, прадказаную гадалкай.

Па даху ён дабег да апошняга пад'езда, спусціўся па ліфце да другога паверха Трэба было паглядзець, што рабілася на вуліцы Каля пад'езда на лаўцы сядзела купка юнакоў і дзяўчат Тусоўка Размаўлялі і смяяліся Але на дарозе ўжо стаялі на варце два міліцыянты, а побач з імі чакалі яго і дактары Не выйдзеш Ужо цікуюць. Што ж прыдумаць? За спінай рыпнулі дзверы Віктар з надзеяй азірнуўся Нейкая старая ў джынсавай спадніцы і вязанай кофце выйшла з кватэры, убачыла яго і ўзрадавалася

– Ой, хлопчык, дапамажы мне скрынку вынесці на вуліцу

У ягоным становішчы ды скрынку цягаць, але ласкавы голас старой падкупіў Віктара Хоць. . Яна магла і дапамагчы Пэўна, не выпадкова з'явілася гэтая старая жанчына.

– Добра, – пагадзіўся Віктар.

Ён зайшоў у кватэру На падлозе ў вітальні стаяла абабітая чырвоным сукном труна, на якой ляжаў драўляны крыж. Віктар недаўменна зірнуў на старую.

– Не здзіўляйся, хлопчык. Вось, думала, што памру, дык падрыхтавала заўчасна скрыначку. Ды ўсё жыву і жыву Рана, пэўна, паміраць. Але труна ў доме, кажуць, да смерці.

– Добра, вынесем скрыначку Ну, калі ўдасца, дык доўга буду жыць.

З акна кухні Віктар убачыў, што міліцыянты па-ранейшаму дзяжурылі на вуліцы

Цяпер іх было ўжо восем Паглядзім, хто каго Ён папрасіў бабулю паклікаць моладзь, што сумавала каля пад'езда. І калі хлопцы са сваімі сяброўкамі з'явіліся на паверх, Віктар прапанаваў ім вясёлую забаву.

Дзіўная пахавальная працэсія выйшла з пад'езда на вуліцу Наперадзе нёс крыж невысокі падлетак. За ім крочылі дзяўчаты і хлюпалі насамі – плакалі Чацвёра юнакоў на сваіх плячах трымалі труну, у якой ляжаў пакрыты белым саванам нябожчык. Апошняй ішла бабуля, загадкава ўсміхалася, замест таго, каб галасіць. Вось працэсія мінула ланцужок міліцыянтаў, якія цікавалі таго, хто ляжаў у труне і ледзь стрымліваў сябе, каб не засмяяцца А юнакі і дзяўчаты надзіва праўдападобна выконвалі сваю ролю. Напусцілі на твары жалобу, павесілі самотна галовы, той-сёй ухітрыўся нават праслязіцца Людзі здзіўлена пазіралі на гэтую працэсію.

– Хто памёр? Каго хаваеце?

Віктар, прыадкрыўшы вочы, бачыў, як з вокнаў дамоў паглядалі на яго цікаўныя Яму хацелася падміргнуць ім, а то і памахаць рукой.

Як у лодцы, плыў Віктар на плячах, павольна і ціха. Можна было падумаць і аб сваім жыцці.

«Сапраўднае вар'яцтва – выбраць сабе чатыры сцяны вар'яцкай палаты, дзе ніхто не паверыць, што я – гэта я, дзе з мяне будуць рабіць нармальнага чалавека. А мне хочацца быць самім сабой Мне надакучыла шукаць невядомае ў вядомым Я не дам нікому права забараняць мне – адчуваць, спачуваць, чуць, любіць, радавацца, шукаць жыць. І мяне ніхто не пазбавіць гэтага права

Мая дарога вакол памяці, кожны крок сягае ў мінулае, каб прывесці мяне ў сённяшняе. Сённяшняе – мінулае – сённяшняе – мінулае . Гэта не вяртанне на кругі свае, не блуканне па дыяметры сваіх уяўленняў аб жыцці – гэта прызначаны мне шлях у будучыню. Калі забыць, што будучыня – вечнасць, дык можна паверыць у вечнасць сённяшняга і можна вынасіць у душы тое дарагое слова, якога так даўно чакаюць людзі. Калі зразумець таемнасць жаданняў, можа быць, усё жаданае ўжо здзейснілася. Калі б вось, толькі калі...»

Працэсія набліжалася да праспекта.

– Мужыкі, давайце ў двары, а то тут нарвемся на непрыемнасці,– шапнуў Віктар сваім саўдзельнікам.

– Што за батву ты гоніш? са смехам адказалі яны.

І нябожчык на вачах у людзей ажыў, сеў і загаварыў

– Мужыкі, давай у двары.

А мужыкі неслі труну далей і смяяліся на ўсю вуліцу Адныя здзіўляліся «Што гэта за пахаванне?», другія абураліся. «Трэба праверыць. Дзе міліцыя?», трэція смяяліся. «Ну і камедыя».

Міліцэйскі свісток абвясціў пра набліжэнне фіналу

– Шухер! закрычалі мужыкі.

Труна грымнулася на асфальт і рассыпалася Працэсія разбеглася, і смех яе ўдзельнікаў гучаў перамогай жыцця над смерцю. Белы саван упаў з уваскрэслага нябожчыка Чалавек узяў у рукі крыж, які валяўся на зямлі. Яго чакала невядомасць, дзе нехта невядомы чакаў яго – невядомага

1993, 1995 гг.



# Славамір АДАМОВІЧ

У НАС



*Валянціне прысвячаю*

## *КАЛІ ЯНА ПАКІДАЕ АРГАН*

**Іграючы ў белым касцёле,**
**кахаючыся з ксяндзом,**
**жанчына марыць у полі**
**застацца на ноч з касцом.**

**Іграючы штосьці з Баха**
**жанчына імкнецца туды,**
**дзе весела-вольна птахам,**
**дзе многа чыстай вады.**

Заціхлі гукі. І клірык,
забыўшыся пра Хрыста,
самотна, як юны лірык,
чытае ёй верш з ліста.

Жанчына знікае з хораў,
жанчыне абрыд арган,
жанчына едзе на мора
і там заводзіць раман.

Жанчына ажыццяўляе,
што мусіць ажыццявіць.
На хорах арган сціхае
і доўга жанчыну сніць.

## *ЛІТАНІЯ, АЛЬБО ЗАПРАШЭННЕ ДЗЕВЫ НА БЕЛАРУСКІ ПАСАД*

І стаю цяпер прад Табою нікчэмны я, а Ты не адпрэч. Выслухай, пачуй і прыйдзі.
Мужчыны нашы ўпалі духам дазвання. Не могуць яны больш народ бараніць свой. Не могуць, няшчасныя, заступіць дарогу водам мора чужынскага. У пустэльні пяскоў, імкнучых з усходу, патанаюць іх корды. У плазме атрутнай, з заходу лінючай, замёрлі іх душы.
Гора ім, гора, мужчынам нямужным і слабым! Гора народу, які нізашто гэтак церпіць! Злітуйся, Дзева! Прыйдзі! Прывядзі сваё войска дзеваў нямужніх і жоначак мужных прыгожых. Станьце, як сонцы, з абліччаў лініце на край наш
ясныя промні красы, і пяшчоты, і ласкі. Веру, пад гэтымі промнямі ўздымецца новае племя. Белай рукой дабраслаў Ты яго на змаганне, але й сама не сыходзь.
Дзева Красы, Абароны і Вечнасці нашай! Патрыярхата ўладу вяртаем Табе, бо знядужалі грэшна. Бо запавет нашых продкаў не спраўдзілі і адступілі.
Вось я, знячэўлены, ніцма ўпаў прад Табою, нікчэмны між іншых нікчэмных. Ка́рай любою кара́й, але дай потым шанц для рэваншу. Дзева крывіцкая, Дзева палескіх абшараў! Модлы мае за мужчынскі наш род не адпрэчвай. Мы яшчэ зможам, мы здолеем, толькі з'явіся. Мы паклікаем Цябе на Пасад Беларускі.
З вераю ў наша паўстанне з нябыту.
Мужчыны.

***

Калі ты здрадзіш мне аднойчы,
ад гэтай здрады атрымаўшы
так многа-многа асалоды;
калі ты прыйдзеш, пераспаўшы,
калі суцішыш свае воды
з тым, іншым, мне зусім не братам,
з тым чорным, белым, жоўтым фатам;





калі ты прыйдзеш ці не прыйдзеш;
калі, ўнікаючы сустрэчаў,
ты начавацьмеш у сяброваk
альбо ў сяброў, альбо ў прылеску,
альбо ў пясках зімнога мора, —
я не павешуся ад гора,
як, зрэшты, і не рассмяюся,
я не пайду і не ўтаплюся, —
я ўспомню, дзе ляжаць набоі.

***

Ты плывеш са мною побач
у натомленай прасторы,
паміж дрэў экстравагантных
у чырвоных каптурах.
Кроны дрэваў прагнуць глебы,
чарназёму, глею, глейсу;
дрэвы мусяць размнажацца,
а таму штогод увосень
лістападам, лістападам
заварожвае прастора.
Дык плыві, мая сяброўка!
Побач я, і мы жадаем
гэтаксама плоднай глебы,
а яшчэ — пяскоў гарачых,
а яшчэ — блакіту неба,
мора сіняга і сонца
многа-многа, і салодкіх
кавуноў, мундэраў, вішняў,
каб у соках садавіны
і гароднiны знаходзіць
падтрыманне нашым сілам.
Мы жадаем больш чым дрэвы,
мы жадаем плоду, плоймы
самых розных штучак дзіўных.
І нядзіва: мы ж з табою
прыналежым да людскога
роду-племені, а гэта
значыць, што акром зямліцы
трэба нам азону, волі,
каб маглі мы плод здаровы,
чысты, крэпкі, без кароcты
данасіць да свайго часу.
Ах, сяброўка!.. Плаўна, плыўна
мы плывём з табою ўпрочкі,
мы кахаемся як людзі.
Львы прыгожыя не могуць
так кахацца, вось і мала
іх на свеце, львоў прыгожых.
Дай жа мне, маё прыняўшы:
выйдзем разам з акіяну,

станем сохнуць на ўзбярэжжы
нашых стомленых пачуццяў.
Суму актаў мы завершым
актам паглынання ежы.
Як звычайна, будзе многа
птушкі, рыбы і мучнога,
кавы, чаю, вінаграду,
крыху лёгкага віна.
Мы адновім нашы сілы,
пульхнасць нашых вуснаў, губак,
каб злучыцца зноў і разам
наша ўсё пачаць спачатку.
Дык плыві, мая сяброўка,
побач я, і мы жадаем.

## *ОДА ЖАНОЧЫМ ВУСІКАМ: ЯК ЭРАТЫЧНАМУ СІМВАЛУ, ЯК ЗНАКУ ЖАНОЧАЙ МУЖНАСЦІ, ЯК ПРЫЧЫНЕ МУЖЧЫНСКАГА НЕСПАКОЮ*

Для вока пільнага прыкметны,
пяшчотны чорненькі пушок
над верхняй вуснаю эфектна
з’явіўся, каб наводзіць шок
на юных, ведама ж, паэтаў
і на мужчын ужо ў гадах.
Ён, відавочна, быў апеты
недастаткова. Сам алах
і трыадзіны праваслаўны
любілі часам назіраць
за цёмным пасачкам над вуснай
стварэння божага з касой,
за тым, як лёгка, без прымусу
ён пакрываецца расой,
калі жанчына жарсці смагу
з законным мужам спаганяе,
а потым крыху спачывае,
прыкрыўшы белую нагу
артадаксальнай прасцінаю,
другую ж звешвае на дол
з канапы шлюбнай. Ах, з усмешкай
пад рымскім носам чорны вус
блішчыць у сонечным святле.
Ён падабаецца і мне.
І з гэтай дзіўнае прычыны
так жыць спяшаюцца мужы,
чмялі, андатры і вужы,
ваўкі, тарпаны і смаўжы,





буслы, вароны і стрыжы,
і моства іншых біямас.
Дык слаўся, чорны вусік-пас,
блішчы пад промнямі ў расе,
спрыяй жаночае красе!

***

Я чуў, каханая, што ты будуеш дом,
вялікі дом для ўласнага сямейства,
а твой ваюе рыфмамі са злом,
спаўзаючы паціху ў фарысейства.
Я ведаю цяпер, што помніш ты
знікомую пару сустрэчаў нашых,
супольны шлях да пляца (дзве вярсты),
злучэнне рук і хвойны водар фашын.
Тады таксама будавалі дом:
рабочыя раствор мяшалі ў цэбры
і квэцалі ім цэглу, і нагбом
ваду пілі – жалезістае срэбра.
А мы блукалі побач. Нам было
цікава назіраць за ростам сценаў
і думаць, як праз нейкі час жытло
завершыцца страхой і жменяй зерня,
якое гаспадар па свежых дошках
рассыпле, згодна звычаю дзядоў.
Ты не была маёй тады і потым;
бянтэжыла цябе, што я жанаты,
што не з табой ляплю сямейства соты,
хоць ты пайшла б са мною і за краты.
Бягуць гады (банальная раскладка):
Мне трыццаць тры, ты замужам нібы...
Ды кожны раз, калі занадта гладка,
мы заадно і прагнем барацьбы.

***

Не магу, не хачу адмовіць,
калі просяць вочы твае,
калі рукі пяшчотна ловяць,
твае рукі ловяць мае.

Сёння твой, я сцялю нам ложак,
выдзяляючы эндарпін;
я твой бог, твой д’ябал без рожак,
муж любімы твой, бацька, сын.

Я прыйшоў. Ты рабі, што трэба:
расцалуй альбо прагані,
альбо выплаві з мяне срэбра
на сваім залатым агні.

# НАШ | Янка ЗАПРУДНІК



*Гістарычны працэс – гэта сума ўчынкаў людзей, намеры якіх часта былі зусім іншыя, чым вынікі іх учынкаў.*

## *Пра Янку ЗАПРУДНІКА*

**Калі вы ўбачыце доктара Запрудніка на асноведзі гатычных муроў Мірскага замка, каля якіх прайшло ягонае дзяцінства, фотаздымак можа навеяць вам думку, што лёс гэтага чалавека з надзіва маладымі вачыма быў «запраграмаваны» магічным сілавым полем яго малой радзімы, дзе сучаснасць сустракаецца з мінуўшчынай, як разгублены першакурснік з сівым прафесарам. Тады пытанні пра выбар адукацыі і сферы навуковых зацікаўленняў, гэтаксама як і пра зайздросную жыццёвую трываласць, здаюцца ўжо чыста рытарычнымі.**

**Адукацыя – гімназія імя Янкі Купалы і гістарычны факультэт універсітэта. Дысертацыя– «Палітычнае змаганне за Беларусь у Дзяржаўнай думе 1906 – 1917 гадоў». Апошняя па часе выдання і, відаць, найбольш важкая праца – кніга «Беларусь на скрыжаваннях гісторыі».**

**Праўда, гімназія была ў Нямеччыне, а універсітэт – у бельгійскім горадзе Лювене; абарона дысертацыі адбывалася ў Нью-Ёрку, а галоўная кніга называецца ў арыгінале «Belarus at a Cross-roads in History» і на беларускую мову яшчэ толькі перакладаецца.**

**Але ці варта стамляць чытача біяграфічнымі звесткамі? Гэта не энцыклапедычны артыкул, дзе расстаўляюцца акцэнты і падсумоўваюцца вынікі. Пагатоў, і доктар гістарычных навук Янка Запруднік, і паэт Сяргей Ясень (каб прыляцець з Нью-Ёрка ў Менск дзвюм гэтым асобам, дастаткова ўзяць адзін білет) яшчэ маюць што сказаць сваім чытачам.**

**І не толькі ў ХХ стагоддзі.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ Ў ДАСАВЕЦКУЮ ПАРУ

*Так Белая Русь обняла, сомкнула и соединила, определила и обособила землю, целый обширный Край... До сих пор, вступая внутрь этих пределов Края,.. видишь, слышишь и чувствуешь всюду, что здесь точно существуют, не надуманы и не начертаны только, географические или государственные границы; что внутри их есть действительная особенность, изнутри себя их очертившая; что здесь есть своя почва, свое племя, свой народ, своя народность.*

**ПЕТР БЕЗСОНОВ.**
Белорусские песни.
Москва, 1871, б. II-III.

*Панам быў дома і слаўны за домам*
*Мой патаптаны сягоньня народ.*

**ЯНКА КУПАЛА**
«Над Нёманам»;
(верш забаронены ў БССР).

### Хто былі магнаты й фэўдалы Вялікага Княства Літоўскага?

Аналізуючы нацыянальны характар ВКЛ, гісторыкі на Беларусі штораз часьцей задумоўваюцца над пытаньнем, якое адзін зь іх сфармуляваў гэтак: «Як магло здарыцца, што маленькі і зь менш разьвітай у тыя часы культурай літоўскі народ (прыкладна палова сёньняшняй этнаграфічнай Літвы знаходзілася пад уладай Ордэну) захапіў вялізарныя прасторы беларускіх і ўкраінскіх зямель і прыгнятаў беларусаў і ўкраінцаў, якіх было разоў у дзесяць больш, чым літоўцаў?»[1]

Зразумела, каб належна адказаць на гэтае зусім лягічнае пытаньне, патрэбныя выданьні дакумэнтаў з тае эпохі ды вывучэньне іх – тое, чаго якраз найменш у сучаснай беларускай савецкай гістарыяграфіі, блізу поўнасьцяй сьціраванай на перажоўваньне рэвалюцыйнага й савецкага пэрыяду Асноўны факт, праўда – адзначаная й Прашковічам тэрытарыяльная ды культурная перавага беларускага элемэнту ў ВКЛ – ведамы Удакладненьне гэтага факту лікавымі дачыненьнямі падалі нядаўна на старонках часопісу «Вопросы истории» літоўскі гісторык Р К. Батура й расейскі гісторык, член-карэспандэнт АН СССР, У Т. Пашута Паводля іх, дачыненьні тэрыторыі, заселенае сёньняшнімі літоўцамі, да славянскіх тэрыторыяў ВКЛ у пару ўтварэньня Княства (1341 г ) былі як 1 2,5, у часе найбольшага ягонага пашырэньня (1430 г.) – 1:12, у часе ўтварэньня Рэчы Паспалітае (1569 г ) – 1.7[2]

Як бачым, тэрыторыя ВКЛ паміж 1430 годам, канцом княжаньня Вітаўта, ды 1569 годам, калі была падпісаная Люблінская вунія, значна скарацілася. Але сталася гэта галоўна за кошт украінскіх земляў пры адпаведным удзельным росьце земляў беларускіх. Як адзначыў А.П. Грыцкевіч· «Па меры скарачэньня тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўдзельная вага беларускіх зямель, іх значэньне ва ўнутранай і зьнешняй палітыцы дзяржавы, іх роля ў яго культурным жыцьці павялічваліся»[3].

У спрэчцы пра нацыянальны характар ВКЛ на першае месца ставіцца пытаньне пра нацыянальнасьць магнатаў Княства: хто яны былі – балты ці славяне, літоўцы ці беларусы? Л. Абэцэдарскі, прыкладам, цьвердзіць, што «беларускія фэўдалы не адыгрывалі кіруючай ролі ў дзяржаве, яны не ўваходзілі ў склад "паноў-рады", ня ўдзельнічалі ў выбарах вялікага князя, ня мелі асабістых гарантый»[4]. Але паўстае пытаньне, каго трэба разумець пад «беларускімі фэўдаламі» ў XVI ст , калі тэрмін

«беларускі» ў дачыненьні да тэрыторыі й жыхарства сучаснае Беларусі блізу зусім яшчэ ня быў у ўжытку Пытаньне-ж этнічнага паходжаньня й культуры магнатаў беларускіх земляў у XIV – XVI ст ст. вельмі мала дасьледаванае А.П. Грыцкевіч, прыкладам, выказваецца на гэтую тэму зусім інакш як А. Абэцэдарскі, і шмат бліжэй да праўды. «Да ліку буйных фэўдалаў Беларусі ў першай палавіне XVI ст. адносіліся магнаты літоўскага паходжаньня, якія **ў большасці сваёй засвоілі беларускую культуру.** Гэта слуцкія князі Алелькавічы, Гальшанскія, Гаштольды, Забярэзінскія, Радзівілы, Пацы, Сангушкі, Чартарыйскія, магнаты **беларускага паходжаньня** – Глябовічы, Валовічы, Ілынічы, Тышкевічы, Сапегі, патомкі Рурыкавічаў – Астрожскія, Друцкія, Лукомскія, Масальскія, Саламярэцкія; польскага паходжаньня – Кішкі, украінскага – Хадкевічы, Гарнастаі»[5]

Тое, што некаторыя з гэтых фэўдалаў Беларусі былі небеларускага паходжаньня, хоць і беларускае культуры, не дае ніякіх асноваў выкасоўваць іх ані зь беларускага гістарычнага працэсу, ані зь гісторыі дзяржаўнасьці Беларусі. Гэтак-жа незаканамерна было-б выкасоўваць варагаў зь гісторыі кіеўскага пэрыяду дзяржаўнасьці Украіны на тэй толькі аснове, што вaрагі былі скандынаўскага паходжаньня, або выкасоўваць зь гісторыі расейскае дзяржаўнасьці Барыса Гадунова ці Сталіна, бо першы быў татарскага паходжаньня, а другі – грузінскага.

Наагул-жа ў спрэчцы пра нацыянальны характар ВКЛ трэба як мага больш паклікацца на сьветкаў тае пары – у тым ліку й на аўтара Хронікі Быхаўца, які «найлепш ведаў беларускія землі па лініі Навагрaдак-Слуцак-Петрыкаў»[6]. «Аўтар Беларускага III летапісу (г зн Хронікі Быхаўца – *Я.З.*) лічыць **мясцовых** "літоўскіх" паноў **галоўнай палітычнай сілай** у вабароне самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага. І наогул ён вельмі часта гаворыць аб кіруючай ролі ў гэтай дзяржаве "панов рады", а не караля»[7].

У склад-жа Паноў-Рады Княства ўваходзілі Сапегі, Хадкевічы, Валовічы, Тышкевічы, Глябовічы ды іншыя магнаты беларускіх земляў, штоціраз займалі самыя высокія, міністэрскае рангі, дзяржаўныя становішчы ў ВКЛ канцлера, маршалка, гэтмана, скарбнага ды розныя іншыя «Мясцовыя» паны і былі тэй **«галоўнай палітычнай сілай»,** што бараніла самастойнасьць **свае дзяржавы** – Вялікага Княства Літоўскага.

Аб ролі карэнных жыхароў у дзяржаўных справах найкрасамоўней, бадай, сьветчаць летапісы, пра якія сучасныя дасьледнікі кажуць: «Агульнадзяржаўныя па свайму характару беларускія летапісы і хронікі зьяўляюцца па зьместу літоўска-беларускімі. І гэтая асаблівасьць сьветчыць аб агульнасьці гістарычных лёсаў літоўскага й беларускага народаў, аб блізкасьці іх нацыянальных інтарэсаў у далёкім мінулым»[8].

### Беларускі элемэнт у ВКЛ і тэрміналёгія

Уладзімер Пічэта, аўтарытэт якога ў пытаньнях ВКЛ Абэцэдарскі спрабаваў узяць сабе на дапамогу ў палеміцы зь неназванымі ім па прозьвішчы замежнымі апанэнтамі, піша ў тэй-жа самай кнізе, на якую спасылаецца й Абэцэдарскі, што ў «літоўскіх» летапісах, «напісаных беларускай мовай таго часу», «адлюстраваная да пэўнае ступені нацыянальная самасьведамасьць беларускага народу».

**«Жывучы ў Вялікім Княстве Літоўскім,** – кажа Пічэта, **беларускі народ... выступае змагаром за ягоную нацыянальна-палітычную незалежнасьць** ды заклікае да змаганьня на абарону апошняй»[9] У згодзе з гэтым цьверджаньнем аўтары калектыўнае «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» й пішуць пра ВКЛ, як пра «сумесную дзяржаву, ядром якой з самага пачатку яе існаваньня сталі землі сёньняшніх Усходняй Літвы і Заходняй Беларусі. Беларускі горад **Навагрaдак** пры князю Міндоўгу (каля 1230 – 1263 г.г.) **быў пэўны час нават сталіцай маладой дзяржавы,** а пасьля яе палітычным і культурным цэнтрам стала Вільня, горад, разьмешчаны на літоўска-беларускім этнічным сумежжы»[10].

Якая-ж роля ў гэтай дзяржаве належала беларускаму элемэнту? І ці заканамерна сёньня браць паняцьце «літоўскі» з XVI ст ды прыкладаць яго аўтаматычна й вылучна да сучасных літоўцаў і сучаснае этнаграфічнае Літвы? Наколькі гэткі мэханічны перанос тэрміну, як гэта некаторыя робяць, падтрымваецца крытэрыямі тэрыторыі, дэмаграфіі й культуры ВКЛ?

З адказам на гэтыя пытаньні справа выглядае далёка ня так проста, як гэта спрабаваў прадставіць, натхнёны духам «партыйнасьці», Л.Абэцэдарскі ў сваёй кніжыцы «У сьвятле неабвержных фактаў», паставіўшы з аднаго боку сваю марксыцкую навуку, а з другога – замежных «нацыяналістычных хвальсыфікатараў». Ніхто бо іншы, як





гісторык-марксыст Георгі Пляханаў пісаў: «Зьбіраючы рускія землі, Маскоўская дзяржава сутыкнулася зь Літвою, якая таксама зьбірала Русь, і, пасьля таго, як заняпала незалежнасьць Галіччыны, зьбірала з гэткай удачай, што неўзабаве **ў Літоўскай дзяржаве пачало пераважаць рускае, – хоць і не вялікарускае жыхарства»**[11]

Між іншага, падобна выказваўся й наш Максім Багдановіч яшчэ ў 1914 годзе: «Увайшоўшы поўнасьцяй у склад Вялікага Княства Літоўскага, яна (Беларусь *Я З.*) выразна перацягнула вагой свае культуры на вазе гісторыі Літву і, здабыўшы над ёю прыярытэт, працягвала разьвівацца на сваіх старажытнаславянскіх каранёх»[12] Ул Пічэта, пішучы пра фармаваньне беларускага народу, сьцьвярджае «**Беларускія землі складалі аснову эканамічнае магутнасьці Вялікага Княства Літоўскага,** што толькі ўзмацняла значаньне Русі ў ягоным складзе»[13]

Апошнімі гадамі, як ужо казалася, у беларускай савецкай гістарыяграфіі адбыўся зрух у насьвятленьні працэсу сфармаваньня й нацыянальнага характару ВКЛ: ад догмы пра «прыгнёт» беларусаў літоўскімі й польскімі фэўдаламі ў кірунку ўвыдатненьня ролі беларускага народу ў дзяржаўным будаўніцтве У новай інтэрпрэтацыі ВКЛ падаецца як «сумесная дзяржава», «баявы саюз літоўцаў і беларусаў»[14] У гэтым «баявым саюзе» беларускі тэрытарыяльны, дэмаграфічны й культурны фактар меў вялізную перавагу як гэта ўжо часткова відаць з пададзеных вышэй, паводля Р К. Батуры й У Т Пашуты, тэрытарыяльных дачыненьняў

Сучасны беларускі савецкі гісторык Язэп Юхо, прааналізаваўшы юрыдычную структуру тэрыторыі Княства ў часе выданьня Статуту ВКЛ 1566 году, абгрунтаваў ролю беларускага элемэнту ў ВКЛ «Тэрыторыя дзяржавы ў адміністрацыйна-прававых адносінах, – піша Юхо, – падзялялася на дзьве часткі цэнтральную (не ў геаграфічным, а ў дзяржаўна-прававым сэньсе) і землі, "прыслухаючыя да таго панства". Цэнтральная частка дзяржавы ў помніках права называлася Вялікім Княствам Літоўскім (таксама як і ўся дзяржава цалкам) ці проста "Літвой". У яе ўваходзілі наступныя княствы і паветы: Брэсцкі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Валкавыскі, Гродненскі, Кобрынскі, Клецкі, Ковенскі, Лідзкі, Мінскі, Мсьціслаўскі, Наваградзкі, Ашмянскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слонімскі, Слуцкі, Трокскі і Упіцкі З гэтага пераліку відаць, што **асноўную частку тэрыторыі цэнтральнай часткі, ці "Літвы", складалі беларускія землі.** У землі "прыслухаючыя" ўваходзілі: Віцебская, Жмудзкая (паўночна-заходняя частка этнаграфічнай Літвы), Кіеўская, Полацкая, Падляшая (заходняя частка Беларусі з гарадамі Бельскам, Мельнікам і Драгічынам на Бугу) і Падольле

«Дамінуючае становішча ў дзяржаве, – кажа Я. Юхо, – займалі цэнтральныя землі. На іх была найбольшая колькасьць вялікакняскіх маёнткаў, тут былі і маёнткі буйных, уплывовых фэўдалаў: Радзівілаў, Гальшанскіх, Слуцкіх, Друцкіх, Глебавічаў, Глінскіх, Кішак і інш. Гэтая тэрыторыя была параўнаўча густа заселеная, адсюль зьбіралася асноўная частка арміі, з насельніцтва гэтых земляў браліся і галоўныя сродкі ў дзяржаўную казну **Фэўдалы гэтых земляў займалі пануючае становішча ў дзяржаве,** у іхных руках былі найбольш важныя органы дзяржаўнага кіраўніцтва і дзяржаўнай улады»[15]

Л. Абэцэдарскі, які пісаў, што «беларускія фэўдалы не адыгрывалі кіруючай ролі ў дзяржаве, . ня мелі асабістых гарантый» ды што «да кіраўніцтва дзяржаваю літоўская фэўдальная знаць беларускіх фэўдалаў не дапускала»[16] мае супраць сябе, як бачым з вышэй прыведзенага, ня толькі Язэпа Юхо, але й Уладзімера Пічэту, які пісаў пра Літоўскі Статут 1529 году: «Статут замацоўвае за шляхтай Вялікага Княства Літоўскага манапольнае права валоданьня зямлёю і права займаньня пасадаў Ён гарантаваў шляхце, што пасады і ўрады будуць раздавацца "только прирожоным а тубылцом тых земель наших Великого князства"»[17].

Ключ да беларускае гісторыі, як пра гэта што раз часьцей згадваюць беларускія савецкія аўтары – у **тэрміналёгіі**. На тэрміналягічным жанглёрстве якраз, на мэханічным перакіданьні тэрмінаў «Літва»-«літоўскі» з XX ст ў стагодзьдзе XVI, пабудаваная схэма Абэцэдарскага ды аўтараў «Истории государства и права Белорусской ССР» і іншых партыйных гісторыкаў аб «прыгнёце» беларускага народу ў ВКЛ «літоўскімі» фэўдаламі.

Гэта да партыйных дагматыкаў перш-наперш датычаць словы Язэпа Юхо з вышэй цытаванага артыкулу, які ён кіруе, паводля стандартнае савецкае практыкі, адно на адрыс «буржуазнае» літаратуры: «У буржуазнай літаратуры фэўдалы гэтых земляў («цэнтральных земляў» ВКЛ – *Я.З.*) **называліся "літоўскімі"** (ад назвы цэнтральнай часткі дзяржавы, а **не паводля этнаграфічнай прыналежнасьці**), і некаторыя гісторыкі спрабавалі гісторыю Беларусі гэтага пэрыяду паказваць так, нібы беларускі народ

прыгняталі не беларускія фэўдалы, а "чужыя" – літоўскія»[18]

### Пагляд Міколы Алексютовіча

Падобную-ж заўвагу пра сьпісваньне беларускае мінуўшчыны на чужое конта зрабіў менш-больш у тым самым часе, ці бо ў 1966 годзе, беларускі савецкі гісторык Мікола Алексютовіч, які пісаў: «Бадай, ніхто ня стане спрачацца з тым, што нельга проста ўзяць і закрэсьліць некалькі вякоў гісторыі беларускага народу толькі таму, што ў водпаведны час ня было яшчэ этнаграфічнага тэрміну "Беларусь"»[19].

Алексютовічаў артыкул, зь якога ўзятая гэтая цытата, вельмі цікавы з гледзішча на спрэчкі пра нацыянальны характар ВКЛ, што вядуцца, беспасярэдне й пасярэдне, у беларускай савецкай гістарыяграфіі, і пра якія Л. Абэцэдарскі ў сваёй кніжыцы «У сьвятле неабвержных фактаў» ані слоўцам не абмовіўся.

За эпіграф да свайго артыкулу М. Алексютовіч узяў выказваньне прамудрага Кузьмы Пруткова: «Глядзі ўдалеч убачыш далеч; глядзі ў неба – убачыш неба; зірні ў маленькае люстэрка – убачыш толькі сябе». Гэта – на адрыс тых савецкіх гісторыкаў, што бачаць мінуўшчыну Беларусі дакастрычніцкага пэрыяду ў маленькім люстэрку свайго партыйнага разуменьня, звужанага й зьбедненага афіцыйнымі догмамі ды камплексам ніжэйшасьці й нізкапаклонства перад «старэйшым братам».

«І ў наш час, – пісаў Мікола Алексютовіч (які памёр у красавіку 1967 г у нявысьветленых акалічнасьцях), – ёсьць яшчэ катэгорыя людзей ня здольных зразумець, што ня ўсё тое, што зьвязана зь дзейнасьцю рускіх цароў і праваслаўнай царквы, было прагрэсыўнае Таму ўсё тое, што пранікала да нас з краін Заходняй Эўропы (і нават славянскай Польшчы) успрыймаецца імі як ад нячысьціка. Адсюль – праклён у адрыс усіх каталікоў і дыфірамбы ў адрыс праваслаўных дзеячоў, асуджэньні манархаў і фэўдалаў іншаземных і паклоны рускаму цару й памешчыкам, рэвэрансы ў бок рускай фэўдальнай дзяржавы і падозранае стаўленьне да Вялікага Княства Літоўскага, **якое па сваім этнаграфічным складзе, па сваёй тэрыторыі і культуры было пераважна беларускае»**[20].

Алексютовіч сваім артыкулам «А дзе-ж ісьціна аб`ектыўная?» увязваўся ў спрэчку, баронячы некаторыя пагляды Мікола Прашковіча, рэцэнзэнта кнігі Коршунава пра беларускага грамадзкага й рэлігійнага дзеяча XVIII ст Апанаса Філіповіча. Супраць Прашковіча выступілі ў газэце «Советская Белоруссия» (22 II 1966 г ), з артыкулам «Истине вопреки» два асьпіранты БДУ В Люкевіч і Я. Трашчонак. Алексютовіч, згадзіўшыся з Прашковічам, што «дзяржаўнай мовай у Літоўскім княстве была беларуская мова» ды што «эканамічную, палітычную й ваенную сілу гэтай дзяржаве давалі беларускія і ўкраінскія землі», пярэчыў Люкевічу й Трашчонку, паводля якіх (як і паводля Абэцэдарскага ды іншых) літоўскія фэўдалы «займалі пануючае становішча ў ВКЛ», тымчасам як «мясцовыя фэўдалы» былі, быццам-бы, толькі іхнай «сацыяльнай базай».

«Гісторыкам добра ведама, – аргумэнтаваў Алексютовіч, – што на тэрыторыі Беларусі і Украіны пануючае становішча мелі таксама і "мясцовыя фэўдалы" Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Чартарыйскія, Вішнявецкія, Заслаўскія, Слуцкія, -Астрожскія Збаражскія, Сангушкі, Карэцкія, Ружынскія, Агінскія, Пузыны, Тышкевічы, Сямашкі і г.д. Між іншым, **усе яны ў мінулым былі праваслаўныя** і перайшлі ў каталіцтва толькі ў другой палове XVI – пачатку XVII стагодзьдзяў»[21].

«Усё, аб чым гаварылася вышэй, – Алексютовіч пераходзіць тут да існасьці ўсяе гэтае спрэчкі, – падводзіць нас **да самага галоўнага пытаньня,** якое ўзьнімаюць у сваім артыкуле В Люкевіч і Я. Трашчонак. **Гэта пытаньне аб дзяржаве.** В. Люкевіч і Я. Трашчонак у вадным месцы пішуць наступнае: «Беларускі народ здабыў дзяржаўнасьць толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі». Калі-б аўтары ўдакладнілі: **сацыялістычную** дзяржаўнасьць – ня было-б поваду для спрэчкі»[22]. Тожба! Ёсьць розныя формы дзяржаўнасьці. «Кастрычнік» **даў** беларускаму народу **упяршыню** толькі савецкую «сацыялістычную дзяржаўнасьць»

Як і цытаваны вышэй Язэп Юхо, М Алексютовіч, спасылкай на праўныя дакумэнты XVI ст , з аднаго боку пералічыў землі, пераважна беларускія, што складалі непасрэдна ВКЛ, а з другога – землі да яго «прымыкаючыя» (або «прыслухаючыя») – «усе ўкраінскія землі, Полацкая, Віцебская, Падляская землі, а таксама Жмудзь (значная частка этнаграфічнай Літвы)»[23].

Алексютовічава падсумавальная выснова **«Вялікае Княства Літоўскае па сваім этнаграфічным складзе і тэрытарыяльным прынцыпе было больш беларускай дзяржавай, чым літоўскай»**[24].

### Дзяржаўная мова ВКЛ

Беларускі аспэкт дзяржаўнасьці ВКЛ выяўляецца асабліва ў тым, што дзяржаўнай моваю Княства была мова беларуская. Як адзначыў Я. Юхо. «Паколькі асноўную частку ядра дзяржавы складалі беларускія землі, беларуская мова была прызнаная за дзяржаўную на ўсёй тэрыторыі княства»[25] Усьведамленьне важнасьці гэтага факту, як пабачым ніжэй, мелі й дзяржаўныя дзеячы ВКЛ у XVI стагодзьдзі.

Некаторыя літоўскія гісторыкі дзяржаўную мову ВКЛ характарызуюць як «царкоўна-славянскую» або проста «славянскую», каб гэтым нацыянальна нэўтральным тэрмінам адвесьці ўвагу ад ролі Беларусаў у дзяржаўным жыцьці ВКЛ Гэтак, прыкладам, згадваныя ўжо Батура й Пашута, хоць і безь вялікае ахвоты (мяркуючы паводля часта ўжываных імі гэткіх тэрмінаў, як «**усходня-славянскія** землі», «**літоўска-славянскі** сынтэз» ды падобныя), сьцьвярджаюць. «Дакумэнты (Літоўскай) Мэтрыкі (г зн дзяржаўнага архіву ВКЛ – *Я.З.*), як і Судзебнік Казімера (1468 г ), што зафіксаваў права вотчыннага суда, і кодэксы фэўдальнага права Вялікага Княства Літоўскага – Літоўскія статуты 1529, 1566, 1588 гг , пісаліся ў славянскай канцылярскай мове княства, званай **старажытнабеларускай.** У ёй-жа напісаныя «Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх» (1428 1430 гг.) Дзяржаўнае значаньне гэтае мовы было замацаванае Статутам 1588 году»[26] Акадэмік АН Літоўскае ССР К.І Яблонскіс, рэдактар кніжнага выданьня Статуту ВКЛ 1529 году, кажа: «Статут 1529 г быў напісаны **ў беларускай мове таго часу»**[27] Большая Советская Энциклопедия, пішучы пра «Літоўскія Статуты», кажа каротка й проста. **«Мова Літоўскіх Статутаў беларуская»**[28]

У беларускіх савецкіх крыніцах пра беларускую мову ВКЛ, зразумела, пішацца падрабязьней «У другой палавіне XVI ст., – чытаем у «Гісторыі Беларускай ССР», заходня-руская (беларуская) мова сталася дзяржаўнай мовай для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, што да пэўнай меры спрыяла ейнаму разьвіцьцю»[29] «У Вялікім Княстве Літоўскім, – чытаем у Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, – беларуская мова доўгі час выкарыстоўвалася ў дзяржаўнай дыпляматычнай і прыватнай перапісцы, у канцылярыях гарадзкіх, земскіх і замкавых судоў, у гарадзкіх управах, магістратах і магдэбургіях»[30]

Прачытаўшы гэта, стаецца ясна, што ў ВКЛ беларуская мова мела куды большыя правы й шырэйшы ўжытак, як у сучаснай «сувэрэннай» БССР дадзенай «упяршыню Кастрычнікам»

Дарэчы тут будзе адзначыць за А.П Грыцкевічам. **«Літоўская мова ня была ніколі дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага»**[31]

Некаторыя партыйныя гісторыкі, ня могучы запярэчыць самога факту шырокага дзяржаўнага й грамадзкага ўжытку беларускае мовы ў ВКЛ, намагаюцца абнізіць значаньне гэтага факту як паказальніка беларускага характару ВКЛ Л. Абэцэдарскі, прыкладам, ня маючы іншых аргумэнтаў, спрабаваў выкарыстаць дзеля гэтае мэты гэткі відавочны сафізм· «Як ведама, – кажа ён, – дзяржаўная мова Злучаных Штатаў Амэрыкі – англійская, дзяржаўная мова Кубінскай рэспублікі – іспанская Чалавек з нармальным розумам ня будзе з гэтае прычыны называць ЗША англійскай дзяржавай, а Кубінскую рэспубліку – іспанскай дзяржавай»[32]. Зразумела, што ня будзе Але нармальны розум падказвае таксама, што каб належна зразумець і ацаніць значаньне дзяржаўнае функцыі беларускае мовы ў ВКЛ, ня рэба кідацца на заакіянскія паралелі: гісторыя не альгебра, «а» з аднаго кантынэнту не абавязкава павінна раўняцца «а» на іншым кантынэньце ды ў іншай эпосе. Разьвіцьцё кожнага народу мае сваю спэцыфіку й непаўторнасьць. Сьветчаньняў пра значаньне роднае мовы для беларускага народу трэба шукаць ня ў Гішпаніі ды на Кубе, а ў гісторыі Беларусі.

### Мова ў гісторыі беларусаў

Беларуская гісторыя кажа нам, што з усіх элемэнтаў азначэньня нацыянальнасьці – тэрыторыі, эканомікі, культуры, псыхікі й г.д. – у паасобных пэрыядаў нашае гісторыі мова была **асноватворным** фактарам, яна мела прыярытэт над тэрыторыяй, бо

паводля мовы вызначалася й тэрыторыя, а не наадварот. Як адзначае Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, у апрацаванай упяршыню на навуковых фактах акадэмікам Карскім «Этнаграфічнай карце беларускага плямя», «для вызначэньня межаў бярэцца пад увагу **выключна мова**»[33]

Калі пачынальніку навейшае беларускае літаратуры Франьцішку Багушэвічу ў сваім вехавым зборніку вершаў «Дудка Беларуская» ў 1891 годзе давялося ставіць пытаньне **«гдзе-ж цяпер Беларусь?»**, дык адказ ягоны быў сьціслы й просты. «Там, браткі, яна, гдзе наша мова жывець»[34]

Калі-ж царскі ўрад, які афіцыйна не прызнаваў існаваньня беларускае нацыі, у 1897 годзе праводзіў свой першы сыстэматычны перапіс жыхарства Расейскае Імпэрыі, ён усё-ж ня мог зыігнараваць існаваньня апрычонае беларускае мовы і яна была ўведзеная ў рубрыку перапісу ды сталася, гэткім парадкам, важным фактарам, калі не юрыдычнага, дык фактычнага прызнаньня існаваньня беларусаў як народу

Вельмі добра разумеў значаньне роднае мовы для беларускага народу акадэмік Карскі, аўтар манумэнтальнае шматтомавае працы «Беларусы» У 1917 годзе ў прадмове да «Этнографической карты Белорусского племени» Карскі пісаў: «Асноваю для акрэсьленьня пашырэньня беларускага плямя ў нас служыць выключна **жывая народная мова, неадлучная адзнака беларускае народнасьці на працягу ейнага шматвекавога жыцьця**. Калі паасобныя члены яе дзеля тых ці іншых прычынаў трацяць матчыну мову, яны пакідаюць усьведамляць сваю прыналежнасьць да дадзенага плямя. З моваю яны прыймаюць чужыя норавы, звычаі і для свайго плямя стаюцца згубленымі»[35]

Язэп Лёсік, адзін з выдатных нацыянальных дзеячоў, а таксама папулярны пэдагог у савецкай Беларусі ў 1920-х гадох, паўтараў сваім студэнтам. «Мова для нас вызначае нашую палітыку, эканоміку й наш грамадзкі лад жыцьця» У гэткім-жа духу – зразумела, у межах талераванага цэнзурай – пішуць пра родную мову й сучасныя пісьменьнікі савецкае Беларусі

Але гэткія пагляды на мову ня толькі ў людзей XIX – XX ст ст. Як слушна зазначыў акадэмік Карскі, родная мова –«неадлучная адзнака беларускае народнасьці на працягу ейнага шматвекавога жыцьця», і довады гэтага мы маем з часоў ВКЛ

### Леў Сапега й Мікалай Даўкша пра мову

Падканцлер ВКЛ Леў Сапега, калі пісаў прадмову да трэйцяе рэдакцыі Статуту ВКЛ 1588 году, гэтак адзначыў ролю роднае мовы ў вазнаямленьні жыхароў ВКЛ з законамі іхнае дзяржавы (словы, старанна хаваныя сучаснымі партыйнымі цэнзарамі ад сучасьнікаў)· «А если которому **народу** встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые **не обчым якым языком, але своим власным права списаные маем** и каждого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем»[36].

Статут ВКЛ, як кажа Ул. Пічэта пра першую ягоную рэдакцыю 1529 г., «быў фэўдальным кодэксам клясы земляўласьнікаў у цэлым»[37] Не адмаўляючы клясавага характару ВКЛ ды прызнаючы, што Статут бараніў інтарэсы ў васноўным сярэдняга пласту жыхарства – шляхты, – нельга ня бачыць, разам зь Лявом Сапегам, што ВКЛ было дзяржавай тых фэўдалаў і таго народу, мовай якога быў пісаны ягоны дзяржаўны кодэкс права.

Ніхто, бадай, не схарактарызаваў мовы як фактару дзяржаўнага жыцьця красамоўней за літоўскага культурнага дзеяча XVI ст. Мікалая Даўкшу, «аднаго з прагрэсыўных змагароў за правы нацыянальных моваў у XVI ст.», паводля Р К. Батуры й У Т Пашуты[38] М. Даўкша ў прадмове да выдадзенае ў 1599 годзе ў Вільні перакладное кнігі з польскае мовы «Каталіцкая Пастыльля» пісаў : «Не ўрадлівасьцяй зямлі, ня розьніцай вопраткі, не прыгажосьцяй краю, не гарадоў і замкаў моцай трымаюцца народы, але больш захоўваючы ды ўжываючы сваю мову, якая супольнасьць, згоду і брацкую любоў захоўвае»[39] Словы гэтыя М.Даўкша ськіроўваў да сваіх суродзічаў-літоўцаў, каб узьнялі у іх пашану да свае мовы, бо, пісаў ён, «сам наш літоўскі народ, дзеля веданьня польскае мовы й добрага валоданьня ёю, да якога-ж занядбаньня, забыцьця й блізу што адкіданьня сваю собскую мову давёў»[40] Між іншага, Батура з Пашутам, тарнуючы «клясавы падыход» да дакумэнтаў мінуўшчыны, прыводзячы Даўкшаў сказ пра важнасьць роднае мовы, абарвалі яго на словах «захоўваючы ды ўжываючы сваю мову», а выпусьцілі словы «якая супольнасьць, згоду і брацкую любоў захоўвае»

У тэй-жа прадмове М. Даўкша прамаўляў ня толькі да сваіх суродзічаў, але праз





стагодзьдзі гаварыў і да нас, з нашымі спрэчкамі пра значаньне мовы пры вызначаньні нацыянальнае існасьці ВКЛ Калі Л Абэцэдарскі й ягоныя партыйныя аднадумцы ня могуць вызначыць нацыянальны характар дзяржавы паводля мовы, дык М Даўкша зусім інакш глядзеў на ролю мовы ў дзяржаве Ён пісаў· «Мова вязьмо агульнае любові, маці адзінства, бацька грамадзкае супольнасьці, **вартавая дзяржаваў** Зьнішчы яе – зьнішчыш згоду, адзінства й дабро агулу Зьнішчы яе – патушыш сонца на небе, парушыш сусьветны лад, пазбавіш сьвет жыцьця і славы»[41].

**«Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва». N 15, 1977.**

---

[1] М. Прашковіч. Слова пра Афанасія Філіповіча («Полымя», 1965, N 12, б. 177).

[2] Р.К. Батура, В.Т. Пашуто. Культура Великого княжества Литовского («Вопросы истории», 1977, N 4, б. 95).

[3] А.П. Грыцкевіч. Беларусь у канцы XV – першай палавіне XVI ст. (ВЕСЦІ АН БССР, серыя грамадзкіх навук, 1967, N 3, б. 14).

[4] Л. Абецадарскі, цыт. пр., б. 25.

[5] А.П. Грыцкевіч, цыт. пр., б. 16.

[6] Быхаўца летапіс. БелСЭ, т. 2, б. 498.

[7] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, т. І. АН БССР. Інстытут літаратуры. Мінск, выд. «Навука і тэхніка», 1968, б. 137.

[8] Там-жа, б. 139.

[9] В.И. Пичета. Белоруссия и Литва XV-XVI вв. Москва, издат. АН СССР, 1961, б. 720.

[10] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, т. І, б. 103.

[11] Г.В. Плеханов. История русской общественной мысли. Книга первая. Москва-Ленинград, Госуд. издат., 1925, б. 94.

[12] Максім Багдановіч. Збор твораў, т. 2. Мінск, выд. «Навука і тэхніка», 1968, б. 216.

[13] В.И. Пичета, цыт. пр., б. 623.

[14] Гл. Я. Запруднік, цыт. пр., б. 27.

[15] Я. Юхо. Статуты Вялікага княства Літоўскага («Полымя», 1966, N 11, б. 131).

[16] Л. Абецадарскі, цыт. пр., бб. 25, 29.

[17] В.И. Пичета. Литовский Статут 1529 г. и его источники (у кн.: Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. Под ред. академика Литовской ССР К.И. Яблонскиса. Минск, издат. АН БССР, 1960, б. 28).

[18] Я. Юхо, цыт. пр., б. 131.

[19] М. Алексютовіч, цыт. пр., б. 184.

[20] Там-жа, б. 179.

[21] Там-жа, б. 182.

[22] Там-жа, б. 183.

[23] Там-жа, б. 184.

[24] Тамсама.

[25] Я. Юхо, цыт. пр., б. 131.

[26] Р.К. Батура, В.Т. Пашуто, цыт. пр., б. 109.

[27] Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. Под ред. академика Литовской ССР К.И. Яблонскиса. Минск, издат. АН БССР, 1960, б. 3.

[28] Большая Советская Энциклопедия. Третье издание. Москва, 1973, т. 14, б. 557.

[29] АН БССР. Институт истории. История Белорусской ССР, т. І. Ред. коллегия: Л.С. Абецедарский, В.Н. Перцев, К.И. Шабуня. Минск, издат. АН БССР, 1961, б. 136.

[30] БелСЭ, т. 2, б. 226.

[31] А.П. Грыцкевіч, цыт. пр., б. 20.

[32] Л. Абецадарскі, У святле..., б. 34.

[33] БелСЭ, т. 5, б. 462.

[34] Ф. Багушэвіч, цыт. пр., б. 17.

[35] Е. Карский. Этнографическая карта белорусского племени. Труды комиссии по изучению племенного состава населения России, Петроград, изд. Российской Академии Наук, 1917, б. 1.

[36] И.И. Лаппо. Литовский Статут 1588 года. Том 2. Текст. Каунас, 1937, б. 17.

[37] В.И. Пичета. Литовский Статут и его источники (у кн.: Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. Минск, издат. АН БССР, 1960, б. 19.).

[38] Р.К. Батура, В.Т. Пашуто, цыт. праца, б. 115.

[39] Польскі арыгінал Даўкшавых словаў гл. у кнізе: Postilla Catholicka Якуба Вуйка в литовском переводе Николая Даукши перепечатанном под наблюдением Ф. Фортунатова Э.А. Вольтером. С-Петербург, 1904, б. 2.

[40] Postilla Catholicka, б. 1.

[41] Postilla Catholicka, б. 2. Прыводзіць гэтыя словы, у сваім перакладзе, і Марат Батвіньнік, «Полымя», 1971, N 5, б. 231.

**КРЫНІЦА № 7**

**1995**

ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Звaніце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 05. 10. 95. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.-друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35. Ул.выд.арк. 14,52.
Тыраж 3500 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 1132.

**Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**



**Тым, для каго сустрэча з «Крыніцай»**
**неспадзяваная,**
**нагадаем словы аднаго стомленага філосафа:**

***калі я чагосьці яшчэ і чакаю ў жыцці,***
***дык хіба што нечаканасці.***

**Спадзяёмся,**
**што, пазнаёміўшыся з часопісам,**
**вы станеце яго прыхільнікам**
**і аформіце падпіску.**

**Падпісны індэкс «Крыніцы» 74824.**